# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (67) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2014 г.

Князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму абаронцу веры і Дзяржавы

08.09.2014



**Мікалай Мікалаевіч Дзікевіч,** ***1924 г.н., слынны лідскі краязнавец, аўтар кніг пра Дзітрыкі і Сялец***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 ( 67 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2014 г.


## У НУМАРЫ:



***На першай старонцы вокладкі падзячны медальён князю К.І. Астрожскаму на Лідскім Свята-Георгіеўскім храме.*** *Аўтар Вадзім Вераб'ёў.*





Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**11,5 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 3209**
**Часопіс падпісаны да друку 15.09.2014 г.**
**Часопіс надрукаваны 25.12.2014 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 5800 руб.**
**індывід. 6 мес.- 11600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792




# КРОНІКА ЛІДЫ










У канцы чэрвеня да **25-годдзя ТБМ імя Ф. Скарыны** Таварыствам выпушчаны паштоўка, канверт, кішэнны і насценны календары з выявамі помніка Ф. Скарыну ў Лідзе.

Дызайн Ігара Марачкіна.

8 і 9 ліпеня ў Лідзе з арцыпастарскім візітам знаходзіўся Мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі **Павел**.

Падчас візіту 8 ліпеня мітрапаліт Павел асвяціў Георгіеўскую капліцу, пабудаваную да 70-годдзя вызвалення Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (8 ліпеня 1944 г.).

9 ліпеня мітрапаліт Павел асвяціў паклонны крыж у Новым Паўднёвым гарадку. Гэта пяты ефрасіннеўскі крыж падняты над Лідай.







9 ліпеня юнацкая каманда г. Ліды (1998 - 99 гг.) па футболу стала **чэмпіёнам краіны**.



Наша слова

Старонкі Вялікай вайны

«Старонкі [illegible] Вялікай вайны на Лідчыне (1914-1918)» Пад такой назвай у Лідскім гісторыка-мастацкім музеі 8 жніўня адкрылася выстава. Выстаўленыя экспанаты, сабраныя архіўныя здымкі з тых далёкіх гадоў ужо самі расказваюць жахлівыя старонкі мінулага ліхалецця. Куратарам выставы з'яўляецца старэйшы навуковы супрацоўнік музея Наталля Валынец, якая і пазнаёміла наведвальнікаў з гісторыяй Першай Сусветнай вайны на Лідчыне.

З пачатку жніўня пачаў працу дапаможны сайт газеты “Наша слова” **http://naszaslowa.by/**. Сайт прызначаны суправаджаць папяровы варыянт газеты і архіваваць электронныя версіі “Нашага слова”.



16 жніўня Ордэн Маці атрымалі лідзянкі **Марына Чаславаўна Змітровіч** і **Лілея Эдвардаўна Някрасава**.



22 жніўня лідзянін **Міхаіл Арэхва** падняў над Эльбрусам беларускі сцяг.



1 верасня пасля капітальнага рамонту адкрылася лідская **СШ № 1**, пабудаваная ў 1928-29 гг.







11 верасня на лідскім Свята-Георгіеўскім храме-помніку асвечны памятны медальён гетману найвышэйшаму Вялікага Княства Літоўскага **Канстанціну Іванавічу Астрожскаму**.

21 верасня ўзноўленыя караблі вікінгаў **"Яцвяг" з Бярозаўкі** і "Фрэя" з Херсона (Ўкраіна) здзейснілі плаванне па шляху "з грэкаў у варагі" і прайшлі па Нёману з Бярозаўкі да Гародні, куды прыбылі 27 верасня.



# Лідскія юбіляры 2014 года

## Тры чвэрці стагоддзя разам з чытачом

## *“Лідскай газеце” - 75*

У канцы верасня 2014 года свой 75-гадовы юбілей адзначыла "Лідская газета". Тры чвэрці стагоддзя перыядычнае выданне адлюстроўвае шматграннае жыццё горада і раёна, прыходзіць у дамы і кватэры не аднаго пакалення падпісчыкаў, дзеліцца з чытачамі свежымі навінамі, адказвае на надзённыя пытанні, дапамагае заўсёды быць у курсе падзей. Якімі яны былі - першыя крокі газеты больш за 70 гадоў назад, у пераломны для Лідчыны час? Якая яна, "Лідская газета", сёння? Ёсць нагода расказаць аб гэтым у сувязі з юбілеем выдання...



***Ю.Б. Драгун***



***Богуш Аляксандр Уладзіміравіч**, рэдактар лідскіх газет “Сцяг працы” і «Ўперад» (1963-69)*

"Лідская газета" - дзяржаўнае выданне. Адлік яе гісторыі вядзецца з памятнага верасня 1939 года, калі Заходняя і Ўсходняя Беларусь уз'ядналіся, сталі адзінай дзяржавай у складзе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Першы нумар газеты "Ўперад", папярэдніцы "Лідскай газеты", выйшаў 30 верасня 1939 года, праз пару тыдняў пасля прыходу на заходне-беларускія землі воінаў Чырвонай Арміі. Першыя нумары раёнкі ў мажорных танах адлюстроўвалі новае жыццё, якое забурліла на Лідчыне пасля ўз'яднання з БССР. Галоўным героем "Уперад" стаў чалавек працы, сціплы будаўнік гэтага новага жыцця.



***Гарэлік А. Л.**, рэдактар лідскай газеты «Ўперад» (1969-?)*

Варта адзначыць, што ў 1939-1941 гг. у газеце працавалі два вядомыя беларускія паэты - Валянцін Таўлай і Ніна Тарас. Яны паклалі пачатак згуртаванню пры рэдакцыі паэтаў і празаікаў Лідчыны. І па сённяшні дзень у газеце перыядычна выходзіць літаратурная старонка, дзе публікуюцца творы мясцовых літаратараў - сяброў створанага пры рэдакцыі літаб'яднання "Суквецце", а ў лютым гэтага года, з нагоды 100-гадовага юбілею з дня нараджэння Валянціна Таўлая, на будынку рэдакцыі з'явілася мемарыяльная дошка ў гонар паэта работы мясцовага скульптара, мастака і паэта Рычарда Грушы.

Першыя гады існавання газеты "Ўперад" супалі і з цяжкім выпрабаваннем для ўсёй Беларусі - Вялікай Айчыннай вайной, нямецкай акупацыяй. З пачаткам вайны выданне газеты было спынена амаль на два гады, аднак 1 чэрвеня 1943 года, ва ўмовах набіраўшага моц партызанскага і падпольнага руху на акупаванай тэрыторыі, адноўлена. Рэдактарам падпольнай газеты "Уперад" на працягу двух месяцаў быў партызан (да вайны - журналіст) Г. Г. Коган. Калі ён загінуў, рэдактарам быў назначаны таксама партызан (да вайны - настаўнік) Ю.Б. Драгун. Трэба ўлічваць, што ва ўмовах акупацыі смяротэльна небяспечнай справай было не толькі выданне падпольнай газеты, але нават яе чытанне і захоўванне. Тым не менш газета выходзіла, перадавалася з рук у рукі, яе друкаванае слова натхняла на барацьбу з ворагам, давала веру ў вызваленне і перамогу.



***Жалкоўскі Аляксандр Васільевіч**, рэдактар лідскай газеты «Ўперад» (1969-86)*



***А.П. Бяспалы,** рэдактар лідскай газеты “Ўперад”, 1986-1991 гг.*

За сваю 75-гадовую гісторыю газета не-

калькі разоў мяняла назву: у 1962 годзе "Ўперад" была перайменавана ў "Сцяг працы", аднак праз чатыры гады зноў стала называцца "Ўперад"; у снежні 1991 года выданне атрымала назву "Лідская газета", якую носіць і па сённяшні дзень. Пасля Ю. Б. Драгуна галоўнымі рэдактарамі газеты ў розныя часы з'яўляліся Н. І. Спаткай, А. Л. Гарэлік, А. В. Богуш, А. В. Жалкоўскі, А. П. Бяспалы, І. В. Швакель. Са студзеня 2012 года галоўны рэдактар "Лідскай газеты" - К.А. Серафіновіч. У памяшканні рэдакцыі, якая таксама не раз мяняла адрас і зараз размяшчаецца па вуліцы Ленінскай, 48, захоўваюцца падшыўкі выдання за многія гады. У гэтых падшыўках - летапіс Лідскага краю, праца не аднаго пакалення супрацоўнікаў рэдакцыі, як штатных, так і пазаштатных, тысячы і тысячы лёсаў, партрэтаў, учынкаў і дасягненняў нашых землякоў.



***І.В. Швакель**, рэдактар "Лідскай газеты" з 1991 па 2012 г.*



***К.А. Серафіновіч**, рэдактар "Лідскай газеты" з 3 студзеня 2012 г.*

Поспехі "Лідскай газеты", яе супрацоўнікаў неаднаразова адзначаліся граматамі і дыпломамі. Напрыклад, яркім пацвярджэннем высокага прафесійнага майстэрства журналістаў раёнкі стала ўзнагарода ад Беларускага саюза журналістаў, кіраўніцтва якога назвала "Лідскую газету" лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу "Залатое пяро" (2006 г.).

Выданне працягвае развівацца разам з Лідчынай, ісці ў нагу з часам і рэагаваць на яго патрабаванні, на пажаданні шматлікіх чытачоў. У газеце павялічылася колькасць палос, а з лістапада 2012 года, па чацвяргах, "Лідская" выходзіць у колеры. З лютага 2013 года падпісчыкі атрымалі магчымасць чытаць любімую газету ў PDF-фармаце. Сучасная "Лідская газета" выходзіць два разы на тыдзень, агульны яе аб'ём за тыдзень - каля 30 друкаваных аркушаў.

На старонках выдання сустракаецца вялікая колькасць рубрык, у якіх асвятляюцца самыя розныя аспекты жыцця раёна: работа органаў улады, развіццё прамысловасці і сельскай гаспадаркі, навіны адукацыі, культуры, спорту, духоўнае жыццё і жыццё нацыянальных суполак, сацыяльныя і маральныя пытанні і інш. Супрацоўнікамі рэдакцыі практыкуюцца апытанні, "Прамыя лініі", "Гарачы тэлефон", рэалізуюцца розныя цікавыя і пазнавальныя праекты (напрыклад, "Кніга рэкордаў Лідчыны", "Гісторыю раёна напішам разам", "Летапіс ваеннага дзяцінства" і г. д.).



***Калектыў рэдакцыі "Лідскай газеты", 2014 г.***



***Будынак рэдакцыі "Лідскай газеты", 2014 г.***

Сённяшні калектыў рэдакцыі годна працягвае справу сваіх папярэднікаў - стварае летапіс Лідчыны, трымае руку на пульсе жыцця рэгіёна, краіны і свету, шукае і ўвасабляе ў жыццё новыя формы падачы інфармацыі і дыялогу з падпісчыкамі. Як і 25, і 50, і 75 гадоў назад, газета запатрабаваная чытачом і з'яўляецца кампетэнтнай і аўтарытэтнай крыніцай інфармацыі аб жыцці горада і раёна.

*Падрыхтаваў **Аляксандр МАЦУЛЕВІЧ.***

# Вялікай сям'і гармонія

## Лідскае рэгіянальнае мемарыяльна-культурнае грамадскае аб'яднанне адзначыла 20-годдзе

*Пра ўчора, сёння, заўтра габрэйскай грамады карэспандэнт гутарыў з тымі, хто стаяў ля яе вытокаў, кіраваў ёй у розныя гады.*

**Марш жыцця дарагой смерці**

*- Габрэйская грамада ў Лідзе была з даўніх часоў, яна толькі прыпыняла сваё існаванне 8 траўня 1942 года, калі былі расстраляныя каля сямі тысяч габрэяў. 20-годдзе ж адзначаецца таму, што афіцыйна рэгіянальнае мемарыяльна-культурнае грамадскае аб'яднанне было зарэгістравана ў 1994 годзе, -* распавядае яго заснавальніца, а цяпер жыхарка Ізраіля, кіраўнік міжнароднага праекта "Карані" **Тамара Барадач**.



*- У Лідзе да вайны пражывала каля 8,5 тысяч габрэяў,* - гаворыць Тамара Майсееўна. - *Многія прадпрыемствы горада пачыналіся менавіта з габрэяў. Ліда была вядомая ўнікальнай іешывой імя Райніса. Па сутнасці, гэта вышэйшая навучальная ўстанова з элементамі ўніверсітэта. Не спыняла сваёй дзейнасці грамада і падчас Вялікай Айчыннай вайны: у гета здзяйсняліся ўцёкі, габрэі збіралі зброю і папаўнялі партызанскія атрады.*

*У 1989 годзе я пачала працаваць намеснікам дырэктара ў СШ №15, побач, на вул. Рыбіноўскага, знаходзіўся неабсталяваны мемарыял. Мы, супрацоўнікі адміністрацыі школы, задумаліся, што можна зрабіць і як захаваць месцы пахавання. Маё перакананне было такое: той, хто прыйдзе на магілу з кветкамі, ніколі не стане яе разбуральнікам. Так, адным з выхаваўчых метадаў, мы ажыццявілі догляд за брацкімі магіламі.*

У 90-х гадах паўстаў унікальны міжнародны праект, у якім былі задзейнічаны чатыры дзяржавы. Тамара Барадач стала прадзюсарам з беларускага боку. Тады ж паўстала неабходнасць афіцыйна зарэгістраваць Лідскую габрэйскую грамаду. Яна пачала называцца: **Рэгіянальнае** (аб'яднала рэгіёны) **мемарыяльнае** (засноўваецца на памяці) **культурнае** (захоўвае традыцыі і культуру) **аб'яднанне**. У рамках праекту ў Ліду прыехала вялікая група былых лідскіх габрэяў, іх сваякоў і нашчадкаў. Тады ж у Лідзе ўпершыню лунаў габрэйскі сцяг, а габрэі прайшлі маршам жыцця па дарозе смерці - праз былое гета да месца расстрэлу ў 1942 годзе.

**Памяць у камені і слове**

Дзесяць гадоў, пачынаючы з 1996-га і заканчваючы 2006-м, габрэйскую абшчыну ўзначальвала **Ася Саулкіна**. Шмат часу і сіл аддавала яна грамадскім справам, і за гэты адрэзак ёй удалося нямала.



Самае галоўнае - былі адкрыты новыя і дабраўпарадкаваны наяўныя месцы пахаванняў загінулых габрэяў. Мемарыялы каля вул. Рыбіноўскага добра вядомыя лідзянам. А вось месца яшчэ аднаго масавага растрэлу габрэяў (віленскіх і воранаўскіх) Асі Данілаўне паказаў мясцовы жыхар Зянон Бянько. Сябры грамады прынялі рашэнне ўвекавечыць іх памяць. Але раптам аказалася, што ў гэтым жа месцы на ўскраіне горада павінен будавацца аўтасэрвіс. Ася Данілаўна абыйшла мноства інстанцый і дамаглася такі, каб будаўнічыя работы спынілі. У доказ таго, што на гэтым месцы расстралялі габрэяў, пры дапамозе пошукавага сапёрнага батальёна прыйшлося праводзіць раскопкі. Былі знойдзены парэшткі двухсот трупаў. Ася Данілаўна і сёння не можа без слёз успамінаць тое, што адкрылася яе вачам.

Устала пытанне з вырабам помніка. І хто ведае, ці з'явіўся б ён наогул, калі б не скульптар Рычард Груша.

*- Рычард Баляслававіч не мае габрэйскіх кара-*



Тамары Даўжанскай стварыла і рэалізавала праект "Узрост і досвед у радасці". У рамках яго моладзь грамады прыцягвала пажылых людзей да ўдзелу ў разнастайных гуртках і клубах па зацікаўленнях. Гэта ўзаемадзеянне маладых і пажылых спрыяльна паўплывала і на тых, і на другіх: маладыя вучыліся ў пажылых, а людзі ва ўзросце пачуваліся запатрабаванымі. Праект заняў 1-е месца сярод 23 шукальнікаў гранту фонду. Не спыніўся на дасягнутым і працягвае працу па развіцці грамады цяперашні яе кіраўнік - **Андрэй Фішбайн**.

*нёў,* - адзначае Ася Саулкіна, - *але ўжо не раз прыходзіў на дапамогу людзям незалежна ад іх веравызнання.*



Варта адзначыць, што дзякуючы Асі Данілаўне была ўсталявана і дарагая агароджа на мемарыяле расстраляным 8 траўня 1942 года габрэям. Спансаваў гэтую справу прадпрымальнік з Менска Барыс Галубовіч, сын таго самога Меера Галубовіча, аднаго з нямногіх лідзян, які вырātаваўся і ваяваў у партызанскім атрадзе. Такім чынам, у камені атрымалася ўвекавечыць памяць пра загінулых габрэяў.

Нельга не адзначыць яшчэ адну заслугу Асі Саулкінай на ніве захавання памяці: яна сабрала найбагаты матэрыял - фота, газетныя выразкі, спісы расстраляных габрэяў і іх нашчадкаў, якія жывуць за мяжой. Матэрыял быў выдадзены адной кнігай, якая так і завецца - "Кніга памяці габрэяў г. Ліды".

### Там, дзе "Шалом", заўсёды свята

У 2006 годзе, калі на пост кіраўніка грамады была абрана **Тамара Даўжанская**, пачалася праца з замежнымі дабрачыннымі фондамі. Адным з кірункаў стала праца з фондам ЕУ2. Грамада пад кіраўніцтвам

Кажучы пра дзень сённяшнім, цяжка нават ахапіць усе кірункі - настолькі дзейнасць аб'яднання стала шырокая! Па-першае, сябры габрэйскай грамады - актыўныя ўдзельнікі розных фэстаў. Пры ёй функцыянуюць два ансамблі: сталы "Шалом" і дзіцячы "Шаломчык", кожны з якіх выпусціў па некалькі сваіх музычных дыскаў. "Шалом" актыўна гастралюе - аб'ездзіў усе гарады Беларусі, выступаў у Расіі, на Ўкраіне, у Літве, Польшчы, Ізраілі. Гэтыя артысты вядомыя, там, дзе "Шалом", заўсёды свята.



Пры грамадзе працуюць нядзельная школа, тэатральны гурток, "Сямейны клуб" і бібліятэка. Аднак у сяброў грамады ёсць мара - мець сваё сталае памяшканне, дом, у якім яны будуць пачувацца як дома. Дарэчы, дзверы грамады адкрыты заўсёды і для ўсіх - сябрам яе можа стаць любы, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання. Характэрна, што многія мерапрыемствы ў габрэйскай грамадзе праводзяцца сумесна з іншымі лідскімі дыяспарамі - украінцаў, палякаў, літоўцаў.

***Вольга Яхантава.***

# 20-цігоддзе аднаўлення дзейнасці грэка-каталіцкай царквы ў Лідзе



У верасні 2014 г. лідскія грэка-католікі адзначылі 20 год узнаўлення дзейнасці Грэка-каталіцкай Царкы на Лідчыне. Менавіта 20 год назад намаганнямі творчай інтэлігенцыі была зарэгістравана Грэка-каталіцкая (ўніяцкая) парафія св. Язафата ў г. Лідзе. Людзі, якія сталі ініцыятарамі рэгістрацыі парафіі, хацелі быць часткай паўсюднай Каталіцкай Царквы ды мець адначасова магчымасць маліцца і жыць паводле традыцыі Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў. Багаслужэнне ў Лідскай парафіі, таксама як ва ўсёй Беларускай Грэка-каталіцкай Царкве, адбываецца па-беларуску. За мінулыя дваццаць гадоў парафія стала прыстанішчам усіх тых, хто шукае Бога, людзей розных нацыянальнасцяў, узросту і светапогляду. Руплівая парафіяльная супольнасць грэка-каталікоў рэгулярна праводзіць багаслужэнні ў капліцы парафіяльнага дома па вул. Каліноўскага, 16, а ў вялікія святы таксама далучаецца да набажэнства ў рыма-каталіцкіх парафіях, праз што перажывае сулучнасць і паўсюднасць Каталіцккай Царквы. Не ўсе грэка-католікі, якія жывуць ў Лідзе, уключыліся ў рэгулярнае жыццё парафіі. На гэтым полі застаецца яшчэ шмат зрабіць. Адначасова парафіяльная супольнасць праводзіць розныя ініцыятывы духоўнай адукацыі, сацыяльнага служэння, прэвенцыйнай працы з моладдзю.

У гадавіну аднаўлення Грэка-каталіцкай Царквы на Лідчыне варта даць кароткі нарыс яе гісторыі. У другой палове XVI ст. праваслаўная царква Кіеўскай мітраполіі, якая ўнесла вялікі ўклад у духоўную культуру беларускага народа, зведала моцныя ўдары Рэфармацыі. Процістаяць ім магла толькі Царква з магутным інтэлектуальным патэнцыялам. Аднак, праваслаўе на беларускіх землях не мела тады ўласнай багаслоўскай школы і магутных інтэлектуальных цэнтраў. Праваслаўны Ўсход не мог аказаць рэальнай дапамогі ў рашэнні гэтых праблем, таму што Візантыя знаходзілася пад уладай турак. У другой палове XVI ст. праваслаўная царква ВКЛ апынулася ў стане крызісу. Адмоўнае значэнне мела і традыцыйная залежнасць праваслаўнай царквы ад свецкай улады. У пошуках выхаду з крызісу сваёй царквы, прадстаўнікі праваслаўнай эліты прыйшлі да ідэі рэгіянальнай уніі з Рымам.

Грэка-каталіцкая (гістарычная назва "Ўніяцкая") Царква атрымала адміністрацыйную структуру на царкоўным саборы 1596 г. у Берасці. Галоўнай мэтай сабору было аднаўленне былога адзінства хрысціянства, вырашэнне праблем, якія не дазвалялі спыніць міжканфесійныя канфлікты.

Беларускі гісторык А.А. Суша паказаў, што па сутнасці праз унію ва ўсходняй царкве ВКЛ была праведзена рэформа, вынікі якой можна параўнаць з вынікамі рэформы патрыярха Нікана ў Расіі. У той жа час немагчыма лічыць, што ў Берасці ў 1596 г. была створана нейкая новая Царква. Кіраваць Царквой працягваў той самы мітрапаліт, тыя ж япіскапы - у тых жа епархіях, у тых самых цэрквах вялі службы пераважна тыя ж святары, служылі ўсё тую ж усходнюю літургію, а на службу хадзілі тыя самыя вернікі. Таму ўніяцкую Царкву немагчыма лічыць наватворам, сваю гісторыю на нашых землях яна адлічвае ад X ст. Самі прадстаўнікі Грэка-каталіцкай Царквы амаль ніколі не казалі пра яе стварэнне ў 1596 г. Яны прасочвалі яе існаванне ад самых ранніх часоў хрысціянства.

Украінскі гісторык Сафія Сэнык пісала: *"Большасць ... зусім не заўважыла яе* (унію - *Л.Л.*). *Епіскапы так і заставаліся на сваіх кафедрах, святары - на сваіх парафіях. У парафіяльных храмах і манастырах працягвалі ўзносіць малітвы за іх пабожных фундатараў. Богаслужбовыя абрады не змяніліся, народ хадзіў у паломніцтва ўсё да тых жа абразоў".*

З пачатку XVII тварам да Уніі паварочваецца беларуская шляхта, і на працягу другой паловы XVII-XVIII ст. уніятамі становіцца большасць беларусаў.

Згодна з "Ведомостью о греко-унияцких церквах и монастырях Брестской епархии" за 1827 г., у Лідскім павеце дзейнічала 18 уніяцкіх цэркваў і адзін манастыр (Голдаўскі), якія разам мелі 22 496 прыхаджан. Лідская царква Св. Міхаіла аб'ядноўвала ў 1837 г. 306 прыхаджан. Паводле статыстыкі 1838 г., Ганчарскую царкву наведвалі 1230 вернікаў-уніятаў, да Глыбоцкай было прыпісана 1872 чалавекі, да Голдаўскай - 1047, Дзікушскай - 614, Дакудаўскай - 922, Жыжмянскай - 725, Лябёдскай - 812, Зблянскай - 1135, Маламажэйкаўскай (Мураванкаўскай) - 497, Мытлянскай - 272, Арлянскай - 1400, Астрынскай - 3327, Ракавіцкай - 630, Сабакінскай - 1379, Турэйскай - 947,



Баброўскай - 417, Дэмбраўскай - 853. Згодна з хронікай касцёла вёскі Ішчална, у 1801 г. у Вялікім Мажэйкаве было 1300 вернікаў.

Да нашага часу на гістарычнай Лідчыне захаваліся і дзейнічаюць як праваслаўныя былыя ўніяцкія цэрквы: Голдаўская (пабудавана ў 1795 г.), Баброўская (год пабудовы - 1810 г.), Ганчарская (пабудавана ў 1774 г.). Матэрыялізаваным ўвасабленнем ідэй Фларэнційскай уніі 1439 г. на беларускіх землях стала архітэктура знакамітай Маламажэйкаўскай гатычнай царквы абарончага тыпу, якая ў XVII-XIX ст. працяглы час дзейнічала таксама як уніяцкі храм.

Пасля паўстання 1831 г. па рашэнні царскіх уладаў Уніяцкая Царква была гвалтоўна ліквідавана ў 1839 г. За два з паловай стагоддзі свайго існавання Грэка-каталіцкая Царква стала традыцыйным культавым інстытутам, які ўвайшоў у жыццё многіх пакаленняў беларусаў, адпавядаючы іх нацыянальна-культурным памкненням. Ліквідацыя структураў уніяцкай царквы суправаджалася русіфікацыяй вернікаў.

Гісторыя ўніі не закончылася 1839-м годам. Царскім уладам Расейскай Імперыі спатрэбілася не адно дзесяцігоддзе, каб знішчыць уніяцкі дух народа, які працягваў цягнуцца да афіцыйна пакінутай веры. Забароненая, яна стала для многіх яшчэ больш дарагой. З'явіліся тайныя ўніяты, якія ўпотай ад уладаў вызнавалі ганімую веру. У заходніх раёнах Беларусі існавала асаблівa моцная настальгія па страчанай Уніі. Заклікі да адраджэння Ўніяцкай царквы гучалі на хвалі патрыятычнага ўздыму 1863-1864 гг. Вярнуць гістарычную унію намагаліся дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння пачатку XX ст. У 1929 г. з'явілася "Дэкларацыя ініцыятараў новай царкоўнай уніі з Рымам". Але ўлады Польшчы не былі зацікаўлены ў пашырэнні Уніі, таму к канцу 1930-х гадоў уніяцкая справа ў Заходняй Беларусі абмяжоўваецца.

Калі гаварыць пра гісторыю пасля II Сусветнай вайны, ёсць факты, якія сведчаць аб дзейнасці ў Лідзе ўніяцкіх святароў у брэжнеўскія часы. Яны жылі ў лідскага рыма-каталіцкага пробашча ксяндза Роека, піяра. Выконваць духоўныя абавязкі ім было забаронена, таму сродкаў на пражыванне яны не мелі. Дапамаглі ім айцы піяры, якія далі магчымасць адпраўляць т. зв. інтэнцыяльныя імшы, звязаныя з грашовымі ахвяраваннямі. Але падчасператрусу ў доме аднаго з уніяцкіх святароў карткі са спіскам імшальных інтэнцый трапілі ў рукі адпаведных органаў. Пасля гэтага праблемы ўзніклі і ў саміх піяраў.

На мяжы 1980-1990-х г. грэка-каталіцкая царква адраджаецца ва Ўкраіне і Беларусі. У 1994 г. у Лідзе была адроджана грэка-каталіцкая парафія св. Язафата - гэта значыць вернікі змаглі адкрыта збірацца ды маліцца. Першае памяшканне царквы было ў прыватнай мастацкай майстэрні якую абсталявалі пад капліцу. Новастворaны прыход наведаў тагачасны протапрасвітар а. **Ян Матусевіч**. Ён правёў у Лідзе, у памяшканні музычнага вучылішча, першую грэка-каталіцкую літургію. У 1996 г. для парафіі быў набыты дом па вуліцы Каліноўскага, 16. Пасля рамонту і перабудовы, у капліцы на першым паверсе гэтага дома пачаліся рэгулярныя набажэнствы. Першую службу ў новай капліцы правёў а. **Казімір Ляховіч**. Ён жа стаў і першым настаяцелем Лідскай парафіі - кожную нядзелю прыязджаў з Менска.

Усё парафіяльнае жыццё канцэнтруецца вакол парафіяльнага дома ды багаслужэнняў, што адбываюцца ў капліцы, якая ў ім знаходзіцца. На працягу 20 год за парафію былі адказныя розныя святары. Гэта былі а. Казімір Ляховіч, а. **Андрэй Абламейка** (з 1997 г.), а. **Андрэй Крот** (з 2006 г.), а. **Аляксандр Шаўцоў** (з канца 2007 г.). З восені 2008 г. душпастырам парафіі з'яўляецца а. **Андрэй Буйніч**.

***Леанід Лаўрэш.***

**На здымках:** святкаванне 20-годдзя Лідскай грэка-каталіцкай парафіі.

***Я.І. Парэцкі***

# ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ МІХАЛА КАРЫЦКАГА

## *Да 300-годдзя з дня нараджэння*

Першым з захапленнем адгукнуўся аб творчасці Міхала Карыцкага яго сучаснік Данііл Андрэй Яноцкі, бібліёграф, які ў апублікаваным у 1771 г. у Ўроцлаве аглядзе польскіх літаратурных помнікаў прывёў асобныя сачыненні паэта.

Жыццяпіс Карыцкага і некалькі хвалебных слоў пра яго творы ёсць у нататцы, якая папярэднічае адзінаму, што ўбачыў свет, збору твораў паэта, выдадзенаму ў 1817 г. у Полацку. Аўтар нататкі, супрацоўнік езуіцкай Полацкай калегіі, піша:

*"Міхал Карыцкі, ліцвін, нарадзіўся ў 1714 г. у Лідскім павеце Віленскага ваяводства ў шляхецкай сям'і - бацька Аляксандр, маці Тарэза. Пасля заканчэння дзіцячага ўзросту ў спадчынным маёнтку Дзітрыкі вучыўся ў Бабруйскай езуіцкай школе. Там, абуджаны боскім прызваннем да выбару далейшага шляху, закончыў вывучэнне рыторыкі, услед за сваім старэйшым братам Каралем паступіў у Ордэн езуітаў. Выконваючы звычайныя абавязкі рэлігійнага жыцця і закончыўшы належны курс, з вялікім поспехам вывучаў гуманітарныя навукі. Між тым, каб яго намаганні стаць духоўнай асобай не паслабелі ў сувязі з захапленнем іншай галіной, атрымаў загад начальства ў якасці святара навучаць маладых чальцоў ордэна красамоўству і звязнай гаворцы. Ухвальна, што, спрабуючы ахапіць сваёй дзейнасцю выратавання душ больш шырокае поле, прасіў начальства дазволіць яму прапаведваць народу са святога амбона.*

*Карыцкі лёгка дасягнуў жаданага і досыць плённа прысвячаў сябе пропаведзі слухачам на працягу 13 гадоў, то ў Віленскай акадэміі, то ў іншых месцах.*

*У гэты час густ у красамоўстве псаваўся, засцямняючы бляск навук, і гэтыя заганы вельмі перашкаджалі распаўсюджанню ведаў. Хоць цяжкія абавязкі пастаянна адцягвалі ўвагу Міхала, аднак разам з братам Каралем і іншымі ён вырашыў уключыцца ў справу выпраўлення кепскага стану навук, што рабілася амаль адначасова са Станіславам Канарскім, які заняўся паляпшэннем вучобы ў піярскіх школах. У гэтай дзейнасці, аддана і працавіта, пераймаючы намаганні піяраў, з гонарам для свайго ордэна і з карысцю для развіцця асветы, Міхал так пайшоў наперад, што рашэнні, старанне гэтых, так бы мовіць, узмацняльнікаў навук, больш таго, заслужаных для дзяржавы, дзякуючы навуковым хронікам і публікацыям, не толькі замацаваліся ў памяці нашчадкаў, але і заслужылі высокай ухвалы.*

*Пры каралях Аўгусце III і Станіславе Аўгусце Карыцкі ўзначаліў Варшаўскую калегію. Станіславу Аўгусту ён быў асабліва дарагі сваёй мяккасцю нораваў і выключнай лёгкасцю вершаскладання, галоўным чынам лацінскага. Яго паэтычныя сачыненні так цанілі, што вучоны, кіеўскі канонік Андрэй Яноцкі ў сваёй кнізе, прысвечанай адрыўкам з польскай літаратуры, не толькі прывёў шэраг вершаў Карыцкага, а і рашуча, упэўнена іх расхвальваў.*

*Пасля пяці гадоў работы ў створанай Мазавецкай прэфектуры Карыцкі пераканана прасіў свайго начальніка, генерала ордэна Рыкчы, каб яго не прызначалі ні на якія пасады і дазволілі займацца пропаведдзю ў пэўнай мясцовасці, а менавіта ў Бабруйску. Злыбедны крах ордэна, які хутка настаў, не абумовіў забыцця досыць заслужанага для ордэна і для навукі мужа. Кароль Станіслаў Аўгуст прызначыў Карыцкага рэктарам Менскай гімназіі і ўзнагародзіў залатым медалём за заслугі ў навуках. Кароль, аматар навук, палічыў за больш важкае, чым такая ўзнагарода, увекавечанне вершаў, у якіх праявіўся талент паэта, і настойліва прапаноўваў Карыцкаму пераслаць у Варшаву ўсе яго вершы для наступнага друкавання іх за кошт караля. Паслухмяны волі караля, з уласцівай яму сціпласцю, Карыцкі напісаў прадмову, у якой прысвяціў будучую кнігу каралю як свайму мецэнату, і ўпрыгожыў яе такімі вершамі:*

**Rex augusto, mais mandas contraria votis,**
**Scilicet ut metris quae languescente Minerva**
**Panxi dem lucemque vilamque perennen?**
**Has ego contemptas, tenuisque laboris opellas**
**Ad certas opulas tineis blaitisque reliqui**
**Ut pariler cum auctore suo sint vermibus esca?**
**Neglegtue labor ipse suae non iscius artis?**
**Percupit ignotus tenebris tumuloque iacere?**
**Consumique situ, potiusque teredine rodi?**
**Quam linguis hominum, quas iuncta scientia famae**
**Efficit audaces et Momus reddit acutas.**
**At rex cum iubeat Musas subducere Parcis,**
**Et tutas servare: nefas absistere jussis.**
**Parendum; in lucem prodi mea vilis opelfa:**
**Ut pretium sumas, regis te splendor inaurat?**
**Ut fugias crisim, regis te protegit umbra.**

**Аўгуст кароль, непасільнае волі маёй даручаеш:**
**Вершам маім, якія, хоць марнела Мінерва,**
**Вырасціў я, векавечнае жыццё падарыў, надрукаваўшы.**
**Гэтых нікчэмных, цаны невялікай, тварэняў прызванне**
**Пірам служыць для мышэй ці молі задумана мною.**
**Каб сумесна з іх аўтарам сталі чарвякам на пажыву.**

[1] *Janotzki D.A.* Mussarum Sarmaticarum specimina nova cura operaque. Vratislava, MDCCLXXI. P. 22, 61.

**Я, разумеючы нікчэмнасць,**
**нязграбнасць такого мастацтва,**
**Больш жадаў невядомым памерці ў цемры і магіле,**
**Ад завядання рассыпацца ці дрэваточцам з'ядацца,**
**Чым языкамі людзей, чыя навука са славай у адзінстве**
**Зрабіла дзёрзкімі, іх навучыў Мом з'едлівай лаянцы.**
**Вось жа кароль загадаў замяніць як бы музамі загану,**
**Тлення вершам пазбегнуць. Не, запярэчыць я не ў сілах,**
**І падпарадкоўваюся,**
**мне нікчэмнаму кніжку друкаваць давядзецца.**
**Калі караля прымаеш узнагароду, краса азарае,**
**Калі ўцякаеш ад бедаў, у цені караля абаронішся[2].**

*Калі, аднак, паэт прыступіў да справы і стараўся сабраць і ўпарадкаваць вершы, яго зваліла цяжкая хвароба, і ён вымушаны быў спыніць пачатую работу. На працягу амаль цэлага года ён быў прыкаваны да ложка. Адчуваючы, што набліжаецца смерць, ён прымусіў дрыготкую руку пісаць набожныя плачы, якія выяўляюць дух, скіраваны да вечнай радзімы. Як лебедзь апявае свой канец, ён сачыняў гімны, якія спадзяваўся ў будучым жыцці спяваць з жыхарамі неба.*

*Гэты апошні плод слаўнага паэта, як і яго прарочы верш аб узнаўленні ордэна, які я сам чытаў, не ведаю, якім чынам быў згублены.*

*Прычашчаны, развітаўся з жыццём у калегіі некалі Ордэна езуітаў у Менску ў боскім годзе 1781. Яго сачыненні, пасля смерці рассеяныя па Беларусі сабраны былі айцамі Ордэна адусюль і перададзены ў друк.*

Найбольш падрабязныя звесткі пра жыццё Міхала Карыцкага, якія ўдакладняюць вышэй прыведзеныя тэрміны і сабраныя на падставе архіўных матэрыялаў, надрукаваў Б. Натонскі ў "Польскім біяграфічным слоўніку":

*“У шаснаццацігадовым узросце, 7 ліпеня 1730 г., пасля атрымання пачатковай адукацыі ў Бабруйску, М. Карыцкі ўступіў у "навіцыят" у Вільні, г. зн пераступіў першую ступень Ордэна езуітаў. У Слуцку ў 1732-1733 гг. ён вывучаў педагогіку і пасябраваў з Антонам Скарульскім, з якім у далейшым супрацоўнічаў, абдумваў рэформы школьнай справы. У Вільні Карыцкі займаўся філалагічнымі навукамі з 1733 па 1738 г., прычым у 1736-1738 гг. прайшоў курсы "інфімы" і "сінтаксісы" Віленскай акадэміі. Паэзію і багаслоўе ён вывучаў 1739-1741 гг. у Варшаве пад кіраўніцтвам Польца і Быстрыцкага. У Вільні 17 чэрвеня 1742 г. ён стаў ксяндзом. У 1744-1746 гг. Карыцкі быў выкладчыкам рыторыкі ў Менску і Вільні. Па ўказанні кіраўніцтва Ордэна ён карыстаўся ў курсе рыторыкі дапаможнікам Ювентыюса, які абапіраўся на Цыцэрона пры навучанні красамоўству. У 1746-48 гг. Карыцкі працаваў у Слуцкай настаўніцкай семінарыі, а потым на працягу 14 гадоў у якасці прапаведніка ў Пінску, Вільні, Варшаве, Драгічыне, Менску, Бабруйску. Карыцкі атрымаў доктарскую ступень у Вільні і стаў прафесарам і сеньёрам філалагічнага факультэта (1750-1753). У наступныя гады, ва ўзросце 39-42 год, ён быў сакратаром Віленскай акадэміі, дырэктарам ніжэйшых школ, кіраўніком універсітэцкай бібліятэкі і прафесарам багаслоўя. Пасля падзелу Літоўскай правінцыі езуітаў на Мазавецкую і Літоўскую Карыцкі быў намеснікам начальніка (правінцыяла), а 6 верасня 1765 г. правінцыялам Мазавецкай правінцыі. З гэтай пасады ён пайшоў 7 верасня 1770 г. і пасяліўся ў Бабруйску. Пасля ліквідацыі Ордэна езуітаў Камісія Народнай Адукацыі прызначыла Карыцкага рэктарам школ Менскага ваяводства. У 1780 г. ён пайшоў на пенсію, захварэў і ў 1781 г. памёр у Менску[3].*

Як бачна, усе вехі жыцця, адзначаныя ў нататцы ад 1817 г., пацвярджаюцца ў рабоце Натонскага, але аб творчасці паэта тут сказана даволі скупа. Аўтар спыняецца на характары рэформ у школьнай справе, здзейсненых Карыцкім, а ў ацэнцы яго паэтычнага таленту абмяжоўваецца заўвагамі пра вялікую фантазію паэта, называе як творчую ўдачу паэму "Птушыны сойм" і прыгадвае вершы, прысвечаныя Кацярыне II.

Названыя ў артыкуле Натонскага Скарульскі (школьны таварыш Карыцкага), Польц, Быстрыцкі, яго выкладчыкі, а таксама падручнікі Ювентыюса і Шэфнера даказваюць, што і ў гады вучобы як на пачатковай ступені, так і вышэйшай, Карыцкі сустракаўся з людзьмі, якія прытрымліваліся адсталых поглядаў, нават вядомымі як праціўнікі вучэння Каперніка, а адукацыю ён атрымаў толькі ў рамках, прадугледжаных праграмай езуіцкіх навучальных устаноў. Вялікая начытанасць паэта, назіральнасць і чуйнасць дазволілі яму, і то толькі ў апошнія 15 гадоў жыцця, г. зн. ва ўзросце 50-67 гадоў, сачыніць выдатныя вершаваныя творы.

Трэці нарыс аб жыцці, творчасці Карыцкага належыць пяру М. Гарбачовай[4]. У артыкуле, надрукаваным у 1980 г., аўтар адзначае, што Карыцкі *"вызначаецца, ва ўсякім разе, сваёй літаратурнай культурай сярод польска-лацінскіх паэтаў станіславаўскай эпохі"* (маецца на ўвазе кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі). У асвятленні асобных бакоў творчасці Карыцкага ў Гарбачовай сустракаюцца сцвярджэнні, з якімі цяжка пагадзіцца. У прыватнасці, непераканаўчая думка, выказаная аўтарам аб тым, што *"Карыцкі не ўцягнуўся ў сучасныя падзеі, толькі мімаходзь кранаючы палітыку"*. Нельга лічыць апалітычным паэта, які рэзка крытыкаваў самавольства і безадказнасць сучаснай яму польскай шляхты, што прывялі да загнівання і распаду дзяржавы. Аб удумлівым падыходзе паэта да пытання аб прычынах ліквідацыі Ордэна езуітаў, аб яго хістаннях у ацэнцы гэтай падзеі сведчаць вершы, адрасаваныя Антону Касакоўскаму, а найбольш паказальныя вершы, прысвечаныя Юзафу Залускаму, вядомаму збіральніку і аматару кніг.

[2] У біяграфіі паэта ў зборніку прыведзена толькі частка вершаванага звароту да караля, менавіта з 9-га радка. Прычым гэтая частка незразумела адарвана ад папярэдніх радкоў.

[3] *Natonski Br.* Korycki Mical // PSB. T. XIV.

[4] Gorbaczewa M. Elegantissimus poetarum // Ruch Literacki. 1980. № 4.

М. Гарбачова адзначае, што Д. Яноцкі *"прасіў пісьменнікаў Мінасовіча, Багамольца, Нарушэвіча і Карыцкага ўважыць вяртанне Залускага з ссылкі* (сасланага царскім генералам Рапнінам) *у Калугу і сачыніць у яго гонар хвалебныя вершы"*. Яна прывяла пісьмо Яноцкага да Карыцкага, з якога відаць, як высока цаніўся Залускі ў асяроддзі езуітаў: *"Звышнатхнёны Карыцкі! З якой пяшчотай і мяккасцю твая нябесная муза аплакала епіскапа Залускага, выгнанніка, - Апалона Сарматыі. Цяпер ён па волі багоў вярнуўся. Ты не адмовішся ад агульнай радасці і тваёй да яго добразычлівасці, апяеш вядома Феба, які вярнуўся і ажыў духам"*. На думку Гарбачовай, Карыцкі выканаў заданне і адгукнуўся вершамі "Элегія для найслаўнага праваднра Юзафа Залускага" і "Элегія найслаўнаму... Юзафу Залускаму... кіеўскаму епіскапу".

Азнаямленне з указанымі элегіямі навявае, аднак, іншыя думкі: у першай наогул няма дадзеных аб тым, што яна напісана пасля вяртання Залускага з Калугі. Апеўшы багацце ведаў, заключанае ў кнігах бібліятэкі Залускіх, аддаўшы належнае *"старцу з пячаткай велічы і сівізною"*, паэт абгрунтоўвае наведванне кнігасховішча тым, што ён сам спрабуе сачыняць кнігі і з'яўляецца *"кропелькай малой, дададзенай у невымерныя моры"* ведаў і паэзіі. Другая з названых элегій гаворыць аб спачуванні паэта *"выгнанніку, сасланаму нядаўна ў рускія землі"*, бо на чужыне, дзе *"Гем ахутаны зіхоткім снегам"* і *"вяршыні Радопы пакрыты лёдам"*, *"пальцамі перабіраць калі аднойчы жалейку захацелася, рэзкі боль ён адчуў здзервянелай рукі"*, іначай кажучы, паэт з сумам выказаў думку аб тым, што творчыя сілы Залускага ў ссылцы вычарпаліся. Як відаць, Карыцкі не столькі вітаў вяртанне Залускага з Калугі, колькі выказаў сваё спачуванне яму.

Нарэшце, у артыкуле Гарбачовай маецца недастаткова абгрунтаваная думка аб прычынах і выніках усхвалення Карыцкім імператрыцы Кацярыны II. Захаванне езуіцтва ў Беларусі насуперак загаду папы рымскага аб роспуску Ордэна, на думку аўтара, нібыта *"падобна на захаванне ў Беларусі польскіх школ, а значыць, польскага духу"*. Як вынікае з од у гонар царыцы, Карыцкі быў заклапочаны не *"захаваннем польскага духу"*, а лёсам рэлігіі, Ордэна езуітаў, які з'яўляўся, па ягоным перакананні, найверным яе вартавым, паэт быў упэўнены, што Ордэн закліканы распаўсюджваць веды ва ўсіх краінах. Ён звяртаўся да царыцы на лацінскай мове дзеля таго, каб паказаць перавагу гэтай мовы над іншымі, здольнасць латыні пераступаць межы дзяржаў з карысцю для ўсіх. Сваю ўдзячнасць паэт выказаў ад імя Ордэна, хоць на гэта не быў нікім упаўнаважаны. Азадачаны незразумелым яму рашэннем папы Клімента XIV, ён пайшоў насуперак Рыму і многім польскім езуітам на збліжэнне з Расіяй. Гэты настрой пераважае ў яго словах:

*Столькі нягод пераж ыўшы, гнаная бурай рэлігія,*
*Ордэн, якога быў заснавальнік Ігнацы Лаёла,*
*Выгнаны прэч з бацькоўскіх мясцін і дашчэнту абабраны,*
*Вымушаны быў няшчасны блукаць па розных краінах.*
*З радасцю і з палёгкай асеў ён на землях расійскіх,*
*З радасцю, што сярод бураў дасягнуўшы гэтага порта,*
*Літасцю Кацярыны, прытулак знойдзены веры.*
*Выказаць як жа ўдзячнасць табе?*
*Ці прадаўжаць падарункі?*
*Алеі нясуць еўрапейцы табе, а з Турцыі лаўры,*
*Дарунак падносяць іншыя краі, каштоўныя скарбы.*
*Нетры разрыўшы сваіх гор, перуанцы скарбы дораць,*
*Таксама Эрытра багацці прыносіць з Чырвонага мора.*
*Мы аддаем табе сэрца, не патрабуеш паднашэнняў*
*Нашага дару даражэй, ні золата ўсялякага зліткаў,*
*Ні ахоўваных у віры Ганга перлін бліскучых.*
*Ты ж багатая назбіраным скарбам багаццяў каштоўных,*
*Дабрабыту нашага маці клопат песціш.*
*Маці! (стрымацца не можа агонь, захаваны ў глыбінях,*
*Ён вырываецца, у шчырым слове раскрыўшыся гарачым)*
*Няхай жа, о маці, настаяць дазваляецца на шчырасці,*
*У песні любоўю падказанай гукі падвойваць гэтыя!*
*Смелае слова, о маці, але ж адпавядае праўдзе.*
*Ты акружаеш як маці засмучаных найпяшчотнай ласкай.*
*Як збраяносец Юпітэра, так і царыца птушыная*
*Слабенькіх нашчадкаў, яшчэ не здольных лётаць апякае,*
*Грэе ў высокім гняздзе, прыносячы ежу і корміць,*
*Ліўні калі паліваюць з хмар набрыняючых грозна,*
*Нованароджаных яна прыкрывае ад лінуўшых з неба*
*Кропель крылом распасцёртым, адводзіць і гоніць патокі.*
*Так нас велічная царыца і дахам, і ежай*
*Ласкава і літасціва забяспечваеш і ўсё, што нам трэба,*
*Шчодра даеш, баронячы ад буры грымучай над намі,*
*Разбушаванай, крыламі магутнымі нас закрываеш.*

Усе тры прыведзеныя вышэй жыццепісы Карыцкага маюць адзін недахоп: у іх адсутнічае сувязь паміж яго жыццём і творчасцю. Канешне, на падставе захаванай творчай спадчыны паэта цяжка зрабіць перыядызацыю яго прац. Толькі ў нямногіх вершах указаны месяцы і гады іх з'яўлення, у назвах ці ў тэксце, асобныя даты можна вызначыць ускосна, па апісваных там асобах і падзеях. У выніку выяўляецца своеасаблівая карціна: асноўныя творчыя намаганні, ва ўсякім разе вынікі гэтых намаганняў, адносяцца да часу, калі паэту было ўжо за шэсцьдзесят. Гэта не азначае, што ў ім так позна прачнуўся паэтычны талент. Наадварот, прычын выказацца па набалелых пытаннях стала больш.

У полацкім зборы 1817 г. не захаваны ні тэматычны, ні храналагічны парадак. Ужо першы верш, названы "Аўстрыйскі марс", як правільна адзначыла Гарбачова, належаў пяру не Карыцкага, а іншага езуіта - Катэмбрынга (рэктара Нясвіжскай калегіі), які таксама жыў у Беларусі. Складальнікі збору прытрымліваліся хутчэй за ўсё такога чаргавання твораў Карыцкага, каб у чытачоў заставалася ўражанне аб шчырай адданасці паэта расійскай імператрыцы і аб глыбокай рэлігійнасці аўтара, нарэшце аб рэзка адмоўным стаўленні да самавольства польскай шляхты. На 150-й старонцы зборніка змешчаны верш, які ўтрымлівае ўдзячную малітву "ліквідаванага таварыства езуітаў" за вызваленне зняволенага ў замку св. Анёла ў Рыме генерала ордэна Лаўрэнція Рыкчы, а на 151-й старонцы прыведзены саладжавы верш на польскай мове пра матылька, які лётаў сярод кветак і быў раптоўна забіты ліўнем. Трэба меркаваць, што верш аб Рыкчы быў напісаны ў 70-х гадах, калі пасля папы Клімента XIV апостальскую сталіцу ўзначаліў

Пій VI, а верш пра матылька быў сачынены з іншай нагоды. Вывад аб тленнасці жыцця, безабароннасці чалавека, як таго матылька, які радуецца жыццю, але не ўсведамляе пастаяннай пагрозы смерці, адлюстроўваў веру ў боскае прадбачанне - адзіную надзею асуджаных.

Такія, характэрныя духоўніку, прызначаныя для павучання вернікаў, настроі адчуваюцца і ў іншых вершах, напісаных на тэму зменлівых лёсаў. Няма даты і ніякіх ускосных указанняў у вершах "Ода - не трэба давяраць удачам" і "Ода - вялікаму часам пагражае малое". Абодва вершы вылучаюцца майстэрствам - першы напісаны памерам III асклепіядава верша, а другі ўяўляе ямбічную сістэму. Абодва вершы па 26 радкоў. Змест зводзіцца да павучальных угавораў, настаўленняў і павучальных выразаў, але зроблена гэта досыць умела:

*Той, хто кедрам стаіць цяпер,*
*Заўтра громам пабіты будзе попел лізаць.*
*Птушка толькі што спявала паблізу*
*Хмараў суседніх і раптам няшчасна*
*застогне ў палоне.*
*Клетку туга спляла лаза...*

У гэтым вершы паэт прыводзіць у якасці прыкладу султана Баязета, які заваяваў Балгарыю, радасна трубіў аб перамозе, а потым быў разгромлены ханам Тамерланам. Прыкладам зменлівасці лёсаў служыць і палкаводзец Белісар: *"Калі ў яго вырвалі вочы, ён меў патрэбу сам у праваднiку"*. *"З мокрымі ад слёз шчокамі беднасць,* - усклікае паэт, - *звычайна ідзе за бліскучымі ад тлушчу тымі* [багацеямі з Іспаніі. - *Я.П.*], *хто хлябтаў Таг..."*.

У другім вершы Карыцкі таксама ўжывае вобразныя прыклады:

*Дзяўбе скалу і кропля вод. Казляняці кроў*
*Не верыла: агнём Вулкан*
*Булат сагне, потым расплавіць ганарліўца*
*У кастрах ліпарскіх краін...*
*Няхай, чый дух расцвіў, не надта верце ў моц*
*Ганарыстую, - яна пустая.*
*І часта той, чые сілы пачалі знікаць,*
*Здае бяздарным першынство. (115)*

Да таго часу, калі Карыцкі непасрэдна не сутыкнуўся з падзеямі, якія ўскалыхнулі краіну і закранулі яго рэлігійныя пачуцці ў сувязі з роспускам Ордэна, ён схільны быў крыху насмешліва і крытычна расцэньваць творчыя намаганні пачынаўшых вершатворцаў, якія, магчыма, з'яўляюцца яго вучнямі. У навучальных установах XVIII ст., асабліва езуіцкіх, выхаванцаў абавязвалі сачыняць вершы на лацінскай мове, абапіраючыся на правілы старанна вывучанай рыторыкі. Паставіўшы перад сабой мэту дамагчыся правільнага і змястоўнага сачынення, Карыцкі напісаў у вершаванай форме павучанне такога роду, пачаўшы яго з жартоўнага каламбура: замест *"прапаноўваю табе гэты сілагізм"* ён перакруціў словы: *"сілацебегізм прапаноўваю, прыгожы кудзеснік"*. У сваім павучанні ён раіў "кудзесніку" пераймаць пчол у працавітасці, але не даваць сябе зававабіць бессэнсоўнымі пошукамі знешняй прыгажосці.

Паэт любаваўся прыродай роднага краю і захапляўся яе апісаннямі. Цяжка дакладна ўстанавіць час узнікнення верша "Праклёны зіме", але, мяркуючы па адсутнасці ў ім водгукаў на падзеі ў краіне і намёкаў на асабістыя перажыванні аўтара, сачыненне гэтае адносіцца да гадоў вучобы ці першых крокаў на пасту прапаведніка. Разважанні паэта аб порах года з рэалістычнымі замалёўкамі зімы і вясны зводзяцца да высновы, што настане пасля непагадзі і нягод час, калі чалавек зможа бесклапотна прадаўжаць жыццёвы шлях, радуючыся прыгажосці прыроды. Ад 79 радкоў ямбічнага памеру гэтага верша патыхае гідлівасцю да скаванага марозам жыцця і нудным чаканнем вясны:

*І вось вясёлы ўсіх раслін карагод*
*Рапуўна карчанее, ён пануры, замёрз,*
*Замоўкнуў гай у сумным уборы,*
*У дрыжыках увесь пазбаўлены лістоў, голы.*
*Калі ганак родны, мясціны дзядоўскія*
*Пакінуў крыламі праслаўлены спявак,*
*Прыроду тут жа зябкае трапятанне ахапіла,*
*Пакрыла сінеча, псуе да чарнаты твар,*
*Вось страшней смерці бледнаты ў мароз*
*Хвароба па членах астываючых паўзе...*

Падобна прыведзенаму адрыўку, цяжка вызначыць дату стварэння верша "Ода госцю Людвіку ў пачатку траўня" (44 радкі памерам I сапфічнай страфы). Прыгнечанасць і абурэнне зімовай сцюжай саступаюць светлым танам, лёгкаму прыўзнятаму настрою. Прырода Беларусі радасна і гасцінна раздае сваю прыгажосць прышэльцам:

*... Да падарожніка табе, прыглядзеўшыся з замка*
*Яркага, Тытан расхінуў зрэнку,*
*З рогатам убор і найчысты колерам*
*Прамень прымярае.*
*Феб, кармілец ты і цудоўны светач!*
*Перашкодзь вятрам прылятаць дажджлівым,*
*Твар свой адкрывай, адары ласкава*
*Зялянінай зямлю!*
*Феб, сузор'яў ты храм, жывое полымя!*
*Хмары да чорных няхай ідуць краін;*
*Няхай мігае сінеча і часы спакою*
*Не парушае!*
*У мяккай вы траве, о кветачкі, шчасце,*
*Пяшчоту і красу ведаеце зефіра,*
*Лілеяй б напоўніць нам кошыкі хутка,*
*Цудоўным нарцысам!*
*Каб госцю сустрэчу падрыхтаваць, сцежкі*
*Упрыгожваем, ружы збіраем, фіялкі.*
*Салодкі тут фіміям бiручына снежным*
*Ліўнем разліты. (113)*

У 50-я гады XVIII ст., калі паэту споўнілася сорак гадоў, у яго вершах пачалі больш ярка з'яўляцца рысы адносін да рэлігіі, дзяржавы і мастацтва. Час з'яўлення такіх вершаў можна ўстанавіць па ўскосных дадзеных. Антон Валовіч стаў слуцкім епіскапам у 1755 г. З выпадку яго наведання Пінска Карыцкі, які

знаходзіўся там у якасці прапаведніка, сачыніў оду, дзе ўлагоджваючы і ўсхваляючы госця, выказаў думкі аб тым, якім хацеў бы бачыць пастыра. Ода складаецца з 85 радкоў ямбічнай сістэмы, з якіх асобныя своеасаблівыя. У прыватнасці, Карыцкі ўжо не давярае свецкім вершатворцам, ён лічыць іх трутнямі, яны ператвараюць суровае жыццё ў гульню і тым самым падманваюць простых людзей. Паэт заклікае епіскапа даць яму прыклад сапраўднага натхнення:

*... Рукою вопытнай маўклівых струн дакраніся,*
*Напевы пяшчотныя ствары,*
*Умела ліры шчырай здабудзь ты голас!*
*Кудзеснікаў смешныя мары,*
*Розумаў падманных пустая выдумка багоў,*
*Якіх паважае бяздарная чэрнь,*
*На алтарах кадзячы лятучы фіміям.*
*Даб'юцца няхай падмогі муз*
*Тыя, хто выпадковых любіць гутарак гульню.*
*Нам, лепшы апякун наш,*
*Аснову песням трывалую напэўна дасі.*
*Прагонім трутняў: славаю*
*Праўдзівай малявацца ў сапраўдных колерах*
*Гульня тая стане. Прэч хлусню!*
*Не да ілжывай фарбы ці выпадковай*
*пэндзаль спяшае -*
*Багаты святлом уласным...*

Паэт упэўнены, што духоўны настаўнік павінен вышэй цаніць вартасці духу, чым зямныя багацці:

*Закапаныя ў глыбіні, ты цэніш ні ў што*
*І шукаеш толькі каштоўнасць тую,*
*Што ў зорных палацах аддаленая вабіць,*
*Іх смага мучае цябе,*
*Каб гэтымі дарамі вечнымі валодаць,*
*Што не гінуць ніколі.*
*У дні і ночы ў вышыні цягнеш далоню*
*І чакаеш жарсна толькі нябёсаў.*
*Туды хвалюючы цябе вабіць агонь*
*Мары, палаючай у грудзях.*
*Туды твой розум спяшае, ляціць, дзе ты*
*Імкнешся цяжар разгрузіць,*
*Скарбамі плечы каб не абцяжарваць,*
*Ты рады з бедняком роўным быць.*
*Залочаным плашчом ты статак хутаеш свой,*
*Пастух са шчодраю рукой.*

Духоўны настаўнік не можа сядзець склаўшы рукі, калі статку пагражае небяспека, ён абавязаны быць заўсёды ў поўным узбраенні:

*Калі ж з тартара падземнага цямніц*
*Паўзе небяспека воўчых зграй,*
*Разню рыхтуючы, адтачыўшы іклы свае,*
*Свяшчэнную бярэш дзіду,*
*У праклятым Стыкс каб нечысць гнаць і зло згубіць,*
*Пагрозе перагароджваеш шлях...*

У 1755 г. Марцін Залускі, брат вядомага бібліятэкара Юзафа, адрокся ад пасады канцлера і епіскапа, стаўшы шараговым чальцом Ордэна езуітаў. Характэрна, як успрыняў гэты крок Карыцкі. Ён не ўнікаў у прычыны адрачэння Залускага ад шанаванняў, а супрацьпаставіў сціпласць, паслухмянасць, як найвышэйшыя вартасці, пышнасці і ганарыстасці. У вершы "Марціну Залускаму" Карыцкі пісаў:

*Сціплыя норавы, годнасці дар, цяпер захаваліся.*
*Гэта засталося, а ўся пышнасць ляжыць пад ступнёй.*
*Чорны ўбор надзявае ўзамен фіялетавай мантыі,*
*Кніга - адзіны скарб, царствам жа маленькі дом...*

Кніга - скарб ведаў - з'яўляецца найбольш каштоўным здабыткам людзей. Да ведаў, а не да багацця павінны імкнуцца і багатыя і бедныя, нічым іншым смертныя адзін ад аднаго не адрозніваюцца, усіх чакае аднолькавы канец. Самае знамянальнае ў выказванні паэта - гэта яго прызнанне, што багацеі карыстаюцца працай народа, само ж багацце - прадмет зайздрасці і разладу паміж багатымі. Потым Карыцкі гаворыць:

*Штосьці азначае цароў*
*прыхільнасці вышэйшай дабіцца,*
*Штосьці азначае захінуць плечы пурпурнай красой.*
*Гэта, аднак, нішто - па гаспадароў насіцца ў пакоях,*
*Гэта, аднак, нішто - быць з пасеву вяльмож,*
*Гэта, аднак, нішто - сядзець каля трона на крэслах,*
*Быць у вялікіх паноў у пашане - гэта нішто.*
*Гэта нішто - жыць пад залачоным дахам, адкуль*
*Час, і не ведаеш які, у змрочную яму штурхне.*
*Гэта нішто - быць з роду князёў,*
*бо такімі ж нараджаюцца*
*Князь і мужык, і памруць - іх аднолькавы лёс.*
*Гэта нішто -*
*асірыйскім адзеннем зіхацець каштоўным,*
*Калі цяжкай працай усё здабывае народ.*
*Гэта нішто -*
*да дабрадзейных цароў набліжацца прастолаў,*
*Калі зайздрасць заўсёды ў замках і хітры абман...*

З'едлівая насмешка над сумятнёй тых, хто шукае шляхоў узбагачэння, пошукаў апекі і міласцей у высокапастаўленых саноўнікаў, гучыць як пратэст супраць загніваўшага знутры атачэння паэта:

*Смертныя, каб убачылі, аднак,*
*што сумятня акружае,*
*Колькі ім трэба працы, колькі пакут цярпець!*
*Дзень не дае ім паесці, засынаць яны ноччу не могуць,*
*Пакутай надзея для іх, катаваннем - трывога і страх,*
*Дах абселі клопаты. Як чароды непаседлівых птушак,*
*Зайздрасці поўны язык, сціснуты ў вуснах сваіх.*

Прадчуванні будучых бедстваў прымусілі паэта напісаць эклогу "Даметас і Дафніс", дзе пастаральныя адценні змешваюцца са шчырай трывогай, выкліканай становішчам дзяржавы, якое ўсё ўскладняецца. У гутарцы, дзе адзін з двух пастухоў скардзіцца на тое, што ў сне бачыў прыметы няшчасця, якое абрынулася на яго статак, чуваць адчайная перасцярога грамадзянам Рэчы Паспалітай быць пільнымі. У эклозе Карыцкі ўжыў міфапаэтычны сімвал - лічбу чатыры, якая ўвасабляе парадак, правату, ісціну, справядлівасць, мудрасць, гонар адкрытасць. Усе гэтыя асновы жыцця грамадства разбураліся на вачах у паэта. Ён уклаў у

вусны пастуха Даметаса апісанні бедаў, якія той бачыў наяве і ў сне:

*... Чатыры бараны з цудоўнай поўсцю,*
*Відам цудоўныя, бліскучыя найбелай снежнай красой, Ішлі наперадзе і вялі ўсю атару на пашу днём яркім,*
*Як важакі, і, калі нападала ваўкоў на аўчарню*
*Зграя, рагамі бясстрашна бадалі ворага, праганяючы,*
*Драпежнікаў сталі здабычай...*
*Было ўжо так суджана, прадказалі мне вешчыя знакі,*
*Папярэджвалі за некалькі дзён, калі ў небе высока*
*Сонца запаліў Апалон, які напаўняў пашу спякотай. У цень зелянеючых лістоў платана, гарачынёй разамлелы,*
*Скаціну я сагнаў. Раптам над гладдзю палёў*
*з'явілася пярнатых*
*Чарада і, вылецеўшы, сціплыя галубы ў шыры нябеснай,*
*У пошуках ежы ляталі...*
*Ястрабы вырваліся раптам*
*са сховішчаў, цямніц глухамані...*
*Вось чатырох галубоў, што адлівалі белізной снежнай,*
*Ловяць і схопленых у гнёзды далёкія бедных нясуць...*

Паэт заканчвае з адчаем:

*О, пастухі, беражыцеся навальніцы,*
*беражыся ж статку -*
*Так я прамовіў напалоханы,*
*у будучыні засумняваўшыся,*
*Доля якая выпадзе мне, маёй жа атары...*

Эклога, што складаецца з 147 радкоў гекзаметра, папярэдзіла другі твор (137 радкоў гекзаметра), які адкрыта і шчыра асуджаў становішча ў Польскай дзяржаве ў 60-я гады XVIII ст.

“Ападосіс” (“Уздаянне”) - паэма, напісаная Карыцкім, прымеркаваная да выбрання Станіслава Аўгуста Панятоўскага каралём (1765 г.). Там з горыччу і рэзка паэт кляйміць заганы пануючых саслоўяў, што прывялі да аслаблення дзяржавы. Прадстаўленыя іншасказальна ў эклозе беды сталі рэальнасцю, і паэт расказаў, як пакутавалі людзі, ён усведамляў, што заганы грамадства зайшлі далёка і хваробу нялёгка вылечыць.

Паэт зрабіў яшчэ адну спробу абразуміць польскую шляхту напісаўшы найбольшую са сваіх паэм (510 радкоў гекзаметра) “Птушыны сойм". У гэтым творы, які вылучаецца характэрным зместам і своеасаблівай мастацкай формай - злёгку насмешлівым апісаннем прыроды і паводзін некаторых жывёл, галоўным чынам птушак, паэт алегарычна вывеў рысы пыхлівай шляхты, у большасці сваёй зацікаўленай толькі ва ўласнай выгадзе і дабрабыце.

Птушкі з розных бакоў і краёў сабраліся, каб вырашыць набалелае пытанне, як абараніць сябе ад ворагаў, якія палююць за імі, спусташаюць гнёзды, здзекуюцца. Пасля спрэчак і прамоў птушыны сойм, па прапанове папугая, вырашыў узвесці на пасад арла з тым, каб ён узначаліў барацьбу за свабоду і дабрабыт птушак.

Паказваючы арла - караля, Карыцкі вывеў яго як больш моцную і высакародную птушку, але і яна праявіла залішняе старанне, абмежаванасць і нават неразумнасць, калі знішчаліся бяскрыўдныя зайцы, якіх варона палічыла за небяспечных зламыснікаў.


SERENISSIMO
STANISLAO AUGUSTO
POLONIARUM
REGI.
LITHVANIÆ ET ANNEXARUM PROVINCIARUM
MAGNO DUCI.
LITERATORUM
FAUTORI MUNIFICENTISSIMO,
LITERARUM
PROMOTORI MAXIMO,
à fidelissimo Suaeq; Majestati devotissimo subdito
Michaële Korycki, olim Provinciali Masoviæ S. J.
nunc Rectore Scholarum Minscensium
PRO [illegible] NOMINATE
EUCHARISTICON.
Anno Domini 1780.

Для паэмы характэрна з'едлівая сатыра на шляхту. На прыкладзе такіх птушак, як варона, пугач, жораў, пава, паэт паказвае яе заганы, адцяняе і кляйміць балбатлівасць, плёткі, жорсткасць, падступства, разлічаныя на знешні эфект ваяўнічасць, фанабэрыстасць, зазнайства, сквапнасць, абжорства.Мноства іншых мірных птушак - гэта звычайны, просты народ, сціплы і безабаронны, але менавіта яны (галубы) самааддана, не шкадуючы жыцця, змагаюцца за сваё жыллё і дзяцей.

Надзённасць паэмы, прымеркаванай да часу бяздумнай, антыдзяржаўнай палітыкі магнатаў у XVIII ст., мэтанакіраванасць у высмейванні разрухі і міжусобіцы неаспрэчныя. Паэт перакананы, што дастаткова паставіць заслону свавольству, самадурству шляхты, выбраць дзелавітага, справядлівага караля, каб навесці пэўны парадак у краіне:

*Ці ж не наша свабода -*
*прычына гэтакіх многіх няшчасцяў?*
*Можа, нам варта правіцеля выбраць,*
*каб нас супакоіў?*

Гэтая парада, выказаная "адной птушкай разумнейшай” была адобрана большасцю пёрыстых і доўга абмяркоўвалася прысутнымі. Пасля абрання арла каралём птушкі наладжваюць парад, пачынаюць балянне:

*Усе ўлагоджваюць сябе і,*
*забыўшы пра клопаты цяжкія,*
*Са святочным духам радуюцца,*
*перамогу абвяшчаючы,*
*Ляпаннем бясконцым узносяць да неба ўладара.*

Насмешлівы, злёгку з'едлівы тон у паэме "Пту-

шыны сойм" адлюстроўваў сумненні Карыцкага ў магчымасці хуткага паляпшэння становішча ў краіне пасля ўступлення на трон Станіслава Аўгуста, больш таго, у апісаннях спрэчак на птушыным сойме і дзеяняў птушак відаць, што давер да новаабранай улады ў паэта пахіснуты.

Насталі ўяўна добрыя першыя гады кіравання новага караля. У 1767 г. у Польшчу прыехаў папскі нунцый Ангел Дурыні. Карыцкі напісаў у гонар нунцыя элегію, у якой паміж радкоў можна прачытаць параду не замыкацца ў пакоях, дзе *"ў змроку маўклівым"* ён заняты *"пошукамі бяскрайніх навук"*, а пазнаёміцца бліжэй з жыццём краіны:

*... Зробіш так, пацерпіць наўрад ці павага,*
*Калі ты нябеснай нагой ступіш у простыя лугі.*
*Бо наведаеш там вядомыя мужам вучоным хаціны,*
*Ці пройдзеш па сцежках неапрацаваных ніў...*

Паэт угаворвае іншаземца адпачыць у вёсцы падобна Апалону, які *"сам на кіфары не пастаянна іграе, часта ён з лукам у руках у пустэчу, гушчар ідзе"*, крадком пераконвае падданага нямецкага кесара бліжэй пазнаёміцца з жыццём краіны.

Элегія прасякнута думкай, якая ўсё больш турбуе паэта: кнігі мала адлюстроўваюць тое, што адбываецца на самой справе ў жыцці. Контуры такіх разважанняў яшчэ ярчэй выступаюць у другой элегіі, напісанай у гонар вядомага пісьменніка Ігнацыя Красіцкага, калі той у 1767 г. стаў Вармскім епіскапам.

У элегіі, якая налічвае 100 радкоў элегічнага дыстыха Карыцкі перш за ўсё падкрэслівае, што не паходжанне, а справы сведчаць аб заслугах чалавека:

*Справа ўдачы вядома народзіцца*
*няхай у пурпуру бляску,*
*Большая, аднак, павага ад высакароднасці заслуг.*
*Паходжанне вялікім не робіць, хто ўслаўляе*
*Толькі радаслоўную, той хваліць абманную высь...*

Менавіта Красіцкі, згодна думкі Карыцкага, здолеў спасцігнуць розніцу паміж тым, што расказваюць кнігі сябелюбцам, і тым, чаго патрабуе жыццё - штодзённа зжываць заганы:

*Пад кіраўніцтвам тваім ні імкненне да ўлады,*
*Ні дабрачыннасць вяльможаў не захаплялі як мэта,*
*Ні апантаная помста, да золата мярзотныя страсці.*

Паэт усё ясней разумее, што такія дзеячы, як Красіцкі, нажываюць сабе ворагаў і сярод нягоднікаў:

*Тым, што бывае,*
*атручаным зубам грызе цябе зайздрасць,*
*Не засмучайся: мужоў слаўных не любіць яна.*
*Ведаем, як ты ў сачыненнях*
*кляйміш бязлітасна заганы*
*І прымушаеш пайсці прэч з роднай краіны.*
*Варварства зжываеш, неўстрыманасць.*
*Норавы несумленных*
*Мала-памалу ў вадзе Стыкса пагібель знойдуць...*

Між тым, незалежна ад пажаданняў і дзеянняў такіх пісьменнікаў, як Красіцкі, палітычная атмасфера ў Польшчы і пасля ўступлення на трон Станіслава Аўгуста ўсё больш ускладнялася. Шматлікія шляхецкія групоўкі, незадаволеныя лібералънічаннем караля ў адносінах да колаў, якія спачувалі пратэстантызму і прарускай арыентацыі, задумвалі змовы ў абарону ўкара-нёных перакананняў на карысць сваіх прывілеяў. Да такіх адносіўся кумір Карыцкага - загадчык бібліятэкі Залускіх Юзаф Залускі. Паэт схіляўся перад вучонасцю Залускага, захапляўся багатым зборам яго кніг, але не быў згодны з палітычнымі поглядамі гэтага віднага каталіцкага святара. Ён спрабаваў пераканаць свайго сябра, што караляванне Станіслава Аўгуста абнадзейвальнае і патрэбнае. Ён зрабіў такую спробу ў "Одзе Юзафу Залускаму з выпадку наведання ім прыгараднага саду таварыства езуітаў":

*Прыгажосць, кагорта крылатых,*
*квітнеючай айчыны вы парастак,*
*Царства нябеснага вечная радасць!*
*Радзіму, што прымушае мяняць*
*і крылом хуткалётным*
*Мераць дарожныя доўгія вехі,*
*Краіны шукаць, што зіхцяць пад чужою зоркаю?*
*Нястомны палёт спыніце!*
*Бачыце, як выпускаюць промні з вясенняга неба*
*У нашу краіну міралюбівасць, парадак?*
*Бык азначае вясну, зеляненюць Іосіфа лілеі.*
*Уюцца фіялкі, з плеч спадаюць,*
*Лаўр жа, спадарожнік навукі*
*багаты, красуецца ўсюды,*
*У тыяры настаўнікаў трывала ўплецены.*
*Тут крыланосны атрад апусці хуткалётныя пёры,*
*О кіфарэды сюды, о лясныя!*
*Тут, дзе да суседніх узгоркаў*
*прыціскаецца клён перастарак,*
*Цень ад лістоты шырока рассцілаючы*
*Ў Віслы паток заглядзеўся і глядзіць ясень высокі,*
*Вербы і ліпы кашлатыя галіны*
*У мностве траў на зямлі*
*ўсемагчымыя блытаюць цені,*
*Крылы шырокія тут апусціце!*
*Тут паўтарайце напевы вясёлыя, святыя песні,*
*Славу настаўніка тут апявайце!*

Як бачна, паэт хацеў прымірыць слаўнага настаўніка Залускага з каралём: "бык" - герб Панятоўскага - абазначае вясну, караляванне Станіслава Аўгуста спрыяе развіццю навук, кветкі Залускага не завянуць, наадварот, для іх настала пара красы. У вершы ёсць яшчэ адна характэрная думка: прыхільнікам Залускага не трэба шукаць суцяшэння ў іншых краінах, міралюбства і парадак умацоўваюцца і на радзіме.

На рэлігійныя настроі паэта нечакана насунуўся цень, у яго поглядах з'явілася трэшчына: на Ордэн езуітаў абрынуўся ўдар, прычым не з боку пратэстантызму, для супрацьборства з якім ордэн быў створаны, і не з боку праваслаўя, якое езуіты збіраліся зламаць, а якраз з Рыма. Там нават зведаў ганенні генерал Ордэна Рыкчы. Сваімі перажываннямі Карыцкі дзяліўся з сябрам Антонам Касакоўскім, якому тлумачыў, чаму перастаў з ім перапісвацца:

*Шчыра я прызнаю, што маўчаў я ўсе доўгія гады:*
*Што, ці дзіўна? Моўчкі я гора цярпеў.*
*У сэрцы засеўшы, боль язык мой і розум звязаў*
*І заставаўся такі ў гаворцы бяссільны, у справах.*
*Змрочная тройка сясцёр*
*замяніла тут муз у маім сэрцы,*
*Мне яна, таксама сябрам цяжкія лёсы абяцае.*
*Замест жа лаўру быў ціс,*
*замяніла мне кастальскую крыніцу*
*Слёз нястрымная плынь,*
*замест кіфары толькі стогн,*
*Калі мне б тыграў сэрцы суровая дала прырода,*
*Пачуцці чалавечых боль крануў бы, відаць, і іх.*
*Калі б цела маё складалася з грубага каменя,*
*Не сумнявайся, зламаць рэзкі боль змог бы.*
*Смерці ганебнай рэлігія -*
*маці, разбурэнню падверглася,*
*З ёй вучыўся я жыць, жыць навучаў сяброў,*
*У дзіцячыя гады яна дабрачыннасць у мне выхавала,*
*Адукацыю дала грубым Палада гадам.*
*Маці, о любімая мной! (Гаварыў не раз я са стогнам.)*
*Няхай бы да дня не дажыць,*
*смерць калі спасцігне цябе!*
*Таксама, бацька дарагі,*
*ператварыўся ты ў чорны попел,*
*Доўгую цемру выцерпеўшы*
*зім бязлітасных у турме.*
*Жыць жа мне як?*
*Чаму я дыхаю, а паветра такое горкае,*
*Спадарожнікам сын чаму не аказаўся бацьку?*
*Вас растраціў я, паплечнікаў чэсных атрад, і стагну.*
*Вы пазбаўлены ж усяго: імя, убораў і даброт.*
*Дар жа мужам засмучаным - слава -*
*пакінутым, даражэй*
*Ордэна няма нічога, слава сама толькі смутак.*
*Што застаецца ж нам усім па-за магілай і труной?*
*Ці ж тая бедная частка жыцця,*
*змрачней, чым труна?*
*Помніцца таксама аб многім,*
*але гэта ўжо меншыя беды,*
*Большая - Стыксу ўлоў будучы прадчуваць.*

На працягу 70-х гадоў XVIII ст. М. Карыцкі незалежна ад бедстваў, якія абрынуліся на Ордэн езуітаў (папскі "брэве' аб забароне дзейнасці Ордэна), а таксама нягледзячы на катастрофу, што спасцігла Польскую дзяржаву (першы падзел), неаднаразова імкнуўся падтрымаць палітычную лінію караля Станіслва Аўгуста, які дзейнічаў на карысць збліжэння з Расіяй. Паэт сачыніў "Еўхарыстыкон" (176 радкоў элегічнага дыстыха) - удзячнасць за ўзнагароду "Заслужаным", прысуджаную яму каралём у знак творчых поспехаў. У гэтым творы паэт апеў правіцеля, які садзейнічаў росквіту навук і мастацтваў у краіне, адстойваў мір.

Паэт сачыніў таксама элегію каралю як віршаваны дадатак паднесенай Станіславу Аўгусту "старэйшай выявы Стэфана Баторыя (80 радкоў элегічнага дыстыха). Супаставіўшы даброты міру з жахамі захопніцкай вайны, ён завяршыў гэтую элегію знамянальнымі словамі, папярэдне паказаўшы на прыкладах, што ў памяці народаў міралюбныя правіцелі больш славяцца, чым захопнікі:

*Наследуй, кароль,*
*высакародным прыкладам міралюбных,*
*Няхай апявае народ славу табе за спакой!*
*Так робячы, даб'ешся больш дабра ў твае гады,*
*Чым пяцігоддзямі войнаў,*
*ты б праславіўся дзесяцію.*
*Усе ж нашчадкі прызнаюць,*
*дзеянні твае ўспамінаючы:*
*Землі - здабыча іншых, дабро прынёс Станіслаў.*

Побач з пытаннем аб міры Карыцкага хвалявалі надзённыя справы жыцця краю. У гэты час паэт піша паэму "Праклён Вулкану", прысвечаную прагрэсіўнаму, прадпрымальнаму дзеячу Беларусі Іяхіму Храптовічу, які пабудаваў чыгуналіцейны завод у Вішневе. Верш Карыцкага, які можна назваць па зместу "Пажар у Вішневе", - выключная з'ява ў літаратуры XVIII ст. Паэт не толькі ўзняў пытанне аб развіцці ў краіне прамысловасці, падкрэсліў наяўнасць у нетрах роднага краю багаццяў, але сістэматычна і выразна апісаў шэраг дзеянняў рабочых, занятых на будаўніцтве фабрычнага будынка і на выплаўцы жалеза.

Галоўнае, аднак, у тым, што Карыцкі паказаў вясковае насельніцтва ў прамысловай і творчай працы. Мастацкія прыёмы, з'яўленне ў паэме Юпітара, Вулкана, Няптуна яшчэ больш адцяняюць рэальнасць вобразаў, працоўныя навыкі сялян, падрабязнасці іх побыту.

З вялікім майстэрствам апісаны пажар на заводзе.

З першых радкоў твора, дзе гаворыцца пра Вішнева, як пра "закуток ў лясной глухамані", зямля якога хавае скарбы, да апошніх, дзе паэт заклікае прамыслоўца паўтарыць свае намаганні, пусціць чыгуналіцейны завод, патыхае духам упэўненасці ў неабходнасці змен у жыцці бацькоўскага краю.

У 1780 г. рэктарам Віленскай езуіцкай акадэміі стаў вядомы вучоны, астраном Марцін Пачобут. З верша "Віншаванне Пачобуту" (71 радок гекзаметра) відаць, што аўтар яго, Міхал Карыцкі, клапоціцца аб стане вучэбнай справы; ён закранае пытанне аб суадносінах навук і рэлігіі і своеасабліва асвятляе імкненне людзей да вывучэння нябесных целаў; ён лічыць астраномію і рэлігію досыць блізкімі, бо і адна, і другая разглядаюць недасяжныя далячыні, тое, што не мае непасрэднай сувязі з зямным быццём. Чалавек хоча спазнаць таямніцы зорак, але гэта не менш цяжка, чым знайсці бога на небе. Вывучэнне астраноміі сваёй невымернасцю і бясконцасцю садзейнічае ўдасканаленню нораваў, паказвае людзям іх месца ў Сусвеце, іх вялікія магчымасці напоўніць сэнсам сваё жыццё. Астрамомія робіць гэта лепш, чым духавенства, якое займаецца душой, але мала падрыхтавана да даследавання з'яў прыроды Паэт жадае свайму сябру не забываць аб тым, што астраномія, якой ён захоплены, павінна дамагацца стварэння на зямлі ўмоў, вартых чалавека.

У 1771 г. у Ўроцлаве з'явілася кніга Данііла Андрэя Яноцкага "Ўзоры сармацкіх муз", у якой Карыцкі названы "найвытанчаным паэтам". У падзяку аўтару Карыцкі сачыніў невялікі верш (элегічны дыстых):

*... Ты хаваць мае песні лічыш дастойным з сабою,*
*Увекавечыць вершы яркім зіхценнем тваіх*
*Кніг і туды змясціць,*
*каб пакінуць нашчадкам на памяць.*
*Звяжа старонка сяброў, іх яднала любоў.*
*Вось і адсюль, хоць аднаму памерці і давялося б,*
*Усё ж прадаўжае жыццё*
*ў кнігах тваіх кожны з нас.*
*Хто ж Яноцыя прачытае, тут жа Карыцыя пазнае,*
*Іх неразрыўных розумам, сэрцам, адзіным радком.*
*Вось і магіла адна пахаваць няхай абодвух не зможа,*
*Усё-такі кніга адна разам любімых замкне.*
*Іх пастаянным саюзам звязала любоў без падману,*
*Смерць неразлучных сама ці ж раздзеліць сяброў?*
*Смерць жа адна, але ўдвух мы, не захопіцца вершамі*
*У веку будучым ніхто, не ўзносячы нас абодвух.*

З гэтага твора відаць, як высока Карыцкі цаніў паэтычную працу, а галоўнае, узаемаразуменне тых, хто даражыць паэзіяй.

Падзеі, што разгарнуліся ў пачатку 70-х гадоў, былі па-рознаму ўспрыняты Карыцкім. Забарону на дзейнасць Ордэна езуітаў паэт адчуў як хваравіты ўдар і, можна сказаць, да апошняга дня жыцця не мог ад яго ачомацца. Ён быў глыбока веруючым і не мог сабе ўявіць, што папа рымскі адмовіўся ад найбольш адданых яму служак. Праца ў Камісіі Народнай Адукацыі здавалася яму працягам місіі духоўнага ўздзеяння на народы, ускладзенай на чальцоў Ордэна.

Прайшоўшы амаль у той жа час падзел Польшчы не выклікаў у паэта моцнага ўражання. У сваіх вершах ён ні слова аб гэтым не сказаў. Разам з тым ён не хаваў, што насельніцтва Беларусі без варожасці, прыязна ўспрыняло ўступленне рускіх войск у межы роднага краю.

Змешаныя пачуцці неспакою і спадзявання, што ахапілі паэта ў сувязі з уключэннем часткі Беларусі ў склад магутнай Рускай дзяржавы, яўна выступаюць у "Еўхарыстыконе" Станіславу Сестранцэвічу (168 радкоў гекзаметра). Карыцкі выказаў глыбокую ўдзячнасць Сестранцэвічу, прызначанаму епіскапам Белай Русі, які вырашыў, не гледзячы на ўказанні Рыма, застацца на чале беларускіх езуітаў і захаваць Полацкую акадэмію.

У сваім творы паэт паказаў прыезд епіскапа як цудоўную з'яву, а потым падаў справу так, нібы заснавальнік ордэна Ігнацы Лаёла звярнуўся да сваіх паслядоўнікаў, расхваліўшы іх самаадданыя ўчынкі ў розных краінах, як тых, хто павяртаў людзей у сапраўдную веру. Уяўны правадыр, па задуме паэта, выказаў своеасаблівыя думкі: *"Усё гэта вы рабілі. Нарэшце, калі гады сплылі, настаў жахлівы дзень, немінучы час, і мая рэлігія, узнесеная вашым потам [працай] і распаўсюджаная па ўсім свеце, дзякуючы вашым заслугам, у рэшце рэшт пала, пераможаная згубнай пастановай* [радкі 99-103]*... Вось ужо засвяціўся дзень, якога чакалі некалькі гадоў, і Станіслаў, якому падпарадкоўваецца Белая Русь, і які дабрачыннасцю залужыў тыяру епіскапа, зламаў жорсткія кайданы і адкрыў замкі таго, што яму было прапанавана з Квірынскага пагорка* [Рыма]. *І мая рэлігія выйшла з цемры на свет. Не дзіўна, што ён адкрыў ключом магутнага Пятра, там, дзе Дзвіна цячэ хуткімі струменямі, новую навучальную ўстанову. Ён устанавіў новае воінства па імені Езуса і загадаў жыць належным чынам па маіх указаннях і ісці па маіх слядах".*

У гэтым, даслоўна перакладзеным з "Еўхарыстыкона", адрыўку даволі паказальныя для поглядаў Карыцкага перш за ўсё яго трывога і засмучэнне несправядлівай, па яго перакананні, крыўдай, што спасцігла Ордэн, потым радасць аб прызначэнні Сестранцэвіча епіскапам Белай Русі і яго цудоўнага пачынання - умацавання Полацкай акадэміі. Звяртаюць на сябе ўвагу словы пра "ключ магутнага Пятра". Апостала Пятра, якога паказваюць часам з ключамі, "магутным" звычайна не называюць; відаць, паэт разумеў пад "ключом Пятра" наступніцу Пятра Вялікага імператрыцу Екацярыну II, якая пажадала зберагчы езуіцкія навучальныя ўстановы.

Ліквідацыі Ордэна езуітаў Карыцкі прысвяціў твор, названы ім "Казка" (114 радкоў гекзаметра), дзе ў алегарычнай форме паэт закляйміў як крыважэрных, сквапных і лжывых ваўкоў тыя ўрад і дваранскія колы, якія, прыкідваючыся дабрачынцамі, хацелі спіхнуць на езуітаў адказнасць за свае зладзействы і развязаць сабе рукі для таго, каб мучыць і рабаваць просты народ. Пастух, які ўяўляе сабой сумленнага, справядлівага правіцеля, з дапамогай злых сабак, пад якімі разумеюцца езуіты, ахоўвае авечак - просты народ.

У "Казцы" Карыцкі высокамастацка выявіў мацёрага ваўка-разбойніка, які спрабуе ўсыпіць пільнасць пастуха, у словах ваўка адлюстроўваецца ўсё, што паэт думаў пра ворагаў рабаўнікоў простых людзей:

*... Муж знакаміты, стары ахоўнік, пастух найхрабры,*
*Гэта трывога і шум для чаго, і бразганне зброяй?*
*Мы не прыйшлі ваяваць і шкодзіць нікому не жадаем.*
*Іменем Дыяны клянуся і сатырамі я заклінаю, -*
*Праўду глаголяць вусны,*
*няма абману і лжы ў маім сэрцы.*
*Марс не адмовіць сведкам стаць, што я невіноўны.*
*Ні спакушальны голад, ні праціўная прага забойства*
*Нас не прымусілі кінуць спакойнае логава ў чашчобе,*
*Мы не здабычу шукаць,*
*падыхаць нам хацелася б чыстым*
*Паветрам, каб бяздзейнасць не разбэсціла нам цела.*
*Ці ж прагулка па полі лічыцца таксама злачыннай?*
*Калі авечак дарагіх назіраем, камусьці крыўдна?*
*Белых авечак руно так падобнае на скіфскі снег!*
*Калі мы ўслаўляем радасць,*
*ухвала прыгажосці непрыстойна?*
*О, непараўнаная краса авечак, о, багоў ты зарука*
*Так беспадобна, што ёю Юпіцер, як тканым покрывам*
*Золата, бляскам сузор'е б Авена мог упрыгожыць!*
*Прыгажосці гэтай зіхцець*
*на гірляндах вялікіх палкаводцаў,*

*Ёй бы насіцца над нябёсамі і ў сярэдзіне*
*Быць Задыяка, мароз адолеўшы,*
*адорваць свежай кветкай*
*Зямлю, дрэвы ж - лістамі, птушак - зялёным ценем,*
*Салодкім фіміямам - пчалу,*
*а цыкаду - цудоўнай расою!*
*Слава авечак такая і ў вяках ніколі не змоўкне!*
*Авечкі, сказаць бы ўсю праўду,*
*не пазбаўлены недахопаў.*
*Шып звяртаецца да ружы*
*цудоўнай як друг неразлучны,*
*Россыпам быццам пярліны,*
*золата шлакам пакрыта,*
*У смяротнага сэрцы жывуць*
*дабрачыннасць, годнасць, доблесць,*
*Псуе іх неаднойчы заган розных суседства.*
*Так і авечкам прыемным*
*саромны характэрны недахоп:*
*Не без прычыны яны абуджаюць у нас горкую злосць!*
*Мілы нашчадак багоў, прыручаны, ціхі парастак!*
*Чым табе блізкія сабакі, змяі агідней, пачвар?*
*З выпладкам Цэрбера дні праводзіць і час начны*
*Ці ж не сорамна?*
*І падабаецца жыццё давяраць ім шалёным,*
*Племені, чыя найвялікая слава ў здзеку з воўчага*
*Роду і нашай ваўкоў напівацца бессаромна крывёй ?*
*Дружбу з такім ненавісным ворагам*
*усё ж цесную водзіш?*
*Гэтым варожасць сваю даказаўшы,*
*пакаранне заслужыш:*
*Не было б злой упартасці сабак, спыніўся б воўчы*
*Гнеў: адпачывалі б ваўкі і не парушалі б міру!*
*Вер мне, пастух, калі загінуць лаконскія, злыя сабакі,*
*Няхай жа сведкам будзе Юпіцер, авечак не кранем!*
*Не разумею, адкуль такі клопат аб родзе праклятым,*
*Чорным яго накарміла атручаным зеллем Медэя.*
*Ці помніш пра ўсе зладзействы сабак? Корм паядаюць,*
*З шыяй на прывязі мілы спакой парушаюць і дрымоту,*
*Ладзяць засады і вечную лютасць у сабе захоўваюць,*
*Дражняць людзей і багам не даюць ніякага спакою.*
*Вось пераломнага роду ўдачы, такая іх доблесць:*
*Здраджаны ўласнай зграяй сабак, Актэон гіне,*
*Дыяна- паляўнічы нярэдка абгаўкана псамі бывала.*
*Кінь ненавіснае людзям і ваўкам сабачае племя,*
*Якраз навек устаноўлена будзе згода!*
*Статак твой у бяспецы будзе, мы ж карміцца*
*Будзе зямлёй і травою. Марудзім і час губляем, -*
*Ягня давайце зарэжам -*
*звычай, - умацаванне саюза!*

На ліквідацыі ордэна езуітаў Карыцкі спыняецца ў некалькіх радках "Элегіі каралеўскаму сакратару Антону Касакоўскаму". Расказаўшы сябру, якому даўно не пісаў, аб сваіх глыбокіх перажыннанях, выкліканых ударам, што спасціг езуітаў, ён пачаў шукаць суцяшэнне ў аднаўленні старых знаёмстваў. Са слоў Карыцкага вынікае, што ў яго душу закраліся сумненні, ён страціў упэўненасць, бо не можа растлумачыць прычыны таго, што здарылася:

*Вось і скажы мне, Антон, не хавай, прашу, сваіх думак,*
*Болю прычына майго верная, ці не, была?*
*Што заставалася мне рабіць,*
*закранутаму гэтай бядою?*
*Плач - вось адзіная праца, -*
*змоўкнуць і цяжка ўздыхаць.*
*Пасля таго як ачомацца*
*давялося ад скрухі такой доўгай,*
*Дзень адыходзячы за днём гора маё змяншаў...*

Рана, відаць, паступова зацягвалася, але смутак змяняўся пачуццём безвыходнасці, беспрасветнасці, адчай саступаў месца абыякавасці. Усё гэта адлюстравалася ў вершаваным звароце да брата паэта Караля*, якога кіраўніцтва Ордэна адклікала ў Рым. Сваяцкая прыхільнасць да старэйшага, любімага з дзяцінства брата, адцясніла дзелавыя думкі аб абавязках чальца Ордэна:

*Глянь, я, як брат, не пакутаваў бы, што брат пакідае,*
*Калі б у жыцці ніхто не быў даражэй за яго...*
*Пасля таго, як родныя мае пайшлі з жыцця,*
*Я перанёс на цябе пачуццяў непадзельных цяпло.*
*Толькі ты замяняў і бацьку, і мацеры ласку,*
*Ты ж адзін для мяне люстэрка братоў маіх.*
*Калі турботы, сумненні трывогаю грудзі напаўнялі,*
*Прыстанкам была твая парада,*
*быў ты мне быццам алтар...*
*Ці, калі прыцясняў лёс, катуючы бязлітасна,*
*Гора толькі ты вылечваў, ты быў лекамі маімі...*

---

* Караль Карыцкі (03.11.1702 - 10.12.1789) у 1717-1723 гадах вучыўся ў езуіцкіх калегіюмах Вільні, Слуцка і Полацка, затым выкладаў граматыку і паэзію ў Вільні і Варшаве. У 1726-1730 гадах вучыўся ў Варшаўскім калегіюме, дзе пазней быў прафесарам рыторыкі (да 1732). У 1732-1733 гг. выкладаў этыку ў Вільні. У 1733-1736 гадах - прафесар настаўніцкай семінарыі ў Слуцку, прапаведнік у слуцкіх князёў Радзівілаў. У Віленскай духоўнай акадэміі атрымаў ступень доктара філасофіі, у 1736-1738 гг. быў прафесарам тэалогіі ў Віленскай духоўнай акадэміі, дзе ўзначальваў нават кафедру. У 1739-1746 гг. выкладаў тэалогію ў Варшаве. З 1746 г. быў першым сакратаром асістэнцыі езуітаў Рэчы Паспалітай у Рыме (рэпрэзентаваў 4 езуіцкія правінцыі Рэчы Паспалітай). Як кіраўнік Мазавецкай правінцыі ў 1758 г. быў пасланы ў ВКЛ для ўрэгулявання памежных і школьных пытанняў сярод езуітаў. З 1763 па 1765 г. быў рэктарам Нясвіжскага калегіюма а потым быў прызначаны асістэнтам і намеснікам генерала Польскага правінцыі езуітаў па справах Рэчы Паспалітай і з 1776 года жыў у Рыме. Па загадзе Рымскага папы Клімента XIV ноччу 16 жніўня 1773 г. будынак езуітаў быў захоплены войскамі. Караль Карыцкі - адзін з чатырох асістэнтаў Генерала Ордэна быў арыштаваны, і разам з Генералам Ордэна і астатнімі асістэнтамі заключаны ў турму. У 1776 г. наш зямляк быў вызвалены і апошнія гады жыцця правёў у Рыме, на папскім пенсіёне. Падтрымліваў сувязі з езуітамі Расійскай Імперыі, пераконваў іх у законнасці існавання Ордэна. Выступаў супраць падпарадкавання езуітаў біскупу Станіславу Богуш-Сестранцэвічу. Аўтар розных панегірыкаў і легенд на лацінскай мове. Вядомы гісторык біскуп Ян Альбертрандзі назваў яго "першым майстрам навук і густу ў езуіцкай літаратуры на Літве".

У элегіі "Да брата Караля" Міхал Карыцкі згадвае таксама сваіх братоў Анупрэя, Луку, Сымона і Андрэя.

*Леанід Лаўрэш.*

Пасля роспуску Ордэна Карыцкі перажыў духоўны пералом. Ён не страціў веру ў ідэалогію атрада ваяўнічых паклоннікаў Езуса, але яго цалкам паглынулі разважанні аб дапушчаных памылках у поглядах і справах. Адказ на пытанні, якія яго хвалявалі, прыйшоў нечакана не з Захаду, а з Усходу, Падзел Польшчы, а галоўнае, паслядоўная палітыка Кацярыны II дапамаглі яму асэнсаваць тое, што адбываецца, усвядоміць, што ў свеце проціборнічаюць сілы, незалежныя ад волі апостальскай сталіцы; ён спасціг ісціну, што праціўнікі, якія спавядаюць іншую рэлігію, могуць стаць ідэйнымі саюзнікамі ў барацьбе за мір і культуру.

Тое, што на заходніх землях Польшчы пачалі гаспадарыць немцы, Карыцкі ўспрыняў хваравіта. Ён з'едліва пісаў пра нейкага Паўла Мако, нямецкага паэта, які абразіў палякаў:

*Грамадзяне польскага царства,*
*народ некалі вольны,*
*Кесара грону цяпер вымушаны служыць.*
*Тое, што пісаў супраць нас*
*вершатворац з роду наймудрых,*
*Солі грызучай поўна, колкія песні яго.*
*Ен апявае выгнанне сваё. Распішыцеся пад гэтым.*
*Ісціну ж з вершаў ён выганяе сваіх.*

Тое, што адбывалася на ўсходзе Рэчы Паспалітай, выклікала ў паэта душэўную сумятню. Гэта адлюстравалася ў майстэрскім апісанні феерверку ў Шклове, наладжанага Сямёнам Зорычам у гонар прыезду Кацярыны II:

*... Вось два пачаткі сутыкнуліся*
*ва ўпартым і злым паядынку,*
*Полымя і хвалі ўступілі ў барацьбу*
*і шкадавалі адно аднаго,*
*Бітва ўскіпела, агонь шугае, разгневаўся шумна,*
*Дзікія хвалі мармычуць,*
*агню перагароджваюць дарогу.*
*Родны з зоркаю агонь, праслаўлены паходжаннем,*
*Духам узвышаных і талентам ён паважае*
*Полымя, да вышыняў імкнецца,*
*хвалі саступаць не жадае...*

Агонь і хвалі, што бушуюць у небе Шклова, адпавядалі настрою паэта, у яго сэрцы таксама сутыкнуліся два пачаткі: Рым і Масква. Паэта ўразілі магутнасць і багацці Расіі, што праявіліся ў вайне з Турцыяй.

Пасля падзелу Польшчы ў 1772 г. Карыцкі да канца свайго жыцця сачыняў вершы, прысвечаныя рускай царыцы і яе палкаводцам. У "Песні Чарнышову... губернатару зямель, далучаных да Расіі" (188 радкоў гекзаметра) паэт усхваляў патрыятызм рускага генерала:

*Смелы воін і правадыр,*
*што пагарджае смерцю і небяспекай,*
*Крыві сваёй не шкадаваў, не даражыў сваім жыццём,*
*Толькі была б айчына цэлая на радасць усіх грамадзян.*
*Гэты клопат ты ў сэрцы гадуеш у вайну і ў спакоі,*
*З нязгаснаю жарснасцю турбуешся і ўдзень, і ўначы,*
*Каб ахоўваць свой народ і зброяй,*
*і мудрай парадай...*

У "Песні найзнатнаму пану Крачэтнікаву з выпадку яго прыбыцця ў Мінск" (63 радкі гекзаметра) паэт усхваляў стойкасць, спраўнасць рускіх войск, справядлівасць і добразычлівасць камандзіраў да цывільнага насельніцтва:

*Ты не адзін прыбываеш, а ў суправаджэнні атрадаў*
*Доблесці і красы: з табой жа праваднры найлепшыя,*
*Якія развaжнасць, параду даюць у час няўпэўненасці,*
*Тут жа непарушнасць*
*у прынятым ясным рашэнні, і побач*
*Страж нясхільны законаў - боская Феміда,*
*Што ў пакараннях марудзіць,*
*хуткая пры ўзнагародах. З табою*
*Гордасць высокая, фанабэрыі,*
*ганарыстасці чужая зусім -*
*Добразычлівасці поўная ў размове*
*і выслухаць просьбы гатовая...*

Акрамя "Феерверку ў Шклове" Карыцкі напісаў тры оды ў гонар Кацярыны II: "Песня аўгусцейшай імператрыцы ўсяя Русі Кацярыне II з выпадку прыбыцця ў межы Белай Русі" (322 радкі гекзаметра), "Радасць у Полацку з нагоды прыбыцця Кацярыны II" (210 радкоў гекзаметра) і "Смутак у Полацку з прычыны ад'езду Кацярыны II" (201 радок гекзаметра), у якіх паэт яркімі фарбамі апісаў уражлівыя карціны прыёму царскіх войск у гарадах Беларусі, далучаных да Расіі. Апісанні ўрачыстых сустрэч і провадаў царыцы чаргуюцца з усхваленнем рускай зброі, якая разграміла турэцкія полчышчы, і з узвелічэннем міратворчай палітыкі Расіі, што патушыла пажар вайны ў Заходняй Еўропе. Уяўленне паэта малюе цудоўныя перспектывы росквіту навукі, мастацтва і будаўніцтва ў Расіі і Беларусі, абумоўленага мірнай стваральнай працай таленавітага народа.

Прыведзены агляд твораў Міхаіла Карыцкага, які закранае большую частку захаванай творчай спадчыны паэта, дазваляе адрозніць тры асноўныя перыяды ў яго пісьменніцкай дзейнасці. У першым, раннім (да 1763 г.), Карыцкі разважаў аб вершатворчай працы і засяроджваўся на рэлігійных тэмах; другі перыяд - гэта гады 1763-1771, калі паэт разгарнуў наступленне на заганы дзяржаўнага і грамадскага парадку ў Рэчы Паспалітай. У пачатку гэтага перыяду паэт спадзяваўся знайсці выйсце са складанага катастрафічнага становішча ў падтрымцы караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які ўступіў на пасад у 1765 г.

З 1772 г., г. зн. з часу падзелу Польшчы і роспуску Ордэна езуітаў, наступае новы, апошні перыяд у творчасці Карыцкага: у яго вершах назіраецца рэзкі паварот - уседамленне ролі Расіі ў лёсах яго роднага краю, Беларусі.

Але, давайце, не будзем забываць, што Міхал Карыцкі быў езуіт, высокапастаўлены езуіт. А для езуітаў ніколі не было важным, што яны гавораць, і нават, што робяць. Для іх важная была толькі канчатковая мэта - веліч і слава Езуса Хрыста і магутнасць каталіцкага Касцёла, які яны лічылі найбольш адпаведнай канфесіяй для дасягнення гэтай сваёй галоўнай мэты.

# Рэдактар - краязнавец

## *105 гадоў з дня нараджэння Ўладзіслава Абрамовіча*

Рэдактар знакавай для горада Ліды газеты "Ziemia Lidzka", якая выдавалася ў нашым горадзе з красавіка 1936 г. па жнівень 1939 г., Уладзіслаў Абрамовіч (1909-1965) нарадзіўся у Новым Двары каля Трокаў 9 траўня 1909 г. у беднай сям'і каваля Яўстаха і Ўршулі (з Белапятровічаў) Абрамовічаў. Ягоны бацька быў летувісам а маці беларускай[1]. Пра нацыянальнасці сваіх бацькоў ён пісаў сам, запаўняючы розныя анкеты. Бацька Яўстах, сын Міколы нарадзіўся ў 1875 г. і памёр ў 1922 г., маці Ўршуля нарадзілася ў 1879 г.

У 1914 г. сям'я пераязджае ў Кашадары (зараз - Кайшадорыс), і ў гэтым жа годзе памірае маці Ўрашуля. Пад час Першай сусветнай вайны паміраюць тры сястры і два браты Ўладзіслава Абрамовіча.

У 1917 г. 6-ці гадовы Ўладзіслаў ідзе ў школу, але мала што разумее, бо бацька чамусьці аддаў яго ў школу з нямецкай мовай выкладання.

Бацька жэніцца яшчэ раз і з невядомай прычыны патрапляе ў турму, дзе 13 снежня 1922 г. памірае, а мачаха аддае малога Ўладзіслава пасвіць жывёлу.

Праз два гады трынаццацігадоваму Ўладзіславу нейкім чынам удаецца прыехаць у Вільню, дзе з 1918 г. жыў ягоны старэйшы брат Рамуальд. Пасяліўшыся ў брата, Уладзіслаў шукаў любую фізічную працу, каб зарабіць на жыццё.

У 1925 г. 16-ці гадовы юнак уладкоўваецца вучнем да краўца Б. Вайнерыса па вуліцы Троцкай - 8 і працуе тут чатыры гады. Здольнага, разумнага і працавітага хлопца бярэ пад сваю апеку ксёндз Юзаф Вайчунас, дзякуючы якому Ўладзіслаў не кідаючы працу ў краўца змог наведваць вячэрнюю школу і ў 1926 г. атрымаць адукацыю, дастатковую для паступлення ў польскую гімназію імя Крашэўскага, куды яму таксама дапамог паступіць ксёндз Вайшунас. Восенню 1929 г., атрымаўшы пасведчанне аб 7-мі гадовай адукацыі, Абрамовіч пераходзіць ў гімназію для занятых на працы, у якой быў лепшы для занятага вучня рэжым наведвання ўрокаў.

З-за слабага здароўя Ўладзіслава не бяруць у войска. З чэрвеня 1929 г. ён пераходзіць працаваць на пошту Вільня-2, якая знаходзілася каля чыгуначнага вакзала, дзе да 9 красавіка 1930 г. ён сартуе карэспандэнцыю. Потым, з кастрычніка 1930 г., уладкоўваецца на сезонную працу архівістам у архіў па вуліцы Дамініканскай, 4, на гэтым месцы затрымліваецца да канца траўня 1931 г.



У 1930 г. Уладзіслаў Абрамовіч заканчвае навучэнне ў гімназіі. У тым жа годзе сябар Абрамовіча па гімназіі і супрацоўнік выдавецтва "Зніч" Станіслаў Мярло на свае грошы выдаў дэбютны зборнік вершаў маладога паэта "Switanie mysli". У 1933 г. ён жа выдаў другі зборнік які называўся "Regjonalne".

Экзамены пры заканчэнні гімназіі Ўладзіслаў здаваў тры разы і таму пасведчанне аб сярэдняй адукацыі (матуру) атрымаў у гімназіі імя Лелявеля толькі ў 1933 г., матура дае яму магчымасць пачаць новае жыццё.

Абрамовіч вельмі жадаў вучыцца ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя, але не меў грошай. Таму малады чалавек паступіў на завочны аддзел Вышэйшай школы журналістаў у Варшаве, якая хоць і не давала вышэйшай адукацыі, але пасля яе заканчэння ў 1934 г. будучы рэдактар "Лідскай Зямлі" атрымаў сталую прафесію.

З 1933 г. Уладзіслаў Абрамовіч пачаў працаваць карэктарам у выдавецтве "Зніч" а потым журналістам ў газеце "Кур'ер Віленскі"[2]. Тады ж ён зацікавіўся сучаснай летувіскай паэзіяй і пачаў перакладаць яе на

---

[1] Адзін з Белапятровічаў - Юры Белапятровіч, харунжы Лідскі, абвяшчаў у Вільні на Рынкавым пляцы акт паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Прозвішча *Белапятровіч* дагэтуль мае месца на Лідчыне. У тэлефонным даведніку Ліды і Лідскага раёна за 2012 год пазначаны тры Белапятровічы ў Лідзе і адзін у в. Агароднікі Лідскага раёна.

[2] Alipenkowa Wiktoria. Wladyslaw Abramowicz. Proba zarysu monograficznego // Wilenski uniwersytet pedagogiczny. Praca magisterska przygotowana w Katedrze Filologii Polskiej i Dydaktyki pod kierunkiem doc. dr Haliny Turkiewicz. Wilno, 2009. S. 9-10.

польскую мову, першыя пераклады выйшлі ў 1935 г. у Наваградку ў зборніку "Wybor najmlodszej poezji litewskiej". Так сама перакладаў і летувіскіх празаікаў: Петраса Цвірку, Антанаса Венцлаву, Казіса Баруту, Ёнаса Марцінкявічуса, Ёнаса Балтушыса і інш.

На пачатку 1936 г. ён узначаліў бюро газеты "Кур'ер Віленскі" ў Лідзе. Наш горад атрымаў вельмі працаздольнага чалавека з выдатнымі арганізацыйнымі і літаратурнымі здольнасцямі, які адразу знайшоў аднадумцаў і пачаў выдаваць вельмі важную ў гісторыі горада Ліды газету "Лідская Зямля" (“Ziemia Lidzka”).

Першы нумар новага месячніка выйшаў ужо 15 красавіка 1936 г. Рэдакцыя "Лідскай Зямлі" месцілася там жа, дзе і карэспандэнцкі пункт газеты "Кур'ер Віленскі" ў Лідзе: першапачаткова - у доме 4/7 па вуліцы Замкавай, з красавіка 1937 г. у д. 8 па вуліцы Гарнянскай, тэл. 166[3], праз год журналісты з'ехалі з Гарнянскай, зноў на вуліцу Замкавую, 4/7, тэл. 73[4], а з 1939 г. рэдакцыя газеты месцілася ў памяшканні Лідскага музея па адрасе: вуліца Сувальская, 3. Усе гады месячнік друкаваўся ў друкарні Зяльдовіча. "Лідская Зямля" была адзіным краязнаўча-рэгіянальным выданнем у Заходняй Беларусі таго часу, нічога падобнага не было нават у Вільні, да жніўня 1939 г. месячнік выйшаў 41 нумарам.

Абрамовіч напісаў у месячнік шэраг выдатных артыкулаў, рэдагаваў артыкулы іншых бліскучых аўтараў, сярод якіх, акрамя яго, лепшымі былі Аляксандр Снежка, Антон Гржымайла-Прыбытка і канешне бліскучы лідскі гісторык, верагодна, лепшы за ўсе часы знаўца лідскай гісторыі, Міхал Шымялевіч. Лідскі месячнік меў найвышэйшыя атэстацыі ад вядучых інтэлектуалаў тагачаснай Польшчы. У 1938 г. Абрамовіч выдаў кнігу "Наваградская старонка" (Wladyslaw Abramowicz. Strony Nowogrodzkie. Szkice Krajoznawcze z 25 ilustracjami. Lida, Nakl. wyd. "Ziemi Lidzkiej". 1938.), якая атрымлівае высокую ацэнку адмыслоўцаў.

Так сама ў 1936-39 гг. Абрамовіч штодзённа пісаў пра лідскія падзеі ў "Кур'ер Віленскі" і такім чынам стварыў найцікавейшую мазаіку падзей у нашым рэгіёне. Пра гэты перыяд жыцця рэдактара "Лідскай Зямлі" я пісаў у № 2 (66) "Лідскага летапісца".

Пасля жніўня 1939 г. Уладзіслаў Абрамовіч вяртаецца ў Вільню. З 1 ліпеня 1940 г. па 22 чэрвеня 1941 г. працуе ў літоўскім інфармацыйным агенцтве ELTA як рэдактар-каментатар. У тым жа 1940 г. жэніцца з Кацярынай Гінтаўт-Дзевялтоўскай, якая да гэтага часу шмат гадоў працавала перакладчыцай з польскай мовы на летувіскім радыё, што вяшчала на Польшчу.

Пасля прыходу немцаў Абрамовіч успомніў сваю першую прафесію краўца і працаваў ў кравецкай віленскай майстэрні "Стандарт". У 1942 г. пераходзіць на працу карэктарам ў летувіскую друкарню "Svyturys". У часы нямецкай акупацыі Абрамовіч ўратаваў выкінутыя акупантамі на брук бясцэнныя зборы Віленскага Таварыства аматараў навук.

Пасля прыходу Чырвонай арміі, з 13 ліпеня 1944 г. працуе бібліёграфам у Бібліятэцы Літоўскай Акадэміі навук. З 1947 г. і да канца жыцця ўзначальваў аддзел рукапісаў той жа бібліятэкі. Ад пачатку жыў у Вільні па вуліцы Арсенальскай, потым - Горкага і пры канцы жыцця - Леніна.

У сям'і Абрамовічаў нарадзілася дачка Барбара, якая стала акторкай і выйшла замуж за опернага спевака і прафесара кансерваторыі Эдуардаса Каняву. Абрамовічы дачакаліся двух ўнукаў - Эдуардаса і Андруса[5].

У 1951 г. Уладзіслаў Абрамовіч атрымаў дыплом гісторыка ў Віленскім універсітэце. Шмат займаўся перакладамі літоўскіх паэтаў на польскую мову. Выкладаў на кафедры бібліятэказнаўства Віленскага ўніверсітэта, таксама выкладаў польскую мову аспірантам універсітэта. Кіраваў літаратурным гуртком, які склаўся вакол польскамоўнай газеты "Czerwony Sztandar", быў сябрам Саюза пісьменнікаў.

Напісаў некалькі кніг на летувіскай мове: пра Валерыя Ўрублеўскага (1958 г.), Тадэвуша Ўрублеўскага (1960), пра Шаўчэнку ў Вільні (1964). Па-польску выдаў кнігі пра кнігадрукаванне ў Літве (1957) і пра Міцкевіча ў Коўні (1956).

У 1963 г. выдаў вопіс гаспадарчых феадальных інвентароў у Літве (Rankrasciu rinkiniai і Feodaliniu zemes valdu Lietuvoje inventoriu aprasymas), якія захоўваюцца ў бібліятэцы Акадэміі навук. Пачаў збіраць матэрыялы да фундаментальнай манаграфіі пра літаратурную Вільню.

Загінуў 16 лістапада 1965 г. Калега пісаў у некралогу, надрукаваным ў "Acta Baltico-Slavica": *"Вядомы гісторык і літаратуразнаўца, паэт і перакладчык, аўтар адзінаццаці кніжак, загінуў у росквіце свайго таленту і творчых сіл - скончыў жыццё самагубствам у Вільні"*[6]. Самазабойства адбылося



Cena numeru 25 gr.

Rok I. LIDA, Sierpień 1936 r. Nr. 5.

# ZIEMIA LIDZKA

Miesięcznik krajoznawczo-regjonalny

pod redakcją WŁADYSŁAWA ABRAMOWICZA

## O POTRZEBĘ DOJAZDU DO NIEMNA

---

[3] Kurjer Wilenski № 96 (4058), 9 kwietnia 1937.

[4] Kurjer Wilenski № 207 (4525), 30 lipca 1938.

[5] Alipenkowa Wiktoria. Wladyslaw Abramowicz. Proba zarysu monograficznego // Wilenski uniwersytet pedagogiczny. Praca magisterska przygotowana w Katedrze Filologii Polskiej i Dydaktyki pod kierunkiem doc. dr Haliny Turkiewicz. Wilno, 2009. S. 10-11.

[6] Fajnhauz D. Vladas Abramavicius // Acta Baltico-Slavica. T. 5. Bialystok, 1967, S. 478.

пасля разводу з жонкай. Пакінуў кароткую запіску: *"Я паміраю за дружбу народаў. Мая дачка Барбара, калі ласка, даруй і зразумей, я павінен быў гэтак зрабіць"*[7].

Пахаваны на Росах пад каменным надмагіллем улева ад галоўнай брамы (блізка да яе), каля яго магілы - магіла Марыі Пілсудскай, першай жонкі Юзафа Пілсудскага.

## Бібліяграфія прац Уладзіслава Абрамовіча[8]

**Кнігі:**

1. Switanie mysli (poezja), Druk "Znicz", Wilno 1930.
2. Obraz wspolczesnej poezji litewskiej, Druk "Znicz", Wilno 1932.
3. Regjonalne, Druk "Znicz, Wilno 1933.
4. Antologia. Wybor najmlodszej poezji litewskiej, Druk "Znicz", Wilno 1935.
5. Strony Nowogrodzkie, Druk A. Narkiewicz, Wilno 1938.
6. Trumpas lietuviu kalbos vadovelis (mokytis paciam be mokytojo pagalbos), Kaunas "Sakalo" leidykla 1939.
7. Vilniaus ir Maskvos spaustuvininkas Ivanas Fiodorovas, Kaunas 1941 ( zurn. Kultura nr.3) (pirmasis rasynis liet.k).
8. Seksterny wykladow kowienskich Adama Mickiewicza 1819-1821, opracowal Wladyslaw Abramowicz, Panstwo-we Wydawnictwo Literatury Politycznej i Naukowej, Wilnius 1956.
9. Pismienictwo i ksiezka na Litwie, Panstwowe Wydawnictwo Literatury Politycznej i Naukowej, Wilnius 1957.
10. Lietuvos TSR Mokslu akademijos rankrastiniu darbu ir disertaciju bibliografija 1946-1956, sudart V. Abramavicius ir K. Cepiene, Lietuvos TSR Mokslu Akademine Centrine Biblioteka, Vilnius 1958.
11. Valerijonas Vrublevskis, Valstybine politines ir mokslines literaturos leidykla, Vilnius 1958.
12. Tadas Vrublevski, Valstybine politines ir mokslines literaturos, Vilnius 1960.
13. Feodaliniu zemes valdu Lietuvoje inventoriu aprasymas, sudare V. Abramavicius Lietuvos TSR mokslu akademija. Centrine biblioteka, Laikrasciu ir zurnalu leidykla, Vilnius 1963.
14. Tarasas Sevcenka ir Vilnius, Valstybine grozine literatuos leidykla, Vilnius 1964 m.
15. Абрамавичюс, В. Библиография белорусских периодических изданий, 1861-1944 / В. Абрамавичюс; Библиотека Академии наук Литовской ССР. - Вильнюс, 1949. - 133 л.
16. Абрамавичюс В.Е., Дьяков В.А. Валерий Врублевский. Издательство "Мысль", Москва-1968.

**Пераклады:**

1. Korsakos K., W ojczyznie (Tevyneje, eil.), "Prawda Wilenska", 1945.II.6, nr 29(429).
2. Vaiciunas P., Naprzod (Zygin broli, eil.), "Prawda Wilenska", 1945.II.14, nr 37(437).
3. Gira S.V., Odbudujemy miasto Giedymina (Atstatant Gedimino miesta, eil), "Prawda Wilenska", 1947.VII.13, nr 81.
4. Tokombajer Aaly, Osmiowiekowej Moskwie (Kirgizijos liaudies poeto eil. apie Maskva), "Prawda Wilenska", 1947.IX.7, nr 105.
5. Lewin Ada, Moskwie (Maskvai, eil), "Prawda Wilenska", 1947.IX.17, nr 109(906).
6. Tilvytis T., Mysli pazdziernika (Spalio mintys), "Prawda Wilenska", 1947.XI.7, nr 131 (928).
7. J. Biliunas, Nowele: Laska (Lazda), Koniec Brysia (Brisiaus galas), Gwiazda (Zvaigzde), Trafilem (Kliudziau), Swiatlo szczescia (Laimes ziburis), 1947.XII.6, (Biblioteka Akademii Nauk, Czytelnia Wroblewskiego, F 29-697). 176.
8. Valsiuniene V., Delegatowi (Delegatui, eil.), "Prawda Wilenska", 1948.I.18, nr 8 (959).
9. Valsiuniene V., Lenin, "Prawda Wilenska", 1948.I.21, nr 9 (959).
10. P. Cvirka, Szesc opowiadan, 1948.II.19, (Biblioteka Akademii Nauk, Czytelnia T. Wroblewskiego, F29-696).
11. Sneckus A., Zadanie kolchozow Litwy Radzieckiej (Tarybu Lietuvos kolektyviniu ukiu uzdaviniai), Pilietines ir mokslines literaturos leidykla, 1949.
12. Zemaite J., Nieszczesliwe dzieci (Nelaimingi vaika, apsakymas), Bodiun J i Desjatnik, Wypisy z literatury dla klasy V szkoly sredniej, zatwierdzone przez Ministerstwo Oswiaty USRR, Lvovas 1950, psl. 146-150.
13. Cvirka P., Piesn (Daina, apsakymas), Bodiun J i Desjatnik, Wypisy z literatury dla klasy V szkoly sredniej, zatwierdzone przez Ministerstwo Oswiaty USRR, Lvovas 1950, nr 10, psl. 172-179.
14. Gudaitis-Guzevicius A., Prawda korala Ignota (Kalvio Ignato teisybe, romano fragmentas), Bodiun J i Desjatnik, Wyspisy z literatury dla klasy V szkoly sredniej, zatwierdzone przez Ministerstwo Oswiaty USRR, Lvovas 1950, nr 10, psl. 211-216.
15. S.Neris, Droga Bolszewikow (Bolseviku kelias, poema), Bodiun J i Desjatnik, Wypisy z literatury dla klasy V szkoly sredniej, zatwierdzone przez Ministerstwo Oswiaty USRR, Lvovas 1950, nr 10, psl. 166-170.
16. S.Neris, Blekitna siostro Wilija (Sesuo zydroji Vilija, daina), tamze, s. 200.
17. Tichonov N., Narod radziecki przeciwko w walce o pokoj przeciwko podzegaczom do nowej wojny (Tarybines liausdies kova uz taika), Politines ir mokslo literaturos leidykla, Vilnius 1951.
18. Michalkov S., Wilk-jarosz (Volk-travojed, pasaktcia), atspausdinta "Czytanka" dla kl. V szkoly sred.,

[7] Kacnelson D. Kustosz Wladyslaw Abramowicz // Zeszyty Historyczne. Instytut Literacki, T. 479. Zeszyt 103. Paryz, 1993. S. 145.

[8] У аснове - Alipenkowa Wiktoria. Wladyslaw Abramowicz. Proba zarysu monograficznego // Wilenski uniwersytet pedagogiczny. Praca magisterska przygotowana w Katedrze Filologii Polskiej i Dydaktyki pod kierunkiem doc. dr Haliny Turkiewicz. Wilno, 2009. S. 98-105.

Pedagogika Literatury Ludowej, Vilnius 1951.

19. Janonis J., Ku jasnej przyszlosci (I ateitsi sviesia, eil.), atspausdinta vadovelyje "Czytanka" dla kl. V szkoly sred., Pedagogika Literatury Ludowej, Vilnius 1951.

20. Reimeris V., Szkola w palacu dworskim (Mokykla dvaro rumuose, eil.), atspausdinta vadovelyje "Czytanka" dla kl. II szkol. sred., Pedagogika Literatury Ludowej, Vilnius 1951, p. 64-65.

21. Korsakas K., Niemen (Nemunas), atspausdinta vadovelyje "Czytanka" dla kl. IV szkoly sred., Pedagogika Literatury Ludowej, Vilnius 1951, p. 279.

22. Neris S., Poema apie Stalina, vertimas atspausdintas vadovelyje "Czytanka" dla kl. VII szkoly sred., Pedagogika Literatury Ludowej, Vilnius 1952, p. 5-7.

23. Nalsiuniene V., Zywy Lenin po tej ziemi chodzi (Leninas zeme praeina gyvas, poema), "Kobieta Radziecka", 1952, nr 1, p.12.

24. Ostrovoj S., Piesn bojowiczek pokoju (Kovotoju uz taika daina, daina), "Kobieta Radziecka", nr 2, p. 1.

25. Gesleris, Motina, sveicaro pazanginio poeto eil. atspausdintas laik. "Mlodziez Litwy", 1952, nr 3.

26. Isakovskij, Czeremcha (Ceriomucha, daina), "Mlodziez Litwy", 1952.IV.23.

27. Giedra V., Kobiecie radzieckiej (Tarybiniai moteriai), "Kobieta Radziecka", 1952, nr 4, p.12.

28. Michalkow S., Dzieciom swiata (Diedtiam mira, poema), vertimas "Pionier Litwy", 1952.V.31, nr 20, p.3.

29. Miezelaitis E., W domowym ognisku, "Kobieta radziecka", 1952, nr 12, p.7.

30. Miezelaitis E., Noc noworoczna, "Pionier Litwy", 1952.XII.30, nr 48.

31. Matutis A., Niech kwitna nowe kwiaty (Te zydi naujos geles), "Pionier Litwy", 1953.IV.11, nr 14.

32. Matutis A,; Przyjechalo kino (Kinas atvaziavo), "Pionier Litwy", 1953.IV.11, p. 4.

33. Matutis A., Dogladamy zyta, (eil. vaikams), "Pionier Litwy", 1953.IV.11, nr 14.

34. Scipacev S., Z liryki, (Is lirikos), "Kobieta Radziecka", 1953.VII, nr 7, p.6

35. Miezelaitis E., Egzaminy, "Pionier Litwy", 1953.V.18.

36. Rostovaite T., Przysiaga (Priesaika), "Kobieta Radziecka", 1953, nr 3.

37. Blikevicius V., Podrozuje sad szkolny, (eil. vaikams), "Pioner Litwy", 1953.VIII.24, nr 40.

38. Valsiuniene V., Matko (Motina), "Czerwony Sztandar", 1953.VIII.18, nr 95.

39. Skrickute L., Zawsze gotow (Visuomes pasiryzes), "Pionier Litwy", 1953.XI.5, nr 40.

40. Marsak S., Szkola na kolach (Mokykla ant ratu), "Pionier Litwy", 1953.XI.14, nr 42.

41. Mackevicius Br., Kobiety (Moterys), "Kobieta Radziecka", 1953, nr 13, p.5

42. Marcinkevicius J., Bedzie hojny rok (Bus turtingi metai), "Pionier Litwy", 1953.XII.26, nr 48.

43. Venclova A., Polskiemu poecie (Lenku poetui Tuvimiu), "Czerwony Sztandar", 1953.XII.31, nr 156.

44. Rylski M.; Rada Perejaslawska, "Pionier Litwy", 1954.I.7.

45. Tycyna P., Rozkwitaj Ukraino, "Pionier Litwy", 1954.I.7.

46. Tilvytis T., Wilnius, "Czerwony sztandar", 1954.I.15, nr 12.

47. Veclova A., Domek Lenina w Poroninie (Lenino namelis Poronine), "Czerwony Sztandar", 1954.I.23, nr 19.

48. Tilvytis T; W gorach Pamiru (Palmiro kalnuose), "Czerwony Sztandar", 1954.I.30, nr 4.

49. Aiskinis A., Niedzwiedz i narty (Meska ir slides, pasakecia), "Pionier Litwy", 1954.I.30, nr 4.

50. Rodari G., Poczekalnia (Laukiamasis), "Pionier Litwy", 1954.II.6, nr 5.

51. Rodari G., Pociag przyszlosci (Ateities traukinys), "Pionier Litwy", 1954.II.6.

52. Rodari G., Straz (Gaisrininkas), "Pioner Litwy", 1954.II.6, nr 5.

53. Rodari G., Piesn szewca (Batsiuvio daina), "Pioner Litwy", 1954.II.6.

54. Rodari G., Chlopak z Modeny, (Berniukas is Modenos), "Pioner Litwy", 1954.II.6, nr 5, p. 4.

55. Gordienko J., Zolnierz panstwa Radzieckiego (Tarybu Valstybes karys), "Pioner Litwy", 1954.II.20, nr 7.

56. Pobijunas Alg., Liszka -kierowniczka ogrodka (Lape-darzelio vedeja, pasakecia), "Kobieta Rodziecka", 1954, nr 2, p. 20.

57. Reimeris V.; Do drogich przyjaciol, "Czerwony Sztandar", 1954.IV.18, nr 92

58. Bieliaukas A., Algis bialoraczka w domu i w pochodzie (Algis baltarankis namie ir zygyje), "Pioner Litwy", 1954.V.15, nr 18.

59. Rylski M.; Narodowi rosyjskiemu slowa! (Slove rusu tautai), "Pioner Litwy", 1954.V.15, nr 18.

60. Venclova A., Do Ukrainy Radzieckiej, "Czerwony Sztandar", 1954.V.23, nr 121.

61. Baltakis A., Coreczko nasza, Eglute nasza, (Egle musu, dukrelele musu), "Kobieta Radziecka", 1954, nr 6, p. 6.

62. Jonynas A., Nad mogila bratnia pod Alytus, "Czerwony Szatandar", 1954.VII.3, nr 156.

63. Neris s., Miasto ruin (Gruvesiu miestas, poema), "Czerwony Szatandar", 1954.VII.7, nr 159.

64. Venclova A., Wilnius, "Czerwony Szatandar", 1954.VII.13, nr 164.

65. Tank M., Przy pomniku Czerniakowskiego w Wilnie, "Czerwony Szatandar", 1954.VII.13, nr 164.

66. Tivytis T., Na ziemi litewskiej (fragmentas poemos Usnyne), "Czerwony Szatandar", 1954.VII.21, nr 190.

67. Giedra V., O maleu niedbaleu (Apie vaika nevaleka, poema), "Pionier Litwy", 1954.X.9, nr 39.

68. Mackevicius Br., Pustka (Tustuma), "Kobieta Radziecka", 1954, nr 9, p.16.

69. Rostovaite T., W dzieciacym zlobku swiece biale lozka, "Kobieta Radziecka", 1954, nr 10.

***Леанід Лаўрэш.***

# МІКОЛУ ДЗІКЕВІЧУ - 90

Вёска Сялец у 2006 годзе адзначыла 600-годдзе. Колішні настаўнік Сялецкай базавай школы Мікалай Дзікевіч моцна перажывае, што не так даўно школа перастала існаваць. Без школы прынёманская вёска яшчэ мацней асірацела, занепадае.

Яна дарагая жыхару Сяльца з многіх прычын.

Мікалай Мікалаевіч Дзікевіч спакойна, з акадэмічнай грунтоўнасцю ў кніжцы "Сялец. Прынёманская рэчаіснасць" (Мн., 2010, 294 стар.) паказаў жыццё вёскі ад жніўня 1406 года, калі першы раз яна ўзгадваецца, да сённяшніх дзён.

Здзіву даешся, як шараговы настаўнік зрабіў справу вялікага даследчыцкага калектыву - прааналізаваў штодзённае існаванне сем'яў вёскі, кожнага чалавека. Расказаў сам і ўспамінамі вяскоўцаў пра час даваенны, ваенны, пасляваеннаакаўскі, калгасны. Нельга без сардэчнай дрыготы чытаць пра нясконцыя гераічныя/недарэчныя выпадкі на працы, прыклады цярпення, змагання вяскоўцаў з абставінамі, тупымі выслугачамі, няздарствам выканаўцаў.

Нельга без болю чытаць: "На свеце няма больш пакутлівай мовы, чымсьці беларуская. Колькі разоў спрабавалі яе пахаваць!" Амаль 400 гадоў была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім. Прыгняталі яе тады, абпольшчвалі, яшчэ болей пры далучэнні ВКЛ да Расійскай імперыі.

Усе дзевяць раздзелаў - ціхая малітоўная выспаведзь сына роднай зямлі блізкім людзям, сялецкім і дзітрыкаўскім. Шкрабае за душу апісанне кладоў і кожнай магілы на іх, мовы подпісаў на плітах, нават памылак на іх.



Гэтую кніжку ўдала дапаўняе другая "Дзітрыкі. Згукі заснуўшай цывілізацыі" (М., 2010, 200 стар.). Пісалася яна на 4 гады раней, доўга шукала спонсараў на выданне, пакуль фінансава не ацаніў гераічную працу цярпліўцы-бацькі сын Валерый Мікалаевіч Дзікевіч, знаны маскоўскі журналіст, навуковец, Медзія- і PR-менеджар, палітолаг, перакладчык, - пісалася раней, а выйшла на чатыры месяцы пазней.



*Мікалай Мікалаевіч* ***ДЗІКЕВІЧ*** *нарадзіўся 20 верасня 1924 г. у в. Дзітрыкі Беліцкай гміны Лідскага павета Наваградскага ваяводства. Да 1936 г. вучыўся у Дзітрыкаўскай чатырохкласнай школе, у 1939 г. закончыў Ганчарскую паўшэхную школу, у 1945 г. - Лідскае педвучылішча, пачаў настаўніцкую працу. Служыў у арміі (1946-1947). Закончыў Менскі інстытут фізічнай культуры (1955). 46 гадоў працаваў настаўнікам у школах Лідчыны - Цыбарскай, Дзітрыкаўскай, Папернянскай, Ганчарскай, Нёманскай, да 1993 г. З іх - 44 у Нёманскай (Сялецкай). Узнагароджаны медалямі "За доблесную працу" (1970), "За працоўную доблесць" (1981).*

*Аўтар краязнаўчых кніг "Дзітрыкі. Згукі заснулай цывілізацыі" (200 стар.), "Сялец. Прынёманская рэчаіснасць" (294 стар.).*

Як сын навекі вечныя ўдзячыцца лёсу за генна таленавітых бацькоў Вольгу Іванаўну і Мікалая Мікалаевіча, так яны шчырацца сэрцам і светлымі думкамі Валерыю за друкаванне "Дзітрыкаў" ("Сяльца" таксама).

Другая кніга падкупляе той жа дзелавітай выключнасцю споведзі Мікалая Дзікевіча. Жыццё вёскі паказана ад саматужных гаспадарак да нашых дзён, пад стрэхамі і дахамі хат, на палетках і сенакосах. Трэба ўхітрыцца толькі, каб так цудоўна апісаць самую хату, сенцы, каморку, гумно, свіран, хлеў, найвыдатна апісаць прыгатаванне страў, пірагоў, хлеба, заціркі, дранікаў, супоў, блінцоў, сыроў.

Чытаеш пра бытаванне лідскіх вяскоўцаў на святах, гульнях, забавах, склад воза, брычкі, саняў, пра нарыхтоўку дроў, мацаванне палукашкаў і драбінаў, выкарыстоўванне прасніцы, кроснаў, спраўлянне святаў, асабліва вяселляў, нарадзінаў, хрысцінаў... - радуешся і ганарышся падобнасці лідскіх звычаяў/завядзёнкаў з маімі слуцкімі.

З сямі частак кнігі проста не ведаеш, якую лепей адзначыць, пахваліць. Хутарызацыя, праца на хутары, першыя Саветы, нямецкі "новы парадак", перамога над фашызмам, калектывізацыя і калгаснае жыццё, сённяшні дзень - проста не кеміш, што болей значнае, фарбнае ў кніжцы. Усё кранае сэрца шчы-

расцю, логікаю.

Да глыбіні душы ўдзячны стараннаму краязнаўцу Мікалаю Мікалаевічу Дзікевічу за стварэнне глыбокіх этнаграфічна-краязнаўчых кніг. Падобных наймала.



Абавязаны, проста абавязаны ўзгадаць асобныя кідкія эпізоды жыцця М. М. Дзікевіча.

...Вострыць яго памяць вандроўны пераезны даваенны кінатэатр.

Па Дзітрыках Беліцкай гміны Лідскага павета падвечар ідзе прыгожая пані, патрэсвае меладычным званочкам, абвяшчае:

- Прыходзьце на кіно, глядзець пшыемна ўсім.

Узвароціцца галасістая звонь, у вокнах твары свецяцца. Люд нічога не мувіць, пані выдатна разуме: народу прываліць уйма.

Праз гадзіну-дзве на прадстаўленні ў вольнай шырокай хаціне стракоча апарат, па белым палатне паўзуць аўто, лоўка танцуюць спрытныя мужчыны і жанкі, фасоністыя музыкі наярваюць рытмічную музыку, сталыя дзітрыкаўцы сцішана эхкаюць, падшпаркі кшталту Мікалайкі Дзікевіча пастрахотна ўзвіскваюць ад ляцелага на іх конніка.

І пішчом, праўдаю і няпраўдаю, платна і бясплатна мосцяцца радасныя на другі сеанс, трэці.

... Страшэннымі водблісками перакаўмлычваюцца ў памяці Дзікевіча сцэны ўзаемазнішчэння беларусамі беларусаў, славянамі славянаў: белымі (акаўцамі) камуністаў і праваслаўных, энкавэдэшнікамі - акаўцаў. Знішчэнне любымі прыхаднямі невінаватых вяскоўцаў, рабунак іх маёмасці, жывёлы.

Самыя лепшыя выхавальнікі і сябры-настаўнікі ў жыцці хлопчыка Міколкі, падлетка Міколы, студэнта Мікалая Дзікевіча, педагога і краязнаўцы Мікалая Мікалаевіча Дзікевіча - Яраслаў Уладзіміравіч Кухарскі, Зоя Іванаўна Шуціла (беларуская мова), Канстанцін Іванавіч Буйніцкі (матэматыка), Ліда Мікалаеўна Буяк, Вячаслаў Мікалаевіч Кучынскі, Вольга Іванаўна Белянкевіч, Канстанцін Уладзіміравіч Гец, Марыя Міхайлаўна Лукашэвіч (Казёл)...

Светлымі іскаркамі ў Дзікевіча ззяюць сустрэчы і размовы з выдатнымі педагогамі Іванам Іванавічам Салаўёвым і яго жонкаю Нэляй Антонаўнай, Юльянам Іванавічам Місюкевічам (Дзітрыкаўская школа Тарноўскага сельсавета).

Колькі памятае пенсіянер з 48-гадовым працоўным стажам, столькі ў савецкай перадавой паспяховай школе недахваты, нястачы, усуцэль праблемы.

У 2009 годзе вызначыць сектары і рады магіл на старабытных вясковых кладах, паказаць размяшчэнне канкрэтных пахаванняў старому Дзікевічу было цяжкавата. Тым болей, што нават родзічы не ўсё памяталі. А ён яшчэ апісваў надмагілле нябожчыка: прозвішча, імя, бацькоўства, дзень, год нараджэння/смерці, тэкст, яго мову. Выпісваў памылкі ў надмагіллях, розніў крыжы, праваслаўны ці каталіцкі, як стаіць, дзе, куды павернуты, у якім стане агароджа.








Не раз турбоціла: навошта падрабязна ўсё апісваць, балазе, асобным вясковым абыякаўцам усё да фені. Нават кнігу, у якой узгадваюцца родзічы, апісваецца лёс сям'і, нават кнігу такому млосіцца набыць. Рубля на паўлітру знойдзе, капейку на кнігу не адшкадуе.

Усплыве раздражненне, знікне. У мудраца Дзі-кевіча, каторы часта ўзіраецца, ацэньвае блізкае ўжо Тагасвецце, перамагае здавённае язычніцкае, дзеля чаго жыве кожны азораны: працуй не для іншых - для сябе, атрымаецца для іншых; не забудзеш мёртвых - памогуць табе і тваім, вяскоўцам, крэўнікам. Тамашнія лепей за многіх тутэйшых дзеі твае падтрымаюць, дадзена табе - свяці, працуй.

- Сёлета прыйдзецца пераўдакладніцца на магілках. Зменаў нямала, - сказаў ён мне дзесятага верасня 2014. - Узяўся - мушу рабіць толкам. Узваліў - цягну.

У словах працавітай пчалы, якая высокакваліфікавана працуе над трэцяй кніжкай, таксама дыхтоўнай і аб'ёмнай, свая праўда.

- Трэба ісці.

Спяшыць да сваёй падтрымкі і радасці Вольгі Іванаўны. У падзім'і і ўзімку М.М. Дзікевічу лепей, прадуктыўна працуецца, на доўгія размовы няма часу.

Багата што непакоіць ураджэнца Дзітрыкаў. Абыякаўства людзей да калектыўнага, саміх сябе, рэзкае прыніжэнне сярэдняга і вышэйшага ўзроўню навукоўцаў, улазства рэлігійных канфесій у палітычныя справы...

Калі дзеці разумнейшыя за татулю - шчасце. Страх бацькам, сціха паўтарае Дзікевіч, калі перад адыходам Туды, баяцца за пакінутую ў зямным жыцці крывіну. Рабіце ўсё для здароўя дзяцей, дастойна выхоўвайце.

- Выдзеліце, калі ласка, галоўную жыццёвую праблему, - адчуваю, размова плыве да лагічнага завяршэння.

Мікалай Мікалаевіч моцна злуе ад заняпаду беларускай мовы. Ганьба, на абласны Магілёў усяго адна дзяўчынка вучыць прадметы па-беларуску. Да чаго дажыліся, на стотысячную Ліду дзесяць школьнікаў у 2014-2015 пачнуць вучыцца на беларускай, у Гародні - пятнаццаць, у Менску лічаныя.

- Ніводнага Дэкрэта і Указа аб падтрымцы беларускай мовы ў краіне за дваццаць гадоў. Ніводнага. Чаму мы коцімся ў рускасць? Няўжо нашы дзяржаўцы не асягаюць створанай гіблоты з беларускай мовай, значыць з нацыяй. Нельга далей панікаваць, - ціха-ціха прамаўляе не краязнавец і даследчык - герой.

Яго шэпат грымотнаю ляскавіцаю б'е мне сэрца.

Сорак гадоў працы над абедзвюма кнігамі. Атрымаліся выдатнымі, яны неабходныя бібліятэцы, школе, навукоўцу. Спакойны лагічны стыль. Фактура вывераная, толкам згрупаваная.

- Чаму вы не падаеце заяву на прыём у Саюз беларускіх пісьменнікаў? - сто разоў задаваў яму пытанне чатыры гады таму, летась, сёлета.

Сціплы дабрак, якіх большасць у старабытных беларускіх вёсках, ухіляецца адказу, спасылаецца на альбы-што. Нават на занятасць, здароўе.

- У вас два важкія фаліянты. Прашу, падавайце. Залішняя сціпласць таксама нядобра.

- Прымаюць не толькі за прозу і вершы, за краязнаўчыя працы і публіцыстычныя таксама, - спрабую ўпэўніць працавіціка ў неабходнасці для Лідчыны і Гарадзеншчыны яго ўступленне ў СБП.

Адказу не маю. Мікалай Мікалаевіч Дзікевіч думае.

Шчыра віншую даследчыка гісторыі, летапісца лідскіх вёсак з 90-годдзем. Наймоцна хачу, каб яго сэрца яшчэ доўга і верна служыла Бацькаўшчыне.

***Валер Санько.***



**На здымках**: сям'я - М.М. Дзікевіч, жонка В.І. Дзікевіч, сын Валерый, дачка Іна; юбіляр і сын Валерый; вокладкі кніг, здымкі з 90-годдзя М. Дзікевіча ў літаратурным філіяле Лідскага гістарычна-мастацкага музея

# Вадзіму Вераб'ёву - 50

**Вераб'ёў Вадзім Мікалаевіч** нарадзіўся 29 ліпеня 1964 г. ў г. Лідзе. Да 8-га класа вучыўся ў школе № 5. У 1979 годзе паступіў у Бабруйскае мастацкае дзяржаўнае ПТВ, якое закончыў у 1983 годзе па спецыяльнасці "Разьба па камені".

У 1984-86 гадах служыў у войску.

Пасля войска ў 1986 годзе паступіў у Менскі тэатральна-мастацкі інстытут, а ў 1992 годзе закончыў ужо Акадэмію мастацтваў Рэспублікі Беларусь. Дыпломны праект - помнік князю Гедзіміну для Ліды, макет знаходзіцца ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.

Пасля акадэміі жыве ў Лідзе. Працаваў у Мастацкіх майстэрнях Гарадзенскага аддзялення мастацкага фонду Рэспублікі Беларусь. З 1995 года працуе на Лідскім ліцейна-механічным заводзе мастаком-канструктарам.

Бацька - Вераб'ёў Мікалай Пятровіч - сталяр, будаўнік.

Маці - Вераб'ёва (ў дзяв. Шалешка) Алена Міхайлаўна - кінамеханік.

Жонка - Вераб'ёва (ў дзяв. Кудраўцава) Вера Міхайлаўна - інжынер-праекціроўшчык Лідскіх раённых электрасетак.

Дачка - Вераніка - студэнтка Гарадзенскага аграрнага ўніверсітэта.



***Вадзім Вераб'ёў з апошняй працай "Танцорка".***



***Знак-сімвал у гонар 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова. Ліда, вул. Камуністычная.***



***Вадзім Вераб'ёў.* Ліцейшчык.**




***Аўтар ідэі А. Боўфал, скульптар В. Вераб'ёў,* Зеўс Грамавік,** *алюміній, вага 1200 кг, вышыня да верху маланкі 4,5 м. Устаноўлены перад Заводам гарачай ацынкоўкі металавырабаў у Даліне Лідскага р-на. Здымак Лілеі Лапшыной.*

Вадзім Вераб'ёў працуе ў скульптуры (дрэва, камень, метал), графіцы, дызайн-інтэр'еры.

Першая манументальная работа - помнік падпольшчыкам на могілках каля Лідсельмаша.

У 1995 годзе Вадзім Вераб'ёў рэзаў літары на крыжах для мемарыялу на месцы пахавання паўстанцаў 1863 г. паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы.

Аўтар манумента да 130-годдзя Беларускай чыгункі каля вакзала.

Аўтар жураўлёў для помніка афганцам па вул. Савецкай, паміж Домам рамёстваў і Дзіцячай музычнай школай.



***Вадзім Вераб'ёў.* Бюст Яна Карцана.**
*Рабочая мадэль.*

Аформіў камень да дня заснавання Дзітвы.

Аўтар скульптур чатырох евангелістаў для капліцы-стэлы па вул. Камуністычнай (2010 г.).

Стварыў скульптуру Зеўса-грамавіка для Лідскага завода гарачай ацынкоўкі металу (2011 г., Даліна).

Стварыў скульптуру ліцейшчыка для Лідскага ліцейна механічнага завода (2012 г., вул. Качана).

Стварыў барэльеф Святога Георгія-Пераможца для капліцы на могілках па вул. Савецкай, каля Лідсельмаша (2014 г.).

Стварыў рабочую мадэль бюста аднаго з першых беларускіх друкароў - Яна Карцана для г. Ліды (2014 г., пакуль не адліты, і не прынята рашэнне на ўстаноўку).

Аўтар мемарыяльных дошак:

- герою-афганцу Масціцкаму на будынку ПТВ у Маладзёжным;
- протаіерэю Іосіфу Каяловічу на Свята-Міхайлаўскім саборы па вул. Савецкай (2013 г.).




***Вадзім Вераб'ёў.* Барэльеф протаіерэя Іосіфа Каяловіча.**

Аўтар медальёна гетману найвышэйшаму Канстанціну Астрожскаму на царкве Святога Георгія-Пераможца.

Аўтар графічных партрэтаў Адэлі з Устроні і Яна Карцана, шэрагу іншых скульмтурных і графічных работ.

У 2002 годзе ўдзельнічаў у Міжнародным пленэры "Героі казак". Удзельнічаў у шэрагу выстаў у Лідзе, Гародні і Менску.

Займае актыўную жыццёвую пазіцыю, ахвотна супрацоўнічае з грамадскімі арганізацыямі.

***Станіслаў Суднік.***

***Валеры Сліўкін***

# Ліда і Лідскі павет. 1913 - першая палова 1914 г.

Калі і былі ў XX стагоддзі для нашых продкаў добрыя гады, то гэтая мілата, безумоўна, прыходзіцца на 1910-1913 гг. і першую палову 1914 г. Да гэтага часу Расійская Імперыя дасягнула максімальнай плошчы за ўсю сваю гісторыю (22,4 млн. км$^2$) і займала другое месца ў свеце, пасля Брытанскай імперыі (25,4 млн. км$^2$). Па перапісе 1897 г. насельніцтва Расіі складала 129,2 млн. чалавек, у тым ліку насельніцтва Еўрапейскай Расіі - 94,2 млн. чалавек, Польшчы - 9,4 млн., Каўказу - 9,3 млн., Сярэдняй Азіі - 7,7 млн., Сібіры - 5,8 млн., Фінляндыі - 2,6 млн. чалавек. У Расійскай Імперыі пражывалі больш за 100 народаў і некалькі сотняў этнічных груп. Рускія складалі 43,4 % насельніцтвы (80,5 млн. чалавек), маларосы - 18,4 % (33,4 млн. чалавек), беларусы - 4 % (7,4 млн. чалавек).

Лідскі павет уваходзіў у склад Віленскай губерні, адной з 78 губерняў Імперыі. Плошча павета складала 5615,7 км$^2$. У 1911 г. у павеце пражывалі 248,5 тыс. чалавек, у тым ліку 125,2 тыс. мужчын і 123,3 тыс. жанчын. Шчыльнасць насельніцтва па павеце складала 45 чалавек на км$^2$.

Да сярэдзіны 1914 г. колькасць насельніцтва павета дасягнула 260 тыс. чалавек. Адміністрацыйна павет быў падзелены на 23 воласці, 8 судова-адміністрацыйных акруг з земскім начальнікам у кожнай акрузе і 5 паліцэйскіх станаў з месцазнаходжаннем камісараў паліцыі ў Беліцы, Васілішках, Воранаве, Шчучыне і Эйшышках.

У павеце быў адзін горад (Ліда), 11 мястэчкаў (Астрыно, Беліца, Васілішкі, Воранава, Жалудок, Новы Двор, Орля, Радунь, Ражанка, Шчучын, Эйшышкі), 16 сёлаў, 950 вёсак, 298 маёнткаў, 249 фальваркаў, 209 ваколіц, 225 засценкаў, а таксама дзясяткі хутароў, урочышчаў, вартовень, млыноў, аднадвораў, 7 фермаў і 4 габрэйскія асады. Усяго ў сукупнасці 3 тысячы пасе-



*Лідскае паліцэйскае кіраванне.*





*Лідскі павет .*

лішчаў.

Ліда была павятовым цэнтрам, тут месціліся ўсе павятовыя ведамствы: канцылярыя маршалка шляхты, дваранская апека, павятовы з'езд, паліцэйскае кіраванне, камісія сельскагаспадарчых арганізацый, казначэйскі інспектарат, казначэйская каса, ведамства 5-й акцызнай акругі, ведамства павятовага ваеннага начальніка, школьны інспектарат.

Горад да 1914 г. цалкам запоўніў міжрэчча Лідзейкі і Каменкі, вакол аформіліся прадмесці: Пастаўшчына, Куроўшчына і Каменка; ваколіца Вісьманты; засценкі Закасанка і Мастоўшчына, вёскі: Зарэчча, Дварцовая Слабада, Раслякі, Навапрудцы, Лайкоўшчына.

У 1908-12 гадах былі пабудаваны Паўночны і Паўднёвы вайсковыя гарадкі і аэрадром - адзін з першых у Расійскай Імперыі. Дзякуючы свайму становішчу на перакрыжаванні дзвюх чыгуначных ліній, сваім фабрычным вырабам, таварным складам, крэдытным і навучальным установам Ліда стала буйным прамысловым, гандлёвым і культурным цэнтрам - найбуйным на прасторы ад Вільні да Баранавіч і ад Маладзечна да Ваўкавыска.

У Лідзе пражывалі 16 тысяч жыхароў. Маршалкам шляхты быў граф Людвік Уладзіслававіч Грабоўскі, уладальнік Вялікага Мажэйкава. Павятовую паліцыю ўзначальваў павятовы спраўнік Яўген Аляксандравіч фон Гротэ дэ Буко, памочнікам у яго быў Стэфан Аляксандравіч Сабалеўскі, паліцэйскі наглядчык - Іван Данілавіч Сікорскі, памочнік наглядчыка Леў Мацвеевіч Караткевіч, судовы прыстаў - Іван Нічыпаравіч Котляр, жандармскі ўнтар- афіцэр - Сцяпан Паўлавіч Амяльянчык. Бургамістрам горада быў Лявон-Пётр Вісьмант, яго намеснікам - падпалкоўнік у адстаўцы Баляслаў Гейштоўт, пашпартыстам Іосіф Якубоўскі. Вайсковым камендантам быў падпалкоўнік Кароўнікаў, школьным інспектарам - Баўбліс. У жаночай гімназіі выхоўвала дзяўчынак вядомая пісьменніца Вера Сяргееўна Навіцкая.

Лідская паштова-тэлеграфная кантора 3 класа ў штаце ўтрымоўвала 22 службоўцаў. Кіраваў канторай Кастусь Коланкоўскі.



***Лідская паштова-тэлеграфная кантора.***

На пачатак 1914 г. у Лідзе былі зарэгістраваны 704 прадпрыемствы: 6 фабрык, 11 заводаў, 45 майстэрняў (бляшаныя, механічныя, слясарні, бетонных работ, шавецкія, шапачныя, швейныя); 12 гасцініц, 10 аптэк, 98 чайных, 41 піўная крама, корчмы і буфеты на кожнай вуліцы, 450 разнастайных гандлёвых кропак, кінематограф, цырульня, лазня, пральня, склады, банкірская кантора. Амаль усе прадпрыемствы належалі габрэям: тытунёвая фабрыка - Зеліку Віленчыку-Капштэйн, гільзавая - Давыду Вільнеру, цукерачная - Моўшы Рабіновічу, макаронная - Нятэлю Шалюбскаму; мёдаваранны завод - братам С.і М. Вінаградавым, мылаварны - ЭліеКівяліёвічу, Двосе Горфунг і Абраму Ландо, піваварны і лесапільны заводы - Я.Л. Папірмейстару, піваварны завод і карчомная ўстанова - Мейлаху Пупко, дрожджава-броварны - братам А. і Л. Стругач, чыгуна-ліцейны і машынабудаўнічы - братам Якаву і Эберу Шапірам, ліцейны - братам Мееру і Зельману Штайнбергам, лесапільны - Лейзеру і Ёселю Палячакам і Давыду Мастоўскаму, друкарні - Самуілу Зяльдовічу і Кейле Эпштэйн, бойня - Ёселю Маўшовічу і Моўшы Барану, вадзяны млын - Давыду Мардуховічу, паравы млын - Абраму Мельніку, вятрак - Янкелю Віленскаму, вадзяны млын на Вісьмантах - Арону Фрыдману, бляхарня - Давыду Бархату, шапачная - Гіце Басіст, слясарня - Боруху Баярскаму, шавецкія майстэрні - Хацкелю Бярковічу і Ізраілю Галубовічу, майстэрня пахавальных помнікаў і бетонных работ - Ёахіму Розенштэйну, земская пошта - Гене Гальперну, лазня - Арону Будзіну, цырульня - Гілелю Спакойнаму, пральня - Цыўі Кац, чайная - Зельдзе Барышанскай, кухмайстарская - Соры-Эйдле Баярскай, сталовая - Ш. Вінаградавай, гасцініцы: "Варшава"- Рысе Быхвіт, "Гранд-гатэль" - Беньяміну Ландо, "Дагмара" - Росе Бердаўскай, "Еўропа" - Нахемію Левінсону, "Італія" - Сары-Двейры Івенскай, "Камерцыйная" - Юдалю Граеўскаму, "Купецкая" - Фрэйдзе Дварэцкай, "Ленская" - Эстэр-Бейле Левін, "Маскоўская" - Зуселю Яноўскаму, "Парыжская" - Гіндзе-Эйле Зальцштэйн, "Пецярбургская" - Ар’е Ражанскаму. Банкаўская кантора належала Янушкевічу, меўся таксама Габрэйскі кааператыўны банк.

Найболей прасунутыя прадпрыемствы мелі паравыя рухавікі магутнасцю ад 10 да 45 конскіх сіл: тытунёвая фабрыка - 25 к/с., ліцейны завод - 25 к/с., піўзавод Папірмейстара - 40 к/с., чыгуна-ліцейны і машынабудаўнічы - 40 к/с, лесапільны завод - 45 к/с.

У 1913 г. на машынабудаўнічым заводзе братоў Шапіраў працавалі 60 -70 працоўных і 6 прыказчыкаў з гадавым жалаваннем 9,5 тыс. руб., выпусцілі прадукцыі на 165 тыс. руб. На тытунёвай фабрыцы 29 працаўнікоў спакавалі 7 тысяч пудоў тытунёвых вырабаў. На піўных заводах спадчыннікаў Папірмейстара і М. Пупко было выпушчана піва на 155 і 170 тыс. рублёў. Піўныя і машынабудаўнічы заводы адзначаліся медалямі на міжнародных выставах.

У горадзе было 12 навучальных устаноў: дзяржаўная мужчынская гімназія (167 вучняў), прыватная жаночая гімназія Фёдара і Веры Навіцкіх (227 вучаніц), дзве прыватныя прагімназіі Палу і Цыпкінай, вышэйшая пачатковая школа, дзве прыхадскіх школы -мужчынская і жаночая, народная вучэльня, гарадская вучэльня, павятовая вучэльня, талмуд -тора і знакамітая іешыва рабіна Рэйнеса.

Дзейнічалі сінагога, Крыжаўзвіжанскі касцёл, сабор Міхаіла Арханёла, Свята-Міхайлаўская царква і 26 малельных дамоў. Душпастырскую дзейнасць ажыццяўлялі рабін Іцхак Якаў Рэйнес (1839-1915), протаіерэй Іосіф Іосіфавіч Каяловіч (1836-1920) і дэкан Юзаф Шкоп.

Здароўе гараджан падтрымлівалася ў 3 лякарнях: габрэйскай на 25 ложкаў (з 1868 г.), гарадской на 25 ложкаў (з 1899 г.) і прыватнай (з 1904 г.) і ў вайсковым шпіталі (з 1910 г.). Лячэннем займаліся 6 лекараў, роды прымалі 6 акушэраў, ім дапамагалі 10 фельчараў. За здароўем жывёл сачыў ветфельчар.

Мястэчкі Лідскага павета ў першыя гады XX стагоддзя скарацілі колькасць жыхароў, за выключэннем Шчучына і Эйшышак, і не перавышалі 2 тысяч. Гэтыя гады - час хуткага развіцця прамысловай вытворчасці і гандлю ў буйных гарадах. Габрэі з невялікіх мястэчак перабіраліся ў Ліду, Гародню, Вільню і Шчучын. Агульнае ўяўленне пра мястэчкі дае *табліца 1*.

Нехта налічыў, што 1910 г. у Лідскім павеце дзейнічалі 244 фабрыкі і заводы з 2160 працоўнымі. Спасылак на лічыльніка энцыклапедыі не даюць.

## Табліца 1. Мястэчкі Лідскага павета

| Назва | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Астрыно | 3410 | 59.8 | 1776 | с. ц. | 21 | 173 | 7 | | |
| Беліца | 1685 | 40.3 | 1230 | с. к. ц. | | | 4 | | прыстань |
| Васілішкі | 2781 | 74.8 | 1983 | с. к. ц. | 27 | 125 | | | пашт. станц |
| Воранава | 1574 | 91.0 | 1543 | с. к. ц. | 28 | 78 | 4 | 1 | пашт. станц. |
| Жалудок | 1860 | 73.5 | 1969 | с. к. | 27 | 182 | 5 | 2 | пашт. станц. |
| Новы Двор | 822 | 80.8 | 977 | с. к. | | | | 1 | |
| Орля | 804 | | 726 | с. ц. | 5 | 234 | | | прыстань |
| Радунь | 1621 | 55.3 | 1394 | с. к. | | | | 1 | |
| Ражанка | 777 | 69.9 | 504 | к. | | | | 2 | чыг. станц. |
| Шчучын | 1742 | 77.8 | 3815 | с. к. ц. | 25 | 151 | 2 | | пашт. станц. |
| Эйшышкі | 1685 | 74.3 | 2448 | с. к. | | | 2 | | пашт. станц. |
| Усяго | 20272 | | 17322 | | | | | | |

1. Колькасць жыхароў па перапісе 1897 г., чал.
2. Доля габрэяў, у %.
3. Колькасць жыхароў на 1904 г. чал. (па Гашкевічу).
4. Сакральныя збудаванні: ***с*** -сінагога, ***к*** - касцёл, ***ц*** - праваслаўная царква.
5. Колькасць гандлёвых устаноў - крам, піцейных хат, корчмаў.
6. Абароты, тыс. руб.
7. Кірмашы ў год.
8. Млыны.
9. Камунікацыйная сувязь.

*З табліцы відаць, што*

*- асноўную долю насельніцтва ў мястэчках Лідскага павета складалі габрэі;*

*- амаль у кожным з мястэчкаў былі сінагога, касцёл і царква;*

*- галоўны прыбытак мястэчкам прыносілі гандаль. Па нядзелях ва ўсіх мястэчках праводзіліся базары, у Шчучыне і Эйшышках - па чацвяргах. Па вялікіх святах наладжваліся кірмашы.*

*У кожным з мястэчкаў меліся дзясяткі рамеснікаў: мяснікі, булачнікі, закройшчыкі, краўцы, капялюшнікі, пальчатнікі, кавалі, меднікі, бляхары, цясляры, столяры, токары, шкляры, будаўнікі, муляры, пячнікі, тынкоўшчыкі, маляры, гарбары, ткачы, пераплётчыкі, шорнікі, пільшчыкі.*

Магчыма, да фабрыкаў і заводам аднесены бровары - па сутнасці самагонныя апараты, з дапамогай якіх гналі самагонку для продажу ў піцейных дамах, шынках і корчмах. Паколькі кожны абшарнік, які паважаў сябе, меў такі апарат, адгэтуль і набралася 2,5 сотні прадпрыемстваў. Тэхнічна ўдасканаленыя спіртзаводы былі пабудаваны ў маёнтках Бердаўка і Малое Мажэйкава.

Без бровараў ледзь набіраецца тры дзясяткі прадпрыемстваў. Дзейнічалі гарбарныя заводзікі ў Васілішках, Воранаве, Жалудку, Радуні, валюшня ў Ражанцы, шкіпінаравыя вытворчасці ў Альхоўцы і Язавіце Дакудаўскай воласці, у Песках Жалудоцкай, у Азярцы Шчучынскай воласці; піўныя заводзікі-бровары ў Воранаве, Жалудку і Радуні, дрэваапрацоўчы завод у Шчучыне, лесапільны ў Пудзіна (Дакудаўская воласць); цагляныя заводзікі ў Голдаве (Лябёдская воласць), Шайбаках, Перепечыцы і Харужаўцах (Лідская воласць), у Пагулянцы (Жалудоцкая), у Астрыне, у Навінцы і Алесіне (Шчучынская); вапнавы заводзік у Жалудку. Прадпрыемствы з'яўляліся і знікалі, вытворчасці насілі сезонны і часовы характар. Калі абшарнік рашаўся будаваць палац - ён арганізоўваў цагляную і вапнавую вытворчасці. Палац пабудаваў - вытворчасці зніклі. Перапечыцкая цагельня працавала ўвесь час, штогод выраблялася цэглы на 10-20 тысяч рублёў.

Найбуйным у Лідскім павеце, ды і ў Віленскай губерні, быў шклозавод Юліюша Столе ў Бярозаўцы. На заводзе ў перадваенныя гады працавалі 1020-1050 чалавек. На чатырох шкловарных горшчковых печах выраблялася да мільёна штук сталовага посуду і крыштальных вырабаў на агульную суму да 705 тысяч рублёў. Асноўныя фонды завода перавышалі паўмільёна рублёў. Шклозавод быў злучаны вузкакалейкай з чыгуначнай станцыяй Нёман (цяпер Сялец).

Каля паўсотні млыноў, у кожным мястэчку быў адзін, а то і два млыны. Млыны былі паравыя (Радунь), ветраныя (Тарнова), але галоўным чынам вадзяныя: Загор'е (Васілішская), Лібішкі (Дубіцкая), Гарадзенка, Жыжма, Рэксці (Жырмунская), Адэса, Ходараўцы (Жалудоцкая), Салтанішкі (Забалоцкая), Лебяда - два (Лябёдская), Бердаўка, Левашы, Малэйкаўшчына, Навапрудцы, Пастаўшчына (Лідская), Дэмбрава, Ашуркі (Ляцкая), Паперня (Мытлянская), Дзеражно (Арлянская), Вензаўшчына, Глушні, Дышлеўшчына (Пакроўская), Падзамча, Русакі (Ражанкаўская), Ішчалняны, Сярэдняя, Турыная, Юраўшчына (Шчучынская).

У кожным з мястэчкаў і ў вёсках з вялікай колькасцю дзяцей была народная вучэльня, у Радуні- знакамітая іешыва Хафеца Хаіма. У буйных вёсках з восені да вясны дзейнічалі народныя і царкоўна-прыходскія школы. 31 касцёл, 22 праваслаўных цэрквы, 26 малітоўных дамоў, 12 мячэцяў. Большасць насельніцтва складалі каталікі. 4 лякарні, 3 прыёмныя пакоі, 6 аптэк, 7 лекараў, 3 фельчары, і шматлікія спавівальныя бабкі.

## Табліца 2. Размеркаванне зямлі па валасцях

| Воласць | Цэнтр | Сялянская зямля | Няўдобіцы | Лясы | Законна-здабытая зямля | У т. л., няўдобіцы і лясы | Прыватна-ўласніцкая зямля |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандраўская | Паляцкішкі | 9645 | | | | | 1976 |
| Арлянская | Орля | 10025 | 385 | 35 | | 10 | 13593 |
| Астрынская | Астрыно | 4918 | | 28 | 40 | | 894 |
| Беліцкая | Беліца | 13761 | 3114 | 191 | 1042 | | 10519 |
| Беняконская | Беняконі | 4787 | 223 | | 676 | 36 | 13765 |
| Васілішская | Васілішкі | 9296 | | 100 | 699 | | 6235 |
| Ганчарская | Ганчары | 6874 | 965 | 109 | 741 | 129 | 8498 |
| Дакудаўская | Дакудава | 2602 | | 90 | 2250 | 400 | 14276 |
| Дубіцкая | Нарашы | 7262 | 266 | 30 | 1060 | 215 | 4327 |
| Жырмунская | Жырмуны | 9616 | 2000 | 308 | 1073 | 20 | 16891 |
| Жалудоцкая | Жалудок | 7651 | 121 | 12 | няма | | 8268 |
| Забалоцкая | Забалаць | 6976 | 125 | 75 | 1340 | 50 | 11200 |
| Каняўская | Эйшышкі | 21379 | 321 | | | | 6334 |
| Лябёдская | Лебяда | 7148 | 717 | 103 | 127 | | 7965 |
| Лідская | Дуброўня | 13480 | 3000 | 500 | 525 | 70 | 11278 |
| Ляцкая | Дэмбрава | 5238 | 816 | | 74 | | 6896 |
| Мытлянская | Мыто | 5750 | 144 | 67 | 140 | | 9554 |
| Пакроўская | Пакроўскае* | 4240 | 102 | | 266 | 3 | 6340 |
| Радунская | Радунь | 13262 | | 12 | 157 | | 7175 |
| Ражанкаўская | Ражанка | 7430 | 430 | | 174 | | 6735 |
| Тарноўская | Тарново | 5299 | 83 | 131 | 98 | | 7660 |
| Шчучынская | Шчучын | 6411 | 183 | | 635 | | 15668 |
| Эйшышская | Юрздыка | 9259 | 293 | | 1166 | | 23395 |
| **Разам** | | **193009** | | | **12283** | | **219442** |

Тры выніковых лічбы вызначаюць эканамічную значнасць сялян і абшарнікаў, у 230 тысячнага сялянскага люду 193 тысячы дзесяцін, у 10 тысячнага абшарніцкага - 219 тысяч. За 40 гадоў пасля публікацыі Маніфеста 1861 г. сялянам перайшло 12 тыс. дзесяцін, тысяча з якіх няўдобіцы і лясы.

На пасяўных плошчах, якія дасягалі 135-140 тысяч дзесяцін пераважалі зімовае жыта (к. 50 %), авёс (к. 20%), ячмень і грэчка (па 10%), у невялікіх колькасцях сеялі пшаніцу, ярыну, гарох, сачавіцу, бабы, бульба, лён, каноплі, у малаважнай колькасці саджалі буракі. Сады і гароды займалі каля 1,5 % плошчаў.

У сялян у 1900 г. было каля 65 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы, да 60 тысяч авечак, да 50 тысяч свіней, 1,5-2 тысячы коз. У абшарнікаў - да 40 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы, меней за 20 тысяч авечак, бараноў і коз, 10 тысяч свіней.

Землі ў Лідскім павеце бедныя, ураджаі невысокія - сам 4, сам 5. У сялян адна была праблема - як выжыць і пракарміць дзетак на сваіх шнурах. Абшарнікі таксама адмысловых поспехаў у сельскай гаспадарцы не мелі, імкнуліся падпрацаваць, хто лес прадаваў, хто спірт гнаў. Граф Людвік Уладзіслававіч Грабоўскі, уладальнік Вялікага Мажэйкава разводзіў скакавых коней і выйграваў прызы на Маскоўскіх скачках; Уладзіслаў Аляксандравіч Брохоцкі з Малога Мажэйкава разводзіў коней для артылерыйскіх запрэжак, уладальнік Лябёдкі Леанард Станіслававіч Іваноўскі меў велізарны сад плошчай у 20 гектараў і займаўся селекцыяй яблынь. Гэта былі выбітныя, пісьменныя гаспадарнікі, у цэлым жа, сельская гаспадарка заставалася на нізкім узроўні, і па ацэнках на 1890 г. у Лідскім павеце быў лішак працоўнай сілы, які ацэньваўся ў 22,3 тыс. чалавек. Да 1914 г. гэтая лічба пераваліла за 40 тысяч. Найболей прадпрымальныя сяляне, карыстаючыся добрым чыгуначным транспартам, падаліся на заробкі ў Санкт-Пецярбург і Маскву.

У Беняконях у 1911 г была створана невялікая сельскагаспадарчая станцыя. Пад кіраўніцтвам дырэктара В. Ластоўскага і старэйшага асістэнта С. Змігродскага пачалі праводзіць селекцыйныя доследы на збожжавых, доследы па ўжыванні ўгнаенняў, даследаваліся севааварoты, упершыню пачалі пратручваць збожжа перад пасевам.

1913 год - апошні мірны год перад разбуральнай катастрофай Расійскай Імперыі.

Год найвысокага ўздыму Расійскай капіталістычнай эканомікі, на валавыя паказчыкі якой доўгія гады арыентавалі савецкую эканоміку, так і не перасягнуўшы яе якасны бок.

* Сабакінцы.

Сельскія паселішчы Лідскага павета падпадзяляліся на сёлы, вёскі, маёнткі, фальваркі, ваколіцы, засценкі, хутары, урочышчы, вартоўні, млыны, аднадвор'і, фермы і 4 габрэйскія асады. У аснову класіфікацыі пакладзена некалькі ўзаемавыключальных прынцыпаў. Напрыклад, да сёлаў у Лідскім павеце адносіліся паселішчы з каталіцкім ці праваслаўным храмам. У 9 выпадках гэта адносна буйныя вёскі: Збляны (463 жыхары), Васілішкі Старыя (175), Ганчары (357), Дакудава (566), Жырмуны (323), Бабры (243), Голдава (279), Дэмбрава (160), Вавёрка (71), у астатніх - гэта асобна пастаўленыя храмы з сядзібай святара: Беняконі (4), Няцеч (8), Дзікушкі (9), Ракавічы (14), Радзівонішкі (16), Ішчална (14). Самае важнае ў гэтай класіфікацыі застаецца затушаваным - каму належыць зямля. Увогуле выпадку маёнтка і фальварка - гэта сядзібы абшарнікаў, усё астатняе - гэта паселішчы сялян, мельнікаў і будучых кулакоў, якія паступова высоўваюцца.

*Табліца 2*, створаная па статыстычных дадзеных І.І. Гашкевіча дазваляе раскрыць размеркаванне зямлі паміж сялянамі і абшарнікамі.

Расейскія войскі размяшчаліся ў двух вайсковых гарадках Паўночным і Паўднёвым на ўскраінах Ліды. Абодва гарадкі былі добра ўладкаваны, меліся цагляныя казармы, афіцэрскія жылыя дамы, вайсковыя склады.

У Паўночным гароадку дыслакаваўся 172-гі пяхотны Лідскі полк. Калі быць дакладным, у гарадку размяшчаліся штаб і тры батальёны (1, 3 і 4), 2-гі батальён дыслакаваўся ў мястэчку Араны і ў лагеры "Араны". Полк уваходзіў у склад 43-й пяхотнай дывізіі 2-га армейскага корпуса. З 1908 г. камандзірам палка быў палкоўнік В. Р. Раманаў.

**_Раманаў Уладзімір Раманавіч (1868 - пасля 1920)_**

*3-ці Маскоўскі кадэцкі корпус (1885), Міхайлаўская артылерыйская вучэльня (1888), Мікалаеўская акадэмія Генеральнага штаба (1894). Старэйшы ад'ютант штаба 32-й пяхотнай дывізіі (1896), 35-й пяхотнай дывізіі (1896-98). Камандзір роты ў 137-м пяхотным Нежынскім палку (1897-98). Старэйшы ад'ютант (1898-1900), штаб-афіцэр (1900-03) пры штабе 16-га армейскага корпуса. Камандзір батальёна ў 49-м пяхотным Брэсцкім палку (1902). Штаб-афіцэр пры кіраванні 3-й Сібірскай рэзервовай пяхотнай брыгады (1903- 04). Удзельнік руска-японскай вайны 1904-05 (паранены). Начальнік штаба 3-й Сібірскай пяхотнай дывізіі (1904-06). Штаб-афіцэр пры кіраванні 3-й пяхотнай рэзервовай брыгады (1906). Начальнік штаба 1-й Усходне-Сібірскай стралковай дывізіі (1906-08). Камандзір 172-га пяхотнага Лідскага палка (1908-1915).*




*Падпаручнік (1888), паручнік (1890), штабс-капітан (1894), капітан (1896), падпалкоўнік (1900), палкоўнік (1904). Узнагароды: ордэны Св. Станіслава 3-й ст. (1900), Св. Ганны 3-й ст. (1904), Св. Станіслава 2-й ст. з мячамі (1905), Залатая зброя (1905), Св. Уладзіміра 4-й ст. з мячамі і бантам (1906), Св. Ганны 2-й ст. з мячамі (1906), Св. Уладзіміра 3-й ст. (1909). Пасля генерал-маёр (1915), удзельнік Белага руху.*

**_Святар 172-га палка - Аляксандр Іванавіч Нялюбаў, 1869 г.н._**

*Сын святара. Скончыў Тульскую духоўную семінарыю (1893). Настаўнік Спас-Конінскай аднакласнай царкоўна-прыходскай школы Тульскай епархіі, старэйшы настаўнік другараднай цар-коўна-прыхадской школы ў с. Багародзіцкім Алексінскага павета. Святар Новагеоргіеўскага вайсковага*



**_Падраздзяленні 172-га Лідскага пяхотнага палка каля казармаў Паўночнага гарадка_**



***Царква Святой Тройцы ў Паўночным гарадку. Уладкавана ў 1913 г.***




***Звальняльны знак 16-й роты 172-га Лідскага пяхотнага палка.***

*шпіталя (1898-1900), 148-га пяхотнага Каспійскага палка (1900-05), Тарнескай Петрапаўлаўскай вайскова-народнай царквы (1905- 09), царквы Святой Тройцы 172 Лідскага пяхотнага палка з 12 снежня 1909 г.*

У Паўднёвым гарадку нароўні з казармамі і невялікімі жылымі дамамамі меліся склады, падстрэшкі, велізарны ангар і прычальная мачта для дырыжабляў. Увесну 1914 г. завершана будаўніцтва аэрадрома і ўзлётна-пасадачнавай паласы. У Паўднёвым гарадку дыслакаваліся 3-я паветраплавальная і 4-ая авіяцыйная роты.

Трэцяя паветраплавальная рота была адным з найбуйных ваенных паветраплавальных падраздзяленняў Расійскай Імперыі. Мела на ўзбраенні паветраныя шары, змейкавыя аэрастаты, дырыжаблі двух тыпаў. У прыватнасці, на ўзбраенні быў дырыжабль "Астра" даўжынёй 78 м, аб'ёмам 10500 м$^3$. Дырыжабль паднімаўся на вышыню 2, 5 км і перасоўваўся з хуткасцю 60 км/гадзіну на адлегласць да 1000 км. Экіпаж "Астры" складаўся з 14 чалавек розных вайсковых спецыяльнасцяў. Для ўзняцця ў паветра дырыжабля і пастаноўкі ў ангар пры моцных парывах ветру патрабаваліся высілкі да 200 чалавек.

У лютым-красавіку 1914 г. у Паўднёвым гарадку пры 3-яй паветраплавальнай роце была сфармавана 4-я авіяцыйная рота. З красавіка 4-я рота прыступіла да актыўнай палётнай працы.

На лідскім аэрадроме праходзілі падрыхтоўку ваенныя лётчыкі II, III, IV, VI, X, XX і XXI карпусных атрадаў: капітаны І.І. Саатчы-Самадчы (III КАА), штабс-капітаны П.П. Багдашэўскі (VI КАА), Залескі А.В. (II КАА), В.Н. Арлоў (IV КАА), А.Г. Топчаў (X КАА), есавул В.М. Ткачоў (XX КАА), лейтэнант В.В. Дыбоўскі (XX КАА); паручнікі Афонскі (XX КАА), Галаваценка (XX КАА), Д.С. Мікалаеў (X КАА), Пушкароў (XX КАА), Е.С. Пятосін (VI КАА), В.Ф. Станюковіч (II КАО), І.С. Стрэльнікаў (XX КАА), падпаручнік Ульянцаў (III КАА), старэйшы ўнтар - афіцэр Д.А. Макіёнак (III КАА), унтар-афіцэр А.А. Агафонаў (XX КАА).

Лёталі лётчыкі на Ньюпарах-IV і Фарманах-XVI. Гэта невялікія самалёты даўжынёй 8 м, з размахам крыла 12-14 м, вагой 410-420 кг, карыснай нагрузкай 240-275 кг, максімальнай хуткасцю да 104 км/гадзіну, крэйсерскай 90 -95 км/гадзіну, столлю ў 2-2, 5 км. На кіламятровую вышыню "ўзбіраліся" за 12 -15 мінут, а на двухкіламятровую - на працягу гадзіны. Далёкасць палёту -300-320 км. Экіпаж 1-2 чалавекі. Розніца паміж імі ў тым, што "Ньюпар - IV" - манаплан, а "Фарман - XVI" - паўтараплан з штурхальным паветраным вінтом.

У чэрвені 1914 г. XX і II карпусныя атрады правялі сумесныя вучэнні з артылерыстамі. На Дзвінскім палігоне лётчыкі абодвух атрадаў трэніраваліся ў карэктоўцы артылерыйскай стральбы.

***Леанід Лаўрэш***

# Лідчына ў люстэрку прэсы, 1913-1923

*"Ніколі Еўропа не бывала больш моцнай, больш багатай, больш прыгожай, ніколі не верыла яна так глыбока ў сваю выдатную будучыню ..."*

**Стэфан Цвейг пра Еўропу да 1914 г.**

**ЗМЕСТ**



## 1. Перад Першай Сусветнай вайной

Перад Першай сусветная вайной у Лідзе жыло 16 000 чалавек. Горад меў два бровары - Папірмайстра і Пупко, спіртзавод Стругача, тартак Палячака, ліцейны завод братоў Шапіраў, тытунёвую фабрыку Віленчыка, фабрыку па вырабе мыла Ківаловіча, фабрыку разліву манапольнага алкаголю, шмат крам і аптовых складаў. З фінансавых установаў у горадзе меліся: Таварыства ўзаемнага крэдыту, Яўрэйскі супольны банк, Банкаўская кантора Янушкевіча...

Сучаснікі заўважалі, што на дабрабыт такіх гарадоў як Вільня, Коўня, Гародня, Ліда, Баранавічы акрамя наяўнасці чыгункі, вялікі ўплыў аказалі буйныя грошы, якія праз войска ўтваралі значную частку гандлёвага абароту гэтых гарадоў, стымулюючы развіццё рознічнага і аптовага гандлю, павялічваючы падаткі і забяспечваючы іх хуткі рост[1].

З пачатку XIX ст. у Лідзе стала дыслакаваліся расійскія войскі.

Напрыклад, у 1806 г. у горадзе стаяў 2-гі Лейбдрагунскі Пскоўскі полк[2], пад царкву для рускага драгунскага палка забралі трапезную кляштара кармелітаў. Камандзірам палка быў немец, лютаранін генерал Корф. Гэты ж генерал забраў кляштарны дом, які да яго здаваўся і прыносіў кармелітам добры даход (каля 150 руб. у год), скаргі належным уладам не дапамаглі[3].

Адразу пасля паўстання 1830-31 гг. у горадзе кватаруе Эстляндскі егерскі полк[4].

Перад паўстаннем 1863 г. і пасля яго горад і павет былі нашпігаваны рознымі часткамі расійскага войска.

У 1872-1887 гг. у Лідзе знаходзіўся штаб 4-га палка данскіх казакоў. Лідзянін Януш Сегень пісаў: *"Кляштар ... кармеліцкі ... займалі вайсковыя ўлады. Там быў клуб і жытло палкоўніка. [...] У Лідзе ў той час стаяў полк данскіх казакоў. Трэба разумець, што ў горадзе размяшчаўся толькі штаб, а казакі з коньмі стаялі за горадам, займаючы гумны і стадолы для коней і сябе. З той нагоды шмат засталося казацкай натуры ў нашых вёсках"* [5].

У 1887-1891 гг. у Лідзе кватараваў 2-гі чыгуначны батальён, які будаваў Палескую чыгунку. Пасля пераводу гэтага батальёна ў Баранавічы ў горад перадыслакаваўся 89-ы рэзервовы батальён пяхоты з Дынабурга. Першапачаткова гэтая вайсковая адзінка ў складзе дзвюх рот была сфармавана 17 студзеня 1811 г. у Пензе пад назвай Пензенскага ўнутранага губернскага паўбатальёна, ужо 27 сакавіка таго ж года паўбатальён быў перафармаваны ў батальён. 14 ліпеня 1816 г. пры

стварэнні асобнага корпуса ўнутранай варты, батальён атрымаў назву Пензенскага ўнутра-нага гарнізоннага батальёна. У 1864 г. пры скасаванні гэтага корпуса і арганізацыі мясцовых войскаў, батальён названы Пензенскім губернскім батальёнам, а 26 жніўня 1874 г. - Пензенскім мясцовым батальёнам. У часы руска-турэцкай вайны 1877-1878 гг. батальён вылучыў кадры на фармаванне 46-га рэзервовага пяхотнага батальёна (скасаванага 11 верасня 1878) і атрымаў 31 жніўня 1878 года назву 89-га рэзервовага пяхотнага кадравага батальёна. 7 красавіка 1880 г. батальёну прызначаны просты, без надпісу, сцяг.

25 сакавіка 1891 г., у царстваванне Аляксандра III, батальёну прысвоена назва Лідскага рэзервовага батальёна. 1 снежня 1892 г. батальён перафармаваны ў двухбатальённы полк і названы 185-м пяхотным рэзервовым Лідскім палком. 1 студзеня 1893 г. былі сфармаваныя яшчэ два батальёна, і полк стаў 172-м пяхотным Лідскім палком. 27 сакавіка 1911 г. у дзень 100-гадовага юбілею, палку падараваны новы сцяг ўзору 1900 г. Сцяг меў цёмна-зялёную аблямоўку, залатое шыццё, наверша ўзору 1857 г. і чорнае дрэўка. На адным баку сцяга малюнак Спаса Нерукатворнага. На абароце даты "1811-1911". На Аляксандраўскай юбілейнай стужцы надпісы: "1911 год" і "1811. ПЕНЗЕНСКІЙ ВНУТРЕННІЙ ГУБЕРНСКІЙ БАТАЛІОНЪ" [6].

Камандзіры палка:

- 03.02.1902 - пасля 01.11.1907 - палкоўнік Тарасевіч Аляксей Іосіфавіч;
- 24.11.1908 - пасля 31.01.1913 - палкоўнік Раманаў Уладзімір Раманавіч;
- 06.08.1915 - пасля 09.1916 - палкоўнік Каломенскі Мікалай Пятровіч;
- 25.11.1916 - ? - палкоўнік Яралаў Лазар Іванавіч.

Нагрудны знак палка зацверджаны 25.02.1911 г., апісанне знака: *"Лаўровы вянок, увенчаны чорным аксідаваным двухгаловым арлом і звязаны ўнізе стужкай з юбілейнымі датамі: "1811-1911"*. На вянок пакладзены вензелі імператара Аляксандра I і Мікалая




***Нагрудны знак 172-га Лідскага палка.***

*II, а пад імі нумар палка: "172". Унізе на вянку змешчаны два гербы: злева - Пензенскай губерні (у зялёным полі тры снапы), у памяць аб паходжанні палка ад Пензенскага гарнізоннага батальёна, і справа - горада Ліды (наверсе сярэбраны вершнік на чырвоным полі, а ўнізе сноп і серп на зялёным полі* - герб Ліды у імперыі *- Л.Л.)*".

Цікава, што ў 1915 г. менавіта ў 172-м палку шарагоўцам пачынаў службу будучы сталінскі кат



***Вайсковыя падводы перад Паўночным гарадком***

Мікалай Яжоў[7].

Асабовы склад 172-га пяхотнага Лідскага палка часткова кватараваў у прыватных наёмных дамах, часткова размяшчаўся ў маёнтку Нясікаўшчына пад Лідай, у мястэчку Беліца і нават у Алькеніках. Кожны год 28 траўня полк выязджаў у летні лагер пад Араны, адкуль вяртаўся звычайна 28 верасня.

У 1908-1912 гг. на землях, падораных горадам, вайсковая будаўнічая камісія на чале з генерал-маёрам Канабіхам пабудавала для Лідскага палка прасторныя і на той час добра абсталяваныя казармы. На будаўніцтве выкарыстоўвалі цэглу з закрытага царскімі ўладамі шматпакутнага кляштара кармелітаў, разбураны будынак якога знаходзіўся насупраць Фарнага касцёла. У 1912 годзе полк перасяліўся ў новыя казармы[8].

Паходная палкавая царква Святой Тройцы заснавана ў 1892 г. Пасля пераходу палка з прыватных наёмных казармаў у новыя казармы за горадам, палкавая царква ўладкоўвалася ў сталовай батальёна. Па штаце пры царкве быў адзін святар.

У 1906 г. з Далёкага Усходу ў Ліду была пераведзена 9-я паветраплавальная рота, якая першапачаткова дыслакавалася ў прыватных хатах па вуліцы Віленскай, каля праваслаўных могілак. У Лідзе размяшчаліся 2 аэрастаты, 2 газгольдары, лябёдка і 3 павозкі з прыстасаваннем для пад'ёму. У 1910 годзе вайсковая будаўнічая камісія на выкупленых скарбам у Яна і Міхала Садоўскіх у маёнтку Перапечыца землях пад кіраўніцтвам генерал-маёра Канабіха пабудавала казармы і іншыя пабудовы, у тым ліку вялізны элінг для дырыжабляў - драўляны на металічным каркасе[9].

Пасля пабудовы аэрадрома, тут размясцілася 3-я Паветраплавальная рота, на ўзбраенні якой стаялі 4 дырыжаблі мяккага тыпу: "Альбатрос", "Астра", "Голуб" і "Грыф".

Першым у Ліду прыбыў "Альбатрос" з базы Вучэбнага паветраплавальнага парку ў вёсцы Салізі пад Санкт-Пецярбургам.

Дырыжабль "Голуб" быў пабудаваны ў Расіі ў 1910 г. на Іжорскім заводзе ў Колпіна пад Санкт-Пецярбургам па праекту прафесараў К.П. Баклеўскага, А.П. Ван-дэр-Фліта і інжынера В. Ф. Найдзёнава пры ўдзеле капітана Б. В. Голубева. У Ліду дырыжабль прыбыў ў 1913 г. У час Першай сусветнай вайны на ім было зроблена некалькі разведвальных палётаў, але за лінію фронту ён не залятаў. А неўзабаве пасля пачатку вайны у кастрычніку 1914 г., гэты дырыжабль забралі з Ліды.

Першыя ўдалыя палёты "Голуба" паказалі адпаведнасць іх лётна-тэхнічных характарыстык разлікам, з'явіліся падставай для закладкі ў 1911 г. на Іжорскім заводзе буйнога дырыжабля аб'ёмам 9600 м$^3$, названага "Альбатрос". Яго пабудова была скончаная восенню 1913 г. Гэта быў найбольш дасканалы дырыжабль з усіх пабудаваных на рускіх заводах. Ён меў даўжыню 77 м, вышыню 22 м і максімальны дыяметр 14,8 м, развіваў хуткасць да 68 км/г. Максімальная вышыня пад’ёму дасягала 2400 м, а працягласць палёту - 20 гадзін. Сілавая ўстаноўка складалася з двух рухавікоў магутнасцю па 118 кВт. Аўтарамі праекту "Альбатроса" былі Б. В. Голубеў і Д. С. Сухаржэўскі, гэты дырыжабль таксама базаваўся ў Лідзе.

Дырыжабль "Грыф" (аб'ём абалонкі 7300 м$^3$, даўжыня 70 м, максімальны дыяметр 14 м, два рухавікі па 81 кВт, максімальная хуткасць 59 км/г, максімальная працягласць палёту 20 гадзін), набыты з Германіі ў 1910 годзе як "Parseval VII", быў перададзены ў паветраплавальную роту ў Лідзе ў верасні 1914 г. Аднак у гады Першай сусветнай вайны ён не выконваў баявых задач, а выкарыстоўваўся толькі для навучальных палётаў. Увесну 1915 г. гэты дырыжабль быў разабраны. Але яго ангар - першы жалезны ў імперыі, вытворчасці фірмы Круп (Германія) - прастаяў нашмат даўжэй і быў разабраны толькі ў 1931 г.

Яшчэ адзін дырыжабль замежнай вытворчасці, які базаваўся ў Лідзе меў назву "Астра". Яго пабудавалі ў Францыі ў 1913 годзе як "Astra XIII" і потым даставілі да месца свайго базавання - на авіябазу ў Ліду. Характарыстыкі "Астры": аб'ём абалонкі 10 000 м$^3$, даўжыня 78 м, максімальны дыяметр 15 м, два рухавікі па 147 кВт, максімальная хуткасць 59 км/г, максімальная працягласць палёту 15 гадзін. "Астра" быў практычна адзіным рускім ваенным дырыжаблем, які прыняў ўдзел у баявых дзеяннях Першай сусветнай вайны. У траўні 1915 г. ён выканаў тры начныя палёты на бамбакіданне па пазіцыях германскіх войскаў. Пры гэтым ён атрымаў шмат пашкоджанняў і ў далейшым амаль не эксплуатаваўся. У другой палове 1915 г. "Астру" дэманціравалі. Дарэчы, рэшткі дырыжабля "Астра" ў 1920 г. сталі асновай для першага савецкага дырыжабля "Чырвоная зорка"[10].

У красавіку 1911 г. каталіцкая газета "Беларус" паведаміла пра падзеі на лідскай авіябазе: *"Ліда. Па прыгавору Віленскага Ваеннага Суда - у Лідзе расстралялі салдата Формана за тое, што ён забіў афіцэра Пахойкіна, які адмовіў просьбе салдата пайсці ў горад"* [11]. Другая беларуская газета "Наша Ніва" трошкі падрабязней расказала пра гэтае экстраардынарнае здарэнне: *"Віленскі ваенны суд разглядзеў пры зачыненых дзвярах справу салдата лятучага атрада ў Лідзе, Формана, абвінавачанага ў тым, што ён забіў афіцэра Похойкіна. Прычынай забойства было тое, што Пахойкін не дазволіў Форману пайсці на шпацыр у горад. Ваенны суд прысудзіў Формана на кару смерці. Камандуючы Віленскай ваеннай акругай зацвердзіў пастанаўленне суда, і Формана перавёзшы ў Ліду - перад усім гарнізонам расстралялі"* [12].

У 1912 г. пачалося і ў асноўным было скончана будаўніцтва ваеннага аэрадрома, складоў авіяцыйнай маёмасці, казармаў. У тым жа годзе Генеральны штаб Расіі складае меркаванні аб усталяванні авіяцыйных цэнтраў у акругах. Адзін з такіх для Віленскай акругі плануецца ўсталяваць у Лідзе на будаваным аэрадроме. І ў Лідзе з'яўляюцца баявыя самалёты[13].

27 жніўня 1913 года віленская газета "Вячэрні веснік" пісала: *"Адносна прыбыўшага ўчора ў Вільню ваеннага дырыжабля высвятляецца, што ён прыляцеў з Ліды з мэтай зрабіць выпрабаванні, ці можна з*

*вышыні 900-1000 метраў праводзіць тапаграфічныя здымкі. Задача гэтая была ўскладзена на штабс-капітана Шапілёва, які пераканаўся, што з прымяненнем адпаведных інструментаў здымкі цалкам магчымыя. Пералёт з Ліды ў Вільню быў здзейснены на працягу трох гадзін з хуткасцю 40 вёрст у гадзіну. Дырыжабль змагаўся ў хуткасці з пасажырскім цягніком, які ішоў у Вільню. Апошні быў пераможаны".*

У красавіку 1914-га над Лідай адбылася авіяцыйная катастрофа: *"Ліда. 16-га красавіка над Лідай лёталі тры аэрапланы. На адным з іх загарэўся бензін, аэраплан упаў, і загінулі афіцэр і жаўнер"* [14]. Газета пісала пра падпаручніка Вятчынкіна Я. П. і механіка Кавальчука, якія загінулі ў Лідзе пры палёце на самалёце "Ньюпар". Пры планіраванні з вышыні 200-300 метраў самалёт "Ньюпар-IV" раптоўна пайшоў уніз, Кавальчук выпаў з самалёта, схапіўся за верхні трос і, правісеўшы ў такім жахлівым стане 2-3 секунды, зваліўся на зямлю і разбіўся на смерць. Самалёт з пілотам урэзаўся ў дом і загарэўся.

Самалёт разбіўся з-за недахопаў яго канструкцыі. "Ньюпар" быў пабудаваны па французскай ліцэнзіі на заводзе Шчацініна ў Расіі. Якасць яго вытворчасці была вельмі нізкай[15]. Аднак гэта не спыніла палёты. Вось што распавядала аб адным з палётаў газета "Віленскі веснік" ад 18 красавіка 1914-га: "*Трэцяга дня каля 8 гадзін вечара ў раён размяшчэння 169 пяхотнага Нова-Траецкага палка апусціўся прыляцеўшы з Ліды аэраплан з ваенным лётчыкам паручнікам Альбрэхтам і механікам унтар-афіцэрам Белагубенка. У прызначаны час прыбыў камандзір яго авіяцыйнай роты ў Лідзе капітан Рэшчыкаў. Паручнік Альбрэхт быў сустрэты камандзірам 169 пяхотнага Нова-Траецкага палка палкоўнікам Якімоўскім на чале афіцэраў палка, якія запрасілі афіцэраў-паветраплавальнікаў у афіцэрскі сход падзяліць хлеб-соль ... Пачынаючы з наступнага дня, у Вільню з Ліды будуць лётаць аэрапланы, здзяйсняючы практычныя палёты".*



***"Ньюпар - IV"***



***"Фарман- XVI"***

Перад пачаткам вайны павятовым вайсковым начальнікам, адказным за рэзервістаў і адначасова камендантам горада Ліда, быў падпалкоўнік Кароўнікаў[16].

Усе Лідскія вайсковыя часткі ўваходзілі ў акругу, штаб якой знаходзіўся ў Вільні. З 20 студзеня 1913-га па 19 ліпеня 1914-га Віленскай вайсковай акругай камандаваў генерал ад кавалерыі Павел Карлавіч фон Рэненкампф.

Да пачатку вайны, 3 - 4 траўня 1914 г. архіепіскап Літоўскі і Віленскі Ціхан (Бялавін), будучы патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі наведаў наш горад. Відавочца гэтага візіту пісаў: *"На чыгуначным вакзале яму наладзілі ўрачыстую сустрэчу пад высокай аркай з зяляніны і сцягоў, збудаваную чыгуначнікамі. Зелянінай і сцягамі была ўпрыгожаная ўся дарога ад вакзала да Міхайлаўскага сабора. Уздоўж яе радамі стаялі войскі, авіятарская рота і паліцыянты, грымеў аркестр Лідскага палка. У саборы архірэй адслужыў усяночную службу. Ліція і дабраславенне хлеба здзяйсняліся на плошчы перад саборам у адмыслова ўсталяваным шатры на ўзвышшы. Падчас памазання алеем ўладыка раздаў дзве тысячы крыжыкаў. Служба скончылася ў дзесяць вечара. Начаваў ўладыка Ціхан ў доме настаяцеля а. Іосіфа Каяловіча. Раніцай ад гэтага дома да сабора адбыўся хрэсны ход. Падчас Літургіі ўладыку саслужылі чатырнаццаць святароў. Пасля багаслужбы ён наведаў школу пры саборы і дабраславіў будаваць новае, больш прасторнае памяшканне. Архірэй пабываў у мужчынскай і жаночай гімназіях горада, сустракаўся з дзецьмі гарадскога вучылішча і наведаў Георгіеўскую царкву на могілках, у якой, на магіле памёршай маці айца Іосіфа, здзейсніў малітву. У тры гадзіны дня гарадская грамада дала ў гонар госця абед у прыватнай гімназіі Навіцкіх. Увечары ўладыка Ціхан адбыў у Вільню, завяршыўшы агляд епархіі"* [17].

**2. Першая Сусветная вайна**

Набліжэнне вайны абывацель заўважаў па росту актыўнасці войск. Напрыклад, увесну 1910 г. у расійскай прэсе прайшла інфармацыя пра вялікія вайсковыя манеўры якія прайшлі ў жніўні таго ж года ў ваколіцах Начы, Астрыны, Іўя і Дзевянішак. У манеўрах бралі ўдзел 2-гі, 3-ці і 4-ты карпусы расійскай арміі[18]. Гэта былі карпусы будучай 1-й арміі Рэненкампфа 1914 г.

Да пачатку вайны Штаб Паўночна-заходняга фронту знаходзіўся у Лідзе, у горадзе былі галоўнакамандуючы Паўночна-Заходнім фронтам генерал Жылінскі, начальнік штаба генерал М.М. Янушкевіч.

Сведка падзей і слынны лідскі краязнавец Міхал Шымялевіч пісаў, што лета 1914-га выдалася на рэдкасць гарачым і сухім. Тэмпература паветра ў чэрвені і ліпені дасягала 40 градусаў у цяні, а на працягу некалькіх тыдняў не выпала ні кроплі дажджу. Вада ў рэках, азёрах і ставах спала. На Нёмане ад Морына да




***Вуліца Віленская, за спіной - перакрыжаванне вул. Віленскай і Каменскай (сучасныя вуліцы Савецкая і Ленінская), наперадзе - злева Рыначная плошча (зараз - плошча Леніна) справа - паліцыя, так сама справа ў канцы перспектывы - Свята-Міхайлаўская царква.***

Орлі не маглі прайсці плыты, і сплаў дрэва спыніўся. Паветра напоўнілася дымам: гарэлі тарфянікі. На поўдні, каля Нёмана, удзень уздымаліся аблокі дыму, а ўначы было бачна зарыва пажараў - гарэў лес. Звычайна цяжкапраходныя Дакудаўскія і Дзітвянскія балоты высахлі, і па іх ездзілі, як па полі. Каб пайшоў дождж, у вясковых цэрквах і касцёлах служыліся набажэнствы, палі абыходзілі працэсіі з харугвамі і пабожнымі спевамі.

Аднак ураджай сена і канюшыны ў тым годзе быў добры. Таксама быў добры ўраджай жыта і яравых, добра ўрадзіла бульба. Грыбоў і ягад у лясах не было. Садавіна не ўрадзіла, але было шмат мёду. Калі пачалася ўборка ураджаю, не хапала рук, бо мужчыны былі мабілізаваны на вайну. Таму наёмным працаўнікам плацілі ўдвая - 1 рубель за дзень працы касцам, 60 капеек жнеям.

Ліда як заўжды ўлетку вылюднела: інтэлігенцыя выехала на лецішчы ці нават у Друскенікі на сонца і воды, школьная моладзь раз'ехалася па вёсках - да бацькоў ці сяброў. Вучні, чорныя, як індзейцы, сядзелі ў цені дрэў з вудамі каля вады[19].

Летам 1914 года атрымалася так, што галоўная асоба павета - маршалак шляхты граф Людвік Грабоўскі (прамы нашчадак апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага ад марганатычнага шлюбу з Эльжбетай Грабоўскай), які павінен быў узначаліць мабілізацыю ў павеце, ад вясны лячыўся ў Пецярбурзе - ён меў камяні ў жоўцевым пухіры і ў нырках. Яго абавязкі выконваў земскі начальнік 1-га ўчастка Міхаіл Трафімаў. Павятовы спраўнік фон Гротэ дэ Буко яшчэ да пачатку вайны падаў у адстаўку па ўзросце, чакаў загад аб выхадзе на пенсію і таму знаходзіўся ў адпачынку. У сувязі з набліжэннем вайны віленскі губернатар Вяроўкін перапыніў яго адпачынак і загадаў выконваць свае абавязкі. Асноўны цяжар арганізацыі мабілізацыі на Лідчыне лёг на спраўніка Гротэ дэ Буко і Міхаіла Трафімава.

25 ліпеня 1914 г. на лідскай чыгуначнай станцыі была вывешана аб'ява пра тое, што дарога здымае з сябе ўсялякую адказнасць за тэрміны перавозу грузаў. Гэта быў першы знак будучай вайны.

У той жа дзень на палігоне пад Аранамі, калі артылерыя Лідскага палка рыхтавалася да вучэбных стрэльбаў, раптам была прынята тэлеграма з загадам спыніць вучэнні і выступіць да месца пастаяннай дыслакацыі - у Ліду. Адначасова юнкерам Віленскай вайсковай вучэльні, якія знаходзіліся ў тым жа лагеры пад Аранамі, начальнік вучылішча генерал-маёр Адамовіч зачытаў загад аб прысваенні вайсковых званняў 170 юнкерам выпускнога курса. Такія імпрэзы, як правіла, праводзіліся ў дзень Праабражэння Гасподняга, 19 жніўня. Маладым афіцэрам уручылі толькі афіцэрскія шаблі, бо абмундзіраванне яшчэ не было гатовае.

Праз некалькі гадзін лагер ліквідавалі, Лідскі полк пачаў грузіцца ў вагоны. Сярод афіцэрскіх жонак пачаўся перапалох, кінуўшы ўсё, яны з лецішчаў накіраваліся ў Ліду, і таму ў нядзелю, 26 ліпеня, калі па чыгунцы з Аран пачалі прыбываць аддзелы палка, у горадзе ўжо ведалі - пачынаецца вайна. Першыя прыбыўшыя аддзелы Лідскага палка ўзялі пад ахову ўсе чыгуначныя аб'екты: масты, водаправоды і іншыя тэхнічныя сродкі абслугоўвання, а таксама сувязь. Усюды стаялі ўзброеныя салдаты, забараняўся нават

выхад на перон вакзала. Паліцыя і жандары "па сакрэту" расказвалі гараджанам, што такія экстраардынарныя меры бяспекі выкліканы небяспекай штрайку чыгуначнікаў.

Тым не менш, у касцёлах і цэрквах, як і заўжды, браліся шлюбы, людзі з музыкай і танцамі святкавалі вяселлі і хрэсьбіны[20].

29 ліпеня Расія абвясціла мабілізацыю Кіеўскай, Маскоўскай і Казанскай вайсковых акруг.

Вось як апісвае адзін з апошніх мірных дзён, 30 ліпеня 1914 г., Міхал Шымялевіч: *"На вуліцы Віленскай* (цяпер Савецкая. - *Л.Л.*) *горада сабраліся групкамі гараджане, яны чыталі толькі што атрыманыя з цягніка газеты, і кожны на свой капыл каментавалі бягучаю сітуацыю ў свеце. Мабілізацыя яшчэ не пачалася, і агульным перакананнем было тое, што Расія толькі робіць дэманстрацыю сваёй магутнасці, а насамрэч вайны не будзе, бо ніхто яе не хоча. ... Над Лідай, выконваючы вучэбны палёт, нізка кружыў аэраплан "Фарман". Ён зрабіў круг над рынкам* (сучасная плошча Леніна. - *Л.Л.*) *і паляцеў на ўсход. Раптам аэраплан пачаў хутка зніжацца і падаць. Натоўп зявак, думаючы, што аэраплан упадзе каля рэчкі Лідзейкі, кінуўся ў бліжэйшыя завулкі - Шкляны, Камерцыйны, Паліцэйскі* (яны вялі ў бок рэчкі. - Л.Л.). *Але пілот выраўняў машыну, і яна зноў узвілася пад аблокі. Зявакі пачалі вяртацца да цэнтру, і як раз у гэты час па Віленскай вуліцы на дрожках да паліцэйскай управы імчаўся, трымаючы ў руцэ дэпешу, павятовы паліцэйскі спраўнік Гротэ дэ Буко. Адразу ўсе зразумелі: мабілізацыя! У імгненне вока вуліца апусцела. Да позняй ночы горад не спаў. Кожны зразумеў, што вайна непазбежная, і нікога яна не абміне"* [21].

Мабілізацыю ў горадзе павінны былі праводзіць: управа вайсковага начальніка, прызыўная камісія і паліцыя. Ва ўправах ужо некалькі дзён працавалі, рыхтуючы розныя паперы, неабходныя пры мабілізацыі сельскага насельніцтва ў павеце. На бяду, у той жа час у Беняконях згарэла ўправа воласці з шафкай, у якой былі прыгатаваны мабілізацыйныя дакументы. На гэтую тэму шмат балбаталі, але выпадак ніякіх наступстваў за сабой не пацягнуў, акрамя ўзмоцненай працы, каб аднавіць знішчаныя лісты. Праца ва ўстановах вялася днём і ўначы.

Тады ж, 30 ліпеня ў 11 гадзіны ночы выканавец абавязкаў маршалка шляхты Трафімаў атрымаў дэпешу, змест якой дазваляў думаць, што мабілізацыйныя справы варта прыпыніць. Усе, хто працаваў у прызыўной камісіі, з-за гэтага слабога прабліску надзеі ўздыхнулі з палёгкай і ледзь не пайшлі дахаты. Праз некалькі гадзін новая дэпеша адмяніла папярэднюю і загадала далейшы працяг працы. Калі бракавала бланкаў, паліцыя будзіла друкара Айзіка Эпштэйна, які ўжо спаў, і выпраўляла ў друкарню яго працаўнікоў, бланкі тэрмінова друкаваліся. А тым часам конныя паліцыянты ўсю ноч імчаліся ўсімі дарогамі ў цэнтры валасцей і да паліцэйскіх прыставаў, уручаючы ім мабілізацыйныя распараджэнні.

З 31 ліпеня былі адменены ўсе пасажырскія цягнікі, і чыгунка пачала ліхаманкава перавозіць адмабілізаваныя войскі. З іншых чыгунак у Ліду былі пераганы дадатковыя лакаматывы, прыбылі новыя лакаматыўныя брыгады і іншыя спецыялісты-чыгуначнікі. У павеце пачалася мабілізацыя. Ліду і ўсе вёскі ўпрыгожыліся каляровымі плакатамі. З іх:

1) чырвоныя прызывалі ў войска шарагоўцаў рэзерву;

2) блакітныя - народнае апалчэнне з прызыву 1908-1913 гг., прычым ваеннаабавязаныя старэйшых узростаў былі залічаныя ў народнае апалчэнне з рэзерву;

3) белыя загадвалі пастаўку коней у войска, і паведамлялі кошты на прадметы экіпіроўкі, якія прызыўнікі павінны былі прынесці з сабой.

Па павеце, таксама вісеў вялікі плакат з тэкстам за подпісам Рэненкампфа аб супольнай адказнасці жыхароў горада і вёсак за пашкоджанне чыгуначных шляхоў, тэлеграфу, іншых сродкаў сувязі і камунікацыі. У кавярні Маліноўскага афіцэры Лідскага гарнізона пілі каву і вялі размову на тэму, што "германцаў трэба пабіць!". Як і належыць, гараджане кінуліся да акенцаў ашчадных кас, у банкі і банкаўскія канторы, каб забраць свае ўклады. У Лідзе каля Скарбовай касы пры казначэйстве стаяла чарга даўжынёй у паўкіламетра, якая некалькі разоў абвівала касу. Каб вярнуць свае грошы, у чарзе стаяла каля паўтары тысячы чалавек. У Вільні з вуснаў у вусны перадаваліся весткі пра тое, што запасы золата з Віленскіх банкаў ужо вывезены ў Ніжні Ноўгарад, і таму ў Віленскім Дзяржаўным Банку быў такі вялікі натоўп адборнай публікі, што шыкоўна прыбраныя пані парвалі свае багатыя строі, страцілі брыльянты і капелюшы, падрапалі твары і пашкодзілі рукі і ногі. Але банкаўскія чыноўнікі ў Лідзе і Вільні спраўна выдалі людзям іхнія грошы.

**1 жніўня** ў 17.00 Германія абвясціла вайну Расіі. Гэта была субота. З рання з самых дальніх кутоў Лідскага павета, усімі дарогамі, на вазах і пешшу ў горад збіраліся ваеннаабавязаныя мужчыны, зганялі мабілізаваных коней. Не абышлося без эксцэсаў: натоўп мабілізаваных мужчын, якія ішлі ў Ліду па Гарадзенскім тракце, атакаваў гарэлачную краму ў Арлянцы (каля ракі Дзітва), разрабаваў і спаліў яе. Разам з манапалькай згарэла вялікая старажытная карчма, якая стала на другім баку тракту, насупраць гарэлачнай крамы. Карчма ў Арлянцы, згодна з "Вопісам парафій Лідскага дэканату 1784 г." пры канцы XVIII стагоддзя ўжо існавала тут, у 1897 г. была адноўлена і ў 1914 годзе належала ўладальніку Тарнова графу Маўрасу[22]. Праз некалькі дзён газеты надрукавалі загад генерала Рэненкампфа, згодна з якім былі павешаны чатыры чалавекі, вінаватыя ў пагроме гэтай манапалькі. Загад быў надрукаваны як улётка і развешаны па горадзе і вёсках.

На гарадскі магістрат лёг абавязак размяшчаць войскі і мабілізаваных. Бургамістр Ліды Вісмант праводзіў свой адпачынак на Чорным моры і таму быў выкліканы адтуль тэлеграмай. Нават маючы дазвол для праезду, ён моцна спазніўся на працу. Пакуль не было бургамістра, яго абавязкі выконваў намеснік Гейштаўт, а размяшчаў мабілізаваных пашпартыст Іосіф Якубоўскі. Без адпачынку лётаў ён па горадзе, вызна-




*Малюнак нямецкага мастака Рэймана 1917 г, які паказвае Лідскі гарадскі парк, што размяшчаўся на тэрыторыі ад цяперашняга кінатэатра "Юбілейны" да 13-павярховага інтэрната па вул. Замкавай. Той самы летні тэатр, дзе ішла мабілізацыя.*

чаў жытло, арганізоўваў кухні, месцы для мабілізаваных коней, знаходзіў харчы і фураж. Для жаўнераў былі рэквізаваны будынкі мужчынскай гімназіі па вуліцы Камерцыйнай, жаночай гімназіі Навіцкіх па вуліцы Каменскай, пачатковая школа каля замка, абедзве парафіяльная школы, іешыва, клуб Таварыства дабрачыннай пажарнай аховы, піўныя і іншыя будынкі. У горадзе сабралася каля 5 000 мабілізаваных людзей і 2 000 коней. Рэгістрацыя і агледзіны мабілізаваных жаўнераў адбываліся ў гарадскім парку па вуліцы Каменскай (прыкладна тут цяпер стаіць кінатэатр "Юбілейны"), дзе раслі стагадовыя вольхі. Тут, у парку, быў летні тэатр - зробленая з дошак пабудова з лаўкамі без даху. Менавіта тут размясцілася вайсковая камісія. У летнім тэатры лекары аглядалі мабілізаваных, пісары вялі рэгістрацыю. А з парку даносіліся енкі жанчын і дзіцячы плач - сем'і развітваліся з сваімі "кармільцамі". Людзі памяталі, што ад прызыву ў войска на Руска-японскую вайну ў 1904 г. вызваляліся тыя, хто меў чацвёра і больш малых дзяцей, таму некаторыя на вазах везлі з сабой усю сям'ю.

Пасля рэгістрацыі мабілізаваных мужчын пераводзілі ў замак, дзе іх прымалі ўнтар-афіцэры, адтуль адных адпраўлялі ў казармы Лідскага палка, а іншых вялі на чыгунку і размяшчалі па вагонах для перавозкі ў іншыя палкі.

Афіцэры запасу самі прыходзілі да павятовага вайсковага начальніка.

Адначасова на гарадскім Выгане (зараз тут сучасны гарадскі парк), па вуліцы Віленскай каля праваслаўных могілак і на выездзе ў бок Навагрудка, каля каталіцкіх могілак, ішоў адбор коней. Большасць людзей спакойна прадавала сваіх коней, бо кошты дзяржаўнага закупу былі добрыя. Аднак былі і тыя, хто, прадаючы, плакаў па сваіх конях.

**2 жніўня** 1914 г. Аб'яўлена пра увядзенне ваеннага становішча ў шэрагу заходніх губерняй, у тым ліку і Віленскай. Уводзіцца ваенная цэнзура. Ваеннымі цэнзарамі ў Лідзе сталі начальнік пошты Каланкоўскі і чыноўнік дваранскай апекі Брухаў.

**3 жніўня** 1914 г., панядзелак. Аб'яўлена пра мабілізацыю ў войска настаўнікаў народных школ. Шымялевіч пісаў, што з ініцыятывы кіраўніка гарадской адукацыі, якую агучыў школьны інспектар Баўбліс, была арганізаваная патрыятычная маніфестацыя з царскімі партрэтамі, расейскімі сцягамі, спевамі "Боже царя храни", "Славься, славься русский царь" і т.д. Маніфестантаў было няшмат, пасля маніфестацыі невялікія групы рускіх патрыётаў разышліся па патаемных чарачных, дзе яшчэ была магчыма атрымаць забаронены алкаголь і пасля выпіўкі, як належыць, справакавалі ў горадзе некалькі скандальных, але ж "патрыятычных" боек.

У Лідзе, як і паўсюдна, па загаду ўладаў, у цэрквах, касцёлах і сінагогах ішлі службы "за победу русского оружия", ад імя грамадства былі пасланыя "верноподданнические" тэлеграмы цару, збіраліся грошы для войска.

З раніцы **6 жніўня**, у чацвер, на пляцы каля казармаў пашыхтаваўся 172-і Лідскі полк з поўным паходным рыштункам. Палкавы святар адслужыў малебен, а камандзір палка Раманаў вітаў асабовы склад, пажадаў хуткай перамогі і вяртання з фронту да родных агменяў. На цырымоніі граў палкавы аркестр, прысутнічалі тысячы гараджан: дзеці, жонкі, сваякі і знаёмыя тых, хто ішоў на вайну. Пры развітанні былі чутны крыкі і плач. Полк з музыкай і сцягамі пайшоў на станцыю для пагрузкі. Пры адпраўленні кожнага

цягніка, паўтараліся сцэны развітання.

Разгорнуты да колькасці ваеннага часу, 172-гі полк налічваў 4000 штыкоў. Лідскі полк у жніўні 1914 г. знаходзіўся на левым флянзе арміі Рэненкамфпа, у Аўгустоўскіх лясах і ўваходзіў у склад 43-й пяхотнай дывізіі, якой камандаваў генерал-лейтэнант Слюсарэнка В.А., у сваю чаргу дывізія ўваходзіла 2-гі армейскі корпус генерала ад кавалерыі Шэйдэмана С.М. Пасля вайны і рэвалюцыі ў Расіі, з былой імперыі і з нямецкага палону ў Ліду і Лідскі павет вярнулася не болей пятай часткі шарагоўцаў і некалькі афіцэраў. Адным з першых, ужо ў жніўні 1914 г. у нямецкі палон трапіў святар 172-га палка а. Аляксандр Нялюбаў. Пазней, з ваеннаабавязаных старэйшых узростаў якія пражывалі ў Віленскай губерні, была сфармавана 385-я пешая Віленская дружына дзяржаўнага апалчэння, якую ўзначалілі два лідзяніны - падпалкоўнікі запасу Адольф Малеўскі і яго намеснік Баляслаў Гейштаўт. Так сама была сфармавана конная сотня якую ўзначаліў падпалкоўнік запасу Пузынін[23].

**7 жніўня** англа-французскія і нямецкія войскі сутыкнуліся - на заходнім фронце пачалася Памежная бітва. Пасля крывапралітных баёў **16 жніўня** пала бельгійская цвердзь Льеж. На Ўсходнім фронце вайна пачалася з Ўсходне-Прускай аперацыі - **17 жніўня** руская армія перайшла мяжу, пачаўшы наступ на Ўсходнюю Прусію.

### 3. Чыгунка ў Лідзе на пачатку вайны

Яшчэ 14 ліпеня 1914 г., да пачатку Першай сусветнай вайны, пры дырэкцыі Палескай чыгункі быў створаны адмысловы камітэт для падтрымання належнага вайсковага парадку на дарозе[24].

На чыгунцы быў цалкам спынены рух пасажырскіх цягнікоў - ішлі цягнікі з мабілізаванымі, са спазненнем на 12 і болей гадзін рухаліся паштовыя цягнікі. Без дазволу ўладаў людзям стала немагчыма з'ездзіць нават у Вільню. І як раз 16 жніўня 1914 г., калі на Заходнім фронце паў Льеж, а расійскія войскі рыхтаваліся заўтра перайсці нямецкую мяжу, на станцыі Ліда адбылося крушэнне вайсковага цягніка, якое на нейкі час заблакавала важную вузлавую чыгуначную станцыю. Прычына крушэння цягніка - памылка стрэлачніка, прытым не ў пераносным, а ў самым прамым сэнсе. З судовай справы аб крушэнні[25], якая зараз захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, бачна, што, 16 жніўня (3 жніўня па старым стылі) 1914 г., каля 6 гадзін раніцы, пры выхадзе са станцыі Ліда, пацярпеў крушэнне вайсковы цягнік № 60, які ішоў на станцыю Вільня.

Абставіны крушэння былі наступныя. Атрымаўшы сігнал к адпраўленню і сігнал аб тым, што стрэлкі падрыхтаваныя, машыніст цягніка Сакруценка пачаў рух, аднак праехаўшы стрэлку №16, адчуў моцны штуршок пад паравозам і бакавое хістанне, з-за чаго прыняўшы ўсе неабходныя меры, спыніў цягнік. Аказалася, што паравоз і тэндар усімі коламі сышлі з рэек. За імі з рэек сышлі вагон 1-га класа і два вагоны 3-га класа, у якіх знаходзіліся ніжнія чыны. Пасля дагляду рэек аказалася, што пасля стрэлкі №16 паравоз пайшоў па трэцяй каляі - на Маладзечна, а вагоны па другой каляі - на Вільню. Гэта ўказвала на тое, што стрэлка № 16 была пераведзена ў той час, калі цягнік праходзіў па ёй. Дзяжурны сігналіст на блок-пасту, Мардас, прызнаўся жандармскаму ўнтар-афіцэру, які рабіў дазнанне, што атрымаўшы паведамленне аб адпраўленні цягніка № 60, ён паставіў стрэлку №16 на Вільню, але перад набліжэннем цягніка заўважыў, што напярэймы яму ідзе паравоз. Тады, баючыся сутыкнення, ён пераставіў стрэлку №16 на Маладзечна і даў паравозу[26] сігнал спыніцца. Паравоз спыніўся, і Восіп Мардас, бачачы, што вайсковы цягнік яшчэ не дайшоў да стрэлкі, зноў перавёў яе на Вільню. Але ў сапраўд-



*Лідскі Мікалаеўскі вакзал перад 1914 г.*

насці, паравоз вайсковага цягніка ўжо паспеў праехаць яе, і стрэлка была пераведзена пад тэндарам. Таму паравоз і вагоны пайшлі па розных рэйках, і адбылося крушэнне.

На шчасце, крушэнне не прывяло да сур'ёзных пашкоджанняў сярод жаўнераў. Пад час крушэння шараговец 177 пяхотнага Ізборскага палка Павел Зуеў, які сядзеў на верхніх нарах, ад штуршка страціў прытомнасць. На яго галаве знойдзены тры раны, якія доктар палічыў лёгкімі. Другі шараговец, 178 пяхотнага Вандэнскага палка Георгі Разанаў, пачуўшы крыкі пра крушэнне, скокнуў з вагона і пашкодзіў сабе нагу. "*У выніку нага апухла, на левай ступні доктар знайшоў сінякі*".

Прыцягнуты ў якасці абвінавачанага, Восіп Мардас прызнаў сабе вінаватым і пацвердзіў дадзеныя ім раней жандармам тлумачэнні. З судовай справы бачана, што "*селянін Шумскай воласці Віленскага павета і губерні Восіп Мардас, 30 гадоў, абвінавачваўся ў тым, што, працуючы стрэлачнікам-сігналістам станцыі Ліда, і знаходзячыся ў якасці дзяжурнага на блок-пасту станцыі, ён 16 жніўня 1914 г. па неасцярожнасці пры выкананні сваіх абавязкаў перавёў стрэлку №16 у той час, калі па ёй праходзіў вайсковы цягнік № 60, што прывяло да крушэння*" [27].

Пры аглядзе чыгуначнай каляі выяўлена: 15 рэек пагнута, 15 шпал і 23 перавадныя брусы зламаны. Згодна з інжынерным заключэннем, Палескай чыгунцы нанесена шкода на суму 851 рубель 55 капеек[28].

З судовай справы мы дазнаёмся, што Восіп Мардас - летувіс, каталік, незаконнанароджаны, пісьменны, да звыклага п'янства не схільны, маёмасці не мае, раней не судзімы[29].





***Фотаздымкі з справы пра крушэнне вайсковага цягніка ў Лідзе 16 жніўня 1914 г.***

Пад час допыту, начальнік станцыі Ліда Казімір Феліксавіч Якімовіч (48 гадоў, рэфарматарскага веравызнання, жыве пры станцыі Ліда) сказаў, што Восіп Мардас, служыў на станцыі Ліда ўжо тры гады. Пачаў працу з вартаўніка, потым перайшоў у стрэлачнікі. Адрозніваўся дакладнасцю ў працы і "цвярозасцю"[30]. Якімовіч сказаў: "*Памылку Мардаса я тлумачу выпадковасцю, а можа быць і стомленасцю, таму што ён дзяжурыў у гэты раз з 8 гадзін вечара, а крушэнне адбылося ў 6 гадзін раніцы*" [31].

Суд адбыўся 16 снежня 1914 г. у зале судовых паседжанняў Віленскага акруговага суда ў г. Лідзе без прысяжных засядацеляў, старшыня суда - А.В. Пятухоў. Разгледзеўшы справу, суд прыгаварыў: Восіпа Мардаса падвергнуць арышту ў памяшканні лідскай паліцыі на 10 дзён, усклаўшы на яго судовыя выдаткі, якія, аднак, з-за яго неплацежаздольнасці прыняць на кошт казны[32].

Больш за ўсё ў гэтай гісторыі мяне прыемна ўразіў гуманны прыгавор суда.

### 4. Жыццё горада на пачатку вайны

З пачаткам вайны, насельніцтва Расіі ахапіў вялікі патрыятычны ўздым, пра які шмат напісана. Зусім па іншаму паводзіла сябе беларускае насельніцтва, відавочцы тых падзей пісалі: "*У блізкіх да Вільні Ашмянскім і Лідскім паветах пайшлі размовы аб хуткай эвакуацыі насельніцтва. Паўстаў такі вэрхал, што сяляне кінуліся збіраць з палёў нават недаспелы хлеб. Наступствы гэтых дзеянняў былі сапраўды трагічнымі: увосень 1914 г. насельніцтва Літвы ўжо адчувала вострыя недахоп у асноўных прадуктах харчавання*" [33].

3 верасня 1914 г., калі Ўсходне-Пруская аперацыя, якая пачыналася з перамог расійскага войска, а скончылася поўным разгромам і ўцёкамі дзвюх расійскіх армій, у Лідзе яшчэ святкавалі перамогі расійскай зброі: "*Ліда. Гэтымі днямі прывязлі ў Ліду і насілі па вуліцах горада сцягі "Нямецкага ваеннага Таварыства", якія адабрала нашае войска ад немцаў у адной з бітваў у Прусіі*" [34].

Адметнай з'явай той вайны быў "сухі закон". У 1914 г., да пачатку Першай сусветнай, быў выдадзены царскі ўказ аб забароне вытворчасці і продажу ўсіх відаў алкагольнай прадукцыі на ўсёй тэрыторыі Расіі. Гандаль алкагольнымі вырабамі быў спынены 1 жніўня (19 ліпеня па старым стылі) - на час мабілізацыі, а ў канцы жніўня - на ўвесь час вайны. Моцныя алкагольныя напоі прадавалі толькі ў рэстаранах. У адказ на гэты ўказ з'явіліся шматлікія спробы абыходу, але сярэдняе спажыванне алкаголю на чалавека знізілася больш, чым у дзесяць разоў і, дарэчы, толькі ў 1960-х гадах спажыванне алкаголю на чалавека дасягнула ўзроўню 1913 г.

У нашым рэгіёне камандуючы 1-й арміяй генерал Рэненкампф "*ад 1 жніўня забараніў ва ўсёй Віленскай губерні тайны і яўны продаж гарэлкі, віна, піва і інш. ...хто парушыць, той, акрамя штрафу да 3000 рублёў або адсідкі ў турме ці цвердзі на тры*

*месяцы, будзе выселены з Віленскай губерні, а шынкі, каторыя парушылі ...будуць закрываецца"* [35].

Разам са станоўчымі вынікамі сухога закону, адразу з'явіліся і адмоўныя: таемнае самагонаварэнне, спажыванне сурагатаў і атручванне імі, парушэнне закону і тайны продаж алкаголю. 10 верасня газета "Беларус" паведаміла: *"Ліда. Камандуючы арміяй аштрафаваў на 1 000 рублёў тутэйшага жыдка Нохіма Левінзона за продаж алкагольных напояў салдатам"* [36]. Праз тыдзень затрымалі яшчэ аднаго гандляра моцнымі напоямі: *"У Лідзе губернатар аштрафаваў гаспадара піўной П. Дварэцкага на 1 000 руб., або 3 месяцы арышту, а піўную закрыў"* [37].

У канцы лістапада прэса паведаміла пра забарону *"продажу піва да канца вайны ў губернях, дзе аб'яўлена ваеннае становішча. Уладальнікі піўных падаюць прашэнні адчыніць чайныя або сталовыя"* [38].

10 і 13 верасня 1914 г. нямецкі дырыжабль Z-12 скінуў на чыгуначныя станцыі Ліда і суседнюю Вілейку 4000 кг бомбаў.

Першы пажар ваеннага часу ў горадзе адбыўся ў кастрычніку: *"Ліда. Тут нядаўна быў пажар, у якім згарэлі два дамы Тубялевіча і адзін Г. Брэма, шкода на 20 000 рублёў"* [39]. А на пачатку красавіка 1915 года газета "Беларус" паведаміла, што *"апошнімі днямі з невядомай прычына зрабіўся пажар, які цалкам знішчыў драўляны дом Захара Пупко"* [40].

Не гледзячы на вайну, жыццё працягвалася. Увосень 1914 года *"пры тутэйшай гімназіі для хлопцаў з дазволу міністэрства асветы адкрыты падрыхтоўчы клас. За навуку ў гэтым класе трэба плаціць 50 р. Прымаюцца хлопцы ад 8-мі да 10-ці гадоў"* [41]. А ўвесну 1915-га Лідская *"мясцовая ўправа ўстанавіла 4 стыпендыі для бедных вучняў родам з Ліды без розніцы веры"* [42].

Падчас вайны заўжды ўзрастае злачыннасць. У снежні 1914 г. *"абакралі ... краму купца Кагана, з якой выцягнулі розных мануфактурных тавараў (аксаміты, паркалі і інш.) на тысячы рублёў. Злодзеяў не злавілі"*[43]. А на пачатку 1915 г. газеты паведамілі: *"Ліда. Адсюль уцёк банкір Янушкевіч, зрабіўшы на мільён рублёў даўгі. Пра гэта піша "Утро России"* [44]. Праз месяц арыштавалі начальніка лідскай турмы: *"Ліда. Начальнік лідскай турмы С. Пяткевіч абвінавачаны за прысваенне сабе 824 рублёў 96 капеек, з якіх частка прызначана была на прыбаўку жалавання надзірацелям, частка належала арыштантам, а частка з прададзенай мукі, якая павінна была ісці арыштантам. Справу будзе разбіраць Віленская судовая палата, а тым часам начальніка турмы пасадзілі ў турму"*[45].

Увесну 1915 г. газеты паведамляюць пра захворванне плямістым тыфам: *"Як паведамляе "Віленскі веснік", ...у Лідскім павеце пачаў шырыцца плямісты тыф, каторы хоць і не мае эпідэмічнага характару, але ўсё ж такі лічба захварэўшых на тыф ... ад 30 да 50 душ"* [46]. Для барацьбы з тыфам, на дапамогу лідскім лекарам *"з Вільні ... накіраваны два лекары з ліку сувальскіх на змаганне з хваробай"* [47].

Пры канцы лістапада 1914 г. "Наша Ніва" піша пра беларусаў на вайне, у тым ліку і пра Язэпа Пашкевіча, афіцэра з Лідскага павета[48]. Ужо ў лютым 1915 г. газета на першай старонцы друкуе некралог "Памяці Юзюка Пашкевіча" [49] (*гл. дадаткі)*.

**5. Акупацыя**

У першай палове 1915 г. нямецкай арміі ўдалося перайсці ў паспяховае наступленне на Ўсходнім фронце. Пад пагрозай захопу апынуліся заходнія губерні краіны. Для таго, каб перашкодзіць немцам узяць мясцовыя стратэгічныя рэсурсы, расійскія ўлады вырашылі эвакуяваць ваенныя і прамысловыя прадпрыемствы, знішчыць сельскагаспадарчыя сховішчы і пасевы. Быў выдадзены ўказ аб прымусовым высяленні ў глыб імперыі насельніцтва заходніх губерняў. Пры адступленні рускае камандаванне імкнулася прымяніць тактыку 1812 г. - тактыку выпаленай зямлі. Войскам быў аддадзены загад не толькі разбураць шляхі зносін, але і спальваць гарады і вёскі, перамяшчаючы людзей і жывёлу на ўсход[50].

З самага пачатку зыход бежанцаў з Беларусі быў стыхійным (хоць першыя ўцекачы з'явіліся ў Беларусі яшчэ ўвосень 1914 г.), ніякага плана эвакуацыі насельніцтва не было. Няўдалы для расійскай арміі ход вайны летам 1915 выклікаў яшчэ большую хвалю перасяленцаў. Беларусь ператварылася ў лагер бежанцаў. У ліпені 1915 г. на ўчастку Кобрын - Пружаны - Баранавічы знаходзілася 400 тысяч бежанцаў. З 31 ліпеня па 15 жніўня 1915 г. з-пад Кобрына ў глыб краіны было адпраўлена каля 100 тысяч чалавек[51]. Лагера бежанцаў бамбіла нямецкая авіяцыя, многія трапілі ў нямецкі палон. Яшчэ адна плынь бежанцаў рухалася праз Пружаны - Слонім - Баранавічы і Беласток - Ваўкавыск - Слонім - Баранавічы. Колькасць перасяленцаў, якія сабраліся ў Баранавічах, дасягнула ў жніўні 100 тысяч чалавек. Многія ўцекачы месяцамі блукалі на прасторы ў некалькі дзесяткаў кіламетраў, напрыклад, гэта назіралася ў раёне Ліда - Наваградак[52].

Улетку 1915 года Ліда стала прыфрантавым горадам. У апошнія дні перад акупацыяй Ліды падзеі развіваліся гэтак:

На пачатку верасня моцныя баі ішлі на захад ад Ліды - каля Лядска, Дэмбрава. Уноч з 4 на 5 верасня расейскі 1-шы Сібірскі корпус быў выбіты з пазіцый каля Шчучына, і ў 11 гадзін раніцы **5 верасня** нямецкія войскі ўвайшлі ў гэтае мястэчка[53].

**19 верасня** баі ішлі ўжо пад Лідай. Афіцыйныя зводкі паведамлялі, што зацятыя баі ішлі таксама пад Вільняй, прычым праціўнік ужо ўрываўся ў горад, немцы цяснілі рускія войскі ў раёне Радуні.

**20 верасня** шматлікія атакі праціўніка на фронце на захад ад ўчастка чыгункі Беняконі-Ліда *"адбіваюцца з вялікім стратамі для праціўніка"*, у некалькіх месцах *"сярэдняй Віліі і ў раёне горада Вільні атрады германцаў перапраўляюцца на левы бераг ракі"* [54].

**21 верасня** страчана Вільня, расійскія войскі *"трошкі адсунуліся на ўсход"* [55].

**22 верасня** на ўсход ад Вільні баі працягваюц-

ца. На фронце Беняконі-Ліда і ў *"раёне р. Моўчадзь (на ўсход ад р. Шчары) нязначныя сутыкненні"* [56].

**23 верасня** зводка паведамляла, што ўжо на *"ўсход ад Ліды непрыяцель, пераправіўся цераз Гаўю, але зноў адкінуты на правы бераг"* [57].

Такім чынам, можна меркаваць, што немцы ўвайшлі ў Ліду **22 верасня 1915 г.**

**24 верасня** *"ў раёне Смаргоні, на паўднёвы-ўсход ад Вільні і ў раёне на ўсход ад Ліды ідуць паўсюдныя баі, якія дасягаюць вялікага напружання"* [58].

**25 верасня** ў раёне Ашмян і на поўдзень, а таксама ў раёне Ліда-Моўчадзь ідуць зацятыя баі.[59]

Пасля гэтых баёў Стаўка расійскага Вярхоўнага галоўнакамандуючага была переведзена з Баранавіч у Магілёў. У кастрычніку 1915 г. фронт стабілізаваўся на лініі Дзвінск - Паставы - Баранавічы - Пінск. Каля паловы тэрыторыі Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй.

У восень 1915 г. у Лідзе знаходзіўся штаб нямецкай арміі, пра што будучы генерал-палкоўнік Вермахта Р. Шмідт пісаў *"у лістападзе 1915 г. я ў якасці ад'ютанта штаб-афіцэра тэлеграфных войскаў, быў адкамандзіраваны ў штаб арміі, у горад Ліду, дзе 22 лістапада 1915 г. атрымаў чын капітана"* [60].

Міхал Шымялевіч пісаў што першыя ахвяры гэтай вайны, загінуўшыя каля Ліды, былі пахаваныя ў 1915 г. на старых каталіцкіх могілках, якія зараз знаходзяцца па праспекце Перамогі: *"Шэраг салідных драўляных крыжоў з надпісамі выкананымі гатычнымі літарамі, якія ... яшчэ чытаюцца: Браніслаў Плюціцкі. Саніт. Bialystoker Kriegs Hospital, Юзаф Зяневіч. 400, Мінскі полк, Баляслаў Скажынскі"* [61].

У 1916 г. немцы заснавалі адмысловыя ваенныя могілкі недалёка ад Паўночнага вайсковага гарадка. Могілкі былі агароджаныя невысокім мурам. Па праввым баку былі магілы нямецкіх і аўстрыйскіх жаўнераў, па леваму - расійскіх, якіх сабралі па палях пасля заканчэння баёў вакол Ліды. У канцы могілак, з паўднёвага боку, недалёка ад выязной брамы знаходзіўся прыгожы помнік часоў Першай сусветнай вайны ў форме піраміды, як пісаў у 1936 г. Аляксандр Снежка *"... пабудаваны з пэўным мастацкім густам з вялікіх груба абчасаных камянёў. Ля падножжа піраміды ляжыць паміраючы жаўнер, адліты з жалеза, пад ім выразаны надпіс "Fur das Vaterland""* [62].

### 6. Жыццё пад акупацыяй

Гэта раздзел, у значанай ступені напісаны па матэрыялах беларускай газеты "Homan" ("Гоман"). Гэтая беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета выдавалася з 15(28).02.1916 да канца 1918 ў Вільні на беларускай мове з дазволу акупацыйных германскіх уладаў. Выходзіла 2 разы на тыдзень лацінкай і кірыліцай (з 1.09.1916). Першым рэдактарам быў В. Ластоўскі, з № 33 (125), 1917 г. газету рэдагаваў Я. Салавей[63]. Сярод іншых матэрыялаў у рубрыцы "З усяго краю" газета друкавала разнастайную інфармацыю пра жыццё беларускіх гарадоў і мястэчак, у тым ліку і горада Ліды.



Der Kaiser in Lida bei der Armee des Generals von Eichhorn. 31. Mai 1916 (S. 418).
Phot. Gebr. Haeckel, Berlin.

***31 траўня 1916 г. Ліду наведвае кайзер Германії Вільгельма II, сустрэча кайзера на чыгуначным вакзале (здымак Вадзіма Нікалаева).***

На акупаваных землях была арганізавана акруга Обер-Ост (Ober-Ost). Лідскі павет для больш надзейнага кантролю за тэрыторыяй, быў падзелены на чатыры меншыя: Лідскі, Радуньскі, Васілішскі і Шчучынскі.

***Паўсядзённае жыццё, культура, адукацыя***

Газета "Гоман" прыводзіць цікавыя лічбы, якія сведчаць пра агульны стан на Лідчыне перад Першай сусветнай вайной: "Працэнт пісьменных рэкрутаў з Лідскага павета па гадах: 1904 г. - 54,3%, 1905 г. - 69,0%, 1906 г. - 49,3%" [64].

Першая беларуская школа ў зоне Обер-Ост была адкрыта 13 лістапада 1915 г. у Вільні на Юр'еўскай вуліцы, дзякуючы намаганням нашай зямлячкі А. Пашкевіч (Цёткі) і Б. Пачобкі.

На пачатку сакавіка 1916 г. газета "Гоман" паведаміла, што нямецкі галоўнакамандуючы Ўсходнім фронтам Гіндэнбург выдаў загад аб уладкаванні школ. Сярод іншага ў гэтым загадзе гаворыцца: *"Беларуская мова, як адменная ад расейскай, дапускаецца да ўжытку без ніякіх перашкод"*. Аб навуцы рэлігіі сказана, што *"яна павінна выкладацца ў матчынай мове вучняў, - значыць, у тэй мове, у якой бацькі гавораць з дзяцямі"* [65].

Найважнейшай праблемай быў недахоп настаўнікаў, большай часткаю мабілізаваных ці эвакуяваных у Расію. Аднак беларусы скарысталіся з загаду Гіндэнбурга, і ў лістападзе 1916 г. газета паведаміла, што ў Лідзе *"для тутэйшых настаўнікаў і настаўніц наладжаны педагагічныя курсы. На іх пакуль што вучыцца 26 душ"* [66].

Верагодна, найбольш вядомай беларускай школай на Лідчыне, арганізаванай у тыя часы, была школа ў вёсцы Збляны. У 1914 г. у Зблянах згарэў будынак старой школы. Да пачатку Першай сусветнай вайны сяляне атрымалі страхоўку за згарэўшую школу і купілі будаўнічыя матэрыялы. Пры канцы 1915 г. новая школа была пабудавана, і вяскоўцы, ужо пад нямецкай акупацыяй, скарыстаўшыся са свайго права, адчынілі у сябе беларускую школу. Беларуская школа існавала тут да сярэдзіны 1920-х гадоў.[67]

Улады Обэр-Оста прынялі рашэнне адкрыць беларускую настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы, дзе на некалькіх месячных курсах павінны былі атрымаць падрыхтоўку новыя кадры. Цяжка аказалася знайсці выкладчыкаў, таму заняткі ў семінарыі пачаліся толькі 15.10.1916 г. і працягваліся да 15.11.1918 г. Дырэктарам яе быў анямечаны сілезец Бэндзеха, а выкладчыкамі, між іншым, Б. Пачобка і Квяцінскі, часова - прафесар Рудольф Абіхт з Уроцлаўскага ўніверсітэта. У выніку тут атрымалі падрыхтоўку 144 настаўнікі беларускіх школ.[68]

У Свіслачы вучылася і моладзь з Лідчыны: *"У тутэйшай беларускай вучыцельскай семінарыі навукі ідуць поўным ходам. Работа ідзе ахвоча, бо ўсе курсісты - гэта шчырыя беларусы, сыны беларускай вёскі, з'ехаўшыеся з розных ваколіц: з-пад Васілішак, Плянт, Гродна, Беластоку і г.д. хаця курс навук толькі трохмесячны, аднак пры акуратна наладжанай рабоце яго праходзяць як мае быць, і ў снежні месяцы вучні пачнуць практыку ў адкрытай пры семінарыі пачатковай беларускай школе. У семінарыі варункі навукі надта выгодныя. Вучні жывуць у самой семінарыі і маюць тут поўнае ўтрыманне. Кормяць добра: на абед ёсць мяса, а і на вячэру даюць гарачую страву. І за гэта - разам з платай за вучэнне - бяруць з іх у месяц 41 марку, за увесь курс - 123 маркі. Гэткія грошы лёгка можа сабраць кожная вёска ці грамада і за гэта можа выхаваць сабе свайго настаўніка - аднаго паміж сваіх сыноў, абы ён быў скончыўшы прынамсі народную школу. 1 лютага курс навукі будзе закончаны, і пачнецца новы курс, на каторы можна запісацца. Хай жа людзі загадзя падумаюць аб тым, каб сваіх дзяцей выправіць на навуку і гэтак зусім невялікім коштам даць ім магчымасць зарабіць сабе на хлеб і служыць свайму народу"* [69].

На пачатку 1917 г. паведамлялася пра новы набор у семінарыю: *"Запісвацца на новы трохмесячны курс у Свіслацкай Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі, каторы пачнецца 1 лютага, трэба ў Вільні не пазней за 10 студзеня ў Stadschulrata, Дамініканская, 3, пакой 55. Варункі навукі: за навучанне - 5 марак у месяц, за поўнае ўтрыманее - 36 м., разам 41 м. у месяц і за ўвесь курс 128 м. Плаціць можна памесячна - наперад. Хто хацеў бы ехаць вучыцца з вёскі, можа заявіць аб гэтым у сваім Крэйсамце (Kreisamt - павет), дзе яму дадуць усе патрэбныя ведамасці"* [70].

На пачатку 1917 г. *"Галоўнакамандуючы на Ўсходзе адведаў лідскія школы"* [71], што сведчыла пра цікаўнасць акупацыйных уладаў да сістэмы адукацыі.

У лістападзе 1916 г. "Гоман" перадрукаваў з нямецкай Ковенскай газеты ""Kownaer Ztg." артыкул у якім, хоць і з недакладнасцямі, падавалася гісторыя нашага горада. Я думаю, будзе цікава прывесці змест артыкула цалкам:

*"Ліда - гэта адзін з найбольш старых гарадоў Краю. Ад пачатку горад і ваколіцы былі незалежным удзельным княствам князёў Дайноўскіх. У 1180 годзе заваёваны літвінамі, якія зруйнавалі горад і адбудавалі новую Ліду. Ліда была памежным горадам паміж Літвой і Русю. У 1242 гадзе да Ліды дайшлі манголы, але былі разбіты. У 1326 г. вялікі князь Гедымін пабудаваў мураваны замак. Ягайла дараваў горад свайму ўлюбёнцу Вайдылу. У 1381 гаду горад заваяваў князь Вітаўт з дапамогай немца Конрада Валенрода, узяў і зруйнаваў горад. У 1394 г. горад ізноў быў зруйнаваны крыжакамі. У часе войнаў паміж маскалямі і Рэччу Паспалітай Ліда не раз цяжка пацярпела. Гэтак яе зусім зруйнаваў у 1659 г. князь Хаванскі. У 1702 г. шведы ўзарвалі Лідскі замак. Гарадскі архіў перавезлі ў Смаленск, дзе ў 1812 г. ён згарэў. У 1795 г. горад далучаны да Расеі. Ад 1802 г. належала да Гродненскай губерні. У 1842 г. Ліду зрабілі павятовым горадам і далучылі да Віленшчыны. Герб Ліды, засведчаны ў 1845 г. складаецца з двух частак: у верхняй частцы - герб Віленскай губерні, у ніжняй - на зялёным полі сноп і серп, як знак, што ў ваколіцах Ліды жыхары займаюцца пераважна гаспадаркай"* [72].




***Вайсковы канцэрт на Рынкавая плошчы ў Лідзе, фотаздымак з Die Woche, Jahrgang 1916 Nr. 24.***

Думаю, будзе цікава прывесці некалькі навін з культурнага жыцця горада Ліды ў тыя часы. На пачатку жніўня 1917 г. газета паведаміла, што *"ад 1 да 3 жніўня тут іграў нямецкі тэатр з Берліна"* [73]. Праз некалькі тыдняў хтосьці з лідзян пісаў ў газету: *"Тутэйшае жыццё пры цяперашніх цяжкіх варунках праходзіць даволі разнастайна і весела. Ад часу адбываюцца нямецкія і яўрэйскія спектаклі, канцэрты і іншыя забавы, у тым ліку нядаўна ў гарадскім садзе адбыўся "дзень кветкі". У кастрычніку тут адбудзецца з'езд нямецкіх вайсковых пастараў"* [74]. 4 верасня 1917 г. газета пісала, што ў Лідзе "*на кароткі час адкрыта нямецкая ваенная выстаўка"* [75]. А 14 верасня таго ж года невядомы аўтар падсумоўваў вынікі культурнага жыцця горада за некалькі тыдняў: *"Аб тутэйшым жыцці можна меркаваць паводле адбыўшыхся адна за аднэй урачыстасцях, як публічнае гулянне, выстаўка штукарства, сход спевакоў і свята спорту. На выстаўцы можна было пабачыць каля 800 экспанатаў"* [76].

### *Гандаль, эканоміка*

Жыццё пад акупацыяй у прынцыпе не можа быць добрым. Яшчэ Напалеон сказаў: "*Вайна павінна сама сябе карміць"*. Таму любая акупацыйная ўлада заўжды будзе карыстацца рэсурсамі акупаванай тэрыторыі для сваіх мэт, ужываючы для гэтага розныя механізмы: ад простага рабавання да выкарыстоўвання складаных механізмаў эксплуатацыі праз гульню з курсам валюты, якая адмыслова ўводзіцца на акупаваных тэрыторыях.

На нашай тэрыторыі адначасова з акупацыйнымі маркамі мелі хаджэнне і старыя царскія рублі, курс на якія ўстанаўліваўся адміністрацыйна. Напрыклад, у жніўні 1916 г. "Гоман" інфармаваў: *"Курс рубля. Афіцыйны курс - 1 марка 75 пф., у банках на рубель пры продажы даюць 1 марку 89 пф., пры куплі 1 марку 93 пф."* [77].

Акупацыйныя ўлады стрымлівалі інфляцыю на акупаванай тэрыторыі праз механізм замарожвання цэнаў. Практычна адразу яны пачалі рэгламентаваць кошт харчовых тавараў: *"Цана на яйкі. Цэны на яйкі за апошні час шмат перавысілі ўстаноўленую найвышэйшую цану. Найвышэйшыя цана ўстаноўлена ў 15 пфенігаў за адно яйцо, і толькі у асаблівых выпадках дазволена браць 18 пфенігаў за штуку. Тым часам гандляры ніколі не бяруць меней 20 пфенігаў"* [78]. *"Найвышэйшая цана на новую бульбу ў ... назначана 5 марак за цэнтнер"* [79]. *"Назначаны цэны за хлеб: за 1 расейскі фунт хлеба 15 пф. або 8 кап., за 1 расейскі фунт мукі 20 пф., або 10,5 кап."* [80].

Табачныя вырабы пад час вайны з'яўляюцца *"стратэгічным таварам"*, таму *"у межах Обэр-Ост усе папяросы паводле цэн будуць разделены на 10 груп: па 2, $2^1/_2$, 3, $3\ ^8/_{10}$, $4\ ^3/_{10}$, 5, $6^1/_2$, 8, $10^1/_2$ і $12^1/_2$ пф."* [81].

Тое самае тычылася і мёду: *"Увесь мёд, сабраны сёлета, павінен быць здадзены нямецкім уладам за плату 2 маркі за нямецкі фунт. Інакш яго будуць канфіскоўваць"* [82].

Кошт тавараў на Лідскіх рынках газета не друкавала, але, зразумела што яны павінны былі быць трошкі ніжэйшымі за кошты ў Вільні, пра якія газета ў жніўні 1916 г. пісала: *"На віленскіх рынках паявілася многа свежых фруктаў. Цэны трымаюцца пакуль што высокія. Бульба, гранец 16 пф.; Галава капусты 20 пф.; Пучок морквы 23 пф.; 1 бурак 3 пф.; Яблыкі, за расейскі фунт 10 пф.; Грушы, за расейскі фунт 30 пф.; Вішні, за расейскі фунт 30 пф.; Слівы, за расейскі фунт 30 пф.; Чарніцы, кварта 25 пф.; Брусніцы, кварта 10 пф."* [83].

Цвёрда рэгулявалася праца рынкаў і крамаў: *"Усе крамы і публічныя месцы продажу ... павінны аставацца аткрыты ў гэткія дні: у-ва ўсе будні, нядзелі і святочныя дні ад 8 гадзін раніцы да 5 гадзін вечара. Іх можна дзяржаць аткрытымі да 8 гадзін вечара"* [84].

У сакавіку 1916 г. газета пісала: *"Немцы забаранілі продаж спіртных напояў, нават піва. Тутэйшыя бровары ... маюць права прадаваць сваё піва толькі ваенным атрадам, ваенным крамам, прытулкам і паадзінокім ваенным. Некаторыя тутэйшыя рэстараны маюць права так сама атрымоўваць з брагай піва, але толькі дзеля продажу ваенным. За парушэнне гэтага прыказу накладаецца вялікая кара - грошамі ці астрогам"* [85]. Верагодна, таму ў Лідзе *"ў быўшым бровару ... пачала працаваць фабрыка грыбных кансерваў. На ёй працуе больш за 120 жанчын і дзяўчат"*[86], тым больш, што ў жніўні 1916 г. *"з-за дажджоў сёлета незвычайна ўрадзілі грыбы"* [87].

Летам 1917 г. газета паведамляла, што *"цяпер у межах Обэр-Ост працуюць 600 млячарань рознай велічыні. Цэны на масла будуць павялічвацца з 250 да 300 марак за цэнтнер. Пастаўшчыкі малака будуць атрымліваць за сваё малако таксама вышэйшую цэну, каб павялічыць здабыванне малака"* [88].

Нямецкія акупацыйныя ўлады пабудавалі гарадскую электроўню (верагодна як і ў Наваградку ў 1916 г.). Элетроўня знаходзілася на тым жа месцы што і зараз і мела два дызель-генератары агульнай магутнасцю ў 220 кВт.[89]. Тады ж, неадалёка ад элетроўні, па вуліцы Віленскай, быў пабудаваны фахверкавы[90] будынак пажарнай аховы.

Пад акупацыяй у горадзе ўстойліва працавалі чыгунна-ліцейны завод, 6 тартакоў, машынны млын, тытунёвыя фабрыкі. З Германіі было прывезена сучаснае абсталяванне і ўсталявана ў Лідскім чыгуначным дэпо. Асаблівая ўвага была нададзена чыгуначнай станцыі ў Сяльцы, там былі ўсталяваны новыя механізмы, пабудаваны пад'язныя шляхі, будынкі пакгаўзаў і да т.п. На тэрыторыі павета былі пракладзены новыя вузкакалейныя чыгуначныя шляхі. Цікава адзначыць той факт, што менавіта германскія акупанты пачалі распрацоўку тарфяных пакладаў, якімі багатая Лідчына.

Па архіўных крыніцах за гады акупацыі ў горадзе працавала больш за 2 000 прамысловых працоўных, з іх значны лік складалі чыгуначнікі. Некалькі сотняў чалавек на тэрыторыі павета былі заняты аховай камунікацый - шляхоў, мастоў і да г.п.

Былі дазволены прафсаюзы. Найболей шматлікім стаў прафсаюз яўрэйскіх працоўных "Арбейтэр Гейм", які пры канцы 1918 г. налічваў каля 300 чалавек. Дарэчы сказаць, за гады акупацыі фактычна не спынялася дзейнасць мясцовых аддзяленняў польскіх і яўрэйскіх палітычных партый і арганізацый.[91]

### *Злачыннасць, няшчасныя выпадкі*

Як і заўжды, падчас вайны вырасла злачыннасць.

Раз за разам адбываліся рабункі з забойствам ахвяры, 4 ліпеня 1916 г. газета паведаміла, што *"яўрэй - купец Гірш Сэрванскі, з Ліды, у панядзелак пасля Тройцы забіты і абрабаваны па дарозе з Ліды ў Жырмуны. Забойцаў, як здаецца, было трое. Улады абяцаюць узнагароду 500 марак таму, хто пакажа забойцаў"* [92].

Некалькі разоў газета пісала пра забойства Люцыяна Габрылеўскага, якое адбылося ў Лідскім павеце. У выніку акружны суд у Гародні прыгаварыў забойцу *"землякопа Захара Рамашку за рабунак і душагубства ... на смерць. 24 чэрвеня ён забіў і абрабаваў гаспадарскага сына Люцыяна Габрылеўскага на дарозе з Эйшышак у Бутрыманцы"* [93]. На пачатку кастрычніка газета паведаміла, што асуджаны на смерць за забойства землякоп Раман Рамашка, родам з-пад Радуні, *"ужо пакараны смерцю"* [94].

У кастрычніку 1916 г. забойства адбылося ў вёсцы Ольжава, што каля Ліды. Жыхар гэтай вёскі *"Канстанцін Мазалеўскі за душагубства і спробу забіць чалавека засуджаны на смерць"*[95]. Пад час вайны прыгаворы хутка прыводзіліся ў дзеянне, ужо 28 лістапада цікаўныя даведаліся, што *"сын селяніна Канстантын Мазалеўскі, засуджаны гродзенскім акружным судом за забойства, павешаны ў пятніцу пасля абеду"* [96].

Канешне ж, не заўжды рабаўніцтва заканчвалася забойствам. У верасні "Гоман" расказаў такую крымінальную гісторыю на Лідчыне: *"У двух яўрэяў з Ліды з пасвішча ўцяклі дзве каровы. Іх знайшлі ў Радунскім павеце. Па дарозе да хаты каля Кербядзёў іх затрымалі два невядомыя і запатрабавалі грошы. Міравы суд абодвух ліхадзеяў за гвалт засудзіў на 6 месяцаў у астрог кожнага"* [97].

Нехта спрабаваў падзарабіць зводніцтвам, у Лідзе *"Ян Наталевіч і жонка яго, Марыя, за "зводніцтва" і распусту засуджаны: Ян - на 1 год, Марыя - на 2 месяцы, у астрог"* [98].

Здараліся злачынствы на сексуальнай глебе. У Лідзе ў кастрычніку 1916 г. *"за згвалтаванне дзяўчыны гаспадар Ян Боленс засуджаны ў папраўчы дом на 1 год 4 месяцы"* [99].

Хтосьці спрабаваў падзарабіць вымагальніцтвам, у Іўі *"гандляр Мендзель Левін за вымаганне ў аднаго хлопца з Ліды грошай, пад страхам выдаць яго кражу, аб каторай Левін ведаў, засуджаны на $1^1/_2$ года*

*ў астрог"* [100].

А нехта, як селянін Даўгоўскі з вёскі Рэзы, што пад Шчучынам, помсціў сваім крыўдзіцелям. У вёсцы Рэзы *"згарэлі драўляныя свіраны Вінцэнтага Пачука і Фелікса Рачука. Западозрылі селяніна Даўгоўскага, каторы, як думаюць, падпаліў, каб помсціць старасце Вінцэнту Пачуку. Яго чакае кара смерці"* [101].

Агульнавядомага ў Лідзе і раней судзімага расейскай уладай Яна Боландзя не абышлі бокам і акупацыйныя улады: *"Ліда. За ўкрывальніцтва стрэльбы і медзі. Упраўляючы Ян Боландзь засуджаны акруговым судом за гвалт і ўзлом, так сама судзіўся за ўкрыванне паляўнічай стрэльбы і незаяўку меднага посуду, які знайшлі схаванымі ў хляву. Ён засуджаны на 5 гадоў папраўчых работ"* [102].

Як і ў мірны час, сяляне пакутавалі ад канакрадаў, напрыклад, у лістападзе 1916 г. газета паведамляе: *"Ліда. Шавец Міхал Запаснік з Кербядзёў, работнік Юрка Кузьма і 67-гадовы Хацкель Радунскі ўкралі 4-х коней з пасвішча. Першых двух засудзілі на 4 года ў астрог, трэцяга, з-за недахопу доказаў апраўдалі"*[103]. Праз год "Гоман" піша, што ў лідскіх *"... ваколіцах ізноў узняліся крадзяжы коней, якіх пасля за бясцэнак перапрадаюць далей. Трэба напомніць, што гэткія куплі вызываюць ня толькі канфіскацыю коней, але і высокія штрафы грашыма"* [104]. І на самай справе, улады каралі не толькі злодзеяў, але і тых хто паквапіўся на таннага каня: *"Гандляр рыбай, Шварц, купіў двух коней, аб якіх ведаў, што яны крадзеныя, і паехаў прадаваць у Гародню. Яго засудзілі на 1000 марак штрафу, або 100 дзён астрогу. Коні канфіскаваныя"* [105].

Газета неаднаразова пісала пра з'яўленне фальшывых грошай і размяшчала аб'явы акупацыйных уладаў пра ўзнагароды тым, хто дапаможа выявіць фальшываманетчыкаў, аб'ява жніўня 1917 г.: *"1000 марак награды. Галоўнае ўпраўленне пазыковых кас (Darlehenskassen) у Берліне суліць награду да 1000 м. таму, хто выкрые ці пакажа паліцыі на майстроў фальшывых двухмарковак, якія ізноў вельмі пашыраюцца ў межах Обэр-Ост."* [106].

Да вайны ў Радуні не было турмы, таму пасля стварэння немцамі Радунскага павета, у 1916 г. тут *"адчынена новая мураваная турма на 40 душ"* [107].

У канцы жніўня 1918 г. гарадзенская паліцыя арыштавала гастралёраў, *"злодзеяў з Ліды, якія ўжо ехалі дахаты з пакрадзеным дабром з трох крадзяжоў з узломам. Адзін з лідскіх злодзеяў - хлопец 14 гадоў"*[108]. А ў кастрычніку з гарадзенскай турмы ўцёк канакрад, пра якога напісана вышэй, жыхар Ліды *"шавец Міхал Запаснік, 18 гадоў, з Зарэчнай вуліцы, 14. Яго шукае беластоцкі акружны суд"* [109].

Здаралася і такое: *"Радунь. 17 лістапада, нямецкія патрулі задзяржалі банду ў 15 чалавек. Пры спробе ўцікаць уся банда была знішчана"* [110].

У зімку 1918 г. газета паведаміла, што па дарозе Ліда - Гародня, каля Новага Двара, *"конь, спужаны аўтамабілем, панёс і разбіў санкі аб тэлеграфны слуп. Міліцыянт Якабсан зваліўся з санак і папаў пад аўтамабіль, каторы яго задавіў на смерць"* [111].

4 студзеня 1918 г. газета паведаміла: *"Шчучын. 4 студня ў вечары замак кн. Сапегі ў Спушановай, каторы называўся Тарак, згарэў да тла з усімі рэчамі. Удалося выратаваць толькі некалькі рэчаў. Агонь ад пажару адбіваўся на хмарах у форме крыжа. Народ перакананы, што гэта знак скорага міру"* [112]. Верагодна, першай пабудовай у закапанскім стылі на гістарычнай Лідчыне быў сядзібны дом Сапегаў у Спушы (сучасны Шчучынскі р-н). Дом пачаў будаваць у канцы



***Сядзібны дом Сапегаў у Спушы***

XIX ст. Ян Павел Аляксандр Сапега, будаўніцтва закончыў яго сын Яўстафі Каятан Сапега. Сядзіба складалася з пяці жылых пабудоў, аранжарэі, стайняў, цяпліц, галоўны дом неаднаразова дабудоўваўся і паляпшаўся. Сядзібны дом Сапегаў у Спушы быў найбольш цікавым будынкам у закапанскім стылі на Лідчыне.

### *Адміністрацыя, кіраванне тэрыторыяй*

Восенню 1916 г. яўрэйская грамада горада арганізавала сталовую для сваёй беднаты, так званую "Народную кухню": *"Ліда. Тут з дапамогай нямецкай улады яўрэйская грамада адкрыла страўню, каторая выдае 700 абедаў у дзень. Палову абедаў выдаюць дарма, за другую бяруць па 10 пфенігаў"* [113]. "Народная кухня" знаходзілася на рынкавай плошчы горада, захавалася некалькі паштовак з яе выявамі.

Адкрылася сталовая і ў Радуні: *"Яўрэйскі камітэт адкрыў народную страўню ў якой бедныя людзі на 10 пфенінгаў дастаюць дзве талеркі пажыўнай супы"* [114], і рыхтавалася да адкрыцця ў Эйшышках: *"Для наладжання тут народнай страўні, каторая не мае патрэбных грошаў, збіраюцца ахвяраванні"* [115].

У лістападзе 1916 г. газета паведамляе, што, *"пасля перапісу жыхароў у Лідскім, Мерачскім, ... паветах, для жыхароў гэтых паветаў мае сілу прыказ мець пры сабе пашпарт"* [116]. Насельніцтву акупаваных абшараў немцы выдавалі пашпарты (пасведчанні асобы), прыгодныя нават для міжнародных падарожжаў. Цікава, што гэтыя пасведчанні змяшчалі адбіткі пальцаў. У калекцыі аўтара ёсць паштоўка часоў Другой Сусветнай вайны, на якой жыхары горада Ліда здаюць адбіткі пальцаў для атрымання пашпартоў. Менш вядома, што ў бланку гэтых эрзацпашпартоў была таксама беларуская мова лацінкай у класічным правапісе. Пра гэта беларусам напамінаў




***Перад выдачай пашпарта, бяруць адбіткі пальцаў, 1917.***

Зіма 1917 г. была вельмі суровай і снежнай. Улады, рабілі намаганні для расчысткі дарог: *"Радунь. Тут былі сільныя снежныя заносы. Дарогі зрабіліся не праежджанымі. Загаданы адпаведныя крокі дзеля іх расчысткі"* [119]. Але ў Радуні *"ачысткі дарог ад снегу вельмі шкодзіць вецер, які ўраз жа заносіць ачышчаныя дарогі"* [120]. *"Ліда. Даносяць аб снежных мяцеліцах у Лідскім павеце. Дарогі гэтак занесены снегам, што па іх немагчыма праехаць. Іх цяпер расчышчаюць"* [121]. У сувязі з моцнымі маразамі, лідскія гарадскія ўлады спрабавалі дапамагчы бедным, *"з прычыны вялікіх халадоў гарадская ўправа выдала бедным 475 кубічных метраў дроў"* [122].

У гэтую ж зіму дапамагаць беднаце пачалі і самі акупацыйныя ўлады: *"Ліда. Вялікую падмогу для тутэйшай беднаты дае тутэйшая публічная страўня. Порцыя абеду каштуе толькі 10 пфенігаў. Галоўнакамандуючы арміяй аддаў на яе вялікую часць даходу з кінематографаў. Ад 25 чэрвеня да 31 снежня выдана ўсяго 67 тысяч порцый стравы, у тым ліку каля 15 тысяч без ніякай платы"* [123]. Ёсць паштоўка, на якой нямецкія жаўнеры раздаюць суп тым жыхарам горада, якія мелі ў гэтым патрэбу.

"Гоман": *"Так званыя пашпарты Обэр-Ост выдаюцца і ў беларускай мове. Беларусы павінны вымагаць, каб ім выдавалі беларус-кія пашпарты. Як нам наказваюць яшчэ дагэтуль, не ўсе беларусы ведаюць, што ёсць беларускія па-шпарты"* [117].

У лістападзе 1916 г. на тэрыторыі гістарычнага Лідскага павета, у Эйшышках, *"каралеўска-прускі мецеаралагічны інстытут устроіў тут невялікую абсерваторыю дзеля нагляду за пагодай"* [118].







***Яўрэйская бясплатная кухня для бедных, 1916.***



***Каля Народнай кухні, 1917 г***

У ліпені 1917 г. газета даводзіць да жыхароў акупаваных тэрыторый загад нямецкага галоўнакамандуючага, пра тое, *"як тутэйшыя жыхары павінны ставіцца да варожых лятуноў. За не спаўненне яго караціымуць штрафам да 10 000 марак або астрогам на 5 гадоў. Загад забараняе падыходзіць да спусціўшагася сваёй ахвотай ці проці волі варожага лятуна, апроч прыпадкаў, калі трэба памагчы пагібаючаму лятуну ці выратаваць яго машыну ад знішчэння. За даванне летаючым варожым лятунам якіх-кольвечы знакаў, вінаватых будуць аддаваць пад суд за здраду гасударства"* [124].

Летам 1917 г. нямецкі імператар Вільгельм II наведаў фронт: *"Крэва. 30.VII. Нямецкі імператар быў сёння на фронце Смаргонь - Крэва і дзякаваў войску*




**Раздача жаўнерамі супа бедным, 1917.**

*за адбіццё апошніх штурмаў расейцаў. Шмат каму з адзначыўшыхся салдат імператар сам даў жалезныя крыжы"* [125].

Нумар "Гомана" ад 9 кастрычніка 1917 г. піша пра тое, што ў Лідзе *"на сёмую пазыку падпісана дагэтуль на 6 900 марак"*, гэты ж нумар друкуе некралог па Максіму Багдановічу[126], а ў нумары ад 9 лістапада паведамляецца пра рэвалюцыю ў Пецярбургу[127].

У снежні 1917 г. у ваколіцах Ліды *"аб'явіліся ваўкі. На статак ... напалі ваўкі і зарэзалі свіню"* [128].

Аднак жыццё працягвалася, у Лідзе *"ад 1 кастрычніка 1917 г. да 1 сакавіка 1918 г. тут нарадзілася 47 дзяцей ... памёрлі 124 асобы"* [129].

Нумар "Гомана" ад 3 красавіка 1918 г. пад загалоўкам "Незалежная Беларусь" паведаміў: *"Сталася тое, чаго ўсім сэрцам і ўсёй душой жадае здаўна ... беларускі народ: у Менску Беларускім ... Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў ноч з 24 на 25 марта апавясціла дзяржаўную незалежнасць нашае Бацькаўшчыны ..."* [130]. Пачынаўся адлік новай гісторыі нашай дзяржавы.

**16 траўня** 1918 г. ліквідаваны Васілішскі павет[131].

**10 верасня** 1918 г. у Гародні адбыўся рэгіянальны кангрэс сіяністаў, дзе сярод дэлегатаў з Вільні, Гародні, Беластока, Коўні і інш., былі і дэлегаты з Ліды[132].

### 7. Заканчэнне нямецкай акупацыі

**11 лістапада** 1918 г. закончылася Першая сусветная вайна, германскае камандаванне ў Камп'енскім лесе падпісала перамір'е з краінамі Антанты. Было вырашана ўтварыць Польскую дзяржаву. Гэты дзень жыхары Польшчы святкуюць як Дзень Незалежнасці.

Пры канцы 1918 г. палітычнае становішча ў горадзе і павеце рэзка абвастрылася. Мясцовыя палітычныя фракцыі - польская, яўрэйская і ў меншай ступені - літоўская імкнуліся да таго, каб германскія акупанты пры сваім адыходзе перадалі ўладу менавіта ў іх рукі. Аўтар кнігі "Самаабарона Лідскай зямлі" Юзаф Дзічканец піcаў: *"Калі даведаліся, што немцы рыхтуюцца да таго, каб пакінуць Віленскую зямлю, у Лідзе зашумела, як у вуллі. Прадстаўнікі кожнай нацыянальнасці імкнуліся стварыць нейкую сваю арганізацыю, якая б пасля адыходу немцаў мела найбольшы ўплыў на ход палітычных і нацыянальных спраў у горадзе"*, а ў паводзінах акупантаў на *"пачатку лістапада 1918 года можна было назіраць нейкія дзіўныя перамены ... . На тварах не толькі нямецкага камандавання, але і звычайных радавых можна было заўважыць прыкметы нейкага прыгнёту"* [133].

У снежні 1918 г. міністар беларускіх спраў Літвы Язэп Варонка прызначыў *"камісараў ў беларускія паветы Літвы"*, у Лідскі павет быў прызначаны **Е. Пашкевіч**[134]. Пры канцы снежня 1918 г. Рада Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі прызна-чыла міравых суддзяў, якія былі ўпаўнаважаны прыняць ад нямецкіх судоў справы, дакументы, кнігі, грошы, інвентар. Яны ж былі павінны часова выконваць абавязкі судовых следчых. У Лідскі павет быў прызначаны **Антон Каўшун**[135].

Беларускі рух у горадзе узначаліў былы лідскі спраўнік, ветэран Першай сусветнай вайны, генерал-маёр **Яўген фон Гротэ дэ Буко**[136].

У Лідзе былі створаны польскія арганізацыі: атрад Самаабароны, Народная Рада Лідскай зямлі, Таварыства полек, Таварыства польскай моладзі і рабочы прафсаюз. Народная Рада ўзнікла ў палове лістапада 1918 г. па ініцыятыве аптэкара Рудольфа Бергмана, падпаручніка Вацлава Шукевіча, адваката Станіслава Іваноўскага і доктара Рамуальда Сапоцькі. На першым сходзе, які адбыўся ў прыватнай кватэры Рудольфа Бергмана (будынак старой аптэкі), было вырашана даць ёй афіцыйную назву "Народная Рада Лідскай зямлі". Рада ставіла перад сабой мэту пераняць пасля акупантаў уладу і нерухомую маёмасць у горадзе і павеце[137]. У лістападзе 1918 г. беларускі актывіст з Ліды Сымон Сяўрук пісаў у газету пра ставарэнне Народнай Рады:

*"Адным з месц панскай польскай агітацыі ёсць Лідзскі павет. Тут паны раз'яжджаюць па вёсках і ўсякімі хітрыкамі ўмаўляюць сялян падпісвацца пад просьбамі аб прылучэнні да Польшчы і аб прысланьні польскіх легіонераў. Памагаюць у гэтым і лідзскія ксяндзы - палякі, дзекан і пробашч. Даходзіць навет да гэткіх здарэньняў, што напрыклад, пушчаецца погаласка, што дзекан выдае квіткі на дармавы хлеб. Народ кідаецца да дзекана, а дзекан пасылае іх да пробашча, каторы неграматных людзей падпісвае пад просьбай аб прылучэньні да Польшчы і г.д.*

*Уся гэтая нагодная работа балямуцтва і маны дзеецца тут заўсёды і нікога ня дзівіць. Але вось польскім панам, спалоханным рэволюцыяй, захацелася чагось вялікшага, паны каб змацаваць сваё панаванне над гаротным народам, пастанавілі арганізаваць "польскую раду Лідскай зямлі". Каб гэта было ў іншым часе, дык паны на мужыкоў і ўвагі не зьвярнулі б. Але цяпер рэволюцыя, і паном патрэбна была сялянская закраска. Аднак ня гледзячы на ўсе стараньні паном удалося прыцягнуць толькі некалькіх чалавек. 10 лістапада назначана было сабраньне, каб выбраць польскую раду. Сабраньне адбывалася ў плябанні, у дзекана. На гэтае сабраньне было прыцягнена толькі каля 12 чал. сялян, а рэшта былі паны. Адкрыў сабраньне кс. дзекан, каторы гаварыў аб багацьці Польшчы, аб патрэбе прылучэньня да яе, аб легіонерах і г.д. Як прышло да "выбараў" у польскую раду, то паны выставілі адразу сваіх кандыдатаў. Як прышла справа да сялян, дык ня было з чаго выбіраць і захрыстыян адлічыў 8 чал. і ўпіхнуў як прадстаўнікоў ад сялян. Гэтак была ўтворана "польская рада Земі Лідзкей"."* [138].

Польскае насельніцтва пачало фармаваць Самаабарону. Віленская Самаабарона сфармавалася ў Вільні ў лістападзе 1918 года. Галоўны штаб Самаабароны знаходзіўся ў Вільні, штаб першай групоўкі - у мястэчку Падброддзе, а штаб другой групоўкі - у Лідзе. Лідская групоўка мела тры аддзелы Самаабароны: у Лідзе, Шчучыне і Эйшышках агульнай колькасцю больш за 320 чалавек. Ганаровым кіраўніком лідскай Самаабароны стаў генерал Адам Макрэцкі. Арганізатарам і ініцыятарам лідскай Самаабароны быў падпаручнік Вацлаў Шукевіч, шчучынскай - кавалерыйскі паручнік Баляслаў Лісоўскі, эйшышскай - падкапітан Казімір Ільцэвіч.[139]

У перыяд завяршэння нямецкай акупацыі ў Лідзе пачала ствараецца нелегальная камуністычная арганізацыя. З кастрычніка па снежань 1918 г. яе дзейнасць узначаліў дасланы з Вільні упаўнаважаны Губернскага камітэта РКП(б) Утроб (Чэхаў). Пры канцы снежня 1918 г. у Лідзе быў створаны рэвалюцыйны камітэт пад кіраўніцтвам упаўнаважанага ЦК РКП(б) Н. Лазарава. 29 снежня 1918 г. у Лідзе быў створаны павятовы рэўкамітэт. Яго членамі сталі 9 чалавек: 5 камуністаў - Утроб (Чэхаў), Лазараў, Вацлаў Калясінскі (селянін з Ёдкаў), Адольф Сцяпанавіч Сегень (селянін вёскі Вінькаўцы), Камінскі, Камянецкі, і 4 сацыял-дэмакраты інтэрнацыяналісты. Рэвалюцыйны камітэт заняў дом беженца ў гады вайны, мясцовага купца Ілютовіча, які размяшчаўся па вуліцы Садовай. Бальшавікі захапілі склад са зброяй, якая належала мясцоваму аддзяленню літоўскай партыі - 100 вінтовак - і стварылі гарадскі атрад народнай міліцыі колькасцю каля 100 чалавек, абсалютную большасць членаў міліцыі складалі лідзяне яўрэйскай нацыянальнасці.[140] У 1925 г. з газетнай інфармацыі даведваемся пра лёс аднаго з гэтых лідскіх камуністаў: *"22.X. у апэляцыйным судзе разглядалася справа грам. Сегеня Адольфа, якога акружны суд засудзіў на вечную катаргу за нібы "дзяржаўную здраду" ў 1918 г. у Лідскім павеце, калі там ня было ніякае ўлады ані войска, ды ня былі ўстаноўлены падставы польскага падданства. Баранілі яго адвакаты Міцкевіч, Нэйман, Чэрніхаў і Сьмараўскі (з Варшавы). На судзе справа Сегеня была адложана, каб выклікаць 12 яго сведкаў"* [141].

Мясцовыя палітычныя фракцыі - польская, яўрэйская, беларуская і ў меншай ступені - літоўская імкнуліся да таго, каб германскія акупанты пры сваім адыходзе перадалі ўладу менавіта ў іх рукі[142]. Прадстаўнікі няпольскіх нацыянальнасцяў варожа адносіліся да дзеянняў Народнай Рады і Самаабароны[143]. Мы мала ведаем пра дзейнасць польскай Народнай Рады на Лідчыне, але, пэўна, Рада мела нейкі ўплыў на нямецкую адміністрацыю, бо рашэннем Рады быў выселены з Ліды прадстаўнік "Тарыбы", які меў заданне пачаць у Лідзе арганізоўваць працу[144].

Немцы не маглі вызначыцца, каго прызнаць пасля сябе ўладай у павеце, таму што апрача палякаў свае прэтэнзіі на ўладу адначасова выказвалі бальшавікі, беларусы і літоўцы. Юзаф Дзічканец, аўтар кнігі "Самаабарона Лідскай зямлі" і відавочца тых падзеяў пісаў: *"Самым небяспечным канкурэнтам для палякаў у справе атрымання зброі ад немцаў побач з яўрэямі быў арганізатар беларускага руху ў Лідзе, былы расійскі "исправник" фон Гротэ-дэ-Буко, які па прычыне свайго нямецкага прозвішча меў пэўныя перавагі ў штадтгаўптмана (начальніка павета). Толькі ён мог прыняць рашэнне аб выдачы зброі. Досыць доўгі час працягваліся спробы атрымання зброі"*. Далей Дзічканец адзначае: *"Дзіўна, што рускіх, якія перад вайной мелі прэтэнзіі да Ліды як да "истинно русского города", у гэты час у Лідзе не было. За выключэннем толькі невялікай групкі, амаль усе "истинно русские люди" пакінулі чужы для іх край і горад, накіроўваючыся да сапраўднай сваёй Бацькаўшчыны - Расіі. Былы лідскі спраўнік фон Гротэ дэ Буко, і той пакінуў шэрагі расіян. .... фон Гротэ дэ Буко ён пачаў арганізоўваць беларусаў, каб стварыць Беларускую Народную партыю"* [145].

Цікава, што і ў арганізаваным немцамі Шчучынскім (Плянцскім) павеце, нямецкі начальнік павета гаўптман (капітан) Ліндаман хацеў перадаць уладу прадстаўніку ўраду незалежнай Літвы Тадэвушу Іваноўскаму, які па маці быў немцам. Тадэвуш Іваноўскі вёў палітычную працу ў Шчучынскім павеце разам з беларускім рухам[146].

Сыходзячы з горада, нямецкія войскі перадалі ўладу мясцоваму Рэвалюцыйнаму камітэту. У ноч з 27 на 28 снежня 1918 г. часткі германскіх войскаў пакінулі Ліду, і 3 студзеня 1920 г. - Лідскі павет. Перад ад'ездам немцы зшыхтавалі на плошчы паміж Фарным касцёлам і замкам ўвесь свой лідскі гарнізон, узброены кулямётамі ў колькасці 16 штук[147].

За тры дні праз чыгуначную станцыю прайшло больш за тры дзясяткі цягнікоў са зброяй, амуніцыяй, фуражом і іншым вайсковым абсталяваннем. Трэба адзначаць, што нават камандаванне бальшавікоў прызнавала, што на тэрыторыі павета і горада адыход нямецкіх войскаў не суправаджаўся марадзёрствам і псаваннем чыгуначнай маёмасці, а наадварот, пакіда-

ючы горад, нямецкія салдаты арганізавалі рэвалюцыйны мітынг салідарнасці з мясцовым насельніцтвам. Такія ж мітынгі адбыліся і ў шэрагу іншых населеных пунктаў Лідчыны.

12 снежня 1918 г. штаб Заходняй арміі бальшавікоў аддае загад аб працягу наступу ў Беларусі: *"Заходняй дывізіі (начдыў Яршоў) у складзе чатырох палкоў, лятучага атрада т. Вянглінскага ... і 38 авіяцыйнага атрада ... заняць і абараняць раён Гродна - Ваўкавыск - Ліда - Баранавічы - Маладзечна, стварыўшы Лідскі баявы ўчастак"* [148].

Рэўкам узяў пад кантроль гарадскую электроўню, тэлефонную і чыгуначную станцыі, будынак вакзала і склады. 31 снежня адбыўся гарадскі мітынг - першая масавая палітычная акцыя рэўкама. Мітынг быў праведзены ў будынку кінатэатра "Нірвана", і ў ім прынялі ўдзел пераважна рабочыя. Сябры рэўкама абвясцілі, што ўлада ў горадзе належыць працоўным, а *"горад стане савецкім, як і ўсе беларускія гарады. З панамі і буржуазіяй будзе пакончана"* [149].

Польская "Самаабарона" таксама разлічвала ўзяць пад кантроль горад і павет. Аднак 5 студзеня 1919 года ў Ліду ўвайшлі эскадроны перадавой выведкі Чырвонай Арміі, таму польскія жаўнеры былі змушаныя часова пакінуць горад.

Юзаф Дзічканец пісаў: *"Бальшавікі ўвайшлі ў Ліду з боку мястэчка Іўе. У горадзе іх з энтузіязмам сустракалі тутэйшыя камуністы. Гэта былі атрады стралкоў 3-га Сядлецкага палка, які ўваходзіў у склад Заходняй савецкай дывізіі. Частку тых атрадаў размясцілі ў казармах пяхоты, астатніх - у прыватных дамах у горадзе. Камандаванне, якое ўзначальваў камісар Шпак, а таксама штаб дывізіі, які ўзначальваў нейкі палкоўнік Длускі, размясцілі ў доме доктара Рэнарта, які знаходзіўся пры галоўнай вуліцы, якая тады называлася Віленскай"* [150].

6 студзеня адбыўся павятовы з'езд прадстаўнікоў "Народнай Рады", дзе было заяўлена пра намер узяць у свае рукі ўладу ў горадзе. Бальшавікі часовага Рэўкама з узброеным атрадам занялі будынак дзе адбывалася паседжанне з'езду і абвясцілі яго распушчаным, а саму "Раду" зрынутай[151].

Цікавай з'яўляецца справаздача пра дзейнасць Лідскай павятовай арганізацыі для ЦК КП(б)Б у якой загадчык інфармацыйным аддзелам ЦК Вінаградаў пісаў: *"Падчас знаходжання ў краі немцаў, у канцы 1918 г., стварылася падпольная арганізацыя. Яўрэйскія працоўныя г. Ліды ў той час знаходзіліся пад уплывам меншавіцкіх дзеячаў з П[оалей]-Ц[іёна] і Бунда, мелі сваю працоўную арганізацыю - клуб. Польскія працоўныя таксама мелі сваю арганізацыю з відавочна чарносоценнай афарбоўкай. Абедзве нацыянальныя арганізацыі ладзілі сходы працоўных, і вось на гэтых сходах стала прыкметна прысутнасць працоўных, якія ўразумелі сабе падзеі, якія адбыліся ў Расіі і праяўлялі імкненне адмовіцца ад мяшчанскай ідэалогіі, што выяўлялася сярод яўрэйскіх працоўных у стыхійнай форме, а сярод польскіх працоўных - пад уплывам таварыша К. які прыехаў з Расіі. Некаторыя з гэтых таварышаў, сыходзіліся ў сваім стаўленні да палітыкі бальшавікоў і пачалі збірацца разам, у выніку чаго была створана падпольная арганізацыя. Была ўсталявана сувязь з Вільняй, адкуль прыязджалі агітатары, а для сталай працы быў дасланы тав. Чэхаў. У канцы снежня пад кіраўніцтвам тав. Лазарава, які прыехаў з Вільні, быў створаны рэвалюцыйны камітэт ... . Са стварэннем рэўкама арганізацыя адкрыла прыём новых сябраў, за кароткі час запісалася больш за 50 чалавек, з якіх, праўда, калі стала пытанне пра ўдзел арганізацыі ў барацьбе супраць наступу польскіх легіянераў, шматлікія чальцы аказаліся шкурнікамі і былі выключаны з партыі, што зноў моцна скараціла колькасны склад арганізацыі.*

*У перыяд да прыходу польскай акупацыі сябрам арганізацыі прыйшлося весці зацятую працу для падтрымання Савецкай улады. Праца была нялёгкая, бо працоўныя і сяляне павета, якія доўга жылі пад нямецкай акупацыяй, мелі мала ўяўлення пра Савецкую ўладу і прынцыпы камунізму. Праца ўскладнялася яшчэ тым, што белагвардзейскія польскія банды знаходзіліся недалёка ад Ліды і неаднаразова з'яўляліся то ў адным, то ў іншым месцы павета. Тым не менш было зроблена даволі шмат. У горадзе былі арганізаваны прафсаюзы, быў створаны пралетарскі клуб III Інтэрнацыяналу, у якім ладзіліся мітынгі і лекцыі для працоўных і сялян. У некаторых валасцях былі створаны кам'ячэйкі, ... па горадзе і павеце распаўсюджвалася савецкая літаратура і газеты. Сябры партыі бралі ўдзел у савецкім будаўніцтве. Створаны [тав.] О. камуністычны атрад неаднаразова выступаў на фронт"* [152].

**Генерал Адам Вінцэнт Феліцыян Макрэцкі**. Нарадзіўся ў ліпені 1856 г. у маёнтку Дзітрыкі Лідскага павета. У 1863 г. сямігадовы хлопчык насіў са старэйшым на два гады братам Ігнатам бутэлькі з порахам і пакункі з прадуктамі для партыі паўстанцаў.

Пасля заканчэння вайсковай школы ў 1877 г. Адам Макрэцкі ў рангу падпаручніка быў патрапіў на турэцкую вайну, там атрымаў адзнаку, так званы "Ганненскі цямляк". Пасля вяртання з вайны быў накіраваны ў Пермскі полк у Гародні. У 1883 г. ажаніўся з Геленай Ардылоўскай, дачкой абшарніка з ваколіц Друскенік. У 1896 г. атрымаў званне падпалкоўніка і быў накіраваны да Лібавы ў Курляндыі, дзе знаходзіўся аж да 1905 г. У японскай вайне не ўдзельнічаў. У пачатку 1907 г. падпалкоўнік пяхоты Макрэцкі прачытаў пры штабе корпуса лекцыю "Ініцыятыва салдата на вайне". Гэтая лекцыя прыцягнула ўвагу вышэйшага камандавання, якое, не гледзячы на тое, што падпалкоўніку споўнілася 50 гадоў, прапанавала яму службу ў Генеральным штабе з умовай змены веравызнання, але Макрэцкі прапановы не прыняў. Праз некалькі месяцаў атрымаў званне палкоўніка, а ў 1912 г. атрымаў камандаванне палком у Маршанску Тамбоўскай губерні. У 1914 г. разам з палком накіраваўся на фронт. На вайне атрымаў званне генерала і Крыж Св. Гергія. У 1915 г. быў кантужаны і высланы на лячэнне. У гэты час атрымаў брыгаду рэзерву ў Вільні, якая дыслыкавалася ў Віцебску, а потым у Менску. Тут працаваў у Вайсковым Саюзе палякаў разам з будучым міністрам унутраных спраў у адроджанай Польшчы Уладзіславам Рачкевічам. Пасля рэвалюцыі ў Расіі ўступіў у корпус ген. Доўбар-Мусніцкага, а калі яго расфармавалі, вярнуўся з сям'ёй у свой маёнтак Дзітрыкі. Пасля

некалькіх месяцаў прымусовага бяздзеяння становіцца камандзірам 2-й групы віленскай Самаабароны, штаб якой знаходзіўся ў Лідзе, потым выязджае ў Вільню і становіцца камендантам гэтага горада. Пасля таго як Самаабарона пакінула Вільню і яе раззброілі немцы, генерал Макрэцкі накіроўваецца ў Польшчу і прызначаецца камандзірам участку фронту на рацэ Шчара. У 1919 г. ўзяў Слонім, Баранавічы і Нясвіж, а калі быў прызначаны камандзірам 1-й Літоўска-Беларускай дывізіі, са сваёй дывізіяй адваяваў Слуцк і Клецк. У канцы гэтага ж года быў прызначаны камандзірам Генеральнай Акругі ў Гародні. У 1920 г., падчас адступлення польскіх войскаў пад націскам бальшавікоў, Макрэцкі, застаўся са сваім штабам, малым атрадам, які складаўся з тэлеграфістаў і некалькіх танкаў, да астатняй хвіліны. Гэты нешматлікі атрад на працягу некалькіх гадзін вёў зацятую барацьбу з чырвонымі на вуліцах горада.

6 красавіка 1921 г. Макрэцкі - першы пасляваенны камедант Гародні - памёр у Гародні ад сардэчнага прыступу[153].

### 8. Бальшавіцка-польская вайна

#### *1919 г.*

10 студзеня 1919 г. аддзеламі 3-га Сядлецкага палка *"заняты г. Ліда і выстаўлены заставы на гарадзенскім і беластоцкім кірунку"*[154]. 3-ці Сядлецкі полк Чырвонай Арміі быў часткова раскватараваны ў казармах на тэрыторыі сучаснага Паўночнага гарадка, а некаторыя часткі - у хатах і кватэрах лідзян.

На пачатку лютага газета левай фракцыі Беларускай Сацыялістычнай грамады "Грамадзянін" надрукавала інфармацыю з Ліды: *"Арганізацыйная праца ідзе добра ва ўсім павеці. Многа ёсць сьвядомых беларусаў. Наладжваецца так сама і партыйнай праца. Сяляне вельмі ахвотна чытаюць і пашыраюць нашу сялянска-работніцкую газету "Грамадзянін""* [155].

Прыход частак Чырвонай Арміі, як і паўсюдна, адмоўна адбіўся на харчовай сітуацыі ў горадзе. Вялікая колькасць крам зачынілася, іх уладальнікі ці пакінулі горад, ці прыпынілі гандаль на нявызначаны тэрмін. Рэўкам пачаў рэгістрацыю ўсіх прадпрыемстваў у горадзе і павеце, а таксама ўсіх крам і таварных складоў. Неўзабаве Лідскі часовы рэвалюцыйны камітэт абвясціў сябе паўнамоцным органам Савецкай улады і прыняў рашэнне называцца Лідскім павятовым ваенна-рэвалюцыйным камітэтам. Ваенна-рэвалюцыйны камітэт кантраляваў ключавыя прамысловыя прадпрыемствы, чыгунку, адчыніў біржу працы для беспрацоўных, лякарню, пачалі працаваць камунальныя службы і г.д. На гарадскую "буржуазію" была накладзена "кантрыбуцыя" на суму 80 000 акупацыйных марак для "патрэб працоўных". Пасля накладання на "буржуазію" кантрыбуцыі гандаль у горадзе цалкам заглох. Не толькі багатыя, але і дробныя гандляры пахавалі тавары, баючыся рэквізіцыі. Лідзянам было абвешчана пра пачатак рэалізацыі дэкрэтаў Савецкага ўраду. У павеце пачалася рэгістрацыя абшарніцкіх маёнткаў з мэтай іх ператварэння ў сельскагаспадарчыя камуны[156].

Гараджанам аб'явілі, што ў кінатэатры "Нірвана" (потым гэта кінатэатар "Эра") будуць праводзіцца адзін раз у два тыдні мітынгі. Аб'яўленыя мітынгі і сапраўды адбываліся, "але былі малазапатрабаванымі, на іх прысутнічалі толькі яўрэі і нешматлікія прыхільнікі камунізму" [157].

З дакладу аб дзейнасці ЦК КП (б)ЛітБел за сакавік - красавік 1919 г. даведваемся, што Лідскі павет падзелены на 22 воласці. *"У некаторых воласцях ёсць камуністычныя ячэйкі. У самой Лідзе арганізацыя налічвае 30 камуністаў. Старых сяброў партыі няма. Работа слабая, няма вопытных і старых партыйцаў. Савет працуе дрэнна і з-за пагрозы легіянераў у сакавіку месяцы пакінуў горад, потым вярнуўся да заняцця горада палякамі"* [158].

У лютым чырвоным было загадана ўмацавацца на рубяжы Араны - Ліда - Слонім - р. Шчара - канал Агінскага - Пінск - Сарны[159]. У гэты час Заходняя дывізія чырвоных са штабам у Лідзе складалася з 5 пяхотных палкоў, Заходняга бранявога атрада і двух кавалерыйскіх палкоў: Мазавецкага ўланскага і Варшаўскага гусарскага. Дывізія трымала фронт па лініі Марцінканцы - Шчучын - р. Шчара - возера Выганаўскае, рыхтавалася бараніць Ліду і Баранавічы[160].

Паколькі нямецкія войскі яшчэ заставаліся ў паўночнай і заходняй частках Гарадзенскай губерні, яны перакрывалі польскім войскам шлях на ўсход і таму ўвесь студзень 1919 г. польскія войскі не маглі рухацца на беларускую тэрыторыю. 5 лютага ў Беластоку была падпісана польска-германская дамова, па якім немцы перадавалі тэрыторыю палякам і пачалося павольнае пасоўванне польскага войска на ўсход. 13 лютага быў заняты Ваўкавыск, 14 лютага каля Мастоў адбылося першае баявое сутыкненне з чырвонымі, 3 сакавіка былі узяты Скідзель і Слонім, 5 сакавіка - Шчучын[161].

**25 сакавіка** 1919 г. у 19-00 "на Лідскім кірунку" адбылася перастрэлка з польскай выведкай.[162]

Аперацыя па захопу Вільні ў красавіку 1919 г. атрымала назву Літоўска-Беларускай. Прадугледжвалася нанясенне моцнага ўдару на Ліду і Баранавічы, ударам на Баранавічы для чырвоных стваралася пагроза Менску, аднак галоўны ўдар наносіўся на Ліду і Вільню.

**2 красавіка** Пілсудскі накіраваў камандаванню Літоўскага-Беларускага фронту план наступу на Вільню. Ён прапанаваў камандуючаму фронтам С. Шаптыцкаму сканцэнтраваць паміж Мастамі і Лідай кавалерыйскую групу і выправіць яе ў рэйд праз Радунь на Вільню. Адначасова іншай групе войск было загадана ўзяць Ліду. Сам Пілсудскі ў ноч з 14 на 15 красавіка ў сваім цягніку прыбыў са штабам на станцыю Скрыбаўцы. Адсюль, раніцай **15 красавіка**, ён аддаў загад аб наступе.[163]

Наступ пачаўся **16 красавіка**. Пілсудскі выехаў на аўтамабілі на бераг ракі Дзітва і тут, за 12 км на поўдзень ад Ліды, ён асабіста назіраў за наступам.

З польскага боку ў баях за Ліду ўдзельнічалі тры батальёна пяхоты (1-ы батальён 2-га палка, 1-ы батальён 3-га палка, 3-ці батальён 4-га палка) разам з батарэяй палявой артылерыі і дзвюмя батарэямі цяжкай артылерыі з 1-й дывізіі Легіёнаў, група маёра

Мечыслава Мацкевіча якая складалася з двух батальёнаў пяхоты і батарэі артылерыі з 41-га Сувальскага палка, кавалерыйская група маёра Глухоўскага - 2,5 эскадрона. Кіраваў штурмам Ліды генерал Юзаф Ласоцкі.

У Лідзе бараніліся 3-ці Рэвалюцыйны Сядлецкі полк і 6-ы Рэвалюцыйны Гарадзенскі полк, іх падтрымлівалі два бронецягнікі.

**16 красавіка** з 1919 г. у 5-00 з трох кірункаў - з поўначы, захаду і поўдня пачаўся наступ на Ліду. З усходу польская кавалерыя перарэзала чыгунку Ліда - Маладзечна.[164]

Уначы з 16 на 17 красавіка Пілсудскі ўвёў у бой дадаткова яшчэ два батальёны з дывізіі Легіёнаў (2-гі батальён 5-га палка і 1-ы батальён 6-га палка). Усю ноч ішоў бой, толькі пры штурме казармаў Паўночнага гарадка з 3-га батальён 4-га палка загінула 13 легіянераў і 80 было паранена, 1-ы батальён 3-га палка страціў 12 забітымі і 26 параненымі.

1-ы батальён 2-га палка быў спынены ў прыгарадзе "Закасанка", тут дзейнічаў бальшавіцкі браняпоезд. Аднак легіянеры прарваліся цераз чыгуначную лінію і ўварваліся ў Ліду з поўначы, у вулічных баях кожны дом у чырвоных адбіваўся штыкавымі атакамі. Некалькі разоў легіянераў выбівалі з горада, аднак ім удалося падарваць чыгуначныя рэйкі, пасля чаго бронецягнік быў падбіты артылерыяй. У гэтых баях 1-шы батальён страціў 13 забітымі і 68 параненымі.

**17 красавіка** ў 4-00 пачаўся штурм горада з усіх бакоў, прычым легіянеры з поўдня прарваліся да чыгуначнага вакзала. Пасля чаго яны разам з жаўнерамі Сувальскага палка захапілі цэнтр горада. К 6-00 Ліда была захоплена. У выніку адзін з бронецягнікоў быў захоплены, на станцыі польскаму войску дасталіся некалькі цягнікоў са зброяй і амуніцыяй, узяты ў палон 350 чырвонаармейцаў. Адступаўшых з горада чырвоных каля Ліпнішак яшчэ раз разграміла польская кавалерыя.

У поўдзень у горад прыбыў Начальнік польскай дзяржавы Пілсудскі. Ён агледзеў 1 батальён 6-га палка Легіёнаў.[165]

**17 красавіка**, з рапарта камандзіра Заходняй дывізіі Лонгава бачна, што польскае войска перайшло да наступу па ўсім фронце. Наступ вёўся трыма групамі ў кірунках на Ліду і Наваельню - Навагрудак - Баранавічы. У той жа дзень, ад камандзіра падбітага броне-цягніка №32, які уцёк з Ліды ў Беняконі, чырвоныя даведаліся, што бой за Ліду пачаўся **16 красавіка** ў 3 гадзіны, чырвоныя адышлі да Ліды і пасля чаго ў горадзе адбыліся вулічныя баі. Больш камандзір бронецягніка нічога не ведаў[166]. **17 красавіка** 1919 г. Рэўваенсавет Рэспублікі выдаў палявую зводку, у якой паведаміў што польскае войска ўзяло Ліду, паміж станцыямі Бастуны і Воранава чыгуначныя рэйкі разабраныя "легіянерамі" [167].

Пры канцы траўня "Тыгоднік ілюстраваны" надрукаваў артыкул з фотаздымкамі пра ўзяцце Ліды. Тыгоднік паведамляў, што бой за горад ішоў два дні. Моцныя сутычкі адбыліся пад Мажэйкавым, Лебядой, Масявічамі. Рэпарцёр пісаў з артылерыйскай батарэі



***Выгрузка польскага самалёта на ст. Скрыбаўцы перад наступленнем на Ліду ў 1919 г.***

якая падбіла бронецягнік чырвоных каля моста цераз раку Дзітву: *"Конная батарэя ... з вечара 15 красавіка выехала на пазіцыю пад Лідай. Ліда - мэта нашых мар апошняга месяца, ключ ад Вільні, сэрца Літвы. Яшчэ шэра, сталі на пазіцыі, перадкі пушак ад'язжаюць у бок. Пачынаем агонь па чыгуначным вакзале ў Лідзе. Як толькі мы далі некалькі стрэлаў, нам пачынае адказваць артылерыя чырвоных. Чутны*



***Польская гармата на пазіцыі пад Лідай у 1919 г.***



***Прывал пад Лідай, агляд параненага каня ў 1919 г.***



***Падвода з забітымі польскімі жаўнерамі пад Лідай у 1919 г.***

*клёкаты лятучых снарадаў, узрывы ўзнімаюць зямлю да неба. Выбухі ўсё бліжэй. Паручнік О., ссунуўшы фуражку на патыліцу, кіруе батарэяй. Ён аддае каманды спакойным голасам ... . Сваім агнём наша батарэя падбівае варожы бронецягнік. ... у 6 раніцы прыходзіць навіна, што Ліда ўзята. ... Абмінаем бальшавіцкія акопы і ўязджаем у горад. Не сціхаюць стрэлы: гэта расстрэльваюць тых, якія віталі нашых жаўнераў агнём з карабінаў і ручнымі гранатамі. Дзе-нідзе ляжаць трупы нашых ці бальшавікоў з яўрэямі"* [168].

Як і паведамляў рэпарцёр "Тыгодніка ілюстраванага", пасля ўзяцця горада дайшло да пагрому яўрэйскага насельніцтва часткай польскіх жаўнераў. Польскія гісторыкі апісалі гэты эпізод, напрыклад, Лех Вышчэльскі лічыў што самасуд адбыўся над яўрэямі, якія пад час баёў за Ліду ваявалі на баку бальшавікоў. Згодна з афіцыйнымі дакументамі расследавання гэтай справы, было забіта 39 яўрэяў (34 былі апазнаныя, 5 - не, верагодна яны былі не з Ліды)[169]. Пра гэты і іншыя пагромы шмат пісала міжнародная прэса (напрыклад "New York Times" 01.06.1919). Польскі Сейм, разам з брытанска-амерыканскай следчай камісіяй, якую ўзначальваў Генры Маргентаў, праводзілася расследаванне справы (*гл. дадаткі)*. Некалькі гадоў высоўваліся розныя версіі справы і шырыліся дыскусіі, аднак у выніку вінаватыя былі аддадзены пад трыбунал.[170]

Як бачна з даклада Літоўскага Епархіяльнага Савета ад 19 ліпеня (2 жніўня) 1919 г., дасланага польскім уладам, 22 красавіка 1919 г., праз пяць дзён пасля штурму горада, нейкія людзі ўварваліся ў храм падчас святочнай Велікоднай службы: *"... трэці дзень св. Пасхі, пад час здзяйснення а. протаіерэем І. Каяловічам багаслужэння ў Лідскім саборы ў храм уварваўся натоўп рыма-каталікоў. Мужчыны ў шапках і жанчыны хадзілі па царкве і выкрыквалі блюзнерскія фразы і лаянкавыя словы аб старым пастыры. ... ледзь не выбілі з рук старога протаіерэя Чашу са Святымі Дарамі. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося закончыць багаслужэнне і пад прыкрыццём міліцыянераў прайсці ў сваю кватэру. Пасля гэтага ў храме натоўпам быў зламаны іканастас, і праваслаўныя абразы выкінутыя на двор. Праваслаўнае насельніцтва г. Ліда такім чынам, засталося без святога месца для малітвы. Не кажучы ўжо аб глыбокай абразе рэлігійных пачуццяў праваслаўных вернікаў"* [171]. Больш у афіцыйным дакуменце нічога няма. Трэба заўважыць, што *"русіфікатара, вядомага ў Лідзе палякажэрцу протаіерэя Каяловіча"* [172] добра ведалі ў горадзе, ён меў сталую адмоўную рэпутацыю сярод рыма-каталіцкай большасці насельніцтва, бо на працягу доўгага часу быў самым актыўным барацьбітом з каталіцтвам і католікамі, што аднак не можа апраўдваць сваволю натоўпу.

Пасля інцындэнту лекар аказаў Каяловічу медычную дапамогу, пасля чаго, *"не пражыўшы і аднаго месяца"* [173] стары святар памёр.

Адразу пасля ўзяцця Ліды выйшла з падполля польская Народная Рада. **17 красавіка** 1919 г., па прапанове чальцоў Рады, быў прызначаны камісарам (старастам) Лідскага павета **Станіслаў Здановіч**. На гэтай пасадзе **18 красавіка** 1919 г. ён вітаў у Лідзе начальніка дзяржавы Юзафа Пілсудскага.[174]

**19 красавіка** ў Лідзе Підсудскі зрабіў запіс: *"19 красавіка ў Лідзе: усё ў парадку, чыгуначныя рэйкі адрамантавалі, шляхі ўтрымоўваем, работа зроблена. Абедаў у сувальшчан* (у сувальскім палку - *Л.Л.*), *яны ў настроі і імкнуцца на Вільню ..."* [175].

**18 красавіка** кавалерыйская група палякаў пачала бой за Вільню, пры гэтым віленскія чыгуначнікі заблакавалі шляхі і не далі магчымасці чырвоным выйсці з горада. Наадварот, на станцыі Беняконі імі была арганізавана хуткая пагрузка польскіх войскаў, якія падыходзілі з боку Ліды, і перавозка іх у Вільню. **20 красавіка** Вільня была ўзята.[176]

Аперацыя па захопу Вільні атрымала назву Літоўска-Беларускай, яна ўзмацніла ролю Пілсудскага і павінна была станоўча ўздзейнічаць на вырашэнне пытання пра польскія межы на Парыжскай мірнай канферэнцыі, дзе выпрацоўваліся ўмовы будучага міру.

Усходняя палітыка Польшчы ў той час не была адзінай. Кіраўнік дзяржавы Пілсудскі і яго палітычныя супраціўнікі - партыя нацыянал-дэмакратаў якую ўзначальваў Раман Дмоўскі, мелі розныя планы. Дмоўскі хацеў далучыць да Польшчы на ўсходзе толькі тыя тэрыторыі, якія па яго меркаванні можна было хутка асіміляваць - гэта значыць уключыць у склад Польшчы толькі Заходнюю Беларусь. Пілсудскі ж лічыў неабходным стварыць у федэрацыі з Польшчай супольнасць вольных народаў - беларусаў, украінцаў, летувісаў. Такім чынам захоп Вільні стаў не толькі вайсковай перамогай, але і часовым поспехам усходняй палітыкі Пілсудскага.

**22 красавіка** 1919 г. у Вільні Пілсудскі выдаў вядомую адозву да "Жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага", у якой аб'явіў жыхарам Беларусі, што польскае войска нясе вольнасць і свабоду, а нацыянальнае пытанне будзе вырашана самім насельніцтвам, без націску з боку Польшчы.

Па ўсёй Беларусі пачаліся антыбальшавіцкія паўстанні, што дапамагала палякам у барацьбе з Чырвонай Арміяй.

**18 красавіка** 1919 г. група польскіх войскаў, якой кіраваў генерал Адам Макрэцкі заняла Навагрудак і атакавала Баранавічы.

**10 траўня** польскія войскі ўзялі Смаргонь, праз

два дні Налібокі, **16 траўня** - Свянцяны. К ліпеню польскія войскі сканцэнтраваліся у кірунку Вілейка - Маладзечна - Менск. Камандуючы Літоўска-Беларускім фронтам быў генерал С. Шаптыцкі, штаб якога знаходзіўся ў Лідзе.

Чарговы наступ польскіх войскаў пачаўся **1 ліпеня**. **4 ліпеня** бальшавікі здалі Маладзечна, польскія войскі выйшлі да Менска.

**6 жніўня** войскі Макрэцкага занялі Нясвіж.

**8 жніўня** 2-я дывізія Легіёнаў і 4-я Познанская дывізія ўзялі Менск.

Да канца 1919 г. фронт стабілізаваўся па Заходняй Дзвіне далей 40-50 км на захад ад Віцебска, потым па Бярэзіне. Пілсудскі спыніўся тут, не жадаючы дапамагаць Дзянікіну перамагчы бальшавікоў. Справа ў тым, што генералы белых армій не жадалі нават абмяркоўваць пытанне пра незалежнасць Польшчы, не кажучы ўжо пра незалежнасць Украіны ці Беларусі.[177]

На тэрыторыі Беларусі, якую занялі польскія войскі, было ўведзена цывільнае кіраванне - Генеральны камісарыят Усходніх зямель, галоўнай мэтай гэтага камісарыяту было правядзенне вольных выбараў. Камісарыят размясціўся ў Вільні, тэрыторыя яго была падзелена на 4 акругі, якія ў сваю чаргу складаліся з паветаў, Лідчына увайшла ў Віленскую акругу. Віленская Беларуская Рада, у якую уваходзілі такія аўтарытэтныя беларускія дзеячы як браты Луцкевічы, Б. Тарашкевіч і шэраг іншых, звярнулася да Пілсудскага з прапановай адрадзіць Беларусь як незалежную дзяржаву ў сяброўстве з Польшчай.

Польскія ўлады дазволілі стварыць у Менску Часовы Беларускі нацыянальны камітэт на чале з Алесем Гаруном. Часовы камітэт, не адмаўляючы ідэю канфедэрацыі і федэрацыі з Польшчай, дабіваўся прызнання Беларускай Народнай Рэспублікі. Часовы камітэт пачаў выдаваць беларускія газеты, адчыняць беларускія школы. З'явілася надзея на супрацу з польскімі ўладамі дзеля свайго народа.

Аднак супрацьдзеянне эндэкаў, нежаданне Францыі і Англіі "дзяліць Расею" і самае галоўнае - вайна, не дазволілі Пілсудскаму выканаць свой федэратыўны план.

Беларускім актывістам, улічваючы, што большасць з іх была сябрамі левых партый, пры новай уладзе было цяжка. Газетнай інфармацыі пра жыццё Лідчыны ў гэты экстрэмальны час бракуе, аднак усё ж удалося знайсці ліст беларускага актывіста, які пад псеўданімам "Юрка" пісаў з шчучынскай часткі Лідскага павета: *"Не вясёлыя весткі можам мы вам прыслаць, браты Беларусы. Зьдзек і паняверка ня лепшыя ад часоў царызму запанавалі над усім нашым родным. І няма каму пажаліцца, няма ў каго даходзіць праўды і справядлівасці. Навет думкамі сваймі нельга падзяліцца з другімі, таго і глядзі, як апынешся ў кутузцы, або і горш яшчэ. З першых дзён, як толькі зьявіліся ў нас польскія войскі, пала ахвяра за свае пераконаньне. Селянін з вёскі Мураўёўкі Трукша аддаў сваё жыццё маладое пад палкамі легіонаў за ідэю незалежнасці бацькаўшчыны Беларусі, за тое, што заклікаў народ не паддавацца ў няволю чужынцом з якога-б боку яны не прыходзілі: з захаду, ці з усходу. Другі, Караль Мікшэль, за гэта самае змушаны быў пакінуць сваю вёску, каб не дачакацца лёсу свайго таварышча, зважаючы, што жыццё і сілы народныя яшчэ будуць патрэбны, калі бацькаўшчына пакліча ўсіх сыноў верных грудзьмі бараніць сваю незалежнасць.*

*Зямелькі мала ў нас сялян - вось, што! Агромныя абшары панскай зямлі ляжаць аблогам. Працавітых рук сялянскіх хваціла-бы ўсю гэту зямлю абрабіць, засеяць, але ня кожнаму даступны варункі: за морг зямлі трэба ў год заплаціць 150 р., ды яшчэ палавіну збору аддаць. Таксама страшэнны вызыск сялян пры падзеле сенакосу - і заплаці, і скасі, і ім, і палову свайго аддай. Рады-бы мы браць у арэнду млыны, смалярні і інш., але спрытныя заўсёды жыды перш за нас хваціліся, і ўсё апынулася ў іх руках. Калі-ж наш народ набярэ больш вяртлівасці і спрыту?"* [178].

Увосень 1919 г. Ю. Пілсудскі спыніў наступленне, каб паспрыяць Чырвонай Арміі разграміць армію генерала Антона Дзянікіна, які пагражаў Маскве - Дзянікін зноў адмовіўся прызнаць незалежнасць Польшчы, выступаючы з лозунгам "адзінай і непадзельнай Расіі". У гэты час 1919 года праходзілі польска-савецкія мірныя перамовы ў Белавежы, а затым у Мікашэвічах. Аднак яны аказаліся безвыніковымі.

Да канца 1919 г. у Лідзе са сваім штабам знаходзіўся камандуючы Літоўска-Беларускім фронтам генерал Станіслаў Шаптыцкі[179].

**Станіслаў Здановіч**. Сын Юзафа і Апалоніі з Мікульскіх, нарадзіўся ў 1886 г. Скончыў гімназію ў Пецярбургу. Вучыўся на факультэце права Пецярбургскага ўніверсітэта і прымаў актыўны ўдзел у жыцці польскіх студэнцкіх гурткоў. Пасля заканчэння ўніверсітэта, працаваў прысяжным паверaным у Полацку, і тут шмат гадоў быў сакратаром праўлення польскага Таварыства дабрачыннасці, падтрымліваў сувязі з аналагічнымі арганізацыямі на Лідчыне. Пасля бальшавіцкага перавароту і акупацыі Полацка немцамі вярнуўся ў Лідскі павет, дзе пачаў працаваць спачатку ў якасці чальца праўлення Польскай Народнай Рады Лідскай зямлі, пасля адыходу Эміля Буткевіча стаў старшынём. Калі ў 1919 г. польскае войска заняло Ліду, быў прызначаны камісарам (старастам) Лідскага павета і выконваў функцыі старасты Лідскага павета на працягу 10 гадоў. Узнагароджаны крыжам ордэна "Polonia Restituta".

### *1920 г.*

З пачатку 1920 г. абодва бакі - бальшавікі і палякі - рыхтаваліся да новага ваеннага сутыкнення.

На пачатку студзеня 1920 г. польскія войскі Эдварда Рыдз-Смігды нечаканым ударам ўзялі Дзвінск і перадалі горад латвійскім уладам. 6 сакавіка польскія войскі пачалі наступ у Беларусі, захапіўшы Мазыр і Калінкавічы.

25 красавіка 1920 г. польскія войскі разам з украінскай арміяй, якую узначальваў Сымон Пятлюра, атакавалі пазіцыі Чырвонай Арміі па ўсёй працягласці ўкраінскай мяжы. Бальшавікі, не рызыкуючы ўступаць у бой, адступілі. У гэтыя дні палякі ўзялі ў палон

больш за 25 тысяч чырвонаармейцаў, захапілі 2 бронецягнікі, 120 гармат і 418 кулямётаў.

**26 красавіка** ў Жытоміры Юзаф Пілсудскі выступіў са зваротам да ўкраінскага народа, у якім пацвердзіў яго права на незалежнасць і ўласны выбар дзяржаўнага ладу. Са свайго боку Сымон Пятлюра падкрэсліў непахіснасць польска-ўкраінскага саюзу. **7 траўня** ў Кіеў ўступіла польская кавалерыя, неўзабаве палякам удалося стварыць на левым беразе Дняпра плацдарм глыбінёй да 15 км.

Улетку пачалося контрнаступленне Чырвонай Арміі. Палякі былі змушаныя пакінуць Кіеў. Савецкае контрнаступленне рабілася двума франтамі: Паўднёва-заходні рухаўся на Львоў; Заходні пад камандаваннем Тухачэўскага прасоваўся па Беларусі і Літве (**11 ліпеня** Чырвонай Арміяй былі ўзяты Менск і Маладзечна, 19 ліпеня - Гародня, **20 ліпеня** - Вільня, **1 жніўня** - Берасце). Ар'егардныя баі з Чырвонай арміяй пад Лідай вялі часткі генерала Л. Жалігоўскага.[180]

15-я чырвоная армія з раёна Маладзечна наступала на Ліду. Чырвоных стрымлівала 1-я Літоўска-Беларуская і 11-я пяхотная дывізіі. Палякі спрабавалі стабілізаваць фронт па Гаўі і Нёмане і прыкрыць Ліду, дзе знаходзіліся вялікія армейскія склады. Пазіцыі па рацэ Гаўя на поўдні заняла 1-я Літоўска-Беларуская дывізія, на поўнач ад яе абаранялася 11-я пяхотная. На гэтай пазіцыі знясіленую польскую 11-ю дывізію павінна была ўзмацніць 17-я дывізія, але яна атрымала паразу пад Геранёнамі і да Гаўі дашло толькі некалькі батальёнаў. **17 ліпеня** чырвоныя прарвалі польскую абарону на рацэ Гаўя. 1-я Літоўска-Беларуская дывізія каля Морына-Дакудава пераправілася на другі бок Нёмана і заняла абарону па паўночнаму беразе. Ліду польскія часткі ўтрымлівалі да таго часу, пакуль не былі вывезеныя ўсе армейскія запасы. Пасля гэтага, у ноч з 17 на 18 ліпеня польскія войскі пакінулі Ліду.[181]

Лідскі ксёндз-дэкан Гіпаліт Баярунец пісаў: *"Апошні аддзел Войска Польскага адышоў з Ліды ўглыб Польшчы 17 ліпеня 1920 г. у 16 гадзін, а бальшавікі ўступілі ў Ліду ў 17 гадзін, радасна сустраканыя лідскімі яўрэямі. "Какая радость. Какое счастье. Наши пришли!" - крычалі яўрэйкі на вуліцах Ліды і, схапіўшы бальшавіцкага салдата, шпацыравалі па вуліцы Сувальскай* (тады яшчэ Віленскай -*Л.Л.*), *я сам гэта чуў і бачыў. ... Пасля выхаду нашай улады з Ліды пазасталыя лідскія мяшчане сабралі гарадскую раду (савет) і ў тую раду ўключылі і мяне, большасць радцаў была яўрэйская. Калі бальшавікі набліжаліся да Ліды, рада сабралася ў магістраце і ўрадзіла ісці з хлебам-соллю на спатканне бальшавікоў. На той нарадзе я не быў асабіста, але да мяне прыслалі дэлегацыю, ці я згаджаюся з такой ухвалай. Я ўхвалу адхіліў, зазначыўшы, што рада сустракаць бальшавікоў не можа, а размаўляць з бальшавікамі можа толькі ў зале магістрата. Так і зрабілі: часовы бальшавіцкі камендант, босы ў парванай кашулі і портках, сабраў радцаў, запытаў, дзе можна дастаць хлеба і тытуню, і раду распусціў, так закончыла сваё кароткае жыццё яўрэйская рада. Што мы выцерпелі праз два тыдні пабыту ў Лідзе з бальшавікамі, лепей сёння пра тое не ўспамінаць. Боль сэрца мяне сціскае - другі раз таго б не вытрымаў. Перетрусы, рабунак, здзекі над людской годнасцю. Гэта нешта жудаснае!"* [182].

**12 ліпеня** бальшавікі падпісалі пагадненне з летувіскім урадам, у адпаведнасці з якім Віленшчына і Гарадзеншчына былі перададзены Летуве. Пагадненне гарантавала нейтралітэт Летувы на час савецка-польскай вайны, а ў выніку - бяспеку правага фланга войск Заходняга фронту, якія наступалі ў кірунку Варшавы.

Але рэальна перадаваць Лідчыну летувісам чырвоныя не спяшаліся, і канешне ж, каб Польшча была разгромленая, незалежная Летува была б адразу акупаваная бальшавікамі. На Лідчыне пачалася чарговая саветызацыя. Пра яе апавядае найцікавейшы дакумент "Сводка о деятельности волостных ревкомов Лидского уезда за период с 20 августа по 1 сентября 1920 г." [183] (*гл. дадаткі*).

Галоўнай мэтай наступу пад камандаваннем Тухачэўскага была Варшава, а пасля яе - выхад у Германію з мэтай перамогі "Сусветнай рэвалюцыі".

Да канца ліпеня 1920 савецкія войскі падышлі да Варшавы і Львова. Пачалося наступленне на Варшаву. Аднак у ходзе Варшаўскай аперацыі ў канцы ліпеня - першай палове жніўня 1920 г. Чырвоная Армія пацярпела велічэзнаю паразу. З 17 жніўня польскія войскі ўдарам ў фланг Заходняга фронту Тухачэўскага перайшлі ў контрнаступленне. Бальшавіцкія 4-я армія, 3-і конны корпус, дзве дывізіі 15-й арміі вымушаны былі адступіць на тэрыторыю Усходняй Прусіі, дзе былі інтэрнаваныя. Пасля "Цуду на Вісле", да 25 жніўня войскі Заходняга фронту адышлі на лінію Ліпск - Свіслач - на ўсход ад Берасця. У выніку Варшаўскай бітвы загінула або атрымала цяжкія раны больш за 25000 чырвонаармейцаў, 45000 жаўнераў былі змушаны да пераходу мяжы Усходняй Прусіі. Палякі ўзялі каля 70000 палонных, здабылі 231 гармату, 1023 кулямёты і вялікую колькасць ваеннага рыштунку.

У гэты час ў Лідзе асобны аддзел ЧК пры штабе арміі Тухачэўскага займаўся звыклай справай - расстрэламі мірных грамадзян. Каля Ліды яны расстралялі 40 закладнікаў. У 1924 г. іх парэштки былі сабраныя і перазахаваныя на лідскіх гарадскіх могілках, на магіле меўся надпіс: *"40 невядомых закладнікаў з Беластока, Гародні і Ваўкавыска, забітых бальшавікамі ў жніўні-верасні 1920 г."*. Вялікі знаўца лідскай гісторыі Міхал Шымялевіч пісаў з гэтай нагоды: *"Мой Божа! Ці ж гэты малады, але хцівы да ўлады і славы, інтэлігентны афіцэр Тухачэўскі, якога я бачыў на вуліцах Ліды ў аўтамабілі, пакрытым чырвонай палярынай з залатымі махрамі, калі зацвярджваў выракі асобага аддзелу, думаў пра тое, што калісьці і сам ён будзе расстраляны ў патыліцу з браўнінга? Забіты так, як і няшчасных ахвяр забівалі па яго камандзе. Бо якім судом вы будзеце судзіць, такім і вас асудзяць, ды якою меркай вы будзеце мераць, такою вам адмераюць. Мацьвей VII, 2"* [184]. Малюнак для кіно: малады ардынец у аўтамабілі пакрытым чырвонай папонай з залатымі махрамі на вуліцах нашага вылюднеўшага

горада ...

**26 жніўня** 1920 г. чырвоныя сышлі з Вільні, перадаўшы яе летувісам. Летувіскія жаўнеры не дазволілі чырвоным вывесці з горада больш за 100 закладнікаў. Жыхары Вільні, сярод якіх летувісаў было каля 2 % сустрэлі новую ўладу насцярожана.[185]

Пасля **25 жніўня** польскія арміі спынілі пераслед чырвоных з-пад Варшавы. На пачатку верасня 1920 г. разбітыя бальшавіцкія аддзелы, якія здолелі неяк уратавацца, лясамі выйшлі да сваіх. Фронт стабілізаваўся па Нёмане і Шчары. **27 жніўня** Пілсудскі пачаў перагрупоўку сваёй арміі для працягу наступу. **10 верасня** ён выклаў план канчатковага разгрому бальшавікоў вышэйшым афіцэрам. Галоўным кірункам удару быў раён Гародні - Ваўкавыска. Адначасова ўдарная група на левым (паўночным) флангу павінна была марш-кідком праз тэрыторыю перададзеную летувісам, абыйсці фланг чырвонага Заходняга фронту і ў раёне Ліды выцяць яму ў тыл.

Пра так званую "Бітву на Нёмане", часткай якой была і бітва за Ліду, напісана выдатная кніга польскага гісторыка Януша Адзямкоўскага, кніга таксама выдадзена на беларускай мове і ёсць у інтэрнэце *(Адзямкоўскі Януш. Ліда 1920. Ліда - Варшава, 2010)*. Таму я толькі коратка апішу апошнюю ў тую вайну бітву за наш горад.

Згодна з данясеннямі польскай разведкі, у Лідзе размяшчаўся штаб камандуючага 3-й арміі Заходняга фронту Лазарэвіча, розныя тылавыя часткі і 33-я кубанская дывізія.

**20 верасня** 1920 г. пачалася апошняя вялікая бітва польска-бальшавіцкай вайны. Чырвоныя амаль што адразу пачалі адступаць да фартоў Гародні. На правым крыле 2-й арміі 3-я дывізія Польскіх легіёнаў выбіла перадавыя атрады 11-й і 16-й стралковых дывізій, здабыла непашкоджаныя масты ў Дублянах і пераправілася цераз Свіслач.

**22 верасня** Тухачэўскі ўвёў у бой рэзервы аднак не змог спыніць наступ.

Канцэнтрацыя ўдарнай групы ў раёне Аўгустова была скончана **19 верасня**. У наступныя два дні папоўніліся запасы правіянту і амуніцыі. Палкі ўзялі правіянт на 6 дзён, жаўнерам выдалі 150 патронаў на вінтоўку і 3000 патронаў на кулямёт. У паходзе удзельнічалі 4-я конная брыгада падпалкоўніка Адама Нянеўскага, 2-я конная брыгада палкоўніка Стэфана Страменьскага, элітная 1-я дывізія Легіёнаў палкоўніка Стэфана Дэмба-Бярнацкага, 1-я Літоўска-Беларуская дывізія генерала Яна Жандкоўскага (Віленскі, Менскі, Гарадзенскі, Наваградскі палкі).

Войскі ўдарнай групы рушылі згодна з планам **22 верасня** ў 12.00 гадзін. Трохдзённы фарсіраваны марш пясчанымі дарогамі па ўзгорыстай мясцовасці вычарпаў людзей. Пяхота з поўнай экіпіроўкай штодзённа праходзіла больш за сорак кіламетраў. Па дарозе яны шматразова павінны былі дапамагаць артылерыстам выцягваць гарматы і пхаць каляскі з кулямётамі, каб дапамагчы коням, якія стамляліся, бо харчаваліся толькі травой. Многа жаўнераў падала ў час маршу і засынала непасрэдна на дарозе. Непрытомных ад знясілення людзей клалі на вазы. Праз гадзіну ці дзве яны вярталіся ў шыхт.[186]

Першыя сутычкі з уцякаўшымі з-пад Гародні чырвонымі адбыліся **26 верасня** каля Радуні і Праважы. Пачынаўся штурм Ліды. Было вырашана, што 1-я пяхотная дывізія Легіёнаў вытне з раёну Жырмунаў: яе 1-я брыгада павінна была пачаць наступ на горад з усходу, праз Сарокі - Абманічы - Гутна - Зарэчча, а 3-я брыгада - з поўначы праз Вялікае Сяло. 4-я кавалерыйская брыгада павінна была абысці Ліду з усходу і наступаць праз Дуброўню на Навапрудцы. 1-я Літоўска-Беларуская дывізія з цяжкімі баямі наступала праз Васілішкі - Паперню, Феліксава. Баі працягваліся і **27 верасня** 1920 г.

Ранкам **28 верасня** хутка маршыраваўшыя брыгады 1-й пяхотнай дывізіі Легіёнаў знаходзіліся каля Ліды. Ад поўначы да горада падыходзіла 3-я пяхотная брыгада Легіёнаў палкоўніка Баляслава Поповіча (6 пяхотны полк Легіёнаў і 41 пяхотны полк). 6 пяхотны полк Легіёнаў маёра Станіслава Казіцкага рухаўся ўздоўж усходняга ўскрайку лесу, што цягнуўся паралельна тракту Жырмуны-Ліда. З усходу надыходзілі роты 2-га батальёна 1-га палка Легіёнаў. Гэты полк, у 7-00 перайшоў чыгуначную лінію Ліда-Вільня, знішчыў каляю і тэлеграфную сувязь, праз тры гадзіны легіянеры прайшлі 11 км і дайшлі да чыгункі Ліда-Маладзечна. Пасля цяжкіх вулічных баёў якія працягваліся да раніцы **29 верасня**, горад быў узяты. Як і ў 1919 г., у вулічных баях з абодвух бакоў выкарыстоўвалася артылерыя.

У палон трапіла больш за 10 000 чырвонаармейцаў. Вялікая колькасць іх загінула ці была паранена. Шмат людзей знайшлі смерць у падманлівых багнах Лідзейкі. Палякі здабылі каля 40 гармат, 67 кулямётаў, 2 350 абозных вазоў з рыштункам і запасамі, аўтамашыну, два матацыклы, 255 коней. Самі страцілі каля 70 забітых, 300 параненых і прапаўшых.[187]

Лідскі ксёндз-дэкан Гіпаліт Баярунец пісаў: *"Дня 29 верасня аб 11 гадзіне прыехаў у Ліду пан Начальнік Дзяржавы Юзаф Пілсудскі. Па-хуткаму сабраў дэлегацыю з абывацеляў лідскіх, шаўцоў, краўцоў, чыгуначнікаў, інжынера, які ўцёк з няволі, двух ксяндзоў, рушыў з імі на вуліцу "Пілсудскага" і падзякаваў за вызваленне Ліды. У суботу дня 2-X-1920 г. пан Начальнік Дзяржавы а 12-й гадзіне паснедаў у мяне на плябані вельмі сціпла, правёў нараду з генераламі і адправіў у Вільню збунтаванага генерала пана Жалігоўскага, легіянераў узнагародзіў Крыжамі валечных"* [188].

Пад ціскам краін Антанты 7 кастрычніка 1920 г. у Сувалках падпісваецца польска-літоўская дамова, паводле якой Віленшчына перадаецца Літве. Аднак Пілсудскі не збіраўся аддаваць сваю радзіму летувісам. Звязаны абавязкамі перад Антантай, ён у гэтай сітуацыі віртуозна разыграў "беларускую карту", інспіраваў "бунт" супраць гэтай дамовы ў частцы польскага войска, так званых "Літоўска-Беларускіх дывізіях" [189]. Як бачым, менавіта ў Лідзе Начальнік Польскай Дзяржа-

вы Юзаф Пілсудскі аддаў загад генералу Жалігоўскаму аб наступе на Вільню.

Ужо на наступны дзень пасля падпісання дамовы з Летувой, **8 кастрычніка** 1920 г. "паўстала" 1-я Літоўска-Беларуская дывізія на чале з генералам Люцыянам Жалігоўскім. У канцы верасня непасрэдна перад бунтам 1-й Літоўска-Беларускай дывізіі, якая складалася з Сувалкаўскага, Гарадзенскага, Віленскага і Менскага палкоў, па загаду Пілсудскага былі перададзены найбольш баяздольныя Лідскі і Ковенскі палкі з 2-й Літоўска-Беларускай дывізіі. Жалігоўскі захапіў Вільню, абвясціў незалежнасць Віленшчыны і пайшоў на Коўню, захапіўшы па дарозе мястэчка Кейданы. Толькі ў раёне Шырвінтаса летувісы здолелі спыніць нападнікаў.

29 лістапада 1920 года пад уціскам Лігі Нацый бакі заключылі перамір'е. Стварылася фармальна незалежная дзяржава пад назовам Сярэдняя Літва. Яе нефармальным кіраўніком стаў генерал Люцыян Жалігоўскі, які у 1865 г. нарадзіўся ў Ашмянах.

Дарэчы, у Лідзе да 9 студзеня 1940 года існавала вуліца, названая ў яго гонар. Зараз гэта вуліца носіць імя Фелікса Дзяржынскага.

Новая краіна складалася з 10 паветаў. Акрамя Вільні, найбольш буйнымі гарадамі былі Трокі, Смаргонь і Ашмяны.

Гародню і Ліду палякі Жалігоўскаму не аддалі, і адразу ўключылі гэтыя гарады ў склад Польшчы.

Лёс Сярэдняй Літвы павінен быў вырашыць Віленскі сойм, выбары ў які адбыліся неўзабаве. У выбарах прыняло ўдзел звыш 60% тых, хто меў права голасу з жыхароў Сярэдняй Літвы. Ад галасавання ўхілілася нешматлікае літоўскае насельніцтва, частка беларусаў і яўрэі, колькасць якіх у самай Вільні перавышала 30%. Віленскі сойм прыняў рашэнне пра далучэнне Сярэдняй Літвы да тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай, што і адбылося ў 1923 г. Ліга нацый прызнала законнасць выбару, зробленага большасцю жыхароў Віленшчыны, і толькі Літва не пагадзілася са стратай былой сталіцы Вялікага Княства Літоўскага і разарвала дыпламатычная адносіны з Польшчай. Дыпламатычныя адносіны паміж гэтымі краінамі былі адноўленыя толькі ў 1938 г.

Выгнанне бальшавікоў з нашага горада дало надзею на нармальнае жыццё, і таму ў снежні 1920 г. невядомы беларускі актывіст пісаў з Ліды: *"У нас, у Лідзе, з'арганізаваўся Беларускі Нацыянальны Камітэт. Насяленне ўцяміла патрэбу згуртавання сіл для абароны сваіх нацыянальных і сацыяльных правоў. Нацыянальная свядомасць шыбка пачынае расці нават у тых глухіх вёсках, у якіх да вайны аб гэтым ня было і чутно. Вайна, рэвалюцыя, акупацыя - усе гэта навучыла кожнага селяніна надта добра: усе нарэшце тут пераканаліся на горкіх прыкладах, што добрым гаспадаром краю можа быць толькі сам мясцовы народ, а не прыблуды, як гэта было ў бальшавіцкі час, бо чужы-чужака, ці будзе ён парабак, ці экcanом-"камісар", усё-ж ладу ня будзе: усе будзе зруйнавана, і ня толькі спакойнага жыцця, але і хлеба ня будзе.*

*Спачатку павятовы стараста, не згаджаўся зацвердзіць статут Камітэту, але потым, як яму было даведзена, што Беларускі Камітэт, як чыста нацыянальная арганізацыя, маючая мэтай культурна-прасветную працу, нацыянальную і арганізацыйную, - не існаваць не можа, што кожны народ мае права мець такія свае арганізацыі, што жыды-ж, прыкладам, усюды, нават у малых мястэчках, маюць свае нацыянальныя абшчыны, - згадзіўся з довадамі арганізатараў Камітэту і перашкаджаць яго працы ня будзе.*

*Шкада адно, што дзеля дрэннай камунікацыі мы не можам акуратна атрымоўваць беларускіх газет. Сяляне надта цікавяцца, што дзеецца ў свеце, нарасхват разбіраюць беларускія газеты і зачытваюць саўсім, хоць нават і старыя нумары, але на жаль, газеты рэдка даходзяць да нас. Польскія газеты да нас часцей пападаюць - найбольш праз польскіх жаўнераў, але ў нас рэдка хто можа талкова прачытаць па-польску"* [190].

**9. Аднаўленне мірнага жыцця, 1921-23 гг.**

У кастрычніку 1920 г. абодва бакі польска-расійскага канфлікту, змарнелыя цяжкімі баямі, падпісалі дамову аб перамір'і.

Трэба трохі падрабязней сказаць аб двух канцэпцыях у справе ўсходняй мяжы сярод кіраўніцтва Польшчы таго часу.

Паводле праекту, распрацаванаму нацыянальным (эндэцкім) лагерам, межы Польшчы на ўсходзе павінны былі праходзіць па лініі другога разбору 1793 г. Рэчы Паспалітай. Раман Дмоўскі, аўтар гэтага, плану, які атрымаў назву інкарпаратыўнага, лічыў, што самым небяспечным ворагам незалежнасці Польшчы будзе Нямеччына, якая будзе заахвочваць да незалежнасці народы, што засялялі тэрыторыі паміж Расіяй і Польшчай і аслабляць дзяржаву. Таму ён прапанаваў далучыць да Польшчы толькі тыя ўсходнія тэрыторыі, дзе палякі (калі больш дакладна - рыма-каталікі) складалі большасць і якія можна было хутка асіміляваць. Так сама гэта павінна было стварыць умовы для паляпшэння адносін з Расіяй. Аўтарам другой канцэпцыі, федэратыўнай, быў Юзаф Пілсудскі, які лічыў Расію самым небяспечным ворагам Польшчы. Паводле гэтага плану, другая Рэч Паспалітая павінна была дапамагчы ўкраінцам, беларусам і летувісам у справе станаўлення іх дзяржаўнасці. Пілсудскі меркаваў стварыць федэрацыю суверэнных дзяржаў - польскага, беларускага, украінскага і летувіскага народаў, здольную супрацьстаяць магчымай расійскай агрэсіі.

У сакавіку 1921 г. у Рызе адбылося падпісанне польска-расійскай мірнай дамовы, якая ўсталявала агульную мяжу, згодна з лініяй эндэкаў, палякі аддалі нават ужо захопленыя імі беларускія землі якія Ленін гатовы быў ім падараваць. Федэратыўны план Пілсудскага праваліўся. Беларускі і ўкраінскія народы былі падзеленыя паміж Польшчай і бальшавіцкай Расіяй.

Плошча Другой Рэчы Паспалітай перавышала

388 тыс. кв. км, што ставіла яе на 6-е месца ў Еўропе. Паводле праведзенага ў 1921 г. першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва, у краіне пражывала больш за 27 млн. чалавек, з іх каля 35% няпольскага паходжання. За 20 гадоў незалежнасці колькасць насельніцтва ўзрасла да 35 млн. Самымі эканамічна развітымі былі заходнія землі краіны, населеныя палякамі, а ў Памор'е і Сілезіі таксама часткова немцамі. У гэтым раёне знаходзілася самая густая сетка чыгуначных і шашэйных дарог. Тут была развіватая прамысловасць, сельская гаспадарка і гандаль. Цэнтральныя раёны Польшчы адрозніваліся вялікай дыферэнцыяцыяй, нароўні з такімі сучаснымі гарадамі, як Варшава ці Кракаў, тут былі шырокія раёны галечы і адсталасці. У самым дрэнным становішчы знаходзіліся ўсходнія ўскраіны краіны, адсталасць якіх вынікала з таго, што яны былі непасрэднай часткай Расіі. Тут, за рэдкім выключэннем, амаль не было прамысловасці, а сельская гаспадарка, нават у буйных абшарніцкіх маёнтках, знаходзілася на нізкім узроўні. Ва ўсходніх землях пражывалі галоўным чынам беларусы, украінцы і яўрэі. Апошніх можна было сустрэць на тэрыторыі ўсёй Польшчы як у мястэчках, так і буйных гарадах.

Па Рыжскай дамове паміж Польшчай і Савецкай Расіяй Лідчына ўвайшла ў склад зноў створанага ў межах Польскай дзяржавы Наваградскага ваяводства. Навааградчына пасля 120 год знаходжання ў Расійскай імперыі і пасля 1-й Сусветнай вайны была ў стане небывалага гаспадарчага заняпаду. Гэта быў адзін з найбольш занядбаных рэгіёнаў новай Польшчы. На Навагрaдчыне не было вялікіх гарадоў і значных прамысловых устаноў, а малыя гарады мелі ў асноўным гістарычную каштоўнасць.

З 1921 г. на Лідчыне пачалося аднаўленне мірнага жыцця.

### *Беларускае жыццё*

Пра самы першы мірны года інфармацыі вельмі мала і кожная зацемка ў газеце мае вялікую каштоўнасць. Таму я буду прыводзіць гэтыя тэксты амаль што без скаротаў. Адразу на пачатку 1921 г. беларускія актывісты ў нашым горадзе зразумелі, што лёгка не будзе: *"З Лідчыны нам перадаюць, што там у многіх мясцох жандары канфіскуюць беларускія газеты. Напрыклад аб "Нашай Думцы" жандар адазваўся, што такой газеты ня можна чытаць і самаму Пілсудскаму"* [191]. *На станцыі Ліда, "на просьбу "Будзьце ласкавы, дайце мне газету "Віленскае Слова", або беларускую газету "Нашу Думку" ... дадуць такую адпаведзь: "Такіх газет мы не прадаема, гэта бальшавіцкія газеты, а мы прадаема толькі польскія і то ня ўсе, а толькі буржуазнага кірунку, крамолу разводзіць няма чаго ..."* [192].

Аднак людзі, перажыўшыя Першую Сусветную вайну і бальшавіцкую навалу, не страцілі аптымізму: *"Ліда. Усякім разам, як прыходзілі бальшавікі, нашаму гораду шмат прышлося перацярпець. Цяпер спакойна, і жыхары думаюць, каб як паправіць усе шкоды ў будынках і гаспадарствах, ды вярнуць сабе вялізарныя страты. Быў тут нядаўна Пілсудскі, - ён спатыкаў цела сваёй жонкі-нябожчыцы. На чале войск стаіць тут Рыдз-Смігглы, знаны сваімі дэмакратычнымі поглядамі і варожым становішчам да эндэнцыі, каторых тут прадстаўляюць кс. Мороз (беларускі вырадак) і Нарушэвіч. Што датычыць самаго народу, то яго палітычныя погляды вельмі не аднолькавыя. Лідчына - край надта рознародны, што да жыхароў: тут найбольш беларусаў, нямала ліцьвінаў, шмат шляхты польскай і спольшчанай. У Лідзе руплiва працуе кс. Дашута. Лідчанін"* [193].

**ДАШУТА Язэп Дамінікавіч.** (20.12.1890, Саколка Гарадзенскай губерні, цяпер Падлескае ваяводства, Польшча - 9.09.1966, кляштар у Ўлацлаўку, Польшча), рыма-каталіцкі святар, манах-марыянін, грамадскі і культурны дзеяч, педагог. У 1905-10 вучыўся ў Сакольскім гарадскім 4-класным вучылішчы. У 1911 г. паступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. Быў членам гуртка беларусаў-семінарыстаў. Пасвечаны ў святары 26.5.1918. Прызначаны вікарыем у парафію Дабжынаў Беластоцкага дэканата. З 1921 г. вучыўся ў Люблінскім каталіцкім ун-це. З 1925 г. у кляштары марыянаў у Друі. Пасля навіцыяту выехаў на далейшую вучобу ў Рым, дзе праз год абараніў доктарскую дысертацыю па кананічным праве. У канцы 1927 г. вярнуўся ў Друю. Браў удзел у заходнебеларускім рэлігійным і культурна-асветным жыцці. Праследаваўся польскімі свецкімі ўладамі. Дэпартаваны паліцыяй з Друйскага кляштара 23.6.1938 г. Жыў у кляштарах марыянаў у Скужцы каля Седляца, Грудзёндзы, Улацлаўку (Польшча). Падтрымліваў кантакты з беларускім асяродкам марыянаў у Лондане. Пахаваны ў Варшаве.[194]

Пра дзейнасць ксяндза Дашуты ў Лідзе покуль нічога не вядома.

**9 кастрычніка** 1921 г. у Лідзе гастраляваў беларускі тэатар, кіраўніком якога быў знакаміты беларускі драматург Францішак Аляхновіч: *"Пастаўлена была "Птушка шчасця", вядомая п'еска Аляхновіча, а пасля спэктаклю быў канцэртны аддзел, у якім выступіла балярына петраградзкага тэатру Магрэта Ніжынская. Спэктакль тэатру Аляхновіча быў першым беларускім спэктаклем у Лідзе, дык няма дзіва, што ня толькі ўсё беларускае грамадства прышло ў тэатр, але і шмат польскага. П'еса зрабіла добрае ўражаньне: публіка шчыра сьмяялася з клопатаў Янкі і сварлівай Маланкі, прымушаючы артыстаў бісаваць. На першым месцы трэба адзначыць аўтара п'есы, які ў ролі Янкі ўжо ў першым акце здабыў сымпатыю ў публікі. Вельмі добрай яго партнэршай была п. Случчанка, якая стварыла дасканальны тып сварлівай жонкі. П. Шчасны, граўшы ролю Жыда, меў вельмі ўдачыны грым і граў надта добра, умела зрабіўшы трудны пераход ад камізму да лірызму ў 3-м акце. Трохі бледна правёў сваю ролю артыст, які граў Лясуна. Асобна трэба адзначыць канцэртную частку праграмы вечара, у якой выступіла балярына петраградзкага тэатру Магрэта Ніжынская. Публіка была захоплена танцамі, каторыя з мастацкага боку былі бяз ніякай заганы. Аплёдысмэнтым не было канца. Адным словам, гэты спэктакль быў нязвычайным зьявішчам у Лідзе, і трэба спадзявацца, што чарговы спэктакль прыцягне яшчэ шмат болей публікі. Тыя,*

*што дагэтуль аднасіліся з нявераю да беларускіх культурных здабычаў, асабліва да беларускага тэатру, пераканаліся, што беларускі тэатр на правінцыі можа мець грунт для свайго істнавання"* [195].

Паведамлялася, што ўвосень 1921 г. валасная рада Арлянскай гміны Лідскага павета выбрала войтам гэтай воласці свядомага селяніна-беларуса з вёскі Прэціма, настаўніка Янку Дразда, але стараста павета не зацвердзіў яго на пасадзе.[196]

### *Барацьба за беларускія школы*

Аб стане беларускай адукацыі на Лідчыне пры канцы 1920 - пачатку 1921 г. напісаў справаздачу інструктар Беларускага Нацыянальнага камітэта Андрэй Асташонак *(гл. дадаткі)*. З яго тэксту вынікае, што ў той час на Лідчыне працавала 135 польскіх школ і 6 беларускіх. Па пастановах сялян на свой кошт, былі адчынены беларускія школы ў Зблянах, Вангах Моцевічах - Беліцкай гміны, Ракавічах - Ражанкаўскай гміны, у Турыйску, Галэмбах, Маскалёх, Зачэпічах, Дзям'янаўцах, Орлі і Ліпічах - Арлянскай гміны, Русаках - Ражанкаўскай гміны, у Астрыне. Яшчэ ў 20 вёсках і мястэчках сяляне жадалі мець беларускія школы: *"Ёсьць і памяшканьне і прыхільнасьць грамадзян да гэтых школ, як я даведаўся, што яны пры немцах такія школы мелі, і немцы давалі беларускіх настаўнікаў, якія праходзілі спэцыяльныя беларусканямецкія курсы ў Сьвіслачы. Сяляне адмовіліся ад польскіх школ і чакаюць, што адчыняцца беларускія школы, яны вельмі аб гэтым прасілі мяне, каб я хутчэй гэта зрабіў, бо дзеці нічога ня робяць"* [197].

У красавіку 1921 г. інспектар адукацыі Лідскага павета Вус, давёў беларускім настаўнікам, што беларускіх школ у будучым 1922 годзе не будзе, *"ўсе зачыніць, а настаўніц і настаўнікаў ён церпіць толькі часова, думаючы, што з іх выйдуць добрыя настаўнікі польскіх школ, а не беларускіх"* [198]. Селянін з Мытлянскай воласці ў тым жа нумары пісаў, што *"ксёндз наш беларускай мовы ня любіць і часта кажа, што калі мы будзем вучыцца па-просту, дык ён ад нас уцячэ. Ён радзіць нам, каб беларускіх вучыцялёў гнаць вон дзяркачом"* [199].

Справы інспектара Вуса не разыходзілася з ягонымі словамі. Увосень 1921 г. былі зачынены беларускія школы ў вёсцы Сарокі Арлянскай воласці *"дзе жывуць выключна беларусы, а замест яе лідскі школьны інпектар п. Вус стараецца адчыніць польскую"*, і ў вёсцы Вольгаўцы (тады Жалудоцкай воласці), *"дзе жывуць толькі беларусы, школьны інспектар п. Вус прыслаў польскую вучыцельку, але сяляне яе не прынялі, жадаючы беларускія школы"* [200].

Усіх здзівіў бацюшка з Дзікушак: *"Цікавае зьявішча, арыгінальнае! Бацюшка ў сваім уласным будынку адчыніў проці волі насялення польскую школу. Дачка скончыла беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні ў 1921 г., цяпер яна здраджвае беларускіх дзетак, калечыць памаленьку іх. А бацюшка стараецца не адставаць ад дачкі. Ён лае грамадзян за тое, што яны ня хочуць слаць дзетак да школы. Будзем цешыць сябе думкай, што гэта зьявішча рэдкае"* [201].

У 1921 г. невядомы беларус Алесь пісаў з Ліды: *"Цяжка жывецца тут нашаму многапакутнаму народу, здадзенаму на ласку і не ласку павятовай адміністрацыі, якая праводзіць у жыццё ўсе тыя прыёмы, якія практыкаваў нядобрай памяці царскі ўрад. Беларускіх школ адчыняць не даюць, вучыцялі тых некалькіх школ, якія існуюць, з'яўляюцца мучанікамі святой ідэі пашырэння асветы сярод сваіх братоў у роднай мове. Асабліва ў цяжкіх варунках праваслаўнае грамадзянства. Яму не вольна вучыцца па кніжках, друкаваных гражданкай. Калі нават у прыватных школах, утрымованых на сродкі сялянства заўважана будзе беларуская кніжка, друкаваная гражданкай, такая школа зараз зачыняецца, кніжкі канфіскуюцца, а вучыцялю пагражае арышт. Бывала і такое здарэнне, што праваслаўныя беларусы павінны былі даваць утрыманне польскаму вучыцялю за тое, што ў яго школцы вучылась усяго 6-7 вучняў-католікаў. А тых сялан, якія адмаўляюць дабравольна гэтае ўтрыманне даваць, не абыходзілі без пабояў і ў рэзультаце паліцыя пры вобыску забірала апошняе. За ўсякім вычыцялем і духоўнікам, каторых паважаюць сяляне, ідзе моцнае шпягоўства, часамі гэтыя асобы проста зазываюцца якім небудзь панам да сабе і папярэджваюцца, што, калі яны пасмеюць "агітаваць", то зараз жа будуць арыштаваны. Некаторым вычыцялом забараняюць вучыць дзяцей па беларуску з тае прычыны, што яны "бальшавікі", але тут жа гэтым самым асобам, прапануюць вучыць дзяцей па польскі. Браты нашы, родныя, навучыце нас, што нам рабіць. Алесь"* [202].

Цікавую інфармацыю пра справу беларускіх школ на Лідчыне даведваемся з артыкула надрукаванага на пачатку 1922 г. ў газеце "Беларускія Ведамасьці": *"У нашым Лідзкім павеце справа з беларускай асьветай чым далей, тым горш. Тыя вёскі, якія падалі польскаму школьнаму інспэктару даўно ўжо прыгаворы з просьбамі аб адчыненьні беларускае школы, спадзяваліся, што а можа-ж і зьмілуецца пан інспэктар, аможа-ж хоць пасьля Каляд дзеткі будуць вучыцца. Мысьлілі сяляне, што інспэктарыят школьны, заняты адчыненьнем польскіх школ у беларускіх вёсках, ня мае часу заняцца іншымі школамі і дзеля гэтага адцягвае разгляд заяваў аб беларускіх школах. А інпэктарыаат тым часам, напіхаючы польскіх вучыцялёў усюды, зьбіраў спраўкі аб беларускіх вучыцялёх - кандыдатах, каб знайсьці фармальныя прычыны і ня даць дазволу на беларускую школу. Дэлегацыі ад сялян да інспэктара кожны раз чуюць ад яго, што справа яшчэ "nie zbadana", і трэба яшчэ пачакаць. Доўга чакалі сяляне і ўрэшце дачакаліся ... адмоўных адказаў. Калі фармальных прычынаў пры гэтым вымысьліць было немагчыма, дык вінавата кандыдатура вучыцеля, асабліва, калі ён родам з тэй самай вёскі, адкуль прыйшла заява аб беларускай школе. Вядома, гэткі вучыцель можа мець найбольшы ўплыў на сялян, дык, значыцца, ён небясьпечны ў гэнай школе, а дзеля гэтага, "отвод", як і ў часы царскага рэжыму. Ды цяпер інспэктару яшчэ лягчэй: ахрысьціў вучыцеля "bolszewikiem" - і гатова. Далейшыя гутаркі аб*

*беларускай школе адразу спыняюцца, бо і самая вёска бярэцца тады на падазрэньне: "bolszewicy!". Калі гэты вучыцель дбаў аб беларускай школе ў сваёй вёсцы і пры бальшавіках, дык хоць-бы ён дастаў цяпер абяляючае яго пасьведчаньне ад самога ксяндза, навет паляка, усё роўна ён - "bolszewik", і школа беларуская адчыніцца ня можа. Адна вёска ў нас зусім ужо пэўна была, што школа будзе адчынена: да самых падрабязгаў усе фармальнасьці былі споўнены, вучыцель бяз жаднага падазрэньня. Раптам - адмоўны адказ. Вучыцель Патапчык Тодар дастае ад школьнага павятовага інспэктара за №, пячаткай і ўласнаручным подпісам інспэктара, што школа беларуская ня можа быць адчынена ў яго вёсцы, і Патапчык ня можа быць у ёй вучыцелем, бо ён "працаваў у асвьвеце пры бальшавіках, і дзеля гэтага інспэктарыят ня можа быць пэўным у яго лойяльнасьці да польскае ўлады". Спрытна! Адразу і вучыцель - ня вучыцель, і школа ня будзе адчынена"* [203].

Хутка школьнага інспектара Вуса змяніў Вайтовіч, але палёгкі беларусы не атрымалі. Газета "Новае Жыцьцё" ўвесну 1923 г. паведамляла: *"Нават даходзіць наш павятовы польскі інспэктар да таго, што жыхароў вёскі Альхоўка Дакудаўскае гміны, якія дамагаюцца ўвесь час беларускай шолы для сваіх дзяцей, застрашывае, што будуць яны караны, калі ня будуць пасылаць дзяцей у школу польскую, якая ўжо даўно адчынена ў Альхоўцы, але пустая. Ну вядома, сяляне нашыя не такія ўжо палахлівыя цяпер і гэтых хітрых ходаў інспэктара не баяцца"* [204]. Увосень 1923 г. прэса зноў паведамляла пра падзеі ў вёсцы Альхоўка Дакудаўскай гміны. Пасля цэлага года барацьбы за беларускую школу *"інспэктар Вайтовіч прыгразіў, каб і мовы ня было аб беларускай школе. Чаго не рабіў п. інспэктар, каб ня даць адчыніць нам школу ня то што ўрадавую, але нават прыватную, а ўрэшце, каб ужо раз на заўсёды скончыць з гэтай справай, забраў школьны будынак і зрабіўся яго поўным гаспадаром. Вось жа, калі ў гэтым годзе стала патрэбным зрабіць рэмонт гэтага будынку, дык Zarzand Szkolny дамагаецца, каб нашая вёска ўзяла гэты рэмонт на сябе. Але на наш сялянскі розум здаецца, што калі пан інспэктар забраў будынак, назваў яго rzadowyt, а сябе лічыць гаспадаром будынку, дык павінен сам яго і паправіць. Сяляне-ж ад яго ня маюць цяпер ніякай карысці: нашай беларускай школы не дазволілі, а польскай мы ня хочам"* [205].

Нейкі С. Л-цкі ўвесну 1923 г. пісаў з Беліцкай гміны: *"У гэтую восень ліпічанцы пастанавілі адчыніць сваю беларускую школу. Нанялі на свой кошт вучыцеля Юзіка Хрышчановіча, адвялі і наладзілі пад школу лепшую хату, і вучэньне загудзела. Школа налічвала 45 вучняў. Былі ў нас вучыцялі з Пазнані ўрадовыя, але яны таго праз дзьве зімы не навучылі, колькі грам. Хрышчыновіч у некалькі нядзель - вядома, родная школа! Так прабыла да каляд, урэшце зваліласся бяда (у нас усюды толькі і чуеш аб бядзе), наляцела паліцыя з пастарунку з Беліцы і зачынілі школу. Са сьлезамі бацькі малілі адмяніць злую пастанову. Не памагло, яшчэ сталі пагражаць і лаяць. Ня сьлёзы тут патрэбны"* [206].

Увосень 1922 г. у Лідзе пачалі працаваць курсы для непісьменых рабочых. Заняткі *"пачынаюцца ў панядзелак, 13.10.1922 у 18-00, у агульнаадукацыйнай школе пры "Рабочай лізе", ул. Велькая, 94"* [207], гэтыя дзяржаўныя курсы, канешне ж, вучылі польскай мове.

### *Эканоміка*

Не гледзячы на адсутнасць асноўных спажывецкіх тавараў з канца 1920 г. на Лідчыне хутка пачала развівацца кааперацыя. 20 кастрычніка 1921 г. у горадзе адбыўся з'езд прадстаўнікоў Лідскага Саюзу Спажывецкіх Таварыстваў. З дакладу сябра рады п. Шаптуноўскага аб дзейнасці кааперацыі *"выявілася вельмі марнае становішча Саюза, хаця за час ад пачатку гэтага года да 1 кастрычніка лік таварыстваў, якія належалі да Саюзу, з 33 павялічыўся да 50, агульная сума балансу з 2 000 000 да 8 000 000 марак, Саюз не мог нічога даць сваім сябрам, апрача манапольных тавараў. Справаздача ўраду выклікала цэлую буру закідаў, часам зусім няслушных, з боку прысутных на зьездзе 12 ксяндзоў (з агульнага ліку 40 дэлегатаў). Закіды гэтыя, як потым высьветлілася, можна зьвесьці да вось чаго: 1) Урад Саюзу даканаў некалькі транзакцый куплі тавараў у гандляроў не хрысьціянскай рэлігіі, 2) ня мог даставіць ўсіх патрэбных тавараў. ... Старому ўраду ... выразілі недавяраньне і выбар новага ўраду даручылі Радзе Надзорчай, склад якой папоўнілі новымі сябрамі. З пазьездавых размоў мне, аднак, удалося выясніць, быццам недавяраньне ... была выражана не за энэргічнае кіраўніцтва Саюзам, але за прыналежнасьць да пэўнай соцыялістычнай партыі. На першы погляд гэта выдаецца дзіўным, аднак, калі зважыць лік "кааператараў у сутанах", іх проста дэмагагічныя манеры, дык, хто ведае, можа гэта і праўда"* [208]. З артыкула бачна, што Лідскі Саюз арганізаваў кааператыўныя курсы, якія скончыла 14 чалавек, камандзіраваных таварыствамі і 24 дэмабілізаваныя жаўнеры. На другі дзень адбылося паседжанне Рады, на якім выбралі новы ўрад Лідскага Саюзу.

Гарадскі шпіталь быў пабудаваны ў 1922 г. на грошы Амерыканскага Чырвонага Крыжа [209]. Гэты шпітальны корпус існуе і зараз.

У лістападзе 1922 г. пачала будавацца тэлефонная лінія з Вільні да Варшавы праз Ліду: *"Віленская дырэкцыя поштаў і тэлеграфаў прыступіла да будоўлі тэлефоннай лініі Вільня - Варшава якая пройдзе ўздоўж чыгункі Вільня - Ліда - Ваўкавыск. Слупы па ўсёй трасе будуць устаноўлены да маразоў, потым будзе падвешаны дрот"* [210].

Праз два тыдні прэса паведамляла: *"Будова тэлефоннай лініі Вільня - Варшава. Працы па пабудове тэлефоннай лініі Вільня - Варшава хутка працягваецца. Траса паміж Вільняй і Варшавай падзелена на тры будаўнічыя ўчасткі, а менавіта: Вільня - Ліда, Ліда - Ваўкавыск, Ваўкавыск - Варшава. Зараз вядуцца земляныя работы па устаноўцы слупоў, працы павінны закончыць да маразоў. З Вільні ўжо выехаў чыноў-*

*нік, які павінен прывезці з Варшавы 48 тон меднага дроту, які будзе мантавацца на гэтай лініі сувязі, коштам каля паловы мільярда марак"* [211].

У сярэдзіне студзеня 1923 г. тэлефонная лінія была пабудавана і перададзена ў публічны ўжытак.[212]

У лістадзе 1923 г. адбыўся *"пробны рэйд грузавікоў. У нядзелю пачаўся пробны рэйд цяжкіх і напаўцяжкіх грузавікоў 5-ці фірм. Маршрут: Варшава, Ломжа, Гародня, Ліда, Вільня, Беласток, Берасце, Хэлм, Люблін, Радам, Варшава, Лодзь, Каліш, Чанстахова, Кракаў, Закапана, Радам, Варшава - 3300 км"*[213].

На працягу 1923 г. Кіраўніцтва Вайсковага раёна інжынерыі і сапёраў у г. Лідзе некалькі разоў аб'яўляла таргі на рамонтныя работы ў Паўночным і Паўднёвым вайсковых гарадках г. Ліды.

Пры канцы лістапада 1923 г. магістрат Ліды даў аб'яву, што *"на падставе пастановы Гарадской Рады ад 13 верасня 1923 г. абвяшчае, што Гарадская Ўправа г. Ліды выдзяліла пляц, прылеглы да вуліцы Сувальскай і будынка гарадскіх боень для будаўніцтва двухпавярховага дома, на першым паверсе будзе крама, другі будзе выкарыстоўвацца для патрэб горада. Бургамістр Рашкоўскі"* [214].

Для ажыўлення эканомікі дзяржава пачала выдаваць танныя інвестыцыйныя крэдыты, аднак прадпрымальнікі не вярталі атрыманыя імі пазыкі, у выніку чаго ўрад змушаны быў паступова абясцэньваць грошы. Наступствы давялі да выбуху ў сярэдзіне 1923 г. гіперінфляцыі. Эканоміка з рэзкім падзеннем кошту грошай. У той перыяд грашовай адзінкай была польская марка, уведзеная ў 1920 г. замест валют дзяржаўудзельнікаў падзелаў. Эканамічнае становішча краіны рэзка пагоршылася, расло беспрацоўе, дзяржава перастала быць гарантам сацыяльнай абароненасці найбедных пластоў народа. Гэта, у сваю чаргу, выклікала хвалю эканамічных штрайкаў, якія захліснулі першым чынам буйныя прамысловыя цэнтры.

У такім становішчы ўрад падаў у адстаўку, а парламент зацвердзіў новы склад урадавага кабінета на чале з Уладзіславам Грабскім. Грабскі адкрыта заявіў пра неадкладнае спыненне дадрукоўкі грошай. Ужо ў красавіку 1924 г. урад змог правесці грашовую рэформу і адкрыць незалежны ад дзяржаўных структур Польскі банк. Акцыі банка былі распрададзены на вольным рынку, што дазволіла ўвесці новую нацыянальную валюту (польскі злоты) і абыйсціся без замежнай фінансавай дапамогі.

Інфляцыя польскай маркі добра прасочваецца па кошту прэсы. Так, беларуская газета "Наша Думка" на пачатку 1921 г. каштуе 5 марак, а ў ліпені таго ж года - ужо 10 марак. Газета "Беларускія ведамасці" у верасні 1921 г. каштуе 15 марак, у студзені 1922 г. - 30 марак. Газета "Вызваленьне народу" ў верасні 1922 г. прадаецца за 30 марак, а ў сакавіку 1923 г. - ужо за 400 марак, і г.д.

### ***Партызанка***

Знаходзячыся ў канфлікце з Польшчай з-за Вільні, летувіскае кіраўніцтва выкарыстоўвала сфармаваныя ў Летуве беларускія вайсковыя часткі як базу для разгортвання антыпольскага партызанскага руху. У 1922 г. у Коўне быў заснаваны Галоўны штаб антыпольскага паўстання. Гэтаму штабу падпарадкоўваліся партызанскія атрады ў памежных населеных пунктах Летувы. Асабліва актыўнай была партызанская група якой камандаваў паручнік Вячаслаў Разумовіч (атаман Хмара). Агулам партызанскія аддзелы налічвалі некалькі тысяч байцоў.[215]

Увесну 1922 г. беларускія партызаны перайшлі да актыўных баявых дзеянаяў.

У жніўні 1922 г. польская віленская газета "Слова" паведмляе, што літоўская прэса піша пра беларускае паўстанне ў Лідскім павеце і падрабязна апісвае два ўзброеныя напады з распаўсюдам пракламацый.[216] Праз некалькі нумароў тая ж польская газета паведамляе: *"Ковенскія ўлады інтэрпрэтуюць шматлікія і надзвычай арыгінальныя выпадкі бандытызму, які з пэўнага часу пашыраецца ў Лідскім павеце і прылеглых паветах не без ініцыятывы ковенскіх уладаў. Факты рабунку і знішчэння літоўска-беларускімі партызанскімі бандамі, якія стала базуюцца па другі бок нейтральнага паса - на літоўскай тэрыторыі, каментуюцца ковенскай прэсай як паўстанне беларускага народа супраць ненавісных акупацыйных польскіх уладаў. "Lietuvos Zinios" у нумары 97 піша наступнае: "З апошніх навін бачна, што акупантам цяжка кіраваць у занятым краі, у якім пашыраецца літоўска-беларуская партызанскія дзеянні. Зараз барацьба добра арганізавана, і таму польскія ўлады вымушаны ўвесці ваенны стан і высылаць па вёсках аддзелы жандармерыі, дзесяткамі хапаць паўстанцаў і нават расстрэльваюць іх"* [217].

У артыкуле "Дзіўныя справы", надрукаваным ў тым жа нумары, газета абвінавачвае партызанаў у нападзе на двор Глыбокае пана Мікульскага і на двор Дышлаўшчына (ободва на Лідчыне) з паленнем інвентару і рабункамі і прыраўноўвае падобныя ўчынкі да звычайнага бандытызму: *"... ковенскі ўрад лье слёзы па беларускіх і расейскіх бандытах і крымінальніках на Віленшчыне, нават адпраўляюць па іх душах пампезныя набажэнствы, як было ў выпадку з адным з расстраляных удзельнікаў банды "Чорта". Зараз яны пасунуліся далей у сваіх правакацыях, якія робяцца, каб паказаць Еўропе, што яна павінна ўмяшацца у тутэйшыя справы"* [218].

Праз дзень "Слова" інфармуе пра напад 18-ці ўзброеных карабінамі і рэвальверамі партызан на адзін з засценкаў каля Астрыны Лідскага павета, *"гаспадары засценка сустрэлі наведвальнікаў зброяй. З абодвух бакоў было зроблена каля 200 выстралаў. Аднак бандыты ўварваліся ў засценак і абрабавалі яго, забіўшы двух абаронцаў. Паліцыя прыбыла ў той жа дзень і пачала шукаць нападнікаў. Аднак бандыты да гэтага часу не знойдзены"* [219].

Хутка ўлады інфармуюць пра свае перамогі над партызанамі: *"Ліквідацыя бандыцкіх хеўраў у Гарадзенскім і Лідскім паветах. У сувязі з раней падаванай інфармацыяй аб ліквідацыі бандыцкіх хеўраў, якія апе-равалі на тэрыторыі Лідскага і Гарадзенскага паве-*

*таў, мы атрымалі наступнае паведамленне: гарадзенская паліцыя пасля доўгага і цяжкага следства выкрыла цэлую сетку бандыцкіх хеўраў. Гэтыя шайкі арганізаваныя і кіраваныя з Мерачы, з Аранскай і Алькеніцкай гмінаў пераходзілі ў Лідскі і Гарадзенскі паветы і тут рабілі напады. У апошнія дні ў Гародні і ваколіцах арыштавалі 20 удзельнікаў тых банд і іх камандзіра, нейкага Хмару, які паходзіць з Гародні. Разам з бандытамі ўзята многа зброі: карабінаў, рэвальвераў, ручных гранат і выбуховых матэрыялаў. Характэрна, што, каб заблытаць сляды, гэтыя банды не рабілі напады ў Віленскім павеце"* [220].

З беларускай прэсы можна даведацца пра тое, пра што не пісалі польскія газеты - пра дзеянні польскіх вайсковых аддзелаў на Лідчыне супраць мірнага насельніцтва: *"Звяртаем увагу паслоў дэмакратычных партый у польскім Сойме. З в. Воля Арлянская ... валасці палякамі забраны гр. Мікалай Павачка, якога хацелі застрэліць толькі за тое, што ён казаў, што без валасных прыказаў жаўнеры ня маюць права браць падводы адзіночнымі асобамі. Калі гр. Павачка ўказаў, што ў дэмакратычнай дзяржаве так нябывае, як яны робяць, то яго забралі як конррэвалюцыянера і адаслалі чаму-та ня ў Ліду, а ў Слонім, а з Слоніма пашлюць у Варшаву ці Кракаў. Дзеля таго, каб узяць на парукі, патрабуе польская ўлада залогу 60 000 марак"* [221].

Як заўжды ў такіх выпадках невыносная пакуты цярпелі мірныя беларускія сяляне. У верасні 1922 г., на перадвыбарчым мітынгу ў Астрыне сяляне са слязамі на вачах расказвалі Старшыні Лідскай Управы ПНП "Вызваленне" Станіславу Баліну аб *"тэй дзікай расправе, якую робяць карацельныя аддзелы жандараў у некаторых (беларускіх і літоўскіх) валасцяёх Лідскага павету. Расказы гэтыя малююць гэткую зьдзічэласьць, што таму, хто слухае, робіцца стыдна за польскага вурадніка ды паліцыянта ды за ўсё тое, што завецца культурай і цывідізацыяй 20-га сталецьця. Даволі сказаць, што нявінных жыхароў вёскі Крапічоўшчыны Костуся Альговіча і Мікалая Алюлевіча скручвалі ланцугамі і білі прутамі ў пяты, дапытваючыся аб бандытах. Павявае 16-м сталецьцем з пыткаю Івана Грознага, альбо "сьвятое" інквізыцыі. Рабункі над гэтымі людзьмі ўсё роўна як-бы правам былі дапушчаны: бяруць усё - парсюкоў, бараноў, масла, сыры і што толькі трапіць пад руку. Часта сена шукаюць у куфрох і шафах. Бо з гумнаў амаль ня ўсё сена забралі. У Ляхавічах забралі валы, канюшыну і за ўсё мусела заплаціць вёска да выданьня подпісаў, што дала дабравольны гасьцінец. Не гледзячы на так гарачую для кожнага хлебароба пару году, змушаюць яны 13 чалавек як дзень, так і ноч пільнаваць 1,5 кілёмэтра тэлефоннага дроту. І ўсё гэта прыкрываецца тлумачэньнем, што яны "бароняць" край ад "бандытаў"! Зьдзек на кожным руху. Бандытызм бандытызмам ня выкараняецца. ... Тое самае дзеецца з літоўцамі каля Начы. І нічога дзіўнага, што ўсё гэта можа тварыцца над безабаронным мужыком, бо гэткі астрынскі паліцэйскі, ня гледзячы на дазвол ваяводы, разагнаў першы мітынг таго самаго Старшыні Павятовае Управы "Вызваленьня" толькі таму, што Балін прыехаў не з палацу і не да палацаў, а з народу і для абароны народу"* [222].

Беларуская партызанка так і не была пераможана ваенным шляхам. Аднак, 15 сакавіка 1923 г. Ліга Нацый прызнала Польска-Летувіскую мяжу, і Летува спыніла дапамогу партызанкім аддзелам. Аднак польска-летувіскі рэлігійны канфлікт на Лідчыне, які пачаўся яшчэ да Першай Сусветнай вайны, працягваўся: вядома, што ў 1923 г. радунскі пробашч мусіў перапыніць набажэнтсва, бо мясцовыя парафіяне-летувісы бунтавалі супараць ужывання польскай мовы ў касцёле.[223]

### ***Выбары 1922 г.***

У лістападзе 1922 г. адбыліся выбары ў польскі парламент. Гэта былі ўжо другія выбары (першыя адбыліся ў 1919 г.), але насельніцтва Заходняй Беларусі брала ўдзел у такога кшталту мерапрыемствах упершыню. Беларускія нацыянальныя партыі і арганізацыі падчас гэтых выбараў здолелі дасягнуць найвышэйшага за ўвесь міжваенны перыяд узроўню нацыянальнай згуртаванасці. Большая іх частка далучылася да Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта на чале з А. Луцкевічам (БЦВК), які праводзіў сваю кампанію ў складзе Блока нацыянальных меншасцяў (БНМ) Польскай Рэспублікі. Праграма БЦВК прадугледжвала прызнанне польскай дзяржавы, барацьбу за тэрытарыяльную аўтаномію, школу на роднай мове, правядзенне зямельнай рэформы, роўнасць усіх рэлігійных вызнанняў, тэрытарыяльную арганізацыю войска і г.д. У БНМ ўступілі прадстаўнікі беларускага, украінскага, рускага, нямецкага і яўрэйскага народаў.

Нешматлікія заходнебеларускія палітыкі, якія адмовіліся далучыцца да БНМ, у асноўным прадэкларавалі сваю паланафільскую арыентацыю. Яны пастараліся звярнуць на сябе ўвагу польскага ўраду, разлічваючы атрымаць ад яго матэрыяльную падтрымку сваіх дзеянняў. Пры гэтым яны выстаўлялі сябе ў якасці рэальнай альтэрнатывы палітыкам, аб'яднаным у БНМ[224].

Аднак галоўнымі супернікамі БНМ у час выбараў у паўночна-ўсходніх ваяводствах павінны былі быць польскія партыі, якія высоўвалі пастулаты радыкальных сацыяльных рэформ і ўлічвалі ў сваіх праграмах імкненні нацыянальных меншасцей. Перш за ўсё гэта былі Польская народная партыя (ПСЛ) "Вызваленне" і Польская сацыялістычная партыя (ППС).

ПСЛ "Вызваленне" мела свае арганізацыйныя струкруры на Лідчыне. У передвыбарчых плакатах "Вызвалення" прапагандаваліся адбудова вёскі, бясплатная адукацыя, раздача зямлі, роўныя правы ўсіх грамадзян Польскай Рэспублікі без розніцы іх мовы і веравызнання. У сваёй дзейнасці "Вызваленне" імкнулася да ахопу сваім уплывам вёсак, населеных беларусамі. Сярод кандыдатаў у паслы ад гэтай партыі знаходзіліся людзі, якія лічылі сябе беларусамі.

Вялікую цікавасць да выбараў на "крэсах", праявіў начальнік дзяржавы Ю. Пілсудскі. Ён хацеў, *"каб у сойм увайшло з крэсаў як найбольш палякаў, а з*

*іншых нацыянальнасцей па меры магчымасці толькі асобы, прыхільныя да польскай дзяржаўнасці".* З гэтай мэтай 23 верасня 1922 года на з'ездзе ў Баранавічах было створана Дзяржаўнае аб'яднанне на крэсах, на чале якога стаў родны брат Пілсудскага. Аб'яднанне паспрабавала прыцягнуць да сябе беларускіх і ўкраінскіх нацыянальных дзеячаў, аднак скончылася гэта няўдачай, бо да яго далучыліся толькі малаўплывовыя палітыкі.

Таксама ў Лідскай і Віленскай акругах былі выстаўлены спісы прапольскага Аб'яднання беларускіх беспартыйных актывістаў і "Зялёнага Дуба", з якімі шчыльна супрацоўнічаў генерал С. Булак-Балаховіч.

Беларускія камуністы абавязваліся працаваць на карысць спісу Саюза пралетарыяту горада і вёскі.[225]

Пры канцы жніўня 1922 г. віленская газета "Слова" перадрукавала артыкул з газеты "Беларускі Шлях", у якім стан рэчаў апісваўся наступным чынам: *"Палітычная сітуацыя ў беларускіх справах прадстаўляецца зараз цалкам зразумелай: толькі ў Рэчы Паспалітай ёсць магчымась дасягнуць тых мэтаў, да якіх імкнуцца лідары беларускага руху ... Мы перакана्ны, што здаровы розум беларускага народа ўстрымаецца ад тых памылак, якія да гэтага часу рабіліся і змусіць яго адкінуць авантурную палітыку і донкіхотства, якое праводзілі некаторыя дзеячы з-за мяжы (Коўня, Прага, Рыга)"* [226].

Тады ж старшынём Акруговай выбарчай камісіі ў Лідзе быў прызначаны міравы суддзя Халява.[227]

Праз некалькі нумароў "Слова", не называючы прозвішча, цытуе аднаго з вядомых прадстаўнікоў беларускай супольнасці: *"Заключылі мы адзіны блок з украінцамі Валыні, Падлесся і Хэлмшчыны, да гэтага блока прысталі таксама расейцы, яўрэі і немцы. Блок складзены для атрымання як мажліва больш галасоў. ... Найбольшыя шансы правядзення у Сойм нашых паслоў існуюць у Наваградскім, Лідскім, Свенцянскім і Пінскім паветах. Ёсць надзеі правесці 15 паслоў"* [228].

24 верасня 1922 г. у Лідзе адбыўся акружны з'езд "Вызвалення". На гэты з'езд прыехала 3250 дэлегатаў чатырох паветаў: *"Гэтакага зьезду ў Лідзе яшчэ не бачылі. Як ішлі нашы дэлегаты з вакзала праз вуліцы Ліды, з усіх вуліц выскачылі, як ваўкі, эндэцкія агітатары, упіхвалі дэлегатам свае адозвы ды газеціны і намаўлялі, каб яны ішлі да іх. Нішто не памагло. Работніцкі люд ішоў на свой зьезд "Вызваленьня" спакойна, горда, адганяючы з пагардай вон панскіх наймітаў. ... Лідскі зьезд выбраў тых, каго лічыў найлепшымі. Вызваленцы выбралі тутэйшых, вядомых людзей. Галасавалі над усімі кандыдатамі: усе былі прыняты большасцю галасоў. Згода, якая панавала на зьездзе даказвае, што работніцкі люд ужо сарганізаваўся і ведае, што для яго карысна. Дык ужо паны пястоўцы, радзюкі ды іншыя ... даведаліся якіх паслоў хочуць дэлегаты. Дык цяпер будуць процiў іх агітаваць, выдумляць розную брахню. Ужо ... розныя платныя агітатары езьдзяць па вёсках і ціхцам разсказваюць быццам адзін з іх бальшавіцкі камісар, а другі жандарскі афіцэр, трэйці - абакраў касьцёл у Менску ..."* [229].

На пачатку кастрычніка Беларускі Цэнтральны Выбарчы Камітэт вылучыў у Свянцянскай акрузе першым у спісе ксендза Адама Станкевіча, другім - настаўніка Мятлу. У Лідскай акрузе першым у спісе ішоў Рак-Міхайлоўскі, другім - інжынер Аўсянік[230].

На пачатку лістапада "Слова" друкуе выбарчыя спісы з нумарамі, пад якімі партыйныя блокі будуць ісці на выбарах:

**Спісы кандыдатаў у Сейм па Лідскай арузе № 62**

- Спіс № 1, Польская сялянская партыя "Пяст" (Polsk. Stronnictwa Ludowego PS.L. "Piast").
- Спіс № 3, Польская народная партыя (ПНП) "Вызваленне" (P. S. L. Wyzwolenie i lewica ludowa).
- Спіс № 5, Саюз пралетарыяту горада і вёскі (Komunistycznego Zwiazku Proletarjatu miast i wsi).
- Спіс № 6, Звяз Народных Радаў (Zwiazku Rad Ludowych).
- Спіс № 8, Хрысціянскі Звяз народнага адзінства (Chrzescijanski Zwiazek Jednosci Narodowej).
- Спіс № 22, Блок Нацыянальных меншасцяў.
- Спіс № 23, Аб'яданне беларускіх беспартыйных актывістаў і "Зялёнага Дуба".
- Спіс № 24, Польскі Звяз Народнага Адраджэння (Polski Zwiazek Ludowy "Odrodzenie").
- Спіс № 26, Саюз кватэранаймальнікаў (Centrali Zrzeszel lokatorskich).
- Спіс № 27, Аб'яданы камітэт "Coireion" і "Cejre Sion" (Zjednoczonego Komitetu "Coireion" і "Cejre Sion").[231]

Звяртае ўвагу тое, што на Лідчыне амаль што ўвесь спектар партый, прыняўшых удзел у выбарах, быў "левы", а так сама вялікую колькасць беларускіх партый.

У выніку па Лідскай акрузе на выбарах былі абраны, па:

- Спісу № 1 (PS.L. "Piast") прайшоў у паслы толькі адзін Крыжаноўскі - адзін з *"лідараў віленскай дэмакратыі і былы пасол Віленскага Сэйма".*
- Спісу № 3 (Вызваленне) - тры паслы: Сільвестр Ваяводскі - *"інтэлігент, рэдактар "Вызвалення Народу", сябар галоўнай управы "Вызвалення", Галавач - селянін, Балін -малазямельны селянін".*
- Спісу № 8 (Ch. J. N.) - пасол Рачкоўскі - *"інтэлігент, былы пасол Расейскай Думы ад Ковеншчыны, былы пасол Віленскага Сэйма".*
- Спіс № 16 (Блок нацыянальных меншасцяў) - *"эсдэкі Рак-Міхайлоўскі і Аўсянік"*.[232]

Новы сойм і сенат складаліся з дэпутатаў ад 200 дзейных у краіне партый і прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў. Слабым месцам польскай парламенцкай сістэмы 1922-1926 гг. стала палітычная раздробненасць сойма пры ягоных вельмі шырокіх паўнамоцтвах. З-за розніцы ў праграмах партый і нацыянальных супярэчнасцяў немагчыма было ўтвараць сталыя ўрадавых кааліцыі. Таму кансерватыўнае "Слова" пісала аб выніках выбраў: *"Склад новага Сойма фатальны. Гэта інстытуцыя будзе кашмарам нашага палітычнага жыцця. Усякага роду непалякі: яўрэі,*

*беларусы, украінцы, немцы здабылі па акругах 73 мандаты і будуць займаць у Сойме 90 крэслаў. І не ў тым справа, што 90 паслоў будуць размаўляць і думаць не па-польску, але ў тым, што з-за нашай дрэннай нацыянальнай палітыкі, нашага недальнабачнага нацыяналізму, годнага можа толькі для Ковенскіх летувісаў ці чэхаў, а не для каралеўскага народа - носьбіта Ягелонскай ідэі, усе гэтыя паслы будуць мець скрайні антыпольскі і антыдзяржаўны настрой"* [233].

У выніку парламенцкіх выбараў 1922 г. магла сфармавацца толькі правацэнтрысцкая кааліцыя, у склад якой уваходзілі галоўным чынам эндэкі, аб'яднаныя ў Народна-нацыянальным звязе (Звяз Людова-Народовы - ЗЛН), Польскай сялянскай партыі "Пяст" на чале з Вітасам, а таксама хрысціянска-дэмакратычныя партыі. У канцы 1922 г. адбылася трагічная падзея, якая запаволіла працэс фармавання кааліцыйнага ўраду. Большасцю галасоў дэпутатаў ад цэнтрысцкіх і левых партый, а таксама нацыянальных меншасцяў, прэзідэнтам Рэчы Паспалітай быў абраны Габрыэль Нарутовіч. У адпаведнасці з канстытуцыяй Начальнік Дзяржавы Юзаф Пілсудскі перадаў уладу ў рукі першага прэзідэнта. Аднак з выбарам Нарутовіча не жадалі пагадзіцца эндэкі, лідары якіх развязалі шалёнае цкаванне прэзідэнта. 16 снежня 1922 г., праз два дні пасля ўступлення на пасаду, прэзідэнт Польшчы быў забіты прыхільнікам нацыянал-дэмакратаў, мастаком Элігіюшам Невядомскім. Імя прэзідэнта Габрыэля Нарутовіча насіла Лідская школа №1.

25 лютага 1923 г. Ліду наведаў абраны пасол Сойма Сымон Рак-Міхайлоўскі: *"У былым памяшканьні Беларускага Выбарнага Камітэту адбыўся мітынг, на якім дэпутат Міхайлоўскі інфармаваў прысутных аб працы ў Сойме Беларускага Пасольскага Клюбу, аб тактыцы Клюбу і казаў аб патрэбе арганізаваньня на мяйсцох, каб агульнымі сіламі паляпшаць сучасны стан рэчаў і праўнае палажэньне беларускай люднасці пад польсай ўладай. Дэпутат прыняў масу жалаб з сярод сабраўшыхся, якія былі звольнены са службы на чугунцы і тэлеграфе, як людзі тутэйшыя і праваслаўныя, бо не выяжджалі з Ліды ўчасе польскай эвакуацыі ў 1920 годзе. Дэпутат Міхайлоўскі ад імя Бел. Пас. Клюбу дакляраваў даць ход гэтай справе. Вечарам гэтага-ж дня быў заарганізаваны ў Лідзе Сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу, кіраўніком Сэкрэтарыяту быў абраны грам. Калясінскі Уладзімер. Сэкрэтарыят месьціцца на вул. 2 Слабодка, д. № 8"* [234].

Газета "Вызваленьне Народу" праз поўгода пасля выбараў так сама пісала пра дзейнасць сваяго пасля ў Сойм Станіслава Баліна: *"Нашыя прабакаваньні, што гэткія партыі як Пяст (1 спіс), Хьена (8) і іншыя перад выбарамі завіталіся толькі дзеля таго, каб ачмуціць людзей і ўсадзіць у Сойм паслоў, якія там будуць помніць толькі сабе - споўніліся аж да іоты. Напрыклад, у Лідскім павеце дасюль апрача нашага пасла Баліна, які мучачыся езьдзіць па павеце і здае справаздачу, ніякі іншы пасол, выбраны з гэтага павету, не паказваецца. Аб спісе 8 няма чаго гаварыць, бо ён быў выбраны ад паноў .... А што сказаць аб пасьле з 1-кі п. Дуброўніку, які за адтрыманыя ў Сойме грошы меў час добра апрануцца, а ня мае часу давефдацца аб крыўдах і балячках сваіх выбраўшчыкаў. ... Толькі праз арганізацыю й прасвету, праз чытаньне газетаў і навуку дойдзем да ... сілы, з якой паны мусяцімуць лічыцца. Дык вось складайце па вёсках гурткі ... і выпісвайце толькі свае газеты "Вызваленьня" з Вільні і Варшавы. ... На Лідзскі павет сэкрэтарыят ... знаходзіцца на Сувальскай вуліцы, 1, там дзе Народны Дом. Сэкрэтаром тамака ёсць грамадзянін Ян Ваяводзскі, які дзесяць гадоў быў сэкрэтаром суду"* [235].

Не гледзячы на пазнейшую заяву Б. Тарашкевіча ў сойме, што *"мы пераступілі гэтыя парогі ў калькасці, не адпаведнай калькасці нашага беларускага насельніцтва"*, вынікі выбараў былі прызнаны ў беларускіх асяродках за вялікую перамогу нацыянальнага руху. Пры аналізе выбараў падкрэслівалася, што *"пабеда дасталася не "Блоку Нацыянальных Меншасцей" і не "Вызваленню", а выключна беларускай ідэі - беларускаму штандару, пад якім ішоў і №16, і №3. У гэтым-то крыецца наша падвойная пабеда... Мы - дый не адны мы, а ўвесь свет - пераканаліся, што, нягледзячы на смяротны прысуд нашаму народу, зроблены польскім урадам... народ беларускі жыве, жыць хоча і жыць будзе, як бы яго ні ўціскала пануючая нацыя"*[236]. У дакладах польскіх спецслужбаў падкрэслівалася як трывожны фактар для польскіх улад *"завязанне беларускай выбарчай сеткай шырокага і сталага кантакту з народнымі масамі - з'ява, якая першы раз сустракаецца ў гісторыі адраджэнцкага беларускага руху: народ і палітызаваная інтэлігенцыя непасрэдна сутыкнуліся і пачалі ўзаемадзейнічаць паміж сабой"* [237].

**Балін Станіслаў** (1897-1937) - беларускі грамадска-палітычны дзеяч, у 1922 г. на Лідчыне абраны паслом у Сойм. Заўсёды падкрэсліваў сваё беларускае паходжанне. Паслом польскага Сойма быў з 1922 па 1927 г., першапачаткова ўваходзіў у пасольскі клуб ПСЛ "Вызваленне". У ліпені 1924 г. выступіў у Сойме з пратэстам супраць прыняцця т. зв. моўных законаў, нявыгадных беларусам і іншым нацыянальным меншасцям[238]. Таму разам з іншымі дэпутатамі восенню 1924 г. выйшаў з партыі і стварыў "Незалежную сялянскую партыю". За рэвалюцыйную дзейнасць арыштаваны ў 1927 і асуджаны на турэмнае зняволенне. Пасля адбыцця тэрміну эміграваў у СССР. Арыштаваны НКУС СССР і расстраляны.[239]

### *Злачынствы, здарэнні*

Пры канцы кастрычніка 1922 г. адбыўся смелы бандыцкі напад на маёнтак Станіслававa на Лідчыне. Прэса падрабязна апісвала падзеі выкліканыя гэтым нападам. Газета "Слова" паведамляла: *"Ад Альфрэда Бразоўскага з Гурнофеля, які зараз знаходзіцца ў Вільні, мы даведаліся пра нязвыкла смелы бандыцкі напад які адбыўся ў мінулую пятніцу. У белы дзень уладальнік маёнтка Станіслававa з Лідскага павета Міхал Бялінскі ехаў на брычцы па тракце Ішчална - Васілішкі. Каля 1-й гадзіны дня адбыўся напад. З лесу выскачыў высокі мужчына, узброены карабінам, накіраваў зброю на Бялінскага, які выскачыў з брычкі і хацеў дастаць рэвальвер з кішэні. Да брычкі падбеглі яшчэ*

*два бандыты з завязанымі тварамі, схапілі Бялінскага за рукі і пасадзілі ў брычку, потым, сеўшы ў яе ўсе разам, паехалі ў Станіслававова. Па дарозе бандыты адабралі ў Бялінскага два залатыя гадзіннікі (адзін з гербам Юнаша, другі эмаляваны з выявай Касцюшкі) і гербавы сыгнет. Прыехаўшы ў двор Станіслававова, бандыты загадалі адчыніць незгаральную касу і забралі адтуль 20 018 000 марак, аднак срэбра, якое там было, не ўзялі. Таксама забралі з маёнтка рэвальвер і карабін. Потым бандыты адвялі Бялінскага ў лес, каб яго расстраляць. Аднак Бялінскі ўгаварыў іх не забіваць яго, спасылаючыся на тое, што яны ўзялі ў яго маёнтку вялікую здабычу. Яму пакінулі жыццё, узяўшы слова гонару, што ён не будзе звяртацца ў паліцыю"* [240]. Бялінскі слова стрымаў, паліцыю выклікаў адзін з яго парабкаў. Паліцыя прыехала з Васілішак праз дзве гадзіны пасля нападу. У той жа дзень адзін з нападнікаў быў арыштаваны ў Скрыбаўцах.

Ужо на пачатку лістапада прэса паведаміла, пра разбор справы аб рабунку ў судзе. *"27 лістапада ў судзе ... будзе разглядацца справа Станіслава Жылінскага і Станіслава Войшніса, абвінавачаных у тым, што 19 кастрычніка 1922 г. у маёнтку Станіслававова Васілішскай гміны ... звязалі гаспадара Міхала Бялінскага і пагражаючы яму карабінам, забралі ў яго 1350 долараў, залаты гадзіннік, сыгнет і 8000 польскіх марак"* [241].

Тады ж прэса пісала, што Віленскі акруговы суд у Лідзе 25 кастрычніка 1922 г. разглядаў справу Яна Дзімітровіча, абвінавачанага ў тым, што пад час неабходнай самаабароны, ён забіў Конрада Шыманскага. Суд прыгаварыў Дзімітровіча на тры месяца турмы.[242]

Пры канцы лістапада 1922 г. нейкі Ян Янушаў паведаміў паліцыі аб забойстве свайго брата ў Лідзе. *"Забойца - асоба з прозвішчам Баранаў. Вядзецца следства"* [243].

6 лютага 1923 г. суд Віленскай Судовай Акругі на выязной сесіі ў Лідзе прыгаварыў да кары смерцю праз расстрэл: Юзафа Грыця, сына Юзафа, узрост - 20 гадоў, Яна Гойла, сына Максіма, узрост 26 гадоў, Яна Карповіча, сына Яна, узрост - 27 гадоў, Яна Місевіча, сына Яна, узрост - 30 гадоў. Забойцы былі абвінавачаны ў збройным нападзе 1 студзеня 1923 г. на дом Рафала Гардона ў вёсцы Ракавічы, у той жа дзень збройны напад з ужыццем гранатаў на дом Міхала Дамінікевіча і спаленне гэтага дома. Бандыты расстраляны 7 лютага 1923 г. у 14-30 у Лідзе.[244] Беларуская газета "Новае Жыццё" таксама пісала, што *"5-га лютага* (1923 г. - *Л.Л.*) *згодна з прысудам Віленскага Доразнага Суду былі разстрэлены ў Лідзе сяляне: Язэп Гойла, Ян Карповіч, Ян Місевіч і Язэп Грыць за аружны напад на аднаго з мясцовых жыхароў"* [245]. Пад час суда стала вядома, што хеўра з жыхароў Арлянскай гміны Лідскага павета (з вёскі Стукалы Тамаш і Антон Сухоцкія і Ян Якімчык, з вёскі Турэйск Аляксандр і Ян Гойлы і Юзаф Грыць, жыхар вёскі Новадзеражні Ян Карповіч, жыхар вёскі Галынка Ян Місевіч, жыхары вёскі Лепяшанкі Александр Санюкевіч, Канстанцін Масталовіч, Браніслаў і Сцяпан Шэршні) зрабіла цэлы шэраг нападаў і рабункаў. Апошні раз бандыты ў першы дзень Новага 1923 года зрабілі збройны напад в вёсцы Ракавічы Ражанкаўскай гміны, дзе дашчэнту абрабавалі краму мясцовых гандляроў Рафала Гардона і Міхала Дамінікевіча, а потым аблілі бензінам і падпалілі.[246]

Аднак узброеныя напады працягваліся. 22 лютага 1923 г. два ўзброеныя бандыты напалі на гандляра Абрама Рыбака, які на конных санях вяртаўся з Вільні ў Ліду. Яны адабралі ў гандляра каня з санямі, 2 пуды жыта і 200 000 польскіх марак. *"Пасля чаго схаваліся ў лесе"* [247].

У чэрвені 1923 г. два гандляры з Ліды былі абкрадзены на вакзале ў Вільні, у Я. Шмулевіча выцягнулі з кішэні 110 000 польскіх марак і асабістыя дакументы[248], а ў А. Кармінскага - залаты гадзіннік і цэлых 5 мільёнаў марак.[249]

Беларуская газета "Новае Жыццё" пісала пра здарэнне ў Лідскім гарнізоне польскага войска ў 1923 г.: *"Ліда. "Добрыя" парадкі ў тутэйшых вайсковых аддзелах. Ахвярай гэткіх парадкаў стаў Міхаць Грыб з вёскі Куты Крэўскае гм. Яго, як рэзэрвіста, забралі на 8 тыднёвае вучэнне. Праз нейкі час ён захварэў на тыфус, але ... і хвораму ня далі спакою. У нядзелю 22 красавіка ўсіх павялі на прысягу, павялі таксама і яго, хоць і хворага. Быў дождж, на якім прыйшлося стаяць каля гадзіны і, вярнуўшыся да шпіталю, небарака праз 3 дні аддаў Богу душу"* [250].

Не абыходзілі бокам наш край прыродныя з'явы і эпідэміі: *"Беняконі. Страшэннай бурай з градам і громам 12 траўня каля Беняконь шмат гдзе пабіта збожжа. Ліўнем зруйнаваны ўва многіх мясцох гароды і сьвежыя засевы на палёх. У вёсцы Бражэльцы ад маланкі згарэла ўся будоўля аднаго гаспадара. Згарэў хлопец гадоў 17 і шмат дамовай жывёлы"* [251]. *"Чума буйной рагатай жывёлы. У апошнія дні ў Лідскім павеце занатавана 4 выпадкі чумы буйной рагатай жывёлы. Адміністратыўныя ўлады, каб не дапусціць распаўсюду, выдалі адпаведныя пастановы"* [252].

#### ***Чыгуначаны здарэнні***

Наладжванне стабільнага і бяспечнага чыгуначнага руху пасля 6 год ваеннага ліхалецця ішло цяжка. З-за таго што чыгунка шмат гадоў не абслугоўвалася згодна з рэгламентам, пасля моцных дажджоў на ўчастках Ліда-Маладзечан (каля Багданава) і Ражанка-Масты было пашкоджана чыгуначнае палатно, рух цягнікоў спынены.[253]

Віленская газета "Слова" пісала ў верасні 1922 г.: *"У ноч з 17 на 18 верасня на перагоне Ліда-Скрыбаўцы сутыкнуліся два таварныя цягнікі. Разбіта 5 вагонаў, на рэйках затор. Хуткі цягнік з Варшавы з-за гэтага пайшоў праз Ваўкавыск-Баранавічы-Ліду і прыйшоў у Вільню ў 12-30"* [254].

У лютым 1923 г. у цягніку № 1613, які з боку Вільні ўжо падыходзіў да Ліды, у вагоне 1-га класа вынікала спрэчка, якая перайшла ў бойку. Пад час бойкі адзін з пасажыраў на хаду выкінуў з вагона Баляслава Даляховіча і спрабаваў выкінуць яшчэ аднаго свайго спадарожніка. Пасажыры вагона спрабавалі

спыніць цягнік, сарваўшы стоп-кран, але ён не працаваў. Пасля прыбыцця цягніка на станцыю Ліда, хуліган быў арыштаваны паліцыяй, а Даляховіч хутка прыйшоў сюды сам.[255]

24 жніўня 1923 г. міжнародная прэса паведаміла пра найвялікшае чыгуначнае крушэнне за ўсю гісторыю Лідскай чыгункі: загінула 50 чалавек і больш за 100 чалавек было паранена, калі пад Лідай пасажырскі цягнік Вільня - Варшава сышоў з рэек. Трагедыя была выклікана размывам чыгуначнага насыпу.[256] Аднак віленская газета "Слова" паведаміла, што ў выніку сходу цягніка Вільня-Варшава № 816 з рэек, ранена 11 чалавек, загінула жанчына з дзіцем. Газета піша што пагалоска пра тое, што вагон з моста ўпаў у Нёман і загінула 40 пасажыраў - няпраўда, бо мост знаходзіцца ў стане рамонту.[257] У наступным нумары газета паведаміла, што параненыя знаходзяцца ў Лідскім шпіталі.[258] Потым газета пісала, што на месца здарэння прыбыў міністр транспарту Карлінскі, а вінаваты ў крушэнні стрэлачнік Пянкевіч, які ўжо арыштаваны.[259]

## 10. Дадаткі

### а) Вайсковыя часткі г. Ліды ў 1914 г.

*паводле "Памятной книжки Виленской губернии"*[260]

#### Управление уездного воинского начальника

Лидский уездный воинский начальник - подполков. Иппол. Вас. Лукашевич,

делопр. упр, - тит. сов. Ант. Анд. Людоговский.

#### 172-ой пех. Лидский полк

Командир полка - полковник Владим. Роман. Романов, полк. Зен. Афан. Чаплинский, подполк. Поповицкий, подполк. Феод. Феод. Варналли, подполк. Якименко, подполк. Людв.-Напол. Фом. Шукевич, подполк. Серг. Ал-еев. Баранов.

Ротные командиры: 7-ой - кап. Ив. Григ. Попович, 8-ой - кап. Адр. Петр. Федоров, 11-ой - кап. Вас. Прок. Гаврилов, 4-ой - кап. Серг. Ив. Кутасов, 3-ей - кап. Влад. Петр. Бестужев, 2-ой - кап. Конст. Андр Андреев, 13-ой - кап. Конст. Калист. Ярошевич, 16-ой - кап. Мельхис. Ник. Налбантов, 12-ой - шт.-кап. Вас. Вас. Вдовьев-Кабардинцев, 5-ой - кап. Яков Ант. Кескевич, 6-ой - кап. Каз. Петр. Шрубович, 9-ой - шт.-кап. Серг. Ив. Игнатьев, 15-ой - кап. Петр Ал-др. Закревский, младший офиц. 9-ой р. - шт.-кап. Григ. Фед Гудков, командующ. 14-ой р. - шт.-кап. Мих. Пет. Харламов, 1-ой - шт.-кап. Ал-др Ел-еев. Кондратьев, нач. пул. к-ды - пор. Вяч. Вас. Жмокин, командующий 10-й р. - шт.-кап. Петр Меч. Балюкевич, командующий нестр. р. - шт.-кап. Фед. Иванов. Жданко, младш. офиц. 16-ой р.-шт. кап. Петр Норб. Красковский, полковой адютант - пор. Ем. Стан. Герловский, младш. офиц. 12-ой р - пор. Як. Дан. Раскопинский, млад. офиц. 4-ой р. - подп. Пав. Еф. Горецкий, заведыв. к-дой разведч. - подп. Филат. Ив. Галактионоч, млад. офиц. пулем. к-ды - подпор. Вл. Ад. Мартусевич, мл. офиц. 10-ой р. - пор. Петр Ив. Маряхин, мл. оф. 5-ой р - пор. Леон Павлин. Слободской, млад. оф. 8-ой р. - шт.кап. Фед. Фед, Цветков, мл. оф. уч. к-ды - пор. Ал-др Мих. Чиколини, делоп. полк. суда - подп. Вл. Георг. Шпаков, завед. к-дой для связи - пор. Вяч. Апол. Сопляков, мл. оф. 8 р. пор. Ст. Ал-др. Мыслицкий, мл. оф. 13 р, - пор. Вл. Ник. Вигилянский, мл. оф. 13-ой р. - подп. Леон. Он. Алейников, мл. оф. 16-ой р. - подп. Игн. Генр. Вышпянский, мл. оф. 12-ой р. - подп. Вл. Сем. Шавырин, мл. оф. 2-ой р. - подп. Викт. Конст. Артишевский, мл. оф. 8-ой р. Леон. Ник. Моисеенко, мл. оф. 10-ой р. - подп. Ал. Леон. Шереметевский, мл. оф. 9-ой р. - подпор. Кон. Матв. Дубатовка. мл. оф. 14-ой р, - подпор. Ал-др Пет. Яковлев, мл. оф. 9-ой р. - подпор. Мих. Иос. Павлов, мл. оф. 7-ой р. - пор. Дм. Тим. Бовин, мл. оф. 15-ой р. - подпор. Яков Харит. Дубинский, млад. оф. учеб. к-ды - пор. Ал-др Мих. Чиколини, мл. оф. 7-ой р. - подпор. Ал-др Степ. Алексеев, млад. оф. 6-ой р. - подпор. Ал-др Ал-др. Брандт, мл. оф. 4-ой р. - подпор. Викт. Викт. Киселев, мл. оф. 5-ой р. - пор. Леон. Фел. Якштас, мл. оф. 1-ой р. - подпор. Ив. Ал. Парадов и Ст. Вал. Гофман, мл. оф. 3-ей р. - подпор. Афр. Мих. Малыхин, мл. оф. 11-ой р. подпор. Бол. Эд. Савицкий, мл. оф. 14-ой р. - подпор. Вл. Тим. Овсянников, мл. оф. 4-ой р. - подпор. Альф. Клем. Броневич, стар. вр. - надв. сов. Ал. Леон. Зубченко, мл. вр. Пав. Ив. Ларин, мл. вр. Вацл. Альф. Бондзынский, мл. вр. Георг. Фед. Маранцич, мл. вр. Ал. Петр. Зотов, полк. казначей - кол. асс. Саз. Ив. Бушко, делопр. по хозяйств. части - кол. рег. Мих. Фед. Печников, завед. оруж. - тит. сов. Ал-др Розанов, полк. свящ. - Ал-др Ив. Нелюбов, квартирмистр - губ. секр. Ал-др Иван. Жданко, заведующий хоз. лазарета - кол. рег. Осин.

#### 9-ая воздухоплавательная рота

Командир роты - подполк. Март. Конст. фон-Шульц, старш. офицер - кап. Як. Никол. Рещиков, адютант - пор. Ив. Ал-др Козельский.

Младшие офицеры: шт.-кап. Евг. Руб. Гулишамбаров, шт.-кап. Ник. Тр. Торбин, шт.-кап. Ип. Мих. Лоссовский, пор. Вл. Нил. Фирсов, пор. Конст. Иван. Лазарев, механики: старший - Вл. Мих. Беляев, младшие: Ник. Ив. Полойко, Ив. Фил. Филипов, мл. врач - лек. Пав. Ив. Ларин, делопроиз. - губ. секр. Зах. Ал-др. Пархоменко.

### б) Памяці Юзюка Пашкевіча[261]

Ешчэ адна ахвяра вайны - колькі іх усяго?! "Юзюк Пашкевіч - падпаручнік ... палка - 10.02.1915 г. аддаў душу, баронячы Гродна" ...

Гэткі кароткі надпіс зроблены на магіле добра вядомага віленскім беларусам падпар. Пашкевіча, пахаванага да часу ў Гродні.

Неяк не пашанцавала яму ад самага пачатку вайны.

28 жніўня яго ранілі ў Прусіі: прастрэлены былі рука і нага, кантужана галава.

Лячыць павезлі ў родны горад - Вільню, дзе паў жыцця пражыў.

Не паспеў зусім паправіцца, вярнуць сілы, - 18 лістапада ізноў паехаў на пазіцыі. 28 сьнежня пісаў

аттуль:

*"Як толькі прыехаў, то зара атрымаў роту і ўжо ею каманддую трэці месяц. Людзі вельмі добрыя і любяць мяне, бо як пачулі, што мяне хочуць перавясці ў другую роту, то прасілі не пакідаць іх ... Яны знаюць, што за іх плечы не схаваюся, як будзе туга, і каждую мінуту могуць забіць ..."*


Язэп Пашкевіч, афіцэр, з Лідзк. пав., Віл. губ.

Бытцам напрарочыў сабе ...

10-га лютага - ужо будучы пад Гроднам - загадалі Пашкевічу вясьці роту ў атаку. Пайшоў сам наперадзі.

Ішлі па голым полі. Разам затрашчэлі кулямёты, засыпалі ўсіх градам куль. Прастрэляны ў трох мейсцох - у грудзі і ў жывот, падпаручнік Пашкевіч упаў на зямлю першы. І ужо не ўстаў.

Салдаты пахавалі яго недалёка ад таго мейсца, дзе ён душу аддаў. Тры дні на тым полі ішоў бой, тры дні лілася йшчэ кроў ...

Дайшла сумная вестка да Вільні. Тутака лечыцца брат нябошчыка - капітан Вацюк Пашкевіч, жыве сястра яго - міласэрдзя ў заразным бараку. Яны ў двох с прыяцелем забітага паехалі ў Гродно - шукаць цела.

Знайшлі скора: салдаты с сьлязьмі ў вачах вялі іх і выкапывалі з магілы забітага камандзіра, каторы паказаў, што папраўдзі ніколі за іх плечы не хаваўся, заўсёды быў пры іх, думаў аб іх.

А пад той час за чвэрць вярсты - бытцам страшэнная музыка - грымелі гарматы, разрываліся шрапнэлі.

Цела пакуль-што пахавалі ў Гродні - ля капліцы. Пасля павязуць у Лідскі павет, дзе Пашкевіч радзіўся, дзе йшчэ цяпер жывуць бацькі яго старэнькія.

А яго гэтак цягнула да сабе родна зямліца. Заўсёды думаў, што пасьля вайны пакіне службу і сядзе на родны загон - між сваімі народам, каторы гэтак любіў. Юзюк Пашкевіч заўсёды быў шчырым беларусам, ад роднай мовы не адрэкаўся. Заўсёды гаварыў ёй, пісаў па беларуску.

Тут, у Вільні, бываў усюды, дзе зьбіраюцца беларусы. Між імі чуў сябе найлепей.

У роднай старонцы сьмерць яго спаткала. На сваей зямлі косьці злажыў.

Не судзіла яму доля прыждаць лепшых часоў, ясьнейшай будучыні Беларусі, у каторую шчыра верыў.

Хай жа будзе яму лёгкай гэта зямліца родная, мілаваная!

**в) Приказ войскам Западной армии о продолжении наступления в Белоруссии[262]**

№19/о, Смоленск
12 декабря 1918 г.
13 час. 45 мин.
....

Западной стрелковой дивизии (начдив Ершов) в составе четырех полков, летучего отряда т. Венглинского 4-го района 2-го округа пограничной охраны и 38-го авиационного отряда:

а) выдвинувшись: 1) от Вильно на Гродно, 2) от Молодечно на Лиду, 3) от Минска на Волковыск, 4) от Рогачева и Жлибина на Минск - Барановичи, занять и оборонять район Гродно - Волковыск - Лида - Барановичи - Молодечно, составив Лидский боевой участок.

б) управление дивизии - Лида, временно - Минск.

....

Командующий Западной армией генерального штаба Снесарев.

Член Революционного Военного совета Пыжев.

Начальник штаба генерального штаба Новиков.

**г) Приказ войскам Западной армии о дальнейшем продвижении в Белоруссию Литву[263]**

№29/о
9 января 1919 г.
14 час. 30 мин.

1. Противник продолжает отход к западу от Вильно - Лида - Барановичи.

2. Западной армии приказано, держа связь с войсками Латвии, наступающими на Поневеж, Шавли, Радзивилишки, Кейданы и Янов:

а) со стороны Вильно вести усиленную разведку в направлении Ковно - Лида - Гродно, войдя в связь с немецкими Советами по возможности для занятия этих пунктов в ближайшее время.

б) на лидском и барановичском напралениях принять все меры к быстрому овладению этими узлами.

….

Б) Лидский боевой участок Западной стрелковой дивизии (начальник дивизии Ершов) в составе четырёх полков, летучего отряда т. Венглинского 4-го района 2-го округа пограничной охраны и 38-го авиационного отряда и всех назначенных к переброске с других фронтов частей:

а) сменить части 17-й стрелковой дивизии, б) прочно занять Лиду - Барановичи, в) вести усиленную разведку в направлении на Волковыск - Брест. Управление дивизии - Лида, временно - Минск.

…

Командующий Западной армией генерального штаба Снесарев.

Член Революционного Военного совета Пыжев.

Начальник штаба генерального штаба Новиков.

**д) The Jews in Poland Official Reports of The American and British Investigating Missions The Morgenthau Report[264]**

Lida, April 17, 1919.

On April 17, 1919, the Polish military forces captured Lida from the Russian Bolsheviki. After the city fell into the hands of the Poles the soldiers proceeded to enter and rob the houses of the Jews. During this period of pillage 30 Jews were killed. A large number of Jews including the local rabbi, were arbitrarily arrested on the same day by the Polish authorities and kept for twenty-four hours without food amid revolting conditions of filth at No. 60 Kamienska Street. Jews were also impressed for forced labor without respect for age or infirmity. It does not appear that any one has been punished for these excesses, or that steps have been taken to reimburse the victims of the robberies.

*Ліда, 17 красавіка 1919.*

*17 красавіка 1919 г. польскія ўзброеныя сілы захапілі ў расійскіх бальшавікоў Ліду. Пасля таго як горад трапіў у рукі палякам, жаўнеры пачалі ўваходзіць ў хаты і рабаваць яўрэяў. Пад час рабавання 30 яўрэяў былі забітыя. Вялікая колькасць яўрэяў, у тым ліку мясцовы равін, у той жа дзень былі адвольна арыштаваныя польскімі ўладамі і ўтрымліваліся на працягу дваццаці чатырох гадзін без ежы ў рэвалюцыйных умовах, у брудзе, у доме № 60 па вуліцы Каменскай. Яўрэі таксама былі ўражаныя ад прымусовай працы без павагі да ўзросту або хваробы. Нічога не рабілася для таго, каб яны не былі празмерна пакараныя, не былі зробленыя крокі для кампенсацыі ахвярам рабаванняў.*

**е) Оперативная сводка штаба Западного фронта об освобождении частями Красной Армии г. Лиды[265]**

20 июля 1920 г. 20 час.
№ 0343/оп, Смоленск

От 4-й армии сведений не поступило.

15-я армия. 54-я дивизия к 24 час. 17 июля выдвинулась на линию: 161-я бригада - Повеланцы, 162-я бригада - Жилянцы - Пятковщизна, 160-я бригада - в дивrезерве в районе около Пожижма. 4-я дивизия. 11-я бригада - около Малых Рексцей, 12-я бригада - Наркуны. около Кербеди - Козичи, 10-я бригада - в дивrезерве в районе Крушево, кавполк занял линию Евсеевичи - Мольги - Рыловцы - Мазуровщина, 11-я дивизия: части дивизии заняли м. Мыто. Противник только местами оказывает незначительное сопротивление. Г. Лида 17 июля был занят частями 11-й и 6-й дивизий, причем 943-м полком был разобран железнодорожный путь, вследствие чего произошло крушение бронепоезда противника. В районе ст. Бастуны нами захвачено одно орудие и 9 пулеметов. По последним отрывочным сведениям дивизии армии наступают на фронт м. Острино - Щучии, причем 11-я дивизия прошла р. Лебеду.

3-я армия - сведений не поступало.

16-я армия - за переездом полештаба в Столбцы донесений не поступало.

Мозырская группа. 16 июля противник пытался задержать части 57-й дивизии на линии р. Морочь, но был сбит, и части дивизии преследуют противника, отходящего в юго-западном направлении. Сводный отряд - донесений не поступало.

За начоперупзап Афанасьев.
Врид военкома Ермолин.
Начоперода Лбов.

**ж) Сводка о деятельности волостных ревкомов Лидского уезда за период с 20 августа по 1 сентября 1920 г.[266]**

№123, Лида
5 сентября 1920 г.

**Белицкая волость.** Волревком организован 21 июля 21-й дивизией. Функционирует отдел управления, земотдел, наробраз, военкомат. Организованы сельские комитеты и один рабочком. Милиция из 10 человек. По организации волревкома приступили первым долгом к выполнению первых запросов армии о подводах и реквизировали 900 п. зерна из имений для 21-й дивизии. Была исправлена паровая мельница, где и смолота рожь. Испрвлен мост на р. Неман. В м. Белица отремонтировали здание под временный лазарет для раненых. Имения и земли взяты на учет от ушедших к белополякам. Хлеб убран при помощи рабочих дружин, идет запашка под засев. Произведен учет населения, лошадей, рогатого скота и медперсонала. Произведена регистрация красноармейских семей и представлены списки в собес. Школьный отдел обследовал все школы. Организован учительский союз (7 учителей), библиотека, открыт клуб, взята на учет аптека, установлен перевязочный пункт. Комячейка из 7 человек.

**Василишская волость.** Волревком организован 20 июля сего года. Функционирует отдел управления, военкомат, земоотдел, нарообраз. Милиция - 10 человек. Организовано 19 сельских Советов. Население на учете (15 тыс.человек). Произведен учет живого инвентаря в 45 имениях и 6 фольварках рабочкомами. На учете 5 водяных мельниц. Леса охраняются. Избран школьный комитет, школьные работники на учете. 8 школ нуждаются в ремонте. Открыта библиотека. Комячейки нет.

**Гончарская волость.** Волревком организован 20 июля сего года. Функционирует отдел управления, военкомат, земотдел, нарообраз. Милиция - 5 человек. Произведен учет населения, медицинского персонала, школьного инвентаря, помещений, детей и учителей. На учете земля посевной площади. Лошадей - 600, из них годных к работе 60, остальные в обозе, и есть больные. Произведена починка мостов и дорог. На учете

11 фольварков, необходим ремонт. Завод винокуренный разрушен. Мельниц - 2. Комячеек нет.

**Докудовская волость.** Волревком организован 20 июля сего года. Функционирует отдел управления, земотдел, наробраз, военкомат. Милиция из 6 человек. Организованы 10 сельских Советов. Произведен учет населения (4857 человек), лошадей, рогатого скота, имений (4 имения), фольварков, школьных помещений, инвентаря. На учете учительский персонал (учитель - 1, школ - 4, 2 требуют ремонта). Регистрация детей школьного и дошкольного возраста. Комячеек нет. Коммун - 1.

**Жирмунская волость**. Волревком организован 20 июля сего года комдивом 33-й. Функционирует отдел управления, земотдел, наробраз, военкомат. Организованы районные Советы. Милиция из 5 человек. Произведен учет имений (8 имений), производиться обследование живого и мертвого инвентаря. Организованы рабочкомы. Взяты на учет 7 школ. Недостаток в учителях. Читален - 11, библиотек - 1. имеются 3 мельницы. Комячеек нет.

**Жолудокская волость.** Волревком организован 20 июля сего года. Функционирует отдел управления, земотдел, наробраз, военкомат. Недостаток в канцелярских работниках и принадлежностях. Милиция из 5 человек. Произведен учет населения, лошадей, рогатого скота, а также имений, где и организованы рабочкомы и батрацкие комитеты. Наробраз - отделом произведен учет школьных помещений, инвентаря и регистрация детей школьного и дошкольного возраста. Открыт детский приют, функционирует фельдшерский пункт. Взяты на учет кирпичный завод и 2 кожевенных завода. Комячейка из 13 человек.

**Лидская волость.** Волревком организован 22 июля сего года. Функционирует отдел управления, земотдел, военкомат, наробраз. Произведен учет населения, скота, имений, которых имеется 13, и 8 фольварков. Тормоз в работе волревкома и сельских Советов есть из-за канцелярских принадлежностей, а в обработке земли - нет лошадей. В организационной работе препятствия есть - реквизиция и конфискация имущества у граждан. Есть недовольство у крестьян на действия некоторых красноармейских частей, которые уничтожают живой и мертвый инвентарь, также растения. Школ на учете 2.

**Лебедская волость.** Волревком организован 27 июля сего года. Функционирует отдел управления, земотдел, наробраз, военкомат. Милиция - 5 человек. Организованы райсоветы. Произведен учет населения, медицинского персонала, школ, школьного имущества и детей школьного и дошкольного возраста. Поля не засеиваются за неимением семян. В имениях обсеменяются рабочкомами. Имеется винокуренный завод. Охрана мостов производиться. Комячейка из 5 человек.

**Орлицкая волость.** Волревком организован 1 августа сего года. Функционирует отдел управления, земотдел, наробраз и военкомат. Милиция из 5 человек. Произведен учет населения, скота и школ (школы не ремонтируются - нет средств). Производиться починка мостов. Имеется 3 фольварка, 1 мельница. Имеется врач, больницы нет.

**Рожанковская волость.** Волревком организован 1 августа сего года. Функционирует отдел управления, собес, земотдел, военкомат, наробраз. Милиция - 7 человек. Подводы все взяты на фронт. Деревни некоторые не убрали хлеба. Имений - 10. Мельницы работают, но слабо. Имеется одни фельдшер.

**Тарновская волость.** Волревком организован 25 июля сего года. Функционируют отдел управления, земотдел, военкомат, наробраз. Организованы сельские Советы. Налажены отношения с райпродкомами. Войска забрали много фуража. Остались некошеные покосы. Найдены 30 спрятанных лошадей агентами райпродкомов, большинство из них к работе негодны. Окопы засыпаны. На учете одна школа, необходим ремонт. Есть одна учительница.

**Щучинская волость.** Волревком организован 22 июля сего года. Работа велась по обслуживанию Красной Армии продовольствием и траспортом. Армии и райпродкому отпущено 3 тысячи п. хлеба. Произведен учет комсостава и населения. Организовано 6 райсоветов. Открыта изба-читальня и одна библиотека. Приступлено к оборудованию 16 школ: одной русской, одной еврейской и 14 польских. Зарегистрировано 30 имений. Лошади все в обозе, вернувшиеся для работы негодны. В волости чувствуется контрреволюционная агитация. Армия не считается с приказами и производит самовольные реквизиции и конфискации. Отношение к власти в деревне хорошее, в местечке - плохое. Милиция из 7 человек. Комячейка организована. Партработников нет.

Заведующий отделом управления Михайлов.

Заведующий информационным отделом К. Шелепов.

### з) Отчет о деятельности Лидской уездной организации КП(б)Б за 1919 г. - 22 октября 1920 г.[267]

20 ноября 1920 г.

1. Прежде чем приступить к отчету о деятельности в период 1920 г, необходимо сказать несколько слов об истории организации. Партийное строительство в Лидском у. делится на два периода: 1) в 1919 г. после ухода немцев до занятия Лиды легионерами и 2) в 1920 г. после изгнания поляков до их вторичного возвращения. Оба периода были весьма непродолжительны: первый 4 месяца (январь-апрель), второй 2 месяца (июль-сентябрь).

Во время пребывания в крае немцев, в конце 1918 г., создалась подпольная организация. Еврейские рабочие г. Лиды в то время находились под влиянием меньшевистских деятелей из П[оалей]-Ц[иона] и Бунда, имели свою рабочую организацию - клуб. Польские рабочие тоже имели свою организацию с определенно черносотенной окраской. Обе национальные организации устраивали собрания рабочих, и вот на этих собраниях стало заметно присутствие рабочих, уяснивших себе события, происшедшие в России и проявлявших

стремление отказаться от мещанской идеологии, что проявлялось среди еврейских рабочих в стихийной форме, а среди польских рабочих - под влиянием приехавшего из России тов. К. Некоторые из этих товарищей, сходившиеся в мнениях по вопросу об отношении к политике большевиков, стали собираться вместе, в результате таких собраний была создана подпольная организация. Была установлена связь с Вильно, откуда приезжали агитаторы, а для постоянной работы был прислан тов. Чехов. В конце декабря под руководством приехавшего из Вильно тов. Лазарева был создан революционный комитет, создание которого ускорило панический отъезд немецких властей. С созданием ревкома организация открыла прием новых членов, и в короткое время записалось более 50 человек, из которых, правда, впоследствии многие члены, когда стал вопрос об участии организации в отражении наступления польских легионеров, оказались шкурниками и были исключены из партии, что вновь сильно сократило количественный состав организации.

В период до прихода польской оккупации членам организации пришлось вести упорную работу для поддержания Советской власти. Работа была нелегкая, так как рабочие и крестьяне уезда, долго жившие под немецкой оккупацией, имели мало представления о Советской власти и принципах коммунизма. Работа осложнялась еще тем, что белогвардейские польские банды находились недалеко от Лиды и неоднократно появлялись то и одном, то в другом месте уезда. Тем не менее было сделано довольно много. В городе были организованы производственные союзы, был создан пролетарский клуб III Интернационала, где устраивались митинги и лекции для рабочих и крестьян. В некоторых волостях были созданы комъячейки, через аппарат организации по городу и уезду распространялась советская литература и газеты. Члены партии принимали участие в советском строительстве. Созданный [тов.] О. коммунистический отряд неоднократно выступал на фронт.

16 апреля 1919 г. г. Лида внезапно был занят легионерами, и Лидская организация была разгромлена. Некоторым товарищам удалось уйти с Красной Армией, некоторые были убиты (тов. Чехов, Макаров, Чернякевич и др.), а оставшиеся, вследствие внезапности занятия города, скрылись в подполье, но в скором времени все были арестованы, и после долгих мытарств но разным концентрационным лагерям и тюрьмам некоторые из них попали обратно в Лиду.

2, Таким образом, когда Лида вторично была в 1920 г. занята Красной Армией, в городе оказалось … товарищей, достойных называть себя коммунистами. Из членов, уехавших из города при отступлении в 1919 г., почти никто не вернулся. Ввиду того был создан лишь коллектив коммунистов города, который по малочисленности и отсутствию в его среде опытных членов не оказался способным взять на себя полное руководство партийной жизнью уезда. Коллектив объявил регистрацию членов партии других организаций, находившихся в городе во время польской оккупации, из коих на общем собрании коллектива были утверждены 14 членов и 2 кандидата. Подобное утверждение т(ак) н[азываемых] "бывших коммунистов" противоречило циркуляру ЦК КП Литбел, где предписывалось утверждать таких самовольно оставшихся в польской оккупации коммунистов только после соответствующего расследования. Коллектив на общем своем собрании избрал временный комитет, в состав которого вошли: 1) тов. Гиршович, участник создания Лидской организации, секретарь ревкома, функционировавшего до занятия Лиды легионерами, 2) тов. Голубев, председатель ревкома, назначенный поармом и 3) тов. Полячек, активный участник партработы до занятия Лиды легионерами.

18 августа Лидский уездвоенревком, ввиду отсутствия специальной партийной работы, создал уездное бюро КП(б), в которое пошли: 1) тов. Галько, присланный от ЦК Литбел из Вильно, 2) Михайлов, член ревкома и 3) Гиршович, секретарь ревкома, он же и секретарь бюро. Единственным работником, освобожденным от советской работы, первоначально был тов. Галько, но последний секретарских обязанностей не мог выполнять по малограмотности, секретарь же бюро тов. Гиршович был перегружен работой в ревкоме, отсюда и проистекает помимо других объективных причин малая в общем продуктивность работы бюро. Объективными же причинами малой продуктивности и общей слабости партработы было то, что фактически уездбюро работало только один месяц, В конце августа произошли события, нарушившие план работы. Некоторые волости, находившиеся на границе с Литвой, были заняты литовцами без предварительного соглашения с советским командованием. Кав[алерийские] разъезды захватывали советских партийных работников, грабили их, а некоторых увозили в Сувалки. При таких обстоятельствах некоторое время совершенно не было возможности вести какую-либо работу в уезде. Во вторую половину сентября приближение фронта, завершившееся внезапным захватом поляками Лиды, отвлекало постоянно от планомерного партийного строительства.

3. За отсутствием работников бюро не создавало постоянных отделов партийной работы.

4. Партийные организации были созданы: в городе до 6 ячеек, в учреждениях ревкома с незначительным количеством членов, на железной дороге 1 ячейка с 30 членами. Ячейки в воинских частях и учреждениях регистрировались случайно, поэтому общее их количество неизвестно, за исключением ячейки уездревкома. В уезде 7 волячеек, возникших большей частью стихийно, в волостях: 1) Желудокской, 2) Остринской, 3) Докудовской, 4) Дембровской, 5) Василишской, 6) Белицкой и 7) Лебедской. Начался учет партийных сил, обследование ячеек, были выработаны инструкции по организации ячеек, но работа эта не успела оформиться и состав ячеек не был утвержден к концу отчетного времени.

Всего членов организации к концу сентября насчитывалось до 55, 38 членов и 17 кандидатов, двое выбыли в губпартшколу. Из этого количества в городе

было 40 в уезде 15. Увеличение б[ывшего] коллектива в 10 человек до цифры, указанной выше, объясняется исключительно тем, что 30 товарищей прибыли из других организаций, командированы партийными и военно-политическими учреждениями для советской работы. Благодаря отсутствию крепкого и способного ядра, в организации не было заметно большой сплоченности и дисциплинированности.

6-7. В конце отчетного времени бюро имело на партработе в качестве агитатора тов. Думшо и троих разъездных инструкторов (Гилевский, Храпп), которые успели сделать несколько объездов по уезду. До этого агитационно-просветительная работа большею частью велась инструкторами отдела управления ревкома, выполнявшими одновременно и поручения уездбюро.

8-9. Связь организации с высшими партийными центрами была крайне не налажена, не по вине бюро. До эвакуации г. Вильно бюро было подчинено части ЦК Литбел, находившейся в этом городе. Доклады об организации бюро представляло, но взамен никаких распоряжений, инструкций и указаний не получало. С эвакуацией Вильно организация стала подотчетна и вошла в сеть организаций КП(б) Белоруссии и ЦБ в Минске, но вследствие краткости времени и транспортных условий вплоть до эвакуации организация также ничего не получила. Это обстоятельство послужило также причиной оторванности и малой самодеятельности бюро. Первый доклад о деятельности бюро представлен в ЦБ только 16 сентября.

10-11. Состоялось заседаний уездного бюро 3, общегородских собраний - 7, бюро, субботников - 3, евсекции - 1 и совещание поляков-коммунистов - 1. Судя по протоколам и обсужденным на заседаниях вопросам, можно установить, что в организации за все время но было работника, вдохновлявшего членов и руководившего всей советско-партийной работой.

Неоднократно наблюдался ряд конфликтов в текущей работе убюро с ревкомом, что объяснялось невыдержанностью и неактивностью ответственных работников.

12-13-14. Партийной конференции и съездов секретарей волячеек не было.

Перерегистрация не производилась, ибо распоряжений не было получено ни от каких высших инстанций.

16. Оторванность от центров сказалась и в том, что за все время организацию не посетил ни один представитель партцентра,

17. В последнее время с усилением партработы в уезде последний был разбит на 3 района с инструктором в каждом.

18. Результаты агитработы точно зафиксировать нельзя, но приблизительно инструкторами и ответственными советскими работниками было сделано 10-12 объездов по уезду с организационной и агитационной целями. В городе было устроено до 30-32 митингов, концертов-митингов и лекций, преимущественно силами политотделов армий, в уезде было устроено не более 10-15 митингов.

19. Партийных мобилизаций не было, и отряд особого назначения не функционировал.

20. Субботники устраивались регулярно, было избрано особое бюро с представителями важнейших хозяйственных органов. Как исключение, бюро вело систематическую работу, учет участников и произведенной работы. Имеются сведения о трех субботниках: но очистке путей, санитарии города и погрузке дров, на которых участвовало 20 коммунистов и 600 беспартийных. Общее число часов работы - 18.

21. Цифры бюджета организации: приход 206 тыс. руб., расход 200 тыс. руб. Отчет сдан в финансовый отдел ЦБ,

22-23. Работа среди красноармейцев велась исключительно политотделами Красной Армии. Для работы среди национальных меньшинств были организованы евсекция и польбюро, которые не проявили интенсивной работы и ограничились устройством митингов на еврейском и польском языках. Других социалистических партий в уезде не было со времени первого периода советовластия. Среди советских служащих бюро ограничилось устройством ячеек в учреждениях и непосредственным участием в организации профсоюза советских служащих. Во взаимоотношениях бюро с ячейками райпродкома, увоенкомата и ж[елезной] д[ороги] была большая ненормальность, ибо члены указанных ячеек, пользуясь известной самостоятельностью своих учреждений и не чувствуя вследствие общей распущенности организации строгого воздействия со стороны убюро, не считали себя связанными с последним и во время эвакуации окончательно оторвались от своего уездного центра. По этой причине бюро при ликвидации сдало в распоряжение ЦБ только 24 члена организации. Работа среди молодежи находилась в стадии организации комитета, среди женщин же совершенно не велась. В области работы в деревне, помимо указанного выше, бюро разработало инструкции по созыву съезда и организации батраков, созыв съезда предполагался 20 сентября и не состоялся по военным обстоятельствам,

24-26. Беспартийных конференций не было и, судя по материалам, не предполагался их скорый созыв, газета не издавалась,

27. Плохо обстояло с распространением литературы и газет. Если благодаря содействию политотделов армий распространено было брошюр и воззваний до 3 тыс. экз., то газет было получено и распространено бюро не более 100 экз.

29. При организации был открыт партийный клуб и партийная библиотека,

30. Но воспитательной работы среди членов партии не было. Бюро даже не приступило к открытию хотя бы элементарной школы или чтению лекций на общих собраниях, а между тем имелась возможность использовать силы политотделов. Этот факт свидетельствует о полной неподготовленности к роли руководителя организации председателя бюро тов. Галько.

34. 20 августа состоялся I съезд волревкомов в присутствии представителей политотдела армии и начальника отдела ревкомов РВС армии. Партийный

состав: 10 коммунистов и 38 беспартийных. В докладах с мест представители многих волостей, в особенности граничащих с белой Литвой, указали на усиленную агитацию контрреволюции и кулаков и враждебное к Советской власти отношение крестьянства под влиянием этой агитации. Заслушаны доклады ревкома и отделов.

34-35-36. Чисто пролетарского населения в городе но более 200-250. Создано было уездное бюро профессиональных союзов из членов партии, на фабриках и заводах, которых насчитывалось 7, созданы фабрично-заводские комитеты, создан союз советских служащих и приступлено к созданию производственных союзов. Работа тормозилась из-за недостаточной осведомленности членов организации в вопросах профессионального строительства. Все члены организации, по сообщению бюро, состояли в профсоюзах.

31. Нападение белополяков на Лиду застало организацию неподготовленной, как и армейские учреждения, и из города членам п[артии] пришлось отступать вразброд. Во время эвакуации при неизвестных условиях остались в городе председатель убюро тов. Галько и предревкома. Дальнейшая судьба их не известна. Организация ликвидирована 22 октября сего года.

Заведующий информационным отделом ЦБ КП Виноградов.

*і) Менскаму Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту ад інструктара па арганізацыйных, культурна-прасьветных і школьных справах Лідскага і Ашмянскага паветаў Андрэя Асташонка*

**Даклад**[268]

9 студня 1920 г. № 279/11 выдан дакумэнт Довуд. Фронта Літов. Белар. Аддзел II, за подпісам - Славек, Капітан і шэф аддзела Давудства фронту Літовск. - Беларускага і на абваротнай старане паперы, ад 25 студня г. г. віза: Рэфэрэнта палітычных спраў у Беларусі пры II аддзеле Давудства Літ.-Беларускага п. Ваяводскага, якім даручваецца ўласьніку гэтага дакумэнту зьбіраць веча і сабраньня па беларускім пытаньням на тэрыторыі Лідскага і Ашмянскага паветаў. У помач гэтаму дакумэнту яшчэ дзьве паперы Нацыянальнага Беларускага Камітэту і ад Школьнай Рады Меншчыны, ад 29 студня за № 13 і 47, з якімі даручаецца беларускаму інструктару выступаць на сходах па беларускім пытаньням, згуртовываць грамадзян у беларускія арганізацыі, адчыняць школы, засновываць Школьныя Рады, Нацыянальныя Камітэты ў паветах, ездзіць на рэквізаваных падводах па паветах у гэтых справах. Усё як мае быць на погляд добра напісана, бо пісар паперы ня шкадаваў і кіраўніцтва - правоў для інструктара. Уласьнік гэтых папераў думаў, што з імі можна шмат зрабіць працы на павеце, але ня так яно робіцца, як думаецца і ў паперах напісана. Далей інструкцыя гаворыць, што, меўшы гэтыя паперы, трэба зьвярнуцца да Павятовага Старасты, каб ён даў яшчэ чацьвертую паперу (мацнейшую), што ня будзе рабіць перашкод у працы па вышападаных пытаньнях. Добра, што хоць вядома, куды зьвярнуцца за гэтай паперай. Думалася, што гэта ўсё робіцца, каб усе ведалі і дапамагалі, але яно ня для гэтага зроблена, калі мы пацікавімся, дык узнаем.

У м. Лідзе іду да Старасты адтрымаць паперы на права паездкі па павеце і зрабіць сход беларусаў у м. Лідзе. Дачакаўшысь чаргі, я зашоў у кабынэт Старасты, падаў дакумэнты і пачаў гутарыць з ім па-беларуску, а ён да мяне па-польску, каб ён мне даў паперы для працы на павеце. Гутаркі мае ён ці не хацеў слухаць, ці не зразумеў, але ўсё мне гаворыць па-польску ня тое, што трэба. Прачытаў у паперы, ён зьвяртаецца да мяне па-польску: “Што мне за Начальнік Капітан Славэк і Камітэт. У мяне ёсьць сваё цывільнае начальства, якому я і падчыняюся, і гэтыя паперы тут мець моцы ня будуць. Я сам у павеце Начальнік, і Вайсковая Улада мне парадкаў наводзіць ня мае права, бо яна мяшаецца ня ў свае дзела”. Я яму кажу, што мне мала інтарэсаў да таго, што Вайсковыя Улады ня могуць даваць такіх папер, так я да пана Старасты за гэтым і прышоў, каб адтрымаць паперу, якая і будзе мець моц для мяне, і я буду магчы працаваць у гэтакім кірунку. Ён мне адказаў, што такіх папераў ня дасьць, і што гэта ўсё залежыць ад Пана Начальніка Віленскага Вокругу. Мне болей нічога не заставалася рабіць, і гутарку скончылі. Доўга ня думаючы, я папрасіў старасты, каб ён даў мне пропуск у Вільню да Начальніка Вокругу. Адтрымаўшы паперу ад старасты, я паехаў у Вільню. Паехаў. Гэта было-б добра, каб як задумаў, дык і паехаў. Тут было ня так, а вось як: у кішэнях у мяне было шмат папераў з пячаткамі, што я маю права рабіць усялякія справы па беларускім пытаньням, але яны мне нічога не дапамаглі. Кіраўнік руху білету на цягнік, які ішоў у Вільню, мне ня даў, адмовіўся тым, што цягнікі цяпер ходзяць толькі вайсковыя, а я цывільны, хоць у мяне ў паперах і напісана аказваць дапамогу ўсім Уладам, алеж гэта толькі ў паперах. Я пытаю, калі будзе цягнік зноў у Вільню, а ён мне на гэта адказаў: “Ня ведаю”. Што мне засталося рабіць? Да Вільні на фурманцы не даедзеш, бо мароз быў вельмі дужы і грошай шмат трэба, ды ня хутка будзе справа зроблена. Прышлося з такімі дакумэнтамі зьвярнуцца да глаўнага кандуктара, які ў мяне папераў не спрасіў і ўзяў мяне да Вільні толькі за грошы. Пасадзіў ён мяне ў будку, што ў канцы вагона прыбудавана, бо ў вагон ня можна было, і прасіў мяне, каб я з будкі ня вылазіў на станцыі, ён баяўся сам, каб за гэта яго не заарэштавалі. Я згадзіўся і на гэта, хоць ён і быў самы большы начальнік над цягнікам. Ехаць было вельмі дрэнна, але я ўсё-ж думаў, што да Вільні даеду і ўсё зраблю як мае быць. Ехаў вельмі доўга. Цягнік на кожнай станцыі рабіў манеўры. Машына цягніка была кепская. Часта станавіўся на дарозе і рабіў пачынку. Седзючы ў гэтай будцы, я чуць ня акалеў, але скора прышоў вечар, і мне была магчымасьць вылезьці з будкі і пагрэцца на марозе. Даехаў да Вільні ў поўначы. Праз станцыю бяз білетаў прайсьці было ня можна. Усіх бязбілетных заарыш-

товывалі і садзілі ў "казу". Каб не начаваць у казе, я пашоў вярсты дзьве за станцыю і прышоў у горад. Вось як добра ехаць на чыгунцы з крэпкімі паперамі.

У Вільні быў у Начальніка Вокругу тры разы і меў пытаньне па беларускіх арганізацыйных і школьных справах, якія мне павятовы староста п. Ждановіч рабіць не дазволіў. На маю пісаную заяву Начальнік Вокругу даў такую атповедзь, што па гэтым справам зноў трэба зьвярнуцца да павятовага старасты. Я гэта ведаў і зрабіў, але староста хацеў ад мяне адмовіцца і не дазволіць працаваць, думаў, што я да Начальніка Вокругу не паеду. Я-ж, доўга не чакаючы, гэта зрабіў, каб ведаць, хто робіць перашкоды ў працы. Пасьля гутаркі ў Начальніка Вокругу я ўбачыў, што ўсе перашкоды робяцца дзякуючы павятоваму старасьце. Аб ім гаварылі ў Вільні і Лідзе, што ён "добрая птушка". Гэта тутэйшы лідскі памешчык. На погляд, ён пан вельмі добры і ўсё, кажа, зраблю, што ад мяне залежыць, але, як мы бачым, ня так робіцца. Ен мне тлумачыў, што ў Лідзе ніякіх беларусаў няма, а якія і ёсьць, дык ужо далучыліся да Польшчы. Тут ніякіх Камітэтаў і арганізацыяў ня трэба, што гэта беларуская праца падобна Сызыфавай, бо тут на мейсцы няма падставы. Потым гаворыць, што ніякай беларускай Улады няма, а калі і ёсьць, дык я маю сваё начальства ў Вільні. Як відаць, у гэтага пана Ждановіча няма ўлады і апошняй, бо ён яе, як я бачыў, ня прызнае. Ён думаў, што сам Кароль у павеце. На маю заяву аб сходах у павеце ніякай атповедзі ня зрабіў, а кажа, што прышле ў Менск у Нацыянальны Камітэт.

Дзякуючы яго атсутнасьці, мне ўдалося з дазваленьня яго замесьціцеля сабраць сход беларусаў у Лідзе і залажыць Нацыянальны Камітэт, але ён прызнаць яго ня хоча. Усё насяленьне праваслаўных беларусаў і жыдоў сустрэла гэту арганізацыю вельмі прыхільна. На сабраньні быў адзін католік, які прызнаваў сябе беларусам, ён так жа гаворыць, што многа з іх ёсьць прыхільнікаў, але на гэта трэба пільная праца, каб сарганізаваць іх у такім кірунку. Ен кажа, што ўсяму гэтаму ёсьць перашкода з стараны Улады і ксяндзоў.

Школьныя справы ў Лідскім павеце стаяць вельмя дрэнна. Там няма працаўнікоў і, дзякуючы гэтаму, усё сьпіць і чагось дажыдаецца. Цяпер там ёсьць каля 135 школьных камплектаў (польскіх) і 6 беларускіх. Па пастановах сялян адчынены на свой кошт беларускія школы: у Астрыне 3 камплекты, Зблянах і Вангах - Беліцкай гміны, Ракавічах - Ражанкоўскай гміны па аднаму камплекту і яшчэ ня зацьверджаных: у Турыйску, Галэмбах, Маскалёх, Зачэпічах, Дэмянаўцах, Орлі і Ліпічах - Арлянскай гміны, Моцявічах - Беліцкай гміны, Русакох - Ражанкоўскай гміны, але яшчэ можна адчыніць такіх школ у павеце каля 20. У заяве да пана Старасты павету я гэта намеціў, справы аб гэтым сабраў вельмі добрыя. Есьць і памяшканьне і прыхільнасьць грамадзян да гэтых школ, як я даведаўся, што яны пры немцах такія школы мелі і немцы давалі беларускіх настаўнікаў, якія праходзілі спэцыяльныя беларуска-нямецкія курсы ў Сьвіслачы. Сяляне адмовіліся ад польскіх школ і чакаюць, што адчыняцца беларускія школы, яны вельмі аб гэтым прасілі мяне, каб я хутчэй гэта зрабіў, бо дзеці нічога ня робяць. Як я бачу, ім доўга прыдзецца чакаць, бо працаваць на павеце магчымасьці ніхто мець ня будзе, калі пасьля кожнага сходу трэба будзе ехаць у Ліду з дакладам да павятовага старасты і на ўсякі сход пісаць да яго заяву і абвестку. Аб гэтым мне казаў павятовы староста і паперы на далейшую працу ня даў.

Вось як робіцца за межамі Меншчыны. Каб гэтага ня было, трэба шукаць праўды калі ня ў Вільні і Варшаве, дык у іншым мейсцы. Годзе беларускаму грамадзянству стаяць у куточку, зьняўшы шапку перад панам, просячы яго даць дазваленьне на свае грамадзянскія справы. Я ўжо думаў, што пара гаварыць усюды аб беларускіх справах, каб нас зналі за межамі і ў цёмных кутках, бо нас ёсьць вельмі шмат на Беларусі, толькі ня ўсе гэта хочуць ведаць, Няўжо-ж такая грамада беларусаў будзе зноў у ўціску, як гэта было пры царызьме. Не. Мусіць гэтаму ня быць, калі мы начнем працаваць пільней. Пільная праца дасьць магчымасьць усюды крычаць, што мы ёсьць, працуем і будуем бацькаўшчыну. Да гэтага часу, як я пабачыў і ўзнаў з гутарак у дарозі Ганчарах, Масевічах, Рудзе, Агародніках, Навасадах, Біскупцах, Лябядзе, Голдаве, Пудзіне, Альхоўцы, Васілевічах, Апанцах, Ракавічах, Астрыне, Орлі, Турыйску, Ліністанцэ, Галэмбах, Маскалёх, Дэм'янаўцах, Беліцэ, Вангах, Зблянах і інш., ні ў Ашмянскім ні Лідскім павеце аб існуючых беларускіх арганізацыях ніхто і ня ведае і вельмі цікавіцца. Трэба друкаваць абвесткі, вызваньня, пашыраць беларускую літэратуру, калі хто гэтага хоча, каб ведалі ўсе і ў цёмных куточках-вёсках, а калі гэтага ня будзе, дык і працаваць ня трэба. Няхай зноў пануе Варшава, як раней панаваў Петраград і Масква. Можа, каму гэтыя гутаркі і будуць калоць вочы, няхай зачыніць і пачне рабіць лепей. Няхай пакіне такую палітыку, што беларусаў няма, што ім ня трэба свая ўлада, для таго што ў Беларушчыне няма вугля, солі, газы і вялікіх фабрыкаў. Няхай ён адчыніць вочы і пабачыць, што ня такая гэта бяда ў тым, што ў нас гэтых рэчаў няма. У нас ёсьць што небудзь іншае, за што нам дадуць усё. Каб такіх гутарак ня было, Менск павінен пасылаць сваіх інструктароў з добрымі паперамі, каб яны ня ездзілі ад аднаго начальніка да другога і ня пыталі, хто з іх старшы і дазволіць працаваць і перашкод болей ня будзе, а каб яны адразу пачыналі працу і ні ў каго ня прасілі. Няхай тады польская ўлада робіць сыск які хоча. Даць інструктару літэратуры, газэты, абвесткі, колькі можна і пашыраць усё гэта бяз грошы. Цяпер гэтага няма, Інструктар адтрымоўвае ў Н. К. некалькі старых газэт, абвестак і літэратуру павінен прадаваць грамадзянам за грошы. Як іх прадаваць, калі грамадзяне глядзяць на гэтыя кніжкі як на "заморскую малпу" і гутараць, што трэба ўперад навучыцца чытаць, а потым будзем і купляць. З боку паглядзеўшы, дык і праўда. Да гэтага часу ніхто беларускай літэратуры і ня чытаў, бо яна ня пашыралася і была ў уціску. Калі гэтага ня будзе, дык і працаваць ня трэба і ня мець ні на каго крыўды, што яны хрыстапрадаўцы і адступнікі. Гэта трэба з пачатку ўзяць на ўвагу Меншчыне. На Меншчыну

цяпер глядзяць усе тыя беларусы, хто яе ўзнаў з газэт, ці ад інструктароў. Трэба падтрымаць веру ў будаўніцтва і будучыну Беларусі, а ня гутарыць.

***Інструктар Асташонак.***

**11. Крыніцы:**


[1] Szymielewicz Michal. Lida w latach wielkiej wojny // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. S. 7-12.

[2] http://antologifo.narod.ru/pages/list/histore/istPskDr.htm

[3] Gizycki J. M.F. (Wolyniak). Z przeszlosci karmelitow na Litwie i na Rusi. Cz. 1-2.Krakow, 1918. S. 254.

[4] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гародні. Ф. 14, воп. 2, спр. 4.

[5] Сегень Януш. Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя // Лідскі летапісец № 4 (20) - 2002. С. 26.

[6] Военная энциклопедия. Под ред. В.Ф. Новицкого и др. Т. 14. СПб, 1914. С. 619.

[7] http://forum.vgd.ru/174/39428/

[8] Szymielewicz Michal. Lida w latach wielkiej wojny // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. S. 7-12.

[9] Савук Антось. Лідскі вайсковы аэрадром (1907 - 1915) //Лідскі Летапісец, № 4 (16)-2001. С. 13-15.

[10] Лебедев Виталий. Аэродром Лида в годы становления российской военной авиации // http://www.dfnc.ru/Aerodrom-Lida-v-godi-stanovleniya-rossiyskoy-voennoy-aviatsii

[11] Bielarus, № 13, 11 красавіка 1913.

[12] "Наша Ніва", № 14, 5 красавіка 1913.

[13] Савук Антось. Лідскі вайсковы аэрадром (1907 - 1915) //Лідскі Летапісец, № 4(16)-2001. С. 13-15.

[14] Bielarus, № 16, 17 красавіка, 1914.

[15] Савук Антось. Лідскі вайсковы аэрадром (1907 - 1915) //Лідскі Летапісец № 4(16)-2001. С. 13-15.

[16] Szymielewicz Michal. Lida w latach wielkiej wojny // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. S. 7-12.

[17] Арефьева И., Шлевис Г.. Примите меня в свою любовь... . Вильнюс, 2008. С. 82-83.

[18] Kuryer Litewski, № 87, 17 (30) kwietnia 1910.

[19] Szymielewicz Michal. Lida w latach wielkiej wojny // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. S. 7-12.

[20] Там жа.

[21] Там жа.

[22] Szymielewicz Michal. Bialogrud // Ziemia Lidzka. 1936. № 7. S. 4.

[23] Там жа.

[24] Документы и материалы по истории Белоруссии. (1900-1917 г.г.). Т. 3. Минск, 1953. С. 784-785.

[25] Аўтар удзячны к.г.н., дацэнту Вароніч Т.У. за электронную копію справы: Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.448. Воп. 7. Спр. 679. Дело Виленского окружного суда "О крестьянине Осипе Мордасе обв. По 2 ч. 1085 ст. Улож. О Нак. Начато 24 октября 1914 г., решено 3 декабря 1914 г."

[26] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.448. Воп. 7. Спр. 679. С. 3.

[27] Там жа. С. 3аб.

[28] Там жа. С. 56.

[29] Там жа. С. 25.

[30] Там жа. С. 75.

[31] Там жа. С. 76аб.

[32] Там жа. С. 24.

[33] Арефьева Ирина, Шлевис Герман. "Примите меня в свою любовь...". Вильнюс, 2008. С. 134.

[34] Bielarus, № 34, 21 жніўня 1914.

[35] Наша Ніва, № 29, 25 ліпеня 1914.

[36] Bielarus, № 35, 28 жніўня 1914.

[37] Наша Ніва, № 35, 4 верасня 1914.

[38] Bielarus, № 46, 13 лістапада 1914.

[39] Bielarus, № 39, 24 верасня 1914.

[40] Bielarus, № 11-12, 19 сакавіка 1915.

[41] Bielarus, № 44-45, 30 кастрычніка 1914.

[42] Bielarus, № 13, 2 красавіка 1915.

[43] Bielarus, № 50, 11 снежня 1914.

[44] Bielarus, № 3, 21 студзеня 1915.

[45] Bielarus, № 7, 19 лютага 1915.

[46] "Наша Ніва", № 10, 14 сакавіка 1915.

[47] Bielarus, № 11-12, 19 сакавіка 1915.

[48] Наша Ніва, № 47, 27 лістапада 1914.

[49] Наша Ніва, № 7, 21 лютага 1915.

[50] Ялугін Э. Без эпітафіі. Мінск, 1989. С. 78.

[51] Бобков А. М. Беженцы в Белоруссии в годы первой мировой войны (1915-1916) // Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Мн., 1993. Ч. 1. С. 132.

[52] Саматыя Вадим. Проблема беженцев в Беларуси в годы Первой Мировой войны // Белорусский журнал международного права и международных отношений 2003 - № 2. http://evolutio.info/content/view/631/54/

[53] Nizinski M. Szczuczyn w czasie wojny swiatowej (1915-1920 г.) // Orli Lot №8-9, pazdziernik-listopad 1929. S. 174.

[54] Дневник войны. 6-13 сентября // Природа и Люди, № 47-1915. С. 752.

[55] Там жа.

[56] Там жа.

[57] Там жа.

[58] Там жа.

[59] Там жа.

[60] Собственноручные показания "Моя военная служба до 22 июня 1941 года" генерал-полковника Р. Шмидта // http://www.xliby.ru/istorija/generaly_i_oficery_vermahta_rasskazyvayut/p34.php

[61] Szymielewicz Michal. Z tamtego swiata // Ziemia Lidzka, № 11-1937. S. 120.

[62] Aleksander Sniezko. Lidzki cmentarz wojenny // Ziemia Lidzka, № 8-1936. S. 1.

[63] Конан У. "Гоман" // ЭГБ у 6 т. Т. 3. Мн., 1996. С. 60.

[64] Homan, № 45, 4 cerwienia 1918.

[65] Homan, № 8, 10 marca 1916.

[66] Homan, № 79, 14 listapada 1916.

[67] Беларуская Ніва, №17 (30), 27 лютага 1926 г.

[68] http://www.belhistory.com/be/deutcshe_ belarus_1917.html

[69] Homan, № 85, 5 snieznia 1916.

[70] Гоман, № 2, 5 студзеня 1917 г.

[71] Гоман, № 15, 20 лютага 1917.

[72] Homan, № 80, 17 listapada 1916.

[73] Гоман, № 62, 3 жніўня 1917.

[74] Гоман, № 68, 24 жніўня 1917.

[75] Гоман, № 71, 4 верасня 1917.

[76] Гоман, № 74, 14 верасня 1917.

[77] Гоман, № 62, 15 верасня 1916.

[78] Homan, № 48, 28 lipienia 1916.

[79] Homan, № 48, 8 zniunia 1916.

[80] Homan, № 65, 26 wierasnia 1916.

[81] Гоман, № 61, 31 ліпеня 1917.

[82] Гоман, № 81, 9 кастрычніка 1917.

[83] Homan, № 56, 25 zniunia 1916.

[84] Homan, № 91, 25 snieznia 1916.

[85] Homan, № 8, 10 sakavika 1916.

[86] Homan, № 87, 12 snieznia 1916.

[87] Homan, № 54, 18 zniunia 1916.

[88] Гоман, № 61, 31 ліпеня 1917.

[89] Kurjer Wilenski, № 353 (3957), 24 grudnia 1936.

[90] Фахверк (Fachwerk) - тып канструкцыі будынка, заснаваны на запаўненні муроўкаю драўлянага каркасу. Звычайна каркас застаецца бачны, раздзяляючы фасад на панэлі рознай формы і надаючы будынку характэрны маляўнічы выгляд.

[91] Федоров И.О. Город Лида в годы установления советской власти (1919-1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 129.

[92] Homan, № 41, 4 lipienia 1916.

[93] Homan, № 57, 29 zniunia 1916.

[94] Homan, № 67, 3 kastrycznika 1916.

[95] Гоман, № 72, 20 кастрычніка 1916.

[96] Гоман, № 83, 28 лістапада 1916.

[97] Homan, № 72, 7 wierasnia 1917.

[98] Homan, № 52, 11 zniunia 1916.

[99] Гоман, № 71, 17 кастрычніка 1916.

[100] Homan, № 53, 15 zniunia 1916.

[101] Гоман, № 73, 24 кастрычніка 1916.

[102] Homan, № 77, 7 listapada 1916.

[103] Homan, № 81, 21 listapada 1916.

[104] Гоман, № 75, 18 верасня 1917.

[105] Homan, № 70, 6 wierasnia 1918.

[106] Гоман, № 60, 28 жніўня 1917.

[107] Homan, № 81, 21 listapada 1916.

[108] Гоман, № 68, 30 жніўня 1918.

[109] Гоман, № 78, 4 кастрычніка 1918.

[110] Гоман, № 94, 29 лістапада 1918.

[111] Homan, № 6, 18 studnia 1918.

[112] Homan, № 5, 15 studnia 1918.

[113] Гоман, № 61, 11 верасня 1916.

[114] Homan, № 82, 24 listapada 1916.

[115] Homan, № 89, 19 snieznia 1916.

[116] Гоман, № 76, 3 лістапада 1916.

[117] Гоман, № 83, 22 кастрычніка 1918.

[118] Гоман, № 83, 28 лістапада 1916.

[119] Гоман, № 6, 19 лютага 1917.

[120] Гоман, № 16, 23 лютага 1917.

[121] Гоман, № 15, 20 лютага 1917.

[122] Гоман, № 16, 23 лютага 1917.

[123] Гоман, № 16, 23 лютага 1917.

[124] Гоман, № 61, 31 ліпеня 1917.

[125] Гоман, № 62, 3 жніўня 1917.

[126] Гоман, № 81, 9 кастрычніка 1917.

[127] Homan, № 90, 9 listapada 1917.

[128] Гоман, № 97, 4 снежня 1917.

[129] Homan, № 53, 9 lipnia 1918.

[130] Homan, № 27, 3 kresawika 1918.

[131] Homan, № 45, 4 cerwienia 1918.

[132] Гоман, № 72, 13 верасня 1918.

[133] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 40, 13.

[134] Homan, № 99, 18 snieznia 1918.

[135] Homan, № 101, 24 snieznia 1918.

[136] Лаўрэш Леанід. Яўген фон Гротэ дэ Буко - першы кіраўнік беларускага руху ў Лідзе // Наша слова, № 12 (1111), 20 сакавіка 2013 г.

[137] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 41.

[138] Гоман, № 93, 26 лістапада 1918.

[139] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 14, 21.

[140] Федоров И.О. Город Лида в годы установления советской власти (1919-1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 130.

[141] Жыццё Беларуса, № 17, 4 лістапада 1925 г.

[142] Федоров И.О. Город Лида в годы установления советской власти (1919-1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 130.

[143] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 48.

[144] Там жа. С. 86.

[145] Там жа. С. 49.

[146] Brochocki Andrzej. Dzieje samoobrony w Szczuczynie Nowogrodzkim (rok 1918 - 19) // Slowo № 52, 22 lutego 1936, Slowo, № 53, 23 lutego 1936.

[147] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 51.

[148] Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918 - 1920 гг. Т. 1. Минск, 1968. С. 373.

[149] Федоров И.О. Город Лида в годы установления советской власти (1919-1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 131.

[150] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 53.

[151] Федоров И.О. Город Лида в годы установления советской власти (1919-1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 130-133.

[152] Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918 - 1920 гг. Т. 2. Минск, 1971. С. 529.

[153] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 76-77.

[154] Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918 - 1920 гг. Т. 1. Минск, 1968. С. 450.

[155] Hramadzianin, № 7, 7 lutaha 1919.

[156] Федоров И.О. Город Лида в годы установ-ления советской власти (1919-1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.- практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 130-133.

[157] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 55.

[158] Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918 - 1920 гг. Т. 2. Минск, 1971. С. 95.

[159] Там жа. С. 34.

[160] Там жа. С. 36.

[161] Грицкевич А.П. Западный фронт РСФСР. Минск, 2010. С. 128-131.

[162] Там жа. С. 52.

[163] Там жа. С. 132-135.

[164] Wyszczelski Lech. Wojna polsko-rosyjska 1919-1920. T. 1. Warszawa, 2010. S. 80-88.

[165] Там жа. S. 89-90.

[166] Там жа. С. 72.

[167] Там жа. С. 73.

[168] Tygodnik Illustrowany, № 22, 31 maja 1919. S. 340-341.

[169] Wyszczelski Lech. Wojna polsko-rosyjska 1919-1920. T. 1. Warszawa, 2010. S. 89-90.

[170] Kapiszewski Andrzej. Controversial Reports on the Situation of the Jews in Poland in the Aftermath of World War Studia Judaica 7. 2004 №2(14). S. 257-304.

[171] Прыватны архіў аўтара.

[172] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай зямлі. Ліда, 2010. С. 88.

[173] Прыватны архіў аўтара.

[174] Дзічканец Юзаф. Самаабарона Лідскай Зямлі.

Ліда, 2010. С. 86.

[175] http://www.xxwiek.pl/dzien/1919-04-19/Lida_Reakcja_Jozefa_Pilsudskiego_na_zajecie_Wilna_ przez_Polakow/6744

[176] Грицкевич А.П. Западный фронт РСФСР. Минск, 2010. С. 136.

[177] Там жа. С. 131, 137-149.

[178] Беларуская Думка, № 45, 15 ліпеня 1919.

[179] Баярунец Гіпаліт. Ліда ва ўспамінах ксендза Гіпаліта Баярунца // Лідскі Летапісец, № 2 (54) - 2011. С. 31.

[180] Грицкевич А.П. Западный фронт РСФСР. Минск, 2010. С. 233.

[181] Там жа. С. 248.

[182] Баярунец Гіпаліт. Ліда ва ўспамінах ксендза Гіпаліта Баярунца // Лідскі Летапісец, № 2 (54) - 2011. С. 31.

[183] Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918 - 1920 гг. Т. 2. Минск, 1971. С. 462-465.

[184] Szymielewicz Michal. Z tamtego swiata // Ziemia Lidzka № 11-1937. S. 120.

[185] Грицкевич А.П. Западный фронт РСФСР. Минск, 2010. С. 317.

[186] Адзямкоўскі Януш. Ліда 1920. Ліда - Варшава, 2010. С. 13-17.

[187] Там жа. С. 31-60.

[188] Баярунец Гіпаліт. Ліда ва ўспамінах ксендза Гіпаліта Баярунца // Лідскі Летапісец, № 2 (54) - 2011. С. 32.

[189] Трусаў А. Сярэдняя Літва // Наша слова, № 28 (663) 21 ліпеня 2004 г.

[190] Наша Ніва, № 8, 13 снежня 1920.

[191] Krynica, № 9-1921

[192] Наша Думка, № 21, 27 траўня 1921.

[193] Krynica, № 28-1921

[194] http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-i/index_19422.html

[195] Беларускія Ведамасьці, № 6, 17 кастрычніка 1921.

[196] Беларускія Ведамасьці, № 9, 7 лістапада 1921.

[197] Ляхоўскі Уладзімір. Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919-1920 гг. // Спадчына, № 6-1994. С. 67.

[198] Наша Думка, № 21, 27 траўня 1921.

[199] Там жа.

[200] Беларускія Ведамасьці, № 9, 7 лістапада 1921.

[201] Беларускі звон, № 24, 23 сьнежня 1921.

[202] Наша Думка, № 15, 15 красавіка 1921.

[203] Беларускія Ведамасьці, № 2, 9 студзеня 1922.

[204] Новае Жыцьцё, № 2, 10 сакавіка 1923.

[205] Змаганьне, № 9, 23 лістапада 1923.

[206] Новае Жыцьцё, № 3, 15 сакавіка 1923.

[207] Slowo, № 87, 12 listopada 1922.

[208] Беларускія Ведамасьці, №9, 7 лістапада 1921.

[209] Kurjer Wilenski, № 55 (4373), 25 lutego 1938.

[210] Slowo, № 79, 3 listopada 1922.

[211] Slowo, № 88, 14 listopada 1922.

[212] Slowo, № 12, 17 stycznia 1923.

[213] Slowo, № 254, 14 listopada 1923.

[214] Slowo, № 265, 27 listopada 1923.

[215] Грицкевич А.П. Западный фронт РСФСР. Минск, 2010. С. 375.

[216] Slowo, № 2, 2 sierpnia 1922.

[217] Slowo, № 5, 5 sierpnia 1922.

[218] Там жа.

[219] Slowo, № 6, 6 sierpnia 1922.

[220] Slowo, № 8, 9 sierpnia 1922.

[221] Наша Думка, № 21, 27 траўня 1921.

[222] Вызваленьне Народу, № 3, 17 верасня 1922.

[223] Kuwalek Robert. Zycie spoleczno-polityczne ziemi lidzkiej w okresie miedzywojennym // Ziemia Lidzka, № 25-1997.

[224] Пашкевіч А. В. Беларускія паланафільскія арганізацыі і дзеячы падчас парламенцкіх выбараў у Польшчы ў 1922 г. // Problemy cywilizacyjnego rozwoju Bialorusi, Polski, Rosji i Ukrainy od konca XVIII do XXI wieku / Pod redakcja Piotra Franaszka, Aleksandra N. Nieczuchrina. Krakow: Wydawnictwo Uniwersytetu Jagiellonskiego, 2007. S. 161-164.

[225] Пашкевіч Алесь. Парламенцкія формы змагання ў міжваеннай Польшчы 1921-1930 гг. Дысертацыя на суісканне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук. Мінск, 2006. С. 40-41.

[226] Slowo, № 19, 23 sierpnia 1922.

[227] Slowo, № 21, 25 sierpnia 1922.

[228] Slowo, № 29, 29 sierpnia 1922.

[229] Вызваленьне Народу, № 5, 1 кастрычніка 1922.

[230] Slowo, № 54, 4 pazdziernika 1922.

[231] Slowo, № 80, 4 listopada 1922.

[232] Slowo, № 85, 10 listopada 1922.

[233] Там жа.

[234] Новае Жыцьцё, № 2, 10 сакавіка 1923.

[235] Вызваленьне Народу, № 6 (18), 11-16 сакавіка 1923.

[236] Пашкевіч Алесь. Парламенцкія формы змагання ў міжваеннай Польшчы 1921-1930 гг. Дысертацыя на суісканне вучонай ступені кандыдата гістарычных навук. Мінск, 2006. С. 43.

[237] Там жа.

[238] Рак-Міхайлоўскі С. Турэмны дзённік / Падр. да друку і прадмова А. Пашкевіча // Куфэрак Віленшчыны. 2007. № 1 (12). С. 48-97.

[239] http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-iii-kniga-i?id=26971

[240] Slowo, № 73, 26 pazdziernika 1922.

[241] Slowo, № 84, 9 listopada 1922.

[242] Slowo, № 84, 9 listopada 1922.

[243] Slowo, № 97, 24 listopada 1922.

[244] Slowo, № 34, 13 lutego 1923.

[245] Новае Жыцьцё, № 2, 10 сакавіка 1923.

[246] Slowo, № 20, 26 stycznia 1923.

[247] Slowo, № 45, 25 lutego 1923.

[248] Slowo, № 125, 9 czerwca 1923.

[249] Slowo, № 126, 12 czerwca 1923.

[250] Новае Жыцьцё, №11, 11 траўня 1923.

[251] Наша Думка, № 21, 27 траўня 1921.

[252] Slowo, № 4, 4 sierpnia 1922.

[253] Slowo, № 3, 3 sierpnia1922.

[254] Slowo, № 41, 18 wresnia1922.

[255] Slowo, № 28, 6 lutago1923.

[256] Meriden Daily Jornal. Aug 24, 1923.

[257] Slowo, № 186, 24 sierpnia1923.

[258] Slowo, № 187, 25 sierpnia1923.

[259] Slowo, № 188, 26 sierpnia1923, №189, 28 sierpnia 1923.

[260] Памятная книжка Виленской губернии. Вильна, 1914, С. 201-202.

[261] Наша Ніва, № 7, 21 лютага 1915.

[262] Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918 - 1920 гг. Т. 1. Минск, 1968. С. 373.

[263] Там жа. С. 445-446.

[264] http://en.wikisource.org/wiki/Mission_of_The_United_States_to_Poland:_Henry_Morgenthau,_Sr._report

[265] Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918 - 1920 гг. Т. 2. Минск, 1971. С. 385.

[266] Там жа. С. 462-465.

[267] Там жа. С. 529-534.

[268] Ляхоўскі Уладзімір. Беларуская справа падчас польскай акупацыі 1919-1920 гг. // Спадчына, № 6-1994. С. 64-67.

***Аляксандр Горны***

# Беларуская сялянска-работніцкая грамада ў Лідзе
## *(Частка 1)*

У 2015 г. споўніцца 90 год з таго моманту, як у чэрвені 1925 г. у польскім сойме пасля расколу Беларускага пасольскага клуба была ўтворана дэпутацкая фракцыя Беларускай сялянска-работніцкай грамады. На яе аснове ў 1925 - 1926 гг. пачала фармавацца легальная палітычная партыя, якая на непрацяглы тэрмін стала адной з вядучых сіл на заходнебеларускай палітычнай арэне. Спалучэнне надзённых сацыяльных, палітычных і нацыянальных патрабаванняў, змешчаных у праграме Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), вялікая арганізацыйная праца яе кіраўніцтва сталі прычынамі шырокай падтрымкі гэтай партыі з боку розных пластоў беларускага насельніцтва міжваеннай Польшчы. На пачатак 1927 г. яна налічвала больш за 100 тыс. сяброў, аб'яднаных у 2 тыс. мясцовых гурткоў, што дае падставы лічыць БСРГ самай масавай беларускай палітычнай сілай на той час[1].

Не гледзячы на значны ўплыў камуністаў на работу БСРГ, нацыянальная складовая ў яе дзейнасці была вельмі моцнай, фактычна з'яўляючыся адзіным аб'яднаўчым фактарам для многіх "грамадоўцаў"; да таго ж у межах гэтай партыі працавалі вядомыя прадстаўнікі беларускага руху - Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, У. Самойла, А. Луцкевіч, Я. Шнаркевіч і інш. Таму арышт кіраўніцтва БСРГ санацыйнымі ўладамі Польшчы ў студзені 1927 г. і забарона партыі ў сакавіку стала лёсавызначальнай з'явай для беларускага нацыянальнага руху ў Польшчы, вызначыўшы яго далейшую гісторыю, ці хутчэй фактычны заняпад, да верасня 1939 г.

Правінцыйная арганізацыйная структура БСРГ закранула каля 27 паветаў Заходняй Беларусі, у тым ліку і Лідчыну[2]. Першыя вясковыя гурткі БСРГ пачалі фармавацца тут у чэрвені 1926 г. На канец лета 1926 г. у Лідскім павеце налічвалася 10 гурткоў, а ўжо на 1 снежня таго ж года - 45[3]. 26 верасня 1926 г. у Лідзе адбыўся з'езд павятовых прадстаўнікоў партыі, на якім быў утвораны Лідскі павятовы камітэт БСРГ. На чале камітэта стаў мясцовы актывіст Вінцук Салыга[4]. Трохі раней, 11 ліпеня 1926 г. партыйны гурток быў утвораны ў Лідзе, у розныя часы яго ўзначальвалі Павел Жэбелеў, Ігнат Чайкоўскі і Кастусь Халявінскі. Хутчэй за ўсё ў канцы лістапада ці пачатку снежня 1926 г. гурток быў зачынены распараджэннем лідскага старасты. Рэпрэсіі польскіх уладаў закранулі і іншых сябраў Грамады з Лідчыны. 15 студзеня 1927 г. разам з актывам БСРГ быў арыштаваны і Вінцук Салыга, які ў якасці абвінавачанага ўдзельнічаў у знакамітым "працэсе 56-ці" - судовым працэсе над кіраўніцтвам і дзеячамі БСРГ.

У прапануемай ніжэй публікацыі змешчаны дакументы, якія непасрэдна звязаны з гісторыяй лідскага гуртка БСРГ і развіццём "грамадаўскага" руху на Лідчыне. Дакументы былі выяўлены намі ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы (Lietuvos centrinis valstyb?s archyvas - далей LCVA). У 2011 г. у гэтым архіве былі знойдзены шматлікія дакументы, звязаныя з гісторыяй беларускага нацыянальнага руху, якія раней былі невядомыя даследчыкам. Сярод іх вялікую масу складалі матэрыялы Цэнтральнага сакратарыяту БСРГ, куды з правінцыі дасылалася дакументацыя мясцовых гурткоў і суполак партыі. У асноўным гэта копіі пратаколаў сходаў гурткоў, на якіх закраналіся розныя арганізацыйныя, палітычныя і іншыя пытанні. У прыватнасці, у справе Лідскага павятовага камітэта БСРГ было знойдзена восем пратаколаў сходаў лідскага гуртка БСРГ, крайнія даты - 11 ліпеня і 21 лістапада 1926 г., якія перадрукоўваюцца ніжэй. Пратаколы ўпершыню ўводзяцца ў навуковы ўжытак, друкуюцца з захаваннем правапісу і стылістыкі арыгіналаў.

Акрамя пратаколаў, у канцы публікацыі змешчаны абвінаваўчы акт Вінцука Салыгі, складзены пракурорам Віленскага акруговага суда ў сакавіку 1927 г. Дакумент знойдзены выпадкова, у следчай справе Б. Тарашкевіча за 1931 г., якая захоўваецца ў фондзе Пракуратуры пры Віленскім акруговым судзе.

Апублікаваныя матэрыялы безумоўна будуць цікавы лідскім краязнаўцам, прафесійным гісторыкам і ўсім тым, хто цікавіцца не толькі гісторыяй Лідчыны ў XX ст., але і даследуе супярэчлівыя пытанні гісторыі беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі міжваеннага перыяду.

**№ 1**

Пратакол № 1
Новастворанаго Гуртка Беларускае Селянска-Работніцкае Грамады у м. Лідзі.

Дня 11 ліпеня 1926 г. адбылося арганізацыйнае сабраньне Беларускае Сялянск. Раб. Грамады на якім было прысутных агулам 12 асоб з м. Ліды. Азнаеміўшыся з праграмай Беларускае Сялянс. Раб. Грамады 13 асоб запісалася да гэтай легальна істнуючае партыі, адначасна адчыняючы Гурток Грамады ў м. Лідзі.

[1] Рижский мир в судьбе белорусского народа 1921 - 1953 гг. В 2 кн. Кн. 1. Минск. 2014. С. 400.
[2] Беларускі календар на 1927 год. Вільня. Б.г. С. 104.
[3] Памяць: Ліда. Лідскі раён. Мінск. 2004. С. 145.
[4] Сліўкін В, Суднік С. Саджалі ўсе, або лёс грамадоўца // Лідскі летапісец. 2006. № 4. С. 29 - 30.

На старшыню Гуртка выбралі Паула Жебелева з м. Ліды, на сэкрэтара Язепа Пінкевіча з м. Ліды, на скарбніка Кастуся Халявінскаго з м. Ліды.

Падпісалі: Старшыня П. Жебелев.
Сэкрэтар Я. Пінкевіч.
Скарбнік К. Халявінскі.
Сябры І. Чайкоускі.
У. Калясінскі[5].
Я. Чарскі.
За згоднасць з арыгіналам
Сэкрэтар Я. Пінкевіч.

Ліда 11 ліпня 1926 г.

*LCVA. - Fondas 365. - Apyrasas 1. - Byla. 19. Аркуш 9*

**№ 2**

Копія

Пратакол № 2
Огульнае Сабранье Сяброў Гуртка Бел. Сел.-Раб. Грамады м. Ліды, дн. 25 ліпня 1926 г.

Выслухаўшы даклад сябра Паўла Жебелева аб агульным палаженьні пастанавілі:

1. Выразіць сваю поўную пашану паслам з Беларус. Сял. Раб. Грамады.

2. Дамагацца поўнае *амнісцыі для ўсіх палітычных*[6] вязьнёў

3. Дамагацца *скасаваньня асадніцтва*[7] і перадачы ўсяе зямлі бэззямельным і малозямельным *бэз выкупу*[8].

4. Дамагацца скасаваньня засільля чужынцамі ва ўсіх ужадах[9], адначасна звальненя усіх абшарнікоў з урадовых становішч і перадачы гэтых становішч тутэйшаму *грамадзянству*[10].

5. Дамагацца скасаваньня ганеньня з боку ўраду проці сяброў Б.С.Р.Г.

6. Сабраньне, памятаючы словы сказанныя марш. Пілсудскім у дню 14 мая і не бачучы аж да гэтаго часу, так і ў будучыне ніякаго паляпшэня для ўсіх працоўных места і вёскі выражае свае недаверье ўсяму ўраду і дамагаецца ўтварэньня *Сялянска Работніцкаго Ураду*[11].

7. Пераносячы на сваёй нядолі ўвесь уціск і эксплёатацыю з боку парляментарызму, заклікае ўсіх працоўных аб'яднаціся пад адным сцягам Бел. Сел. Раб. Грамады *за самавызначэньне Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны*[12] і роўнапраўнасці для ўсіх нацыянальнасьцёў.

8. Сабраньне сяброў азнаёміўшыся з агіднаю дзейнасцю доктара Паўлюкевіча[13], кляйміць яго пазорам як здрайцу Беларускаго грамадзянства.

Падпісала 15 сяброў.
Верна: Старшыня Жебелеў.

Арыгінал гэтага пратаколу адасланы паслам з Б.С.Р.Г. Жебелеў.

*LCVA. - F. 365. - Ap. 1. - B. 19. Аркуш 15.*

**№ 3**

Копія

Пратакол
Сходу Сяброў Лідзкаго Гуртка Б.С.Р.Г. у дню 5 IX 1926 г.

| Пытаня | Пастановы |
|---|---|
| I. Выбар Старшыні Гуртка на мейсцо арэштованага Жебелева. | I. На мейсце заарэштованнаго Жебелева[14] едіноголасно застаўся выбраны Чайкоўскі Ігнась з м. Ліды, Слабодка I, № 72. |
| II. Вызначэне тэрміну ўплаты члункоўскіх. | II. Члункоўскія павінны ўнасіцца скарбніку Кастусю Халявінскаму не пазней 3 чысла каждаго наступнаго месяца. |
| III. Вызначэне днёў обавязковых сходаў. | III. Обавязковыя сходы вызначаются два разы ў месяц у ндзельныя дні. |

*LCVA. - F. 365. - Ap. 1. - B. 19. Аркуш 28.*

[5] Калясінскі Уладзімір - беларускі грамадска-палітычны дзеяч. У 1922 г. быў кандыдатам ад Блока нацыянальных меншасцяў па Лідскай акрузе ў польскі парламент. З 1923 г. старшыня лідскага сакратарыяту Беларускага пасольскага клуба, які знаходзіўся па адрасу II Слабодка, 8.
[6] У дакуменце выдзелена чырвоным алоўкам.
[7] У дакуменце выдзелена чырвоным алоўкам.
[8] У дакуменце выдзелена сінім алоўкам.
[9] Слова ўтворана ад польск. Urzad - тут маецца на ўвазе адміністрацыйныя органы мясцовага кіравання.
[10] У дакуменце выдзелена чырвоным алоўкам.
[11] У дакуменце выдзелена чырвоным алоўкам.
[12] У дакуменце выдзелена чырвоным алоўкам.
[13] Паўлюкевіч, Арсень (1891 - 1941) - беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, лекар, адзін з лідараў паланафільскага кірунка беларускага руху ў Заходняй Беларусі. Кіраўнік шэрагу паланафільскіх арганізацый, у тым ліку Часовай беларускай рады. Быў варожа настроены да БСРГ, крытыкаваў яе дзейнасць у прэсе.
[14] Павел Жэбелеў быў арыштаваны 5 жніўня 1926 г. і асуджаны за шпіёнства на карысць СССР. Гл.: LCVA. F. 131. Ар. 2. В. 1645. Арк. 546.

**№ 4**

Копия

Протокол
поседжанья Лідзкага Гуртка 3 кастрычніка 1926 года пры 14 присутствующих сябрах разберались нижеследующия пытаня

Порядок дня:
1) Перевыборы Комитета Лідзкага Гуртка.
2) Пытане аб заложеню бібліотекі і чытальні в Лідзі.
3) Бегучыя справы.

Голос по вопросу о перевыборе комітэту Лідзкага Гуртка забраў сябра Чайкоўскі, который обрысовал невозможность совмещать две обязанности: принято единогласно переизбрать Комітэт. Выставлена кандидатура сябра Хлевінскага на пост Старшыні Лідскага Гуртка, кандидатура принята единогласно. На пост Сэкрэтару Лідзкага Гуртка выставлена кандидатура сябра Кароткага, кандидатура принята единогласно.

На пост Скарбніка выставлена кандидатура Нестеронка, кандидатура принята единогласно.

Голос по пытаньню аб заложеньни бібліотэкі і чытальні ў Лідзі забраў сябра Шымкевіч который об'яснил необходимость открытія в Лідзі Гуртка Белорускай Школы[15]: единогласно принято постановлено открыть Гурток Белорускай Школы.

В бегучых справах принято постановление просить Центральнага Комітэту каб высылаў каждый месяц по 50 экземпляров газеты "Часопись Беларускае Сялянска - Работніцкае Грамады"[16] и поручено сябру Короткому распространять гэтыя газеты.

Подписи 15 сяброў Лідзкага Гуртка Б.С-Р. Грамады.
Сэкрэтар Короткі.
Ст. Халявінскі Кастусь.
Сэк. Кароткі Мікалай - Ліда, Дварцовая, I, № 11.
Ск. Несьцяронак … ?

*LCVA. - F. 365. - Ap. 1. - B. 19. Аркуш 32.*

**№ 5**

Копія

Пратакол № 6
агульнага сходу сяброў Лідзкага Гуртка Б. С-Р. Грамады, які адбываўся ў дню 24/X - 26 г. у доме Чайкоўскага в памешчэньні Паветовага Камітэту, Слободка I, № 72 у гадзіне 4 вечара.

Присутных было 23 сябра
Лідзкага Гуртка Б. С-Р. Грамады
прэдседацельствовал сябра
Халявінскі

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1) Даклад сябры Чайкоўскага. | Выслухаўшы даклад сябры Чайкоўскага, каторый выясніў, што дзеля нападаў краёвай буржуазнай прэсы на Б.С-Р. Грамаду як на арганізацыю маючую штось супольнага с парціяю камуністычнаю, трэба запроцестоваць проці гэтым нападам. Агульны сход сяброў Лідзкага Гуртка Б.С.Р.Гр. єдіногалосно пастанавіў запроцестоваць проці гэтых нападаў, бо гэтая парція істнуя только на сяброўскія складкі і прызнана ўладаю легальною і с камуністычнаю партыяю нічога супольнага немая, а калі па іхняму хто дабіваетца лепшай будучыны легальным шляхом "той камуніст", гэта наглая брахня паноў і абшарнікаў. |
| 2) Перавыбары Скарбніка. | Дзеля немагчымасьці занімаць становішча скарбніка сябром Нестеронком Юркой, дзеля хваробы Агульны сход єдіноголосно выбраў сябра Тубелевіча Янка на становішча скарбніка. |
| 3) Атчет папярэдняга Скарбніка. | Даклад зрабіў сябра Халявінскі каторый даў атчет аб прыходзе і расходзе Гуртка за астатнія 3 месяца. Агульны сход пастанавіў утвердзіць зробленыя расходы. |
| 4) Бягучыя справы. | Сябра Кароткі даў атчет аб руху газэты "Народная Справа" ў месьце Лідзе. |

Сход закрытый а гадзіне 5 вечара.
Падпісы прысутных 23 сяброў.
Сэкрэтар Кароткі Міколай.

*LCVA. - F. 365. - Ap. 1. - B. 19. Аркуш 48 - 48 адв.*

[15] Маецца на ўвазе Таварыства беларускай школы
[16] Магчыма маецца на ўвазе "Бюлетэнь Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады". Акрамя гэтага, у акрэслены ў дакуменце перыяд пад кантролем БСРГ выдавалася газета "Народная справа".

**№ 6**

Копія

Пратакол № 7
агульнага сходу сяброў Б.С-Р. Грамады, Лідзкага Гуртка, які адбыўся 7 лістапада 1926 г. у памешканьні Л.П.К[17]. Б.С-Р.Г. Слабодка I, № 72, у 4 гадзіны вечэра.

Прысутных было 29 сяброў Лідскага Гуртка
Старшынстваваў с. Кароткі,
Сэкрэтар с. Капелюк

Па аткрыцьці сабраньня была зроблена праверка, чы ўсе прысутныя маюць сяброўскія білеты, аказалася, што адзін грамадзянін нямае такавога і адрэкомендаваўся прэдстаўнікам Лідзкага Староства, на запытаньні, чы мае засвядчэне, што пасланы на наш сход Гуртка, нічога не атказаў, дзеля чаго старшыня сходу за згодаю прысутных папрасіў гэтага "прэдстаўніка" выйсьці, што ён і зрабіў бяз сапраціўленьня. Пасьля чаго сабраньне пацякло спакойна.

| | |
|---|---|
| 1. Прыймо сяброў. | Старшыня сабраньня зьвярнуўся з прывитственнаю моваю да новаўступіўшых сябраў прызываючы іх да энэргічнага і тр[ы]валага змаганьня за палепшеньне свае будучыны, за нацыянальнае адраждзеньне беларускага народа, за адваеваньне беларускіх правоў. |
| 2. Сяброўскія складкі. | Скарбнік Лідзкага Гуртка с. Тубелевіч прызываў да ўнесеньня сяброўскіх складак |
| 3. Бягучыя справы. | а) Зрабіў даклад с. Кароткі аб жаданьні праз Староства Лідзкае спрашеня аб прамовах якія мелібы выгласіць на дзісейшым сходзіе. Даклад застаў узятым да ведамасьці.<br>б) Старшыня Л.П.К. Вінцук Салыга ў доўгай мове абрысаваў, як ідзе організацыя ў павеце, як імкнуцца сяляне і рабочыя ў Грамаду, і якія адносіны ўлады да Грамады. Даклад застаў прынятым да ведамасьці.<br>в) Забраў голас Шымкевіч Кастусь, сэкрэтар Л.П.К. выясьняя о нападку капіталістычнай прэсы на дзеяльнасьць Грамады, як на дзеяльнасьць камуністаў, каб такім абразом зліквідаваць таковую недаўшы правесьці мэт праграмовых у жыцьце.<br>Выслухаўшы даклад, агульный сход єдіноголасно пастанавіў дамагацца *надзела*[18] зямлею ўсіх бязземельных і малазямельных сялян бяз выкупу, скасаваньня *асадніцтва*[19], звальненьня вязьняў палітычных[20] і вогуле змогацца выпалненьня "ўладаю" ўсіх пунктаў нашае праграмы. |

Гэты пратакол быў прачытаный агульнаму сходу і застаў прынятым єдінаголасно.

Сход закрытый у гадзіне 6, пад дружнае пеньне "Ад веку цярпелі, цярпець больш нябудзем"[21].

Старшыня сходу ( - ) Кароткі.
Сэкрэтар ( - ) Капелюк.

Верна: Сэкрэтар Лідзкага Гуртка Кароткі.

*LCVA. - F. 365. - Ap. 1. - B. 19. Аркуш 64 - 64 адв.*

**№ 7**

Копія

Пратакол № 8
паседжаньня Камітэту Лідзкага Гуртка Б.С.-Р.Г. адбытае ў памешканьні Л.П.К. Слободка I, № 72 у дзень 14 лістапада, у 4 гадзіне вечэра.

Прысутныя былі Старшыня Халявінскі,
Сэкрэтар Кароткі, Скарбнік Тубелевіч
і прэдстаўнік Л.П.К. с. Чайкоўскі.

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| 1) Асігнаваньне грошаў са срэдств Л. Гуртка на закупку лесного матэрыяла дзеля вырабаткі скамеек, стала і шкафа. | Узяць патрэбную суму грошаў з касы Лідзкага Гуртка і паручыць гэту справу с. Халявінскаму і Тубелевічу. Вырабатку з гэтага матэрыяла патрэбных рэчэй узялі на сябе с. Халявінскі і Тубелевіч дзеля таго, каб іх труды паішлі на агульную пользу. |
| 2) Як прынімаць і ад- | Усякі сябар, які знаходзіўся |

[17] Лідскі павятовы камітэт.
[18] У дакуменце выдзелена чырвоным алоўкам
[19] У дакуменце выдзелена чырвоным алоўкам
[20] У дакуменце выдзелена чырвоным алоўкам
[21] Магчыма маецца на ўвазе адзін з варыянтаў песні "Ад веку мы спалі…" ("Беларуская марсэльеза"). У 1920-я гг. песня з'яўлялася неафіцыйным гімнам беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі, яе спявалі на розных сходах і мерапрыемствах БСРГ.

| | |
|---|---|
| носіцца да тых сяброў якія састаялі ў іншых палітычных партыях. | раней ў іншых палітычных партыях і ўступаючы ў Б.С.-Р.Г. павінен злажыць у Камітэт Гуртка Б.С-Р.Г. пісьменую заяву аб тым, з якой прычыны выступае адтуль і ўступае ў Грамаду. |
| 3) Пытаньне аб прэдстаяшчых выбарах у Касу Хворых[22]. | Затрэбаваць ад Цэнтральнага Сэкрэтарыяту каб прыслаў Статут Касы Хворых і рукаводства пры выбарах. |
| 4) Аб агульных сходах Л. Гуртка. | На бліжшым сходзе Гуртка аб'явіць, што агульныя сходы сяброў Лідзкага Гуртка павіны адбывацца два разы ў месяц, у згодзе з пастановай агульнага Сходу Гуртка ад дня 5/IX - 26 г. |

Старшыня ( - ) Халявінскі.
Сэкрэтар ( - ) Кароткі.
Скарбнік ( - ) Тубелевіч.
Прадстаўнік Л.П.К. ( - ) Чайкоўскі.

С подленным верно:
Сэкрэтар Кароткі.

*LCVA. - F. 365. - Ap. 1. - B. 19. Аркуш 57 - 57 адв.*

**№ 8**

Копія

Пратакол
Агульнага сходу сябраў Б.С-Р. Г. Лідзкага Гуртка, які адбыўся ў дзень 21 лістапада 1926 г. в памешканьні Л.П.К. Слабодка I, № 72, а 4 гадзіне вечэра.

Прысутных было 21 сяброў Лідзкага Гуртка Б.С-Р.Г. Старшынстваваў сябра Халявінскі, Сэкрэтар Кароткі.

Пры аткрыцьці сабраньня прэдстаўнік паліцыі ўнес заяву, што на падставе загаду Лідзкага Старосты за № 31813 ад 20/XI. 26 г. с сеньняшняе праграмы дня знятымі засталі: палітычныя пытаньні і бягучыя справы.

| Слухалі: | Пастанавілі: |
|---|---|
| За згодаю агульнага сходу засталі прачытаннымі дзьве стацьці: "На шляху да перамогі" і "Проці незаконных рэпрэсіяў". | Выслухаўшы стацьці, агульный сход едіногалосно пастанавіў паслаць на імя Прэм'ера жаданьне аб спыненьні рэпрэсіяў проці Грамады, у ніжэследуюшчай форме: Пану Прэм'еру Міністраў Я. Пілсудскаму. Паважаны Пан. У апошнім часе пэўныя Паветовыя Старосты на землях Заходняе Беларусі надужываюць сваею ўладаю і сэстэматычна забараняюць рабіць сходы сяброў нашае легальна істнуючае Б.С-Р.Г., апрача гэтага проці сяброў гэтае арганізацыі стасуюцца рэпрэсіі за тое, што яны вядуць арганізацыйную работу. Дзеля чаго, мы сябры Б.С-Р.Г. Лідзкага Гуртка ведаючы, што ў дэмакратычнае Польшчы ўсе грамадзяне маюць свабоду слова, друку, лягальных сабраньняў і права нетыкальнасьці асабістай, якія нам загварантаваныя 109 арт. Канстытуцыі, апрача таго мы беларусы, маючы правы прэдусмотрэнныя Вэрсальскім і Рыжскім Трактатамі, рашуча пратэстуем проці няспраўдлівых і бязпадстаўных да нас адносінаў і зьвяртаемся да Пана Прэм'ера с жаданьнем каб быў паложаны крэс такім адносінам і Б.С-Р.Г. можна былобы працаваць як і іншыя палітычныя партыі ў Польшчы. Павыжшае сьцьвярджаем уласнаручнымі подпісамі. |
| 2. Аб агульным сходзе сяброў. | Едіногалосна пастаноўлена зрабіць сход 28/XI-26 г. |
| 3. | Адносно загаду Пана Старосты па двум пытаньням: палітычныя пытаньні і бягучыя справы пастаноўлено паслаць жалабу ў Цэнтральный Камітэт для таго, каб былі прыняты меры ў гэтае справы. |

Сход закрытый а 5 гадзіне вечэра.

Старшыня: / - / Халявінскі.

Верно: Сэкрэтар Лідзкага Гуртка
Кароткі Мікалай.

*LCVA. - F. 365. - Ap. 1. - B. 19. Аркуш 74 - 74 адв.*

[22] Каса Хворых - грамадская страхавая арганізацыя, мэтай якой было забеспячэнне фінансавання аховы здароўя яе членаў. Кіраўнічыя органы арганізацыі выбіраліся падчас мясцовых выбараў.

**№ 9**

Абвінаваўчы акт
па справе Вінцэнта Салыгі, асуджанага па арт. 129 п. 1, 3 і 4 Крымінальнага кодэкса

Абвінавачаны заключаны
ў лідскую турму.

13 лістапада 1926 г. старшыня павятовага Камітэту Беларускай Сялянска-Работніцкай грамады ці "гурткоў" Вінцэнт Салыга склікаў у вёсцы Гасцілаўцы[23] Лябёдскай гміны Лідскага павета арганізацыйны сход дзеля стварэння мясцовага камітэта "гуртка", на якім прысутнічала 50 мясцовых сялян. Прамаўляючы, Салыга публічна выказаў шэраг лозунгаў выразна антыдзяржаўнага зместу, а менавіта:



***Вінцэнт Салыга (злева) ў маладосці***

*"Мы беларусы і сябры Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады павінны імкнуцца адабраць беларускія землі, якія застаюцца ў межах Польскай дзяржавы і Расіі, знішчыць падзяляючыя нас межы і ўтварыць незалежную беларускую дзяржаву з урадам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, мы беларусы павінны адабраць землі ад абшарнікаў і польскіх асаднікаў і раздаць іх бясплатна беларусам"*. Далей ён дадаў, што не трэба адпраўляць дзяцей у польскія школы і плаціць падаткаў, пры гэтым прамаўленне вышэйзгаданых лозунгаў скончыў воклічам: *"Павінны ўсё гэта зрабіць цяпер, пакуль час на нашу карысць і дзверы адчынены, бо пасля можа быць позна"*.

Пасля вяртання ў 1922 годзе[24] з Расіі Вінцэнт Салыга меў сярод мясцовага насельніцтва рэпутацыю рашучага камуніста і з той прычыны знаходзіўся пад наглядам паліцыі.

Дапытаны ў якасці абвінавачанага Вінцэнт Салыга не прызнаў віны і паказаў, што на вышэйзгаданых сходах не заклікаў прысутных да адлучэння Беларусі ад Польскай дзяржавы і ўтварэння самастойнай і незалежнай ад Польшчы Беларусі, не заклікаў адбіраць зямлю асаднікаў і дзяліць яе паміж беларускім насельніцтвам, але казаў аб адбіранні зямлі абшарнікаў і перадачы яе беларускаму насельніцтву, як прадугледжвае гэта праграма Грамады.

На падставе гэтых дадзеных Пракуратура пры Віленскім акруговым судзе абвінавачвае жыхара вёскі Феліксава[25] Лябёдскай гміны Лідскага павета Вінцэнта Салыгу, 30 гадоў, сына Антона, у тым, што 13 лістапада 1926 года ў вёсцы Гасцілаўцы Лябёдскай гміны Лідскага павета на публічным сходзе сялян той вёскі сказаў прамову, у якой заклікаў прысутных да адлучэння ад Польскай рэспублікі ўваходзячых у яе межы беларускіх земляў і ўтварэння незалежнай ад Польшчы беларускай дзяржавы з урадам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, а таксама да нявыплаты падаткаў і гвалтоўнага адбірання зямлі абшарнікаў і польскіх асаднікаў і перадачы яе бясплатна беларусам.

Гэтае злачынства, прадугледжанае ў арт. 129 п. 1, 3 і 6 Крымінальнага кодэкса, арт. 208 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса і арт. 3 Пераходных правілаў да Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, падлягае разгляду ў Віленскім акруговым судзе.

Складзена 22 сакавіка 1927 года ў Лідзе.
Пракурор, подпіс.

*LCVA. - F. 131. - Ap. 2. - B. 1645. Аркуш 526 - 526 адв. Пераклад з польскай мовы.*



***Магіла В. Салыгі на Лябёдскіх могілках. 2014 г. Здымак Дзмітрыя Гамбурга.***

[23] Цяпер вёска ў Лідскім раёне Гродзенскай вобласці.
[24] Паводле іншых звестак, В. Салыга вярнуўся ў Польшчу ў 1923 г. Гл.: Сліўкін В, Суднік С. Саджалі ўсе, або лёс грамадоўца // Лідскі летапісец. 2006. № 4. С. 29.
[25] Цяпер вёска ў Лідскім раёне Гродзенскай вобласці.

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

**Банева канчаецца**

Сарваўся на ногі. Маці яшчэ раз паведаміла радыёнавіны. Пабег да прыёмніка.

Мы слухалі Маскву і Менск вельмі часта, у перыяд іспанскай вайны штодзённа. Цяпер галоснік (гучнагаварыцель) быў поўны вайсковых песень. Неўзабаве пачаліся камюнікe. Сумненння не было. Заміж немцаў прыйдзе сюды Чырвоная Армія!

Не цяжка сабе ўявіць маю радасць. Не трэба гнаць на ровары па бездаражы Налібоцкай пушчы, па найдакладней невядомых мне ваколіцах недзе за Іўем. Не трэба апасацца сустрэчы - з паліцыяй, мужыкамі, войскам, нарэшце, з тым бокам. Уяўляў сабе, што на мяжы пры далейшым набліжэнні немцаў акажуцца натоўпы. Гэта значыць будзе з тога боку някепскі прасеў. Што я меў сказаць? Сын палкоўніка, што яшчэ горш, вайсковага асадніка..., што камуніст па перакананні? Там на мяжы ўсе акажуцца камуністамі...

Але і акрамя тых вузка асабістых і неадкладных спраў былі прычыны больш агульныя. Некалькі гадоў назад я стаў перакананым прыхільнікам аднаго ладу, праціўнікам іншага. Пагражала мне, што я з чужога мне ладу, у якім жыў, патраплю ў ненавісны. І заміж гэтага ў апошнюю хвілю і я, і ўсе мае перанесліся ў той лад, мною абраны!

Я вырашыў адразу нешта зрабіць. Блыталіся мне па галаве рэмінісцэнцыі з літаратуры часоў грамадзянскай вайны. Людзі маіх перакананняў павінны нешта рабіць. Трэба ствараць органы ўлады! Паехаў у Дакудава.

Амаль нічога не памятаю з таго выезду. Нічога, зрэшты, не адбылося. Памятаю толькі вельмі агульныя вобразы і станы маёй душы. Дакудава было нейкае пустое. Янкялевічы прынялі мяне перапужанымі і няўпэўненымі. Нібы цешыліся, што Чырвоная Армія, але толькі ў маёй прысутнасці. Пачаў іх дапытваць, хто тут камуніст. Датуль з канспірацыйных повадаў ніколі нікога пра тое не пытаўся. Рубін нешта буркнуў - напэўна Бондар або Слесар. Пайшлі да іх, але размова не клеілася. Бондар ці Слесар глядзеў на мяне неяк дзіўна, нічога не гаварыў, я зрэшты таксама хадзіў кругамі.

Потым былі ў гміне. Бадай ужо год, як бацька не "вайтаваў". Вялікі драўляны гмах быў пусты: улады ўцяклі. Уцяклі таксама паліцыянты.

Тут Рубін намагаўся мяне разыграць, гаварыў нешта кшталту: бяры ўладу! Але тая стрыманасць Бондара нарэшце пачала да мяне даходзіць. Я сеў на ровар, вярнуўся ў Банева.

Бо здаў сабе справу з асаблівасці свайго становішча ў новай палітычнай сітуацыі. Што з таго, што некалькі гадоў быў "перакананы"? Тут, у Дакудаве перакананне было спрэчным, бясспрэчным было іншае: сын палкоўніка, асадніка, да нядаўняга часу - войта. Каб такі хапаў уладу? Зноў трохі рэменісцэнцый з Шолахава ці Фадзеева.

У ніякім разе нельга мне тут праяўляць актыўнасць.

Спрэчнасць паміж поглядамі і сямейнай сітуацыяй, якая абцяжарвала мяне ад "мутацыі", гэта значыць блізка каля васьмі гадоў, не знікла, а толькі павярнулася і нават завастрылася.

Дзіўны і прыкры час у Баневе. Нібы нармальна рухаюцца асеннія гаспадарчыя справы, пазрывалі апошнія яблыкі, маці соліць і марынуе рыжыкі, марынуе і сушыць баравікі, ужо ёсць зялёнкі. Ірэна ходзіць з Евай, трохі завіхаецца па хаце. Старшая сястра цягне гаспадарку, малодшая чакае на выезд у Ліду. у гімназію. Але ўсё гэта на фоне менавіта чакання, не пазбаўленага неспакою. Якія яны будуць? Што нас ад іх чакае?

На працягу некалькіх дзён я круціўся па дарогах, пакуль не ўбачыў першых салдатаў. Былі яны ў бурых плашчах, невысокія, вельмі свойскія. Потым некалькі зайшло на дзядзінец прасіць вады. Маці з імі загаварыла. Былі вельмі стрыманыя, можа ўжо ведалі, хто мы?

У той дурной, невыноснай сітуацыі адчуваў адно: Банева заканчваецца. Гэтае сямейнае гняздо, пабудаванае дзесяць гадоў таму назад, нетыповае, а перш за ўсё кулацкае, не магло пераносіць гэтага ўстрэсвання. Мы жылі тут, дзякуючы бацькавай пенсіі, але перш за ўсё, каб тыя пару гектараў упарадкаваць, тыя лугі скасіць, бульбу выкапаць, патрэбна наёмная сіла. Хочаш - не хочаш, каб тут застацца, мусіш шукаць за чалавекам чалавека. А пра тое нельга і падумаць ...

З другога боку той пакой "абжыты" мной, з шуфлядамі паперак, шафай кніжак, тлумам успамінаў, той дом, поўны ўтульных закаморкаў, дзядзінец, які на нашых вачах перастаў быць загайнікам, а стаў садам, агародам, амаль паркам... Тая ўся дзялка, тыя Міранды, Цясніна Вужоў з прыгожымі рыжыкамі па баках...

Пішу гэта ўсё праз дваццаць гадоў, а ўсё яшчэ пры ўспамінах тамтэйшых бярозак і верасоў робіцца мне смутна.

---

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Wojna."** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

Дваякасць нашай сітуацыі адчувалі ўсе вакол, суседзі-асаднікі і дакудаўчане. Першыя не без з’едлівасці: маеце, дачакаліся, другія таксама з ноткамі сатысфакцыі на тэму, што нашая выключная “таварыцкая” сітуацыя атрымоўвае ў лоб.

Дадамо, што гэта былі паўтаны. Толькі нашая сямейная чуйнасць у тым пункце папіхала нас да такой інтэрпрэтацыі іхніх мінаў і недагаворак. Усе між тым паводзілі сябе з надзвычайным тактам.

**Вільня ў апошні раз**

Я паехаў у Ліду. Адразу на шашы сутыкнуўся па-сапраўднаму з Чырвонай Арміяй. У сябе мы былі ў запечку, праходзілі там дробныя патрулі. Тут калоны войска, лагеры, аўтамабілі, гарматы. Першы раз бачыў тлум танкаў. Усё вельмі здысцыплінавана, вопратка сціплая, але прыстойная, толькі ў афіцэраў кідаліся ў вочы жоўтыя навюткія папругі, планшэты, кабуры для рэвальвераў.

У Лідзе я шукаў знаёмых з таго ардалеўскага штрайку. Нарэшце, спаткаў таго, які ў “Рэчаіснасці” называецца Кушаль. У той час ён быў, здаецца, старшынём гарадскога выканаўчага камітэта. Прыняў мяне запыханы, сказаў пару слоў, дыпламатычна ніякіх. Я быў злы на яго за тую стрыманасць. Я не бачыў вялікай праблемы, якая якраз паўставала перад усімі камуністамі тых зямель, без уліку іх грамадскага паходжання. Мае сямейныя повязі былі яшчэ горшыя!

Справа ў тым, што ў 1938 годзе разам з КПП былі распушчаны КПЗБ і КПЗУ. Іхнія даўнія члены, якім удалося пазбегнуць, канешне, нярэдкіх правакацый, правалаў, Бярозы, вязніцы, цяпер звярталіся да савецкіх уладаў, гатовыя да працы. Прымаў іх усеагульны недавер. У выніку празмернага абагульнення выпадкаў правакацый, кожны, хто прызнаваўся ў прыналежнасці да КПП, аўтаматычна станавіўся падазроным. Кушаль (ці Кісель, як здаецца ён называўся сапраўды) мусіў гэта ў той час адчуваць з нарастаўшай сілай.

У суме я зразумеў адно: трэба ў Вільню, спаткацца са сваімі, разгледзецца, нарэшце дзейнічаць. Якраз адходзілі першыя цягнікі, таварныя. Ніто на платформе, ніто ў перапоўненым вагоне я даехаў да Вільні.

Тут панаваў нечуваны бардзель. Горад заліты быў дзвюмя хвалямі - бежанцаў і Чырвонай Арміі. Бежанцы апанавалі тратуары, кавярні, лесвічныя клеткі. Пераважна ў вятроўках, з заплечнікамі, жанчыны ў портках, з хустачкамі, завязанымі пад барадой, хадзілі натоўпамі з аднаго месца да другога, падганятыя павевамі пагалосак, што тут нешта даюць, што там можна ўрваць. Праезды заняла Чырвоная Армія, гэта значыць калоны аўтамабіляў, гармат з трактарамі, здвоеных і зчацвяроных кулямётаў на грузавіках.

На момант майго прыезду з’явіліся ўжо першыя цывільныя. Найактыўнейшым у “нашым” рэсурсе быў нейкі Клімаў, дэлегаваны для арганізацыі школьніцтва. На пытанне, дзе можна спаткаць “нашых”, гучаў адказ: у аблана, у Клімава.

Канешне, застаў там вялікую групу; Генрыка, Казіка, нашых настаўніц - Ганначку і Лільку, Данка Скаржынскага, Кекштаса-Адамовіча. Там таксама натрапіў на першых “чырвоных” варшавякаў.

Паміж іншымі - на Ірэну Вішнеўскую. Хто яе сёння памятае? Апошняя жонка Францішка Парэскага, невысокая плацінавая бландынка, зеленавокая, з вельмі прыгожым тварам. Неяк так склалася, што мы цэлы дзень блыталіся па горадзе разам.

Гэты горад! Гэты прыгожы, сонны, знаёмы горад! Усё дагары нагамі! У рэстаранах нічога. У цукерні Рудніцкага вялікі цымус: збожавая кава і тарцінкі з чорнага хлеба з сырам. Гатэлі перапоўненыя.

Па горадзе ішлі магутныя хвалі плётак. Гаварылі, што саветы адходзяць, што аддаюць Вільню: Германіі, Літве, Бог ведае, каму яшчэ. Я смяяўся: як гэта, каб народная ўлада аддавала горад буржуям? Смяяцца прыходзілася без цяжкасці: плёткі стварaліся пякельна дурнавата.

“Аблана” зрабіла нараду настаўнікаў. Памятаю вялікую тэатральную залу, поўную. Як свежа прыцягнутыя працаўнікі “аблана”, мы стварaлі там масавасць. У ходзе дыскусіі я выступіў таксама, востра ацэньваючы фашыстоўскія тэндэнцыі санацыі.

Пасля нарады падышоў да мяне Клімаў. Быў гэта першы бальшавік, першы з герояў Шолахава, з якім я меў дачыненні. Высокі, каратканосы, у акулярах, з валасамі, зачэсанымі назад. Разгаварыўся са мой і раптам паведаміў: праз гадзіну я маю ехаць у Беласток.

Чаму, для чаго? Там даведаюся. З’явіўся аўтамабіль, быў нехта яшчэ, але не памятаю, хто. Я першы раз у жыцці так далёка ехаў аўтамабілем. Было гэта не латва: дарогі былі забіты войскам. Тут цяпер былі відны расцягнутыя на дзесяткі кіламетраў матарызаваныя калоны, танкі, гарматы, амаль зусім нашыя фурманкі.

У Беластоку мы заехалі ў прыгожы палац, яшчэ памаляваны ў абстрактныя плямы. Быў там вялікі рух. Мы чакалі доўга, амаль цэлую ноч, пераспаную на крэсле. Потым з нашай кампаніі некага затрымалі, мне і яшчэ аднаму сказалі вяртацца. Мы ўжо ведалі, у чым справа: у Беластоку адбывалася нарада прадстаўнікоў Заходняй Беларусі. Было дзіўна, чаму не ў Вільні?

Вяртаюся, даведваюся, што плёткі былі слушныя: Вільню аддалі сметанаўскай Літве. Трэба было бачыць, як вокамгненна змяніліся паводзіны шэрагу людзей, як з пакорных і ўсмешлівых сталі злаcлівымі і затоенымі! Для мяне ўдар быў вельмі цяжкім. Ні за якія скарбы я не хацеў вяртацца ў буржуазную дзяржаву. Усе нашыя працаўнікі “аблана” таксама вырашылі эвакуявацца з Вільні.

Апошняя ноч. Ледзве знайшоў пакой у яўрэйскім гатэліку каля Вастрабрамскай. Мармуровая пліта ўмывальніка, парцалянавы (фарфоравы) збанок пад ваду, камфорт стогадовай даўніны.

Перад вакзалам таўкатня. Савецкія войскі адступаюць. Адначасова ўразлівы натоўп бежанцаў. Едзем групай, Вішнеўская - у Львоў, дзе, падобна на тое, з’явіўся Парэцкі. Яшчэ пару чалавек з далёкай групавой перыферыі. Тлум на пероне. З тым вобразам Вільні, узбударажанай, але яшчэ Вільні, выязджаю.

### Банева ў апошні раз

У Мінойтах ноч. Вішнеўская і рэшта кампаніі махаюць мне рукамі. Цягнік рушыць, караван яскравых акон. Тут цёмна. Яшчэ марш цераз лес, цераз Пескі, "нямецкай шашой". Я мог бы тут ісці з завязанымі вачыма.

Банева мяне спатыкае неспакоем яшчэ ўзмоцненым. Аказваецца, што бацьку арыштавалі. Быў у лесе, па дарозе ішоў нейкі аддзельчык. Спыталі, хто ён. хапіла звання, хапіла асадніцтва. Здаецца. што нехта тых салдатаў нацкаваў: пашукайце, там такі палкоўнік.

Суседзі адразу данеслі: салдаты павялі некуды палкоўніка. Ірэна з Маняй рушылі на ратунак. Было ўжо позна, у паўзмроку паехалі раварамі ў кірунку Мінойтаў. Усюды было поўна жаўнераў. Затрымалі іх каля шашы. Следу бацькі не знайшлі. Не было рады, вярнуліся.

Былі ўжо каля дзялкі, калі ў цемры ўзнікла чорная постаць. Нават перапужаліся. Гэта быў бацька.

Аказалася, давялі яго аж пад Беліцу, гэта значыць некалькі дзесяткаў кіламетраў на поўдзень. У Беліцы ўбачылі, што ён арыштаваны. Выскачылі яго знаёмыя, мужыкі, яўрэі, пачалі тлумачыць, што такі добры чалавек. Яго адпусцілі.

Не гледзячы на гэта неспакой застаўся. Кружылі чуткі, што ўсе асаднікі будуць выселены. Былі таксама спробы заспакаення. Кожнае слоўца, якое пярэчыла тым чуткам, паўтаралі ў Баневе, як пацеры.

Восень стала глыбокай, разлезлай. Уся сям'я, закрытая ў доме, перапоўнена неспакоем. Да мяне, як галоўнага "бальшавіка", скіроўваліся прэтэнзіі, не выказваныя, адчувальныя толькі, за той увесь неспакой.

Я ведаў адно: павінен адтуль выехаць. Уся абаяльнасць Банева зрабілася ў той сітуацыі анахранізмам. Трэба нешта рабіць! Тут ніякай работы не было.

З газет даведаўся, што ў Вільню ўвайшлі сметанаўцы. Не вядома было, дзе размясцілася "аблана". Не вытрымаў нарэшце, зноў рушыў "у свет".

З тога выезду не памятаю нічога. А між іншым гэта быў апошні раз, калі я бачыў Банева. Вялікія пачуцці, пасля якіх у памяці не засталося ані фатаграфіі тога апошняга віду.

Пагалоскі гаварылі, што "вобласць" з Вільні перанеслі недзе ў Маладзечна. Сеў на цягнік. У Маладзечне "вобласці" не знайшоў. Паехаў у Глыбокае. Не спадзяваўся, што тут будзе сталіца акругі, ведаў толькі, што там Ганка Згерская.

Сама назва "Глыбокае"! Гэта была найглыбейшая правінцыя, блізка ад вяршыні Віленскага паўвострава. Малое мястэчка на невялікіх пагорках, вялікія таполі, пасяродку вялікае, зграбнае возера. Нейкі шматок таго дзіўнага пейзажу яшчэ цэлага ў маёй памяці: чорнае асенняе возера, і з усіх бакоў над ім чорныя, драўляныя домікі.

Ганку знайшоў лёгка. Пасля заканчэння ўнівера атрымала тут працу як паланістка. Жыла недалёка ад возера. Усё мястэчка, зрэшты, было недалёка ад таго возера. Увесь дзень патрацілі на гаворку, на прыпамін сабе васьмі гадоў знаёмства. Было трохі страшна: ужо восем гадоў! Як звыкла, закідвала мне, што я неўраўнаважаны, несур'ёзны, гавару, Бог ведае што, ніколі нельга мне давяраць. Тое апошняе было лёгкім перабольшваннем, рэшта, што ж, нажаль...

Вечарам паехаў назад. Ганка гаварыла, што "аблана" ў Вілейцы. У той старой, павятовай. Здаецца, дала нават адрас Генрыка.

### "Аблана" ў Вілейцы

Вілейка была з раніцы. Мабыць яшчэ больш, чым Глыбокае пахла "тутэйшасцю". Велізарная вуліца з драўлянымі дамамі, якія часта выходзілі на вуліцу шырокай сцяной. Па-просту некалькі Дакудавых, пастаўленых адно пры другім. З тым, што тут яшчэ смутней, бо без дрэў.

У "цэнтры" царква і касцёл. Апошні мураваны. Пра царкву не гавару. Нават яўрэйскія крамкі - амаль усе.

Ішоў з клункам у руках па страшнай вуліцы. Лужыны ад дома да дома. Белыя фіранкі на вокнах. Высокія брамы, такія ж платы.

Пасля некалькіх няўдач знайшоў нарэшце і "аблана", і нашых. Быў перадусім Генрык, быў Казік, Кекштас-Адамовіч, здаецца, яшчэ пару. Прынялі мяне досыць радасна: усе пачуваліся чужымі, і кожны "адтуль" трохі раз'ясняў пейзаж.

Ах, той пейзаж! Ліда тут здавалася Варшавай! Тыя страшныя, чорныя дамы, чорныя платы, слупы, брамы! Якраз пачаліся дажджы, пра якія маліліся ў верасні. Чорныя платы і лужыны.

Весткі былі наогул нецікававыя. Як аказалася, у Вільні арыштавалі Данка Скаржынскага. Родны брат Казіка, вельмі актыўны моладзевы дзеяч - малодшы на некалькі гадоў за нас, аднак працаваў ва ўніверсітэце, калі ўсе былі ўжо магістрамі, ён быў правадыром як бы другой генерацыі групы. У астатні год у Вільні пачалі выдаваць мясцовую мутацыю "Работніка". Данак яе рэдагаваў. Якраз гэта сталася перадумовай арышту.

Аднак не здавалася гэта важным. Спрабавалі ўмяшацца. Лічылі гэта непаразуменнем, што яго праз колькі дзён выпусцяць. Нічога з гэтага не выйшла. Хлопец згінуў без следу. Можа ў час эвакуацыі ў 1941 годзе, а можа калі ў іншы час.

Ужо пасля майго выезду з Вілейкі цяжкія выпрабаванні чакалі Кекштаса. Як літовец ён быў прымацаваны ў якасці інспектара асветы да Ашмян, таму што там было трохі літоўскіх вёсак. Мясцовы кааператыў атрымаў перад святамі вялікую партыю паркалю. Але "ўлады" не пусцілі яго на рынак, раскупіўшы ўсё самі. Кекштас падняў гвалт. У выніку яго хуценька заарыштавалі па абы якой прычыне. Пра далейшыя яго лёсы я пісаў раней.

Той факт нас узрушыў. Быў гэта першы доказ існавання яскравай несправядлівасці ў новым ладзе. Тут не магло быць непаразумення, як з Данкам. Праўдападобна, гэта якраз і згубіла Кекштаса. Быў лішне прынцыпіяльны, лішне абураны, каб дзейнічаць талкова. Пэўна, загучна абураўся. Даў зачэпку малой правінцыйнай кліцы, смяртэльна ўражанай, што была зло-

ўлена на гарачым учынку, і таму д'ябальскі небяспечнай.

Не хацеў верыць, калі мне гэта апавядалі. На столькі гэта не адпавядала таму, што мы чыталі.

Наогул было нялёгкім тое прыціранне дзвюх рэчаіснасцяў: той з кніжак і гэтай штодзённай. Мы сядзелі ў "аблана", гэта значыць у некалькіх драўляных хатах. Нічога не памятаю з нашай работы. Генрык, здаецца, укладаў нейкія метадалагічныя праекты. Казік ездзіў на інспекцыі. Я нікуды не ездзіў. Сустракаліся тры разы на дзень пры сілкаванні. Вечарамі страшная нуда.

У Вілейцы было яшчэ трохі бежанцаў. М. ін. сустрэлі тут вядомую перад вайной у Лодзі пару скульптараў: Уладзіслава Страмінскага і яго жонку Катажыну Кобру. Выдавалі яны нейкае авангарднае мастацкае выданне АР, што, здаецца, абазначала "Авангард рэвалюцыі" ці нешта ў гэтым родзе. Страмінскі быў калекам. Не гледзячы на гэта, яны былі сціплыя, гарушчыя, вельмі мілыя.

Набліжалася 7 лістапада, першае ў новых умовах. Я тлумачыў Клімаву, якія гэта выдатныя мастакі. Асабліва падкрэсліваў іхнюю фармальную рэвалюцыйнасць. Здаецца, дастаткова яго пераканаў. Калі наблізілася гадавіна рэвалюцыі. Клімаў выклікаў Страмінскага і даручыў яму аздабленне Вілейкі.

Страмінскі з запалам згадзіўся. Назаўтра прынёс праект. Быў ён у сваім родзе геніяльны. Цэнтральную плошчу Вілейкі, небрукаваную гразкую прастору ў выглядзе неправільнага трохкутніка, акружаную тымі самымі счарнелымі дамкамі, ён прапанаваў заставіць некалькімі дзесяткамі 6-8 мятровых шчытоў авангарднай формы, абцягнутымі чырвоным палатном.

Разумееце галоўную думку? Вельмі простая: схаваць тыя дамкі, тую гразь, тэлеграфныя слупы. Уцячы ад іх, схавацца паміж тых чырвоных матылёў...

Клімаў доўга аглядаў эскіз. Мне вельмі падабалася, усім нашым - таксама. Нават Клімаў вагаўся: тады яшчэ дастаткова жывыя былі традыцыі Меерхольда і "рэвалюцыйнага мастацтва".

Вырашыла аднак проза: праект Страмінскага быў за дарагі. У канцы зарэзалі 95 працэнтаў праекту, пакідаючы некалькі шчытоў. Не засланіла гэта драўлянай беднасці, але захавала штосьці з адважных уяўленняў Страмінскага.

На ўрачыстым паседжанні Генрык зачытаў даклад. Гаварыў слаба, заікаўся. Аж страх: апошні раз яго чуў...

**Выезд у Львоў**

У той час адбылося нешта новае і са мной. Нашыя супольныя ўцёкі з Вільні не былі пагадненнем з Ірэнай, былі толькі перамір'ем. Я быў ужо пару тыдняў у Вілейцы, калі атрымаў ад яе ліст з Банева.

Быў той ліст вельмі роспачны. Восень, няпэўная, цяжкая атмасфера вакол Банева, натуральныя кепскія стасункі з маці. У суме Ірэна ўгаворвала мяне забраць яе адтуль, ахвяруючы поўным забыццём гісторыі з лета. Зрабілася мне яе шкада. З другога боку я жыў пад моцным уражаннем ад зеленавокай Вішнеўскай. Нарэшце я выслаў ліст, якім выклікаў Ірэну з Евай у Вілейку.

Прыехалі яны вельмі хутка. Некалькі тыдняў мы жылі ва ўласным пакойчыку, адгароджаным фанерай ад астатняй хаты. Было цесна і галаднавата. Не без задавальненне расказаў Ірэне пра зеленавокую. Пісаў лісты ў Львоў. Адказу не было.

Не ўтрымаўся, выбраўся сам. Гэта значыць, не толькі з той нагоды. У Вілейцы я пачуваўся вельмі згубленым. У "аблана" для мяне ніякай работы не было. Без літаратурнага асяроддзя не быў здольны зляпіць двух слоў. А тут якраз прыйшла першая вестка, што менавіта там сабралася найболей польскіх пісьменнікаў, галоўным чынам з Варшавы.

Доўгае падарожжа цераз Палессе. У Львове вялікі рух. У гэты раз яшчэ мацней, чым у першую бытнасць, адчуў перавагу Львова над Вільняй у катэгорыі "вялікага горада". Патрапіў у якраз узнікалы клуб літаратараў на Каперніка. Цэлы графскі палац новыя ўлады ахвяравалі пісьменнікам. Сам выгляд тых апартаментаў ужо быў сатысфакцыяй. Салоны, салонікі, клідоры, зусім прыстойная сталоўка. Натоўпы людзей.

Спаткаў, канешне, шмат знаёмых. М. ін. Пастарнака, які ў той час рабіў нешта ў родзе гонару дому: і львовец і камуніст. Прыняў мяне вельмі добра. Ці пераехалі сюды? Так, канешне!

Спаткаў і Вішнеўскую. На жаль, муж яе знайшоўся, здавалася, была тым вельмі задаволена. Наогул не мог яе пазнаць, такая стала сухая, пагардлівая. Нават яе прыгожы тварык набраўся нейкай зусім велічнай строгасці. Я хутка зразумеў, што віленскі эпізод быў выпадковасцю. Неяк не вельмі я тым праняўся. Сухасць, як аказалася была больш для яе тыповая, чым віленская сардэчнасць.

Вырашыў: пераязджаю сюды, але з Ірэнай. Недзе за горадам знайшоў пакой. Даў задатак. Яшчэ раз цераз Палессе. У Вілейцы Ірэна шчаслівая, рэшта таварышаў паволі ўцягваецца ў тую нялёгкую працу. Прынялі маё рашэнне з ухвалай. Клімаў таксама не быў супраць.

**Клуб на Каперніка**

Львоў пачаўся ад той страшнай хаты ў прадмесці. Стаялі тут розныя развалюхі, будаваліся пенсіянеры, поўна было нечага ў родзе садовых дзялак. Мы пасяліліся ў доме, пабудаваным былым паліцыянтам. Быў гэта невялікі будынак з цэглы, аднапавярховы, прысадзісты. Уваходзілі адразу ў кухню, з кухні ў вялікі пакой, запоўнены велізарным ложкам і такой жа шафай. Пасля Вілейкі падалося мне гэта халерным люксам.

Адразу, ужо праз пару дзён я адчуў, што тут не вытрымаю. Мы ані хвілі не былі самі па сабе. Паліцыянт з нейкай пляменніцай сядзелі ў кухні. Да "сябе" мы хадзілі цераз тую кухню. Сядзелі, елі, спалі. Жудасць - нельга кроку зрабіць, каб цябе не аглядалі.

Словам, з першага дня мы пачалі шукаць іншы пакой. Нарэшце знайшлі, у канцы вуліцы Патоцкага,

пад нумарам бадай што 87.

Была гэта прыстойная вуліца, забудаваная “навачаснымі” старымі камяніцамі. У “нашым” доме мы атрымалі вялікі пакой з відам на пафалдаваныя падльвоўскія палі. З аднаго боку вялікая купа высокіх таполяў і нейкія масіўныя будынкі. Здаецца, гэта быў уніяцкі кляштар. Над дрэвамі заўсёды чароды галак.

Гаспадыня нашая была жонкай афіцэра, які ўцёк за мяжу, што яна старанна спрабавала хаваць. Стасункі з ёю склаліся вельмі зносныя. Зрэшты, на пачатку я прыходзіў у пакой толькі на ноч: цэлы дзень сядзеў у клубе пісьменнікаў.

Першы раз у жыцці я так блізка сутыкнуўся з велізарным зграмаджэннем пісаўшых людзей. У той час было ў Львове. мабыць, каля двухсот польскіх пісьменнікаў. Сярод іх Бой-Жаленскі, з якім уласна тады пазнаёміўся. Уладзіслаў Бранеўскі, Ванда Васілеўская, Бруна Вінавер, Юліян Пшыбась, Яструн, Важык, Эльжбета Шамплінская, Уладзімір Слабаднюк, куча людзей ужо нежывых, на палову забытых, як Войцех Скуза ці Эміль Дзедзіц, Рафал Лен ці Баляслаў Пях.

Было шмат украінцаў - мабыць, каля сотні. Таксама яўрэяў - можа шэсцьдзесят. Быў нават адзін венгр, Ковацс, бландзін з абвіслым носам, у акулярах, які вечна гаварыў нешта незразумелае трасянкай польска-украінска-нямецка-расійскаю. Было пару немцаў ці аўстрыякаў. Схаваліся ў Варшаве пасля аншлюсу, уцяклі сюды пасля верасня. Сумныя, маўклівыя, буйнаносыя. Я не ведаў нямецкай, не меў з імі ніякага кантакту.

У асобных нацыянальных групах былі розныя палітычныя настроі. У палякаў пераважалі розныя адценкі “перачакання”, гэта значыць чакання будучы менш або больш “уцягнутым” у тагачасную польскую рэчаіснасць. Былі, канешне, такія, якія наогул нічога не прызнавалі. Такія па-просту не аб’яўляліся на Каперніка.

Была таксама паказальная група актывістаў. Гэта Пастарнак з неадлучным Лецам, згаданы ўжо Рафал Лен з Лодзі ці Баляслаў Пях з групы “Прадмесце”, Аляксандр Дан ці Эміль Шырар, Люцыян Шэнвальд ці даўні мой знаёмы Давід Гопэнштанд, паланіст, Францішак Парэцкі, Важык, які паступова актывізаваўся, пары “вясковых” пісьменнікаў, як Эміль Дзедзіц. Канешне, Васілеўская, Бранеўскі, Шамплінская, тры зоркі няроўнай велічыні, але якіх на пачатку пры ўсялякай нагодзе вылучалі ў прэзідыюмы.

Новая сітуацыя прынесла шмат зменаў на палітычнай мапе польскіх літаратараў. Пару даўніх левых здзейснілі цяпер рашучыя павароты. Такі чырвоны пяць гадоў назад Ян Кот зрабіўся цяпер раптам заядлым католікам. Якраз ажаніўся з прыгожай, чарнавокай паннай Штайнгаўс, дачкой вядомага матэматыка і бадай што не заглядваў нават у клуб. Трагічная гісторыя з пераходам мяжы чакала Мар’яна Чухноўскага. Той, які мог бы стаць адным з правадыроў львоўскай літаратурнай левіцы, сядзеў цяпер у вязніцы, пра што чуткі дабраліся да нас праз пару месяцаў. Найчырванейшы з кракавякаў, Адам Палеўка пасля некалькітыднёвых выступаў на мітынгах раптам знік з Львова, пракраўся цераз мяжу назад.

У суме ў палякаў левіца не была вельмі шматлікай. Большасць з сяброў клуба была ў сітуацыі вычэквання.

Падобна было і з украінцамі. Па сутнасці камуністаў сярод іх было пяцёра. Што праўда, кожны іх быў асоба. Такі Стэфан Тудар, празаік і паэт, выдатны таварыш, памяркоўны і спакойны дзеяч. Альбо Яраслаў Галан, моцны нізкі бландзін, з заўсёды спадаўшай на вочы пасмай валасоў, трохі касавуры, пісьменнік і драматург, жыццёвы няўдачнік, вялікі бабнік і вельмі сімпатычны чалавек, з якім лёс сутыкнуў мяне бліжэй праз пару гадоў, альбо Аляксандр Гаўрылюк, пачварна брыдкі і высакародны чалавек. сапраўдны камуніст, вязень Бярозы, які засведчыў добрыя адносіны да польскіх пісьменнікаў у гэтую неспрыяльную восень больш, чым хто-небудзь іншы. З той пяцёркі выжылі толькі Пётр Казланюк і Стэфан Кондра.

Астатнія былі больш або менш нацыяналісты, больш або менш замаскаваныя. У першы перыяд савецкая ўлада даволі свядома ішла на іх прытуленне. Яшчэ не мела досведу барацьбы з нямецкімі дыверсантамі на тых землях, зрэшты слушна спрабавала сяго-таго прыгарнуць, даць шанец новай дарогі кожнаму.

Карысталіся тым шанцам розныя людзі. Не гледзячы на тое, што я паўтараў сабе слоган пра барацьбу перш за ўсё з уласным нацыяналізмам, не мог адагнаць непрыязнь да некаторых падлізаў, якія ўдавалі ў вочы шалёную рэвалюцыйнасць, а за вочы...

Найбольш цеснай палітычнай групай былі яўрэйскія пісьменнікі. Тут усяўладна кіравала левіца, і спрэчкі датычылі толькі таго - хто быў больш левы, Ашандорф ці Бамзэ. Гэтыя двое былі найактыўнейшыя. Была таксама група старэйшых: такі нп. Кацызне ці Рахеля Корн. Быў малы Шудрых, з вечна хворым на кан’юктывіт. Была цэлая куча іншых незнаёмых, пра вартасць якіх можна было меркаваць толькі на падставе таго, што адзін з іх гаварыў пра астатніх.

Не гледзячы на такую выразную розніцу моўную і палітычную ўсе тры групы жылі паміж сабой цалкам добра. Можа, прынамсі, хіба толькі ўкраінцы трымаліся трохі збоку.

Першым кіраўніком львоўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў быў пісьменнік з Кіева, Пятро Панч, вельмі элегантны, сівы, вельмі стройны. Шапталіся пра яго, што былы царскі афіцэр.

Клуб праводзіў ажыўленую дзейнасць, сказаў бы гаспадарчую. Трымаў, напрыклад, сталоўку і так зв. консум (спажывецкую краму). Зважаючы на тое, што ў той час з забеспячэннем у Львове было цяжка, ужо сам той факт прыцягваў людзей на Каперніка.

Было там, акрамя ўсяго, прыемна. Быў шахматны пакой, у якім Бруна Вінавер дзень у дзень гуляў у шахматы з маладым ні то спарцменам, ні то паэтам, які пазней здабыў сабе вядомасць як Юзаф Пруткоўскі. Гуляў жудасна. Вінавер даваў яму заўсёды каралеву або туру фору - і не гледзячы на гэта выйграваў. І не гледзячы на гэта гуляў зноў і зноў. За палацам было поле для валейболу, тут я гуляў з тым жа Пруткоўскім. На паверх ніжэй была сталоўка. На паверх вышэй - бібліятэка. Яшчэ вышэй жылі ўладальнікі палаца, здаецца, графы Бельскія. Мы бачылі часам нейкія белыя сілуэты, што пасоўваліся каля сцен.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў 4-ты том энцыклапеды “Культура Беларусі”, 662 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**







**У Коўні Сусветны літоўскі цэнтр садзейнічання навуцы, культуры і адукацыі выдаў “Словарь возрождённого прусского языка: прусско-русский, русско-прусский”, 488 ст.**




**У Гародні - Ўроцлаве ў серыі “Гарадзенская бібліятэка” выйшла кніга Дзмітрыя Люціка “Нёманскі фронт. 15-25 ліпеня 1944 г.. Баі за Гродна. Аналіз падзей, данясенні, успаміны, статыстыка”, 326 ст.**




**У Варшаве ў выдавецтве “Bellona” выйшла кніга Чэслава Гжэлека “Шацк-Вытычна, 1939. Корпус памежнай аховы на Ўсходніх Крэсах”, 208 ст.**




**У выдавецтве ЮрСаПрынт, г. Гародня, выйшла кніга Аркадзя Ліцьвіна “Прастрэлены талер”, кніга першая, 414 ст. Наклад 100 асобнікаў.**




**У Менску касцёл Святога Сымона і Святой Алены выдаў кнігу ксендза-магістра Ўладзіслава Завальнюка “Эдвард Вайніловіч, яго ўспаміны, дакументы, сувязь з сучаснасцю”, 96 ст.**



**Свята-Георгіеўская капліца** ў Лідзе, па вул. Савецкай, асвечана ў дзень 70-годдзя вызвалення Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (8 ліпеня 2014 г.) мітрапалітам Менскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усёй Беларусі **Паўлам**. Барэльеф Георгія Пераможца работы Вадзіма Вераб'ёва. *Здымак С. Судніка.*